ISSN 0130–8068

# ПОЛЫМЯ

У НУМАРЫ:



11

2003



# ПОЛЫМЯ

**11**

**(889)**

**2003**

**лістапад**

**ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ЧАСОПІС**

**ВЫДАЕЦЦА СА СНЕЖНЯ 1922 ГОДА**



**РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

**Мінск 2003**

## ЗМЕСТ



**ЗАСНАВАЛЬНІК — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.**

КАЗІМІР КАМЕЙША

# З НОВАЙ КНІГІ

### ЖЫРАНДОЛЬ

Высвеці дзень мой нанова,
Так, каб не згас ён ніколі.
Як ты гарыш прамянёва
У вечаровым касцёле!

Вечнасць сама нават бачыць —
Хто яна ўрэшце такая? —
Гэта святлом гарачым
Сэрца паэта палае.

Як я хачу сваю долю
З яснымі бачыць вачыма.
Цёпла ў гняздзе жырандолі
Жаваранкам Багрыма.

Як яны выпырхнуць потым
І паляцяць над Шчарай!
Столькі ж у кожным пяшчоты,
Столькі пад крыламі жару!

Светла і ў час найдрымотны.
Значыць, не знікну нідзе я,
Нават як птушкай самотнай
Выпырхне з рук надзея.

Выкаваць можна, што хочаш,
Выкаваць цяжка долю.
Свецяцца ясныя вочы
Свечкамі жырандолі.

Ціхай малітвай да Бога,
Пэўна, ты будзеш пачуты.
І каваля самога
Можна скаваць у путы.

Але нідзе і ніколі
Не змоўкне малітва тая.
Зноўку з гнязда жырандолі
Жаваранак узлятае.

### ВЯРТАННЕ БЛУДНАГА СЫНА

І паверылі мне,
што я — чалавек,
Што шлях мой не змераць
і небам высокім.
І ўбачылі:
поўня за мною плыве,
Падміргвае ім,
як зубрынае вока.

А ў пушчы я камень гарбаты сустрэў,
Зялёнай шчэццю моху аброслы.
Сказаў ён:
— Дом твой даўно згарэў,
Маланкай спалены твае вёсны.

Ідзі
і больш не вяртайся сюды,
Бо сам ад жаху свайго скамянееш.
Я думаў:
пайду далей ад бяды,
Я думаў:
з бяды гэтай выйду неяк.

Цвілі азёры ў маёй старане,
Зялёным расолам душу залівала.
Зубрынае вока злавала мяне
І разам са мною выйсця шукала.

Той камень гарбаты
мне нож навастрыў,
Лязо яго ў цемрыве ўспыхнула ярка.
І там,
дзе счарнелыя стогнуць бары,
Ад іскры яго
прыпаліў я цыгарку.

Ну як жа мне ў гэтай начы без нажа?
Ды хай не спатрэбіцца ён мне ніколі.
Хай есць яго
жоўтаю пашчай іржа,
Маёй не чапаючы долі.

Я дом свой збудую
не ў краі чужым
І веры чужой
не аддам сваё сэрца.

О, Божа,
мне выйсці з глушы памажы,
Дайсці да высокага сэнсу!

### НА РУІНАХ МАЁНТКА НАРКЕВІЧА-ЁДКІ

Надвечар...
Надбярэжаны Наднёман...
Акраец цішы салаўём надломан.
Страляе сцежка хітраю наводкай.
Скалечаны маёнтак пана Ёдкі.
За цёплаю малітвай лісцвяною
Знямею пад руіннаю сцяною,
Дзе звіў сабе гняздо бацян тутэйшы.
«Спыніся, —
сам скажу сабе, —
Камейша!»

Чырвоная, пад колер цэглы, глюга
Гарыць адчайнай самаю напругай.
І сонца вінавата твар чырвоны
Хавае,
захінаючыся ў кроны.
Дзе провад той
і дзе ўсе тыя токі,
Што нацыі ўздымалі дух высокі?
Дзе провад той,
які і я шукаю?
Энергія ж,
мне кажуць,
не знікае.

І вось з гнязда,
апальваючы вецце, —
Ажно сціхае на прыўздыху вецер,
Нямеюць словы,
заціхаюць гукі, —
Ляціць пяро буслінае мне ў рукі,
Каб потым на стале маім пісьмовым
Сказаць мне самай горкай праўды словы.

Не верыў я.
Цяпер паверыць мушу:
Перасяляюцца ў буслоў паэтаў душы.
А ў споведзі той сумнай і крылатай
Адно смылела слова:
— Вінаваты!..

А як жа, ці не самі вінаваты,
Што выракліся Бога нашы хаты,
Што ачарсцвелі гэтак нашы душы.
Няўжо нас Нёман сам
не разварушыць?
І хоць не мой зусім маёнтак гэны,
Але мой боль мацнеў ля гэтых сценаў.
І ўсцешан я,
Мне Бог паслаў усё-ткі
Буслінае пяро ад пана Ёдкі.

* * *

Думаў, Час усё зыначыць,
Пераглее тое тло,
Што на сцежках лепшых нашых
Панавязвала вузлоў.

Дзейкі — сноў маіх зладзейкі,
Паспрабуй ім запярэч.
Ах, вы, мілыя спадзеўкі,
Абяцанкам насустрэч.

Верыў я і траціў веру,
Хісткіх кладак пазбягаў.
Час вадзіў мяне няўмеру
Па расстайных берагах.

Наліваў мне тую чарку
Аж па самы беражок.
Я не мог адмовіць Часу,
Хоць не ім быў беражон.

Недзе некаму шанцуе,
Але я не з тых, не з тых.
Ну а мне, душою чую,
Недзе зноў дадуць пад дых.

Доля кажа мне сама:
— Шанцаў у цябе няма.

## БРОНЗАВАЯ БАБА

Ну і спатканне дзень мне мой прызначыў.
Ад прыпамінаў самі вочы плачуць.

Я па вачах пазнаў цябе, гандлярка.
Як вы́гараў ядваб хусціны яркай!

Забранзавела. Вунь ты ўся якая,
А засталася з тымі ж медзякамі.

І сёння ты з працягнутай рукою,
І, бронзавай, табе няма спакою.

Хітруе Камароўка, як цыганка,
Жуллём цябе абкрадвае ля ганку.

А ў жмені тваёй семачка смяецца,
І нават верабей прысеў пагрэцца.

Хто кіне жарт, а хто рубель ірваны,
А хто прыжмур вачэй замілаваны.

Паплачацца дажджом часамі неба.
А болей што руцэ гандляркі трэба?

У торбачцы яе хапала гора,
Яна зямлі перакапала горы.

Прыкленчыць на градзе — не адагнецца,
Яна з грады і вырасла, здаецца.

Якія вочы і якая памяць:
Як гляне — успамінам тут жа спаліць.

Усё згадае. Смех і галашэнні,
І жуліка руку ў чужой кішэні.

Якія тут палалі цыгарэты,
Згаралі на вачах аўтарытэты.

Грашыма тут гулялі, і грашылі,
І столькі вінных бочак асушылі.

І помніць нават Вінцука з-пад пушчы.
Быў і спрыцён і быў, як чорт, трывушчы.

— А дзе ж твой дзед? — я ціха запытаўся.
— Даўно стары ўжо. Спіўся і стаптаўся.

Бывай. Загаманіўся я з табою.
А да цябе чарга. Няма адбою.

Сустрэнемся праз век, як што якое.
Ці будзеш ты з працягнутай рукою?

## ХУТАР ГАРОШКІ

Сніцца, свеціць праз гады
Хутарок Гарошкі.
У бярозак маладых —
Белыя панчошкі.

Недзе ўсе яны бягуць,
Пераймаюць хвойнік.
Мята,
чэмер
ды багун —
Дзікіх пахаў войны.

Скрозь карэнні, як вужы,
Абвілі дарогу.
Я і сам тут мабыць жыў
Пры цары Гароху.

Сам нас век кудысьці гнаў.
— Я — крычаў — вам помшчу.
І калыска і труна
Паплылі да Польшчы.

Шлях другі ў Сібір панёс
Хмарамі ГУЛАГа.
Дзе такі пазычыў лёс
Хутар, бедалага?

Высякаў, як лес той,
час
Люд сякерай здзеку.
Вось такая, брат, у нас
Выйшла лёсасека.

Паміж гневу і зімы
Тлеюць нашы косці.
І ідзем на хутар мы
З добрым польскім госцем.

У прыпёках крапівы,
Як неспадзяванак,
Выплыў каменем з травы
Заімшэлы ганак.

І стаіць, маўчыць на ім,
Лёгкай пагалоскай,
У зіхценні маладым
Гонкая бярозка.

Не надзівіцца сабой
Цёплым, свежым ранкам,
Хоць даўно сасватаў бор
Тую хутаранку.

Мы ля ног яе сядзім,
П'ём віно ўспамінаў.
Вось і ўсё, што ад сядзіб
Мудры час пакінуў.

* * *

Аддавалі мне продкі —
Не на дзень, а навекі, —
Легкаходныя лодкі,
Лодкаходныя рэкі.

І наказвалі строга,
Каб не быў я зацятым,
Каб бярог сваю стронгу,
Як страху сваёй хаты.

Каб з бароў,
з Налібокаў,
Не ўцякаў без аглядкі.
Каб глядзеў я далёка,
Аж у вочы нашчадку.

Што давалі навекі,
Страціў я гэтак лёгка:
Хутка высахлі рэкі
І рассохліся лодкі.

І стаю я самотны,
Як забытая хата.
Плачуць ліўнямі вокны:
— Сам ты, брат, вінаваты...

## ЗІМА

Лютуе, дыхтуе зіма.
На золак стагоддзя бярэцца.
Спагаднага слова няма,
А словам чужым не сагрэцца.

Абшыў усе клямкі шарос,
Да вусціху выстудзіў сенцы.
Залазіць, як шашаль, мароз
Ствалам аж пад самае сэрца.

І поўня настыла глядзіць.
І як яшчэ сад мой трывае?
— Пчала мая, ты ці жывая? —
Я вулей спрабую будзіць.

Ён стрэшку схаваў у сумёт.
Я ледзь адкапаў яго ўранку.
Жыццё і ў вуллі там — не мёд,
Бо й там свае цесныя рамкі.

Жыві і турбуйся, пчала!
Вясна наша можа спазніцца.
Я толькі паўжмені цяпла
Трымаю ў сваёй рукавіцы.

Хай лежнем лянота ляжыць,
Марозна мой твар заравее.
Вунь колькі адчайных сцяжын
Імкнуць да цяпла праз завею.

Душы хоць марозна было,
Яна не самотна крыляе.
І мошка паўзе на цяпло,
І думку на шлях той схіляе.

Маўчу я, пра тых не кажу,
Хто ў пушчы сагрэцца не ўмее.
Пушчанца не толькі кажух,
А й памяць пушчанская грэе.

## ПАГРУЖЭННЕ

*Брату Янку*

У пырскі рассыплюцца гукі,
Як выбухне ранкам прыбой,
Але не задраяцца люкі
Праз далеч
між мной і табой.

Не раем акрэсляцца рыфы
У ранах і чорных струпах.
Пакуль ты плывеш,
ты ёсць рыба.

Не выплывеш,
ты — саркафаг.

Калі цябе скабамі схваціць
З жалезных абдоймаў турма,
Не выйдзеш, як з чэрава маці.
Другога прышэсця няма!

Збівай да крыві кулачышчы,
Скрабіся,
крычы ў тры раты —
Ад верху
да самага днішча
Маўчаннем акованы ты.

Ніхто цябе там не пачуе.
Каменна застыне сляза.

Ці мала там ценяў начуе, —
Вякуе, — хацеў я сказаць.

Ты з цішай звыкаешся лёгка,
Дый вёсны праспалі свой бунт.
Жыццё — як падводная лодка,
Што памяццю ўрэзана ў грунт.

І хоць пашумелі нямала,
Было, адпускалі гужы.
Рука, што кілішак сціскала,
Што моцна дзяўчат абдымала,
На клямцы бацькоўскай дрыжыць.

Запаліцца чырванню вока
Адвечнай, глухой глыбіні.
Глыбока...
А мне ў Налібоках
Пакутаю выткуцца дні.

## РАНАК

Хто найлепей намалюе
Гэты свежы,
ціхі ранак?
Толькі ён,
Знаёмы дворнік,
Што танцуе на асфальце
З пэндзлем —
доўгаю мятлой.

І мяне ў тым ранку цешыць
Гэты дождж,
Што ў шыбы б'ецца,
І на шыбах так дурэе,
Ажно ўсе мае вазоны
Цягнуць вушы да яго.

А на кухні соннай чайнік,
Як маленькі паравозік,
Цягне,
чмыхаючы парай,
Недзе ў вечнасць
Новы дзень.

* * *

Ніякіх мне згадак не трэба,
Бо самых найлепшых не ўспомню.
Пад абажурам неба
Нам свеціць стамлёная поўня.

І ўсё на табе трапеча,
Сама ты дрыжыш стракозкай.
Які салодкі наш вечар!
Як вусны Венеры Мілоскай!

Я вып'ю яго толькі кроплю,
А так на душы салодка.
Гайдае заспаную крону
Бяссоннаю песняй салоўка.

Хай нехта цыгаркай маргае,
За намі зайздросна цікуе.
Усё я аддам, што маю,
За песню адну такую.

* * *

Дні ў дождж, як змоўцы,
падаліся,
Зноў вецер хмары валачэ.
Касец даўно ўжо не галіўся,
І луг няголены яшчэ.

Ані прасвету ў шыбах змрочных,
Бубніць адно і тое ж дах.
Спявае ў трубах вадасцёчных
Такая гулкая вада.

Праз дождж,
праз мокрае паўсонне,
На свет я здзіўлена гляджу.
А свет увесь пяе пра сонца,
Калі спяваецца дажджу.

* * *

Дачнікі раз'едуцца ў нядзелю,
Сціхнуць разгуканыя двары.
Будуць цені поўзаць, як зладзеі,
І не будзе з кім пагаварыць.

Прыйдзе кошка добрая,
чужая,
І запаліць смутку два агні.
Дзесь яе да жалю напужалі,
Ты яе за дзверы не гані.

Адчуваю,
сэрцам адчуваю,
Сірацею ў часе я зусім.
Нават гэтай кошцы спачуваю,
Пэўна, сіратліва нам дваім.

А бывае, памяць пагартаю,
У былое ўгледжуся здалёк,
І на сэрцы даўні лёд адтае,
І сплыве з вачэй
сумнеўны змрок.

А яно, ўсё тое,
што далёка,
Быццам і тваё і не тваё,
Усміхнецца птушкай з-пад аблокаў
І пакажа хвосціка краёк.

Вось ужо й змяркаецца патроху,
Запаліўся ў небе веташок.
Пазіраеш сумна на дарогу,
Па якой ты пойдзеш, як прыйшоў.

БЕРАГ

Бераг той быў на раяль падобны,
Бераг той грымеў, нібы раяль.
І была, нібы перад патопам,
Хітрай і загадкавай бруя.

Свет забыў, што ён зусім звычайны,
Весяліўся,
цешыўся,
грымеў.
Свет крычаў здзіўлёнымі вачамі,
Свет і сам сябе не разумеў.

Па вясёлых клавішах карэнняў
Ты прабегла лёгка, як ручэй.
Можа, толькі ў іншым пакаленні
Профіль твой паўторыцца яшчэ.

Будзе ён для воч маіх няўлоўным,
Будзе ён ляцець за небакрай.
...Бераг той быў на раяль падобны,
А жыццё — падобнае на рай.

ВІКТАР ПРАЎДЗІН

# НЕЛЮБІМЫЯ ГІНУЦЬ

*Раман*

***Маці Зінаідзе Арсенцьеўне***
***прысвячаю.***

## КНІГА ПЕРШАЯ

## ВЫПРАБАВАННЕ

### 1

Толькі-толькі бралася на раніцу. Агністы сонечны дыск квола мацаў далягляд, быццам яму нешта перашкаджала вылузнуць з-за яго і ўскараскацца на нябесны блакіт, а мытня ўжо была падобна да мурашніка. Толькі не жвавыя мурашы беглі да аднапавярховых, здавалася, плоскіх будынін, а вужакай сунулася паўкіламетровая чарада рознакаляровых, непаваротлівых, але шумных і смуродных машын. Тыя, хто апынуўся тут трошкі раней, не звярталі ўвагі на зыбліва-барвовы далягляд, на малінава-залацістыя промні, якія вяшчалі пра новы дзень, мо таму не спяшалася паказвацца і сонца. Яно ўздымалася паволі, з годнасцю, ад яго, як і ад гэтых людзей, сённяшнім веснавым травеньскім ранкам, таксама веяла раўнадушным, калючым холадам.

Некаторыя чарадоўцы падсілкоўваліся, расклаўшы прыпасы тут жа, на машынах: хто на капоце, хто на заднім веку багажніка. Яны выглядалі ўважліва-засяроджанымі, напружанымі, гатовымі ў любы момант імгненна завяршыць трапезу і ўціснуцца ў цесныя салоны аўтамашын, прапахлыя чалавечым целам, парфумай і тытунём, каб праз хвіліну-другую, зрушыўшы з месца і праехаўшы ўсяго некалькі метраў, зноў заглушыць рухавікі, перад тым мацюкнуўшы, абняславіўшы ўлады за вядомыя на ўсю Еўропу чэргі.

Ніхто не звярнуў увагу на прыпылены «рафік», які пад'ехаў апошнім: змрочныя позіркі скіраваныя толькі ўперад, туды дзе ёсць нейкі рух, адкуль даносяцца галасы, чуецца пералівісты званочак — міліцэйскі свісток. Напэўна, мытня — адзінае месца, дзе гэты свіст слухаюць з задавальненнем, яго тут чакаюць, да яго прыслухоўваюцца, бо ведаюць, што наперадзе, раўняючы чаргу і накіроўваючы машыны да памежнікаў, шчыруе мітуслівы даішнік.

Рухавага міліцыянера ніхто не баіцца, але большасць вадзіцеляў, хутчэй па звычцы, пазірае на яго ліслівa, іншыя хітруюць і вітаюцца, быццам з даўнім знаёмым, хоць і бачаць сяржанта ўпершыню. І ўсё ж боязь ёсць: раптам міліцыянер надумае праверыць дакументы і выпхне з чаргі? А гэта, лічы, цэлая гадзіна, а то і больш, дарма патрачанага часу.

Дзесьці апоўдні павітаўся з даішнікам і вадзіцель «рафіка». Міліцыянер у адказ імпэтна закруціў паласатым жэзлам і незадаволена крыкнуў: «Праязджай, не затрымлівай».

Памежнік, невысокі хударлявы прапаршчык, з вузкім хваравітым тварам, прастуджана шморгаючы кручкаватым носам, доўга вывучаў дакументы: спярша вадзіцеля, а потым семярых пасажыраў. У «рафіку» ехала шасцёра дзяўчат, прыблізна аднаго ўзросту, ад дваццаці да дваццаці трох гадоў, і трошкі старэйшы, апрануты ў скураны пінжак, джынсавыя штаны, белыя красоўкі, чарнявы цыганаваты хлопец, якому з-за ранняй сівізны можна было даць і ўсе трыццаць.

Калі блізка пасаджаныя шэрыя вочкі памежніка натыкаліся на фотаздымак, ён неяк нервова ўскідваў галаву і ўпіваўся імі ў пасажыра, быццам не толькі параўноўваў гаспадара пашпарта з фотаздымкам, але і сіліўся прачытаць ягоныя думкі.

Нарэшце чарга дайшла і да Любы Анікейчык. Паслініўшы палец, прапаршчык важна перагарнуў хрубастскія старонкі дакумента, гэтак жа па-начальніцку строга агледзеў Любу і нарэшце з непрыхаваным сарказмам выдыхнуў:

— Усё лепшае вывозім...

— Я еду працаваць па дамове, — сумелася, незадаволена перасмыкнула плячамі Люба, — буду пакаёўкай.

— Падлогу, значыцца, мыць. А мне здалося, што ты артыстка і едзеш у Галівуд, — засмяяўся прапаршчык і, казырнуўшы, паспешліва выйшаў з машыны.

Пасля памежнікаў «рафік» сустрэлі ганарліва-прыдзірлівыя мытнікі, але пасажыры ніякага тавару, акрамя асабістых рэчаў, не везлі, таму мытнікі цікавасці да іх не праявілі. Нават вялікая чорная аўчарка некалькі разоў лянотна пазяхнула, калі яе праводзіў адзін з сяржантаў па вузкім праходзе паміж крэсламі.

— Праязджай, — паблажліва сказаў старэйшы і, махнуўшы рукой, каб паднялі шлагбаум, скоса зірнуў на шафёра: — Табе сёння пашэнціла.

— Мне заўсёды шэнціць, — весела засмяяўся бялёсы трыццацігадовы Дзмітрый. — Бізнес мой легальны: адвёз, прывёз — і ніякіх праблем. Галоўнае — не заснуць у дарозе.

Польскія памежнікі падаліся Любе маўклівымі і занадта засяроджанымі: ніводнага лішняга слова і руху. Самым гучным у іхняй мітусні быў стук штэмпеля, які абвясціў уезд у межы Польшчы, пасля чаго іх, як надакучлівых і нікому тут непатрэбных людзей, як мага хутчэй справадзілі з мытнай зоны.

І толькі праз паўгадзіны, калі «рафік» ад'ехаў ад мяжы з добрую дваццатку кіламетраў, і Люба, і ўсе астатнія ўздыхнулі з палёгкай. Пачуліся жарты, зашамацелі цэлафанавыя пакеты, пасярод салона на адным з пухлых чамаданаў, які чарнявы хлопец (а ён быў у іх кампаніі за галоўнага) кульнуў на бок, зазіхацела пляшка гарэлкі. Каля яе імгненна вырас паўлітровы слоік з марынаванымі грыбочкамі, з'явіліся каўбаска, вэнджаніна, марынаваныя гурочкі. Шафёр у люстэрка пажадліва пазіраў на чамадан з пачосткай, цікаваў за манеўрамі маўклівага, падобнага да цыгана хлопца, і, сустрэўшыся позіркам з кімсьці з пасажырак, шматзначна, з хцівым агеньчыкам у вачах, падміргваў: маўляў, усё ідзе як трэба, хваляванні засталіся ззаду.

— Мо лепш прыпыніцца на перакус? — прапанавала вастраносая дзяўчына, што сядзела на апошнім справа сядзенні, і, прыпаліўшы цыгарэту, з цяжкасцю прачыняючы акенца, ад напругі ажно пачырванеў твар, незадаволена дадала: — Амаль суткі ў дарозе, можна і адпачыць.

— Не насядзелася на мытні? — імгненна абурыўся шафёр, нават твар пачырванеў.— Можаш спаць, жраць, піць, але прама тут, у машыне. Ніхто не перашкодзіць. А ў мяне графік! Я сёння павінен перасекчы нямецкую мяжу.

— Дзмітрый кажа праўду, — глухім прастуджаным голасам падтрымаў шафёра цыганаваты. — Вось яна, — чарнявы паклаў руку Любе на плячо, — згодна дамовы, абавязана ўжо сёння быць на месцы. Немцы, як вядома, народ пунктуальны: спознішся — могуць і не прыняць. Назад, у Мінск, мы і яе, і

кожнага з вас, канечне, завязём, але ж за асобную плату, якая, зразумела, будзе ўдвая большая. З Нямеччыны вяртаюцца ўжо багаценькімі...

— Дзяўчаткі, пра які ўікэнд вы гаворыце?— пырснула, зайшлася ад смеху дзяўчына, што сядзела за Любінай спінай, і да гэтага часу амаль усю дарогу спала. У Мінску яе праводзіла вясёлая, на добрым падпітку кампанія, і суседку з песняй пра «дальнюю дорогу» некалькі чалавек амаль занеслі ў машыну. Не зусім працвеpазелая, яна з цяжкасцю трымалася на мытні, але цяпер, калі мяжа была пройдзена, усялякая боязь знікла. — Я не першы раз еду і ведаю што да чаго...

Убачыўшы чамадан з бутэлькай гарэлкі і раскладзенымі на ім закускамі, дзяўчына імгненна змяніла тэму гаворкі.

— Ого, — ускрыкнула яна, — ужо і стол накрыты і, зразумела, за кошт фірмы?.. Ашот, Дзмітрый, а дзе шампанскае? Няўжо зажылілі?

— Наколькі я памятаю, у цябе, Ірына, ад шампанскага жывот пушыць, — выцягваючы з чорнай дарожнай сумкі пластмасавыя кілішкі, спакойна сказаў Ашот.

— Дзяўчаткі, нас рабуюць, за ўсё заплачана,— раз'ятрана, п'яна затупала нагамі Ірына. — А пра пуза не хвалюйся, няхай яно хоць трэсне, але маё — аддай. Я за справядлівасць... Немец і той, перш чым зацягнуць у ложак, шнапсам ці хоць бы півам але пачастуе...

— Ірка, не баламуць і не пужай дзяўчат немчурой, — падаў голас шафёр. — Ты адна ў нас вандроўніца, астатнія едуць капейчыну зарабляць.

— Ха, вандроўніца? — істэрычна засмяялася дзяўчына.— Скажы лепш — валацужніца... І невядома, хто з нас больш «бабак» заробіць... Я не толькі іх маю на ўвазе, — дзяўчына падхапілася на ногі і, тэатральна раскінуўшы рукі, крыкнула: — Я больш зараблю і за цябе, і за Ашота... Ды што казаць, я больш зараблю за ўсіх вас разам узятых. Паўгода — і трохпакаёвая кватэра ў кішэні... І не загаворвай мне зубы — гані шампуньку.

Гэтая размова, і асабліва шматзначны, бессаромна-істэрычны Ірынін смех, непрыемным халадком закраўся ў Любіну душу. Адразу ўзгадалася рослая, як не пад два метры, касцістая, мужчынападобная начальніца аддзела кадраў трамвайнага дэпо, якая, аддаючы працоўную кніжку, брыдка скрывілася і скрозь зубы працадзіла: «Усім вядома, чаго нашы дзяўчаты туды едуць, але ніколі не думала, што і ты — блудніца».

Люба скоса зірнула на суседку, якая ноччу, калі ад'язджалі з Мінска, назвалася Кацярынай, і, сустрэўшыся з ёй позіркам, паспрабавала ўсміхнуцца. Гэткая ж вымучаная, палахлівая ўсмешка кранула і Кацярыніны вусны.

— Мне прапанавалі месца рэпетытаркі музыкі для васьмігадовага хлопчыка, — нясмелым і ўтомленым голасам сказала дзяўчына, — з веданнем рускай мовы.

— А ў мяне кантракт пакаёўкі ў доме, дзе жыве калека... Ён паралізаваны, ногі не ходзяць.

— Хоць бы гэтая «Чарадзейка» не падвяла, — цяжка ўздыхнула Кацярына.

— Фірма надзейная, — упэўнена сказала Люба. — Муж маёй лепшай сяброўкі там за галоўнага.

— Запрашаю ўсіх да нашага стала-чамадана, а ў каго рукі караткаватыя — лічыце мяне афіцыянтам: усё, што пажадаеце, паднясу, — уладна абвясціў Ашот. — Як кажуць, служба службай, а абед па распарадку.

— Баюся я гэтага Ашота, ці не бандыт? — паспешліва прашаптала Кацярына. — Падазрона маўчыць, імя не нашае, хоць і прамаўляе без акцэнту.

— Ён — армянін і ніякі не бандыт, — прыхільна ўсміхнулася Люба, — сяброўка пра яго добра казала, і ў «Чарадзейцы» Ашот — не апошні чалавек.

— Афіцыянт, — зноў падхапілася на ногі Ірына, — апахмялі даму шампанскім... І бутэрброд хачу з чым-небудзь салёненькім.

Ашот як і не чуў, але шампанскае з сумкі выцягнуў.

— Дай ты ёй бутэльку, няхай нап'ецца ды спіць, — не ўстрымаўся, не паварочваючы галавы, крыкнуў шафёр.

— Правільна, Дзімачка, няхай мае аддасць — і я буду спаць ажно да Берліна.

Атрымаўшы бутэльку, Ірына тут жа яе схавала ў цэлафанавы пакет, але, убачыўшы, што Ашот дастаў яшчэ адну, шампанскае выцягнула і пісклявым голасам пачала клянчыць:

— Ашоцік, міленькі, адкаркуй. У мяне не атрымаецца, стрэліць, і ўсё выльецца. — Убачыўшы, што хлопец яе ігнаруе, Ірына рашуча сарвала з бутэлькі бліскучую залацістую фольгу і, хітра пазіраючы на Ашота, прагаварыла: — Шампанскае напаўсухое, ляжала ў цяпле ды яшчэ цэлыя суткі трэслася ў сумцы... Стрэліць, як піць даць, стрэліць і ўвесь салон заліе. А на салодкае мух наляціць, вялізных, гнойных, але галоўнае тое, што кожны паліцэйскі будзе чапляцца і прынюхвацца да Дзімкі, на ап'яненне правяраць. Мыць трэба будзе машыну, а на гэта гадзіны дзве часу пойдзе, не менш...

Ашот моўчкі выхапіў з Ірыніных рук бутэльку і, хутка адкруціўшы драцяны хамуток, на нейкі час заціснуў белы корак у далоні. Калі ж прыняў руку, цяпер ужо разам з коркам, над тоўстым рыльцам, невялікім грыбным капялюшыкам, запенілася шампанскае, але ніводнай кроплі долу не адарвалася. Хлопец накінуў на рыльца пластмасавы кілішак, працягнуў бутэльку Ірыне.

— Ірка, табе галаву трэба лячыць, — сказаў ён і зноў вярнуўся да чамадана з закускамі.

Люба палуднавала без усялякага апетыту. Нават некалькі невялікіх глыткоў шампанскага не змаглі не тое што развеяць, нават прыцішыць хваляванне і трывогу, якімі напоўнілася душа яшчэ ў Мінску, калі з ад'язджаючага «рафіка» ў натоўпе на прыпынку ўгледзела цётку Клаву, стрыечную маціну сястру. Цётка, калі даведалася, што Люба падпісала кантракт і збіраецца ў Нямеччыну, спярша абрадавалася, але на другі дзень знайшла Любу на працы і пачала ўпрошваць не ехаць. Яна страшыла пляменніцу выпадкамі бясследнага знікнення тых, каго вывозілі, усхвалявана шаптала, што маладых дзяўчат гвалцяць і прадаюць у рабства, а калі расказвала пра тое, што паліцыя часцяком знаходзіць знявечаныя трупы, у якіх адсутнічаюць пэўныя ўнутраныя органы, нават заплакала. Толькі не цётчыны страшылкі парушылі раўнавагу і душэўны спакой, трывога пасялілася праз тое, што бліжэйшая будучыня была пакрыта цемрай.

Нечакана машына рэзка ўзяла ўправа, завіскаталі тармазы, некалькі сумак, складзеных у канцы салона адна на адну, ад рэзкага тармажэння зваліліся на падлогу. За Любінай спінай дзынькнула шкло, і адразу істэрычна залямантавала Ірына:

— Асцярожна, не дровы вязеш... Ледзь бутэльку не разбіла.

— Прыехалі, дзяўчаткі,— заклапочана зірнуўшы ў акно, сказаў Ашот і, кіруючы да выхаду, загадаў: — Сядзіце ціха, як мышы пад венікам, я паспрабую дагаварыцца.

Калі Ашот падышоў да Дзмітрыя, вадзіцель прытрымаў яго за крысо скуранкі і ціха сказаў:

— Не спяшайся, няхай самі падыдуць.

З чорнага трохсотага «мерседэса», які перагарадзіў ім дарогу і прымусіў з'ехаць на ўзбочыну, выйшлі коратка падстрыжаныя, спартыўнага складу, трое хлопцаў і, засунуўшы рукі ў кішэні, няспешна рушылі да «рафіка». Іх адзервянела-зацятыя твары са сківіцамі, якія рытмічна соўгаліся, відавочна, жавалі жвачку, не прадвяшчалі нічога добрага.

— Старыя знаёмыя, — грэбліва ўсміхнуўся Ашот.

— Сёння не праскочылі, — расчаравана ўздыхнуў Дзмітрый.

— Нічога не зробіш, — прачыняючы дзверцы, напружана, з хваляваннем у голасе адказаў Ашот і, саскочыўшы на пыльную ўзбочыну, дадаў:— Раз на раз не прыходзіцца.

— Дзяўчаткі, гэта па нашыя душы,— заявіла Ірына і гучна ікнула. — Толькі яны не душапрыказчыкі, а звычайныя рэкеціры. Рыхтуйце зялёненькія,

лепш дробнымі, бо здачы не дачакаецеся. Канечне, Ашот дамовіцца, не ўпершыню, грошыкі ж выграбуць з нашых кішэняў. Ці праўду кажу, Дзмітрый?

— Твой доўгі язык аблегчыць нашыя кішэні не на дзясяць долараў, ён можа пазбавіць нас усяго.

— Не плявузгай, вас не зачэпяць. — Ірына зноў гучна íкнула і, дапіўшы рэшту шампанскага, зласліва зазначыла: — Трэці раз рабуюць у адным і тым жа месцы, не паверу, што гэта выпадкова. А мінулы раз, дарэчы, не па дзесятцы, а па трыццаць баксаў з носа спагналі. Сёння ж могуць выпатрашыць і ўсе пяцьдзесят.

— Не каркай, Ашота яны паважаюць.

— Грошы яны паважаюць, — прабурчэла Ірына, і ў машыне надоўга ўсталявалася прыгнечаная, напружаная цішыня.

Праз лабавое шкло Люба бачыла, як напачатку спакойна размаўляў Ашот са стрыжанымі хлопцамі. Яны здаліся ёй неймаверна падобнымі, і не таму, што былі апрануты аднолькава, у джынсавыя касцюмы, а больш праз міміку і рухі. Стрыжаныя, панурыўшы галовы і манатонна соўгаючы сківіцамі, нейкі час слухалі Ашота, потым адзін з іх паклаў армяніну руку на плячо і нешта сказаў. Ашот зрабіў крок назад, замахаў рукамі і, раз-пораз азіраючыся на «рафік», пачаў нешта даказваць. Рэкеціры адмоўна захіталі галовамі і, як па загадзе, выцягнуўшы з кішэняў рукі, пагрозліва, сцяной пасунуліся на Ашота. З «мерседэса» з манціроўкай у руцэ выкуліўся невялікага росту, шчуплы, з доўгімі патлатымі валасамі шафёр. Ён падбег да «рафіка», тузануў дзверцы ад вадзіцеля, і не паспеў Дзмітрый нават уцяміць, што да чаго, як крывая манціроўка ўпілася яму ў шыю пад самай сківіцай.

— Т-ты што, здурнеў? — прахрыпеў Дзмітрый і паспрабаваў ухапіцца за жалязяку. Але патлаты быў напагатове. Манціроўка імгненна падкінула галаву вадзіцеля «рафіка» ўгору, ды так, што вочы ў бедака закаціліся, як у мерцвяка, а рукі канвульсіўна затузаліся.

— Не чапай яго, — закрычала Люба, — мы заплацім колькі скажаце...

— Мужыкі, мамзелі згодны плаціць, — выскаліў два рады залатых зубоў патлаты і трошкі апусціў руку, даў Дзмітрыю хватануць паветра.

Стрыжаныя, як па загадзе, спыніліся, засунулі рукі ў кішэні і зноў абыякава засоўгалі сківіцамі. Ашот, ідучы да машыны, нешта імпэтна крычаў, некалькі разоў плюнуў пад ногі, але, залезшы ў салон, сказаў адно:

— Пяцьдзесят баксаў з чалавека...

І Люба, і ўсе астатнія адразу зашамацелі даўно падрыхтаванымі паперкамі, толькі Ірына злосна мацюкнулася:

— Скулу ім, а не пяцьдзесят...

Ашот сабраў грошы, хутка пералічыў, выцягнуў з кішэні сотню за сябе і Дзмітрыя. Потым падышоў да Ірыны і сцішана сказаў:

— Не хапае пяцьдзесят.

— Аддай грошы патлатаму і няхай Дзімку адпусціць... Ды скажы, што пра недастачу я сама буду гаварыць.

— Рабі, як хочаш, толькі ведай, з агнём гуляеш.

— Я ведаю, як за сябе пастаяць, — скідваючы з плячэй плашчоўку, адмахнулася Ірына.

Яна дастала з сумачкі люстэрка, памаду і рашуча падмалявала вусны. Потым выцягнула з валасоў заколку, матлянула галавой, і адразу цёмна-каштанавыя валасы густа рассыпаліся па плячах. За адну хвіліну на вачах агаломшаных пасажыраў Ірына ператваралася з засп]най, не па гадах істэрычнай кабеты ў спакуслівую, кідкую прыгажуню. У наступнае імгненне на падлогу паляцелі мяккія белыя красоўкі, на спінцы крэсла павіслі замытыя да белага джынсавыя штаны, а замест іх Ірына з цяжкасцю нацягнула кароткую чорную спаднічку і бліскучыя, на высокіх абцасах чаравічкі. У яе агромністых аксамітных вачах цяпер палыхалі дзікавата-шальмоўскія ўпартыя агеньчыкі.

— Ну, дзяўчаткі, пажадайце мне ні пуха ні пер'я, — цокаючы абцасамі на выхад, сказала Ірына.

— Ні пуха... — разам выдыхнулі прысутныя, а Дзмітрый, усё яшчэ трымаючыся за скіvіцу, прагундосіў:

— Ірка, не ведаю, што ты задумала, але глядзі не ўлезь к чорту ў балота.

— Ты нас ужо абараніў, цяпер дазволь мне за сябе і цябе, немаўлятку, заступіцца,— праходзячы міма, раскудлаціла вадзіцелю чупрыну дзяўчына і весела па-блазенску рассмяялася.

Як толькі стрыжаныя ўбачылі дзяўчыну, адразу змяніліся: вонкавой абыякавасці і пагрозлівай засяроджанасці як і не было, на тварах імгненна з'явіліся гуллівыя, з'едліва-пошлыя ўсмешкі, да гэтага абыякавыя, немігатлівыя вочы ажылі, заіскрыліся прагавітым, бессаромным жаданнем.

Ашот, як і стрыжаныя, зразумеў, на што наважылася Ірына, і рашуча перaступіў ёй дарогу:

— Не рабі глупства, я за цябе заплачу...

— Адыдзі, ты мне не муж і не бацька, — як ад надакучлівай мухі, адмахнулася дзяўчына і гучна крыкнула: — Хлопчыкі, ёсць размова, толькі скажыце гэтаму лоху, каб сеў у машыну і не высоўваўся...

Тое, што потым адбылося на вачах дзяўчат, пасажырак «рафіка», не проста іх збянтэжыла, убачанае выбіла з каляіны і неймаверна ўзмацніла страхі, якімі і без таго поўніліся душы. Некаторых паводзіны Ірыны і рэкеціраў прывялі да нервовага зрыву.

Бачачы, як Ірына слізганула ў прачыненую дзверцу «мерседэса» і як паважна ўслед за ёй залез адзін са стрыжаных, а астатнія, назіраючым за тым, што робіцца ў сярэдзіне, весела, па-блазенску скаліліся і пагойдвалі машыну, першай не вытрымала Кацярына. У яе руцэ няведама адкуль з'явілася небяспечная брытва, пагрозліва бліснула лязо:

— Я ім не дамся, няхай толькі сунуцца...

— Ты што, здурнела?!

Каля Кацярыны імгненна з'явіўся Ашот і, перацiснуўшы дзяўчыне запясце, адабраў брытву.

— Хіба не бачыш, што гэтая гадаўка сама пайшла?— Ашот абвёў пасажырак злым позіркам, секануў паветра рукой: — Ніхто, чуеце, ніхто вас не зачэпіць, калі, канечне, самі таго не пажадаеце!

Праз гадзіну напружанага чакання Ірына вылезла з «мерседэса» і, хістаючыся, няўпэўнена, па-матроску шырока ставячы ногі, пасунулася да «рафіка». Рэкеціры нешта крычалі ёй услед, але дзяўчына нават не азірнулася, толькі падняла рукі над галавой і развітальна памахала. Раптам яна спынілася, быццам наткнулася на нейкую нябачную перашкоду, скінула чаравікі, замітусілася, крутнулася ўправа-ўлева, як пераламалася напалам, і, прыкрыўшы далонню рот, подбегам кінулася да ўзбочыны. Стрыжаныя, убачыўшы, як дзяўчына, стоячы на ўзвале на каленях, ванітуе, зарагаталі, ды так, што здрыганулася шкло ў «рафіку».

У Любы саленаваты камяк перахапіў горла. І адразу, як калісьці ў дзяцінстве, яе імгненна агарнула даўно забытае, запаланіла міжвольнае і амаль непераадольнае жаданне ўцячы адсюль, схавацца, каб нікога не бачыць і нічога не чуць. Яна падхапілася і кінулася да дзвярэй, але ніяк не магла зразумець, чаму ногі не бягуць, а рукі не слухаюцца, не магла дапяць, чаму цяжка дыхаць, а ў вачах ружовы туман.

Калі Люба расплюшчыла вейкі, зыркае сонца балюча сцебанула па вачах. Яна адвярнулася і ўбачыла перапалоханага Ашота, які трымаў каля яе носа ватку. Пахла нашатырным спіртам.

— Ну, дзякуй Богу, — узрадавана ўздыхнуў хлопец і пацёр ваткай Любіны скроні і шыю.

— Дасца ў знакі нам гэтая паездка, — незласліва прабурчэў Дзмітрый. — Адна трахаецца, можна сказаць, прынародна, другая з брытвай кідаецца на людзей, а трэцяя — зусім чокнутая, паміраць уздумала...

— Не балбачы, — рэзкавата сказаў Ашот, — лепш занясі Ірыне вады, няхай прывядзе сябе ў парадак... Ехаць трэба.

Праз некалькі хвілін у машыну цяжка паднялася Ірына. Валасы ўскудлачаныя, на вільготнай кофце расшпіленыя ўсе гузікі, станіка зусім не было, чырвоныя саскі высокіх грудзей задзірліва, быццам наўмысна, былі скіраваныя на Ашота і Дзмітрыя. Хлопцы, як па загадзе, адвялі позіркі, і гэта не засталося незаўважаным Ірынай. Яе перапэцканы памадай твар пераможна засвяціўся.

— Усім фізкультпрывет, — зычна абвясціла яна, але голас прагучаў фальшыва і здзекліва. — А што гэта нашы дзяўчаткі галовы павесілі, а хлопчыкі вочкі пахавалі? Няўжо паснулі? А мо мяне ганіце? Дык я з таго, чым еду зарабляць грошыкі, таямніцы не рабіла і нікога, зрэшты, не абрабавала. А мо зайздросціце? Усё ж за гадзіну дзвесце баксаў зарабіла, вось гэтых, — Ірына патрэсла над галавой зеленаватымі паперкамі. — Напэўна ж, і вы не цэлкі, маглі б таксама паўдзельнічаць... Толькі я першай паспела...

— І хто цябе толькі нарадзіў? — непрыязна буркнуў Дзмітрый і завёў рухавік.

Ірына быццам толькі гэтага і чакала. Яна зусім скінула кофту, знізу далоньмі яшчэ больш высока прыўзняла грудзі і, усутыч наблізіўшыся да вадзіцеля, прашаптала:

— А ты, Дзімачка, зірні, памацай маё цела, няўжо адмовішся? Толькі не пужайся, дам за так, не за грошы… За іх ты засілішся... А мне жонку і дзетак тваіх шкада... Пагаджайся, пакуль не перадумала, а то аддамся Ашоту, а ён іншы, ён заплоціць, толькі не ў дарозе, усё ж адказвае за маю дастаўку, і не ў Берліне, дзе каштарыс высокі. Ён дачакаецца мяне ў Мінску і завалачэ ў які-небудзь ванючы гатэль з прусакамі...

— Датрахалася, зусім з глузду з'ехала. Гэта ў цябе ў галаве прусакі замест мазгоў, — прабурчэў Дзмітрый і, скрывіўшыся як ад кіслага, пачаў вырульваць на шашу.

Люба яшчэ не зусім ачомалася ад нечакана нахлынуўшай млоснасці і цяпер, трошкі прыплюснуўшы вейкі, паволі, але без усялякага жадання, вярталася ў рэальнасць. Нейкім нязведаным дагэтуль падсвядомым пачуццём яна ўбачыла вакол сябе празрыстую заслону, падобную на вадаспад, якая, здавалася, бараніла ад усяго нядобрага і злога. Люба чула, пра што гаворыць Ірына, бачыла яе голую і ніяк не магла дапяць, чаго дзяўчына торкае свае цыцкі вадзіцелю ледзь не ў самы твар. Яна бачыла, як Ашот укрыў Ірыну плашчоўкай і, прытуліўшы да сябе, правёў міма, чула, як, усаджваючы суседку ў крэсла, ён ціха спытаўся:

— Ты зноў наглыталася калёс?

— І запіла вінам, — раўнадушна адказала Ірына і нечакана ўсхліпнула: — Я больш гэтага не вытрымаю...

— Хутка ўсё скончыцца, — пяшчотна сказаў Ашот. — Ты лепш засні.

Гэтае «засні» імгненным неймаверным цяжарам навалілася на Любіны вейкі. Яна міжвольна заплюшчыла вочы і цяпер не толькі ўбачыла вакол сябе серабрыстыя вадзяныя пырскі, але і пачула грукатлівы шум вадаспада, такі жывы і лагодна-пявучы. На душы стала лёгка і спакойна.

Апошняе, што пачула Люба перад тым як заснуць, былі словы, сказаныя кімсьці з дзяўчат: «Як бы там ні было, а Ірына на нашых вачах за гадзіну зарабіла аж дзвесце долараў!»

За паўгадзіны да нямецкай мяжы Любу раскатурхаў Ашот і забраў пашпарт, які адразу ж аддаў Дзмітрыю.

— Апошняя праверка, — падаў голас вадзіцель і, пералічыўшы пашпарты, павучальна прамовіў: — На мяжы не мітусіцеся, сядзіце спакойна, у немцаў памежнікі і мытнікі працуюць на пару. Машыны шманаюць рэдка, а на людзей і зусім увагі не звяртаюць. Колькі езджу, у салон ні разу не зазірнулі, нават крыўдна...

Пра тое, што адбылося па дарозе на Варшаву, ні Люба, ні хто іншы не ўзгадвалі. Дый навошта? Праз некалькі гадзін іх шляхі разыдуцца, а там у кожнага свой клопат, як кажуць, свая кашуля бліжэй да цела.

Немцы, і сапраўды, вельмі хутка і без усялякай цікаўнасці да пасажыраў прагледзелі іх пашпарты, тут жа грукнулі штампам, але больш уважліва перабралі дакументы вадзіцеля, нават прымусілі завесці машыну і праверылі на «СО», яшчэ больш уважліва вывучалі страхоўку і зялёную карту. Зрэшты, калі ўсе пытанні былі знятыя, Дзмітрыю вярнулі дакументы, акрамя аднаго — пашпарта.

Малады, зусім юны памежнік у вялікаватай фуражцы з тоненькай палоскай чорных вусікаў, якія, відавочна, яшчэ не бачылі брытвы, і трошкі прышчаватым тварам, зазіраючы ў салон машыны, на ламанай рускай мове крыкнуў:

— Фройлейн Люба Аникейчик, ком цу мир, аўсвайс фальшивка...

У Любы быццам нешта абарвалася ўсярэдзіне. Яна падхапілася на ногі, дрыготкімі рукамі пачала збіраць рэчы. На падлогу звалілася сумачка, з якой высыпаліся біжутэрыя, грошы, люстэрка закацілася некуды далёка пад крэсла, на вачах імгненна навярнуліся слёзы, а вусны шапталі адно:

— Як жа ж так, усё было нармальна...

— Ну, ні халера сабе!.. — вырвалася міжвольнае ў Дзмітрыя. — Нашу і дзве польскія мяжы праехалі...

— Что ест хольера? — імгнення зрэагаваў памежнік і, зрабіўшы крок да машыны, паклаў руку на руль. — Это ест русский нецензурный брань в меня? Тогда ты в тюрьма!

— Што вы, што вы, якая цюрма? — замахаў рукамі перапалоханы Дзмітрый. — Халера — гэта... гэта як чорт...

— О-о, «чьёрт» моя знает, — твар памежніка расплыўся ў прыхільнай усмешцы, — русский «чьёрт побирай» Европа знает... Но тут, — памежнік зноў стаў сур'ёзны, нават вельмі, і, тыцнуўшы пальцам у нямецкі сцяг, які развяваўся над мытняй, строга сказаў: — Тут вам не «хальера» і не «чьёрт побирай», тут Дойчланд!.. А фройлейн своя подпись в аўсвайсе не имеет...

Праехаўшы не больш за кіламетр, Ашот запатрабаваў, каб Дзмітрый спыніў машыну каля першага прыдарожнага тэлефоннага аўтамата. Ён выглядаў заклапочаным, доўга шарыў па кішэнях скуранкі, выцягнуў партманет, зрэшты знайшоў тое, што шукаў, — занатоўнік, перагарнуў некалькі старонак і адразу ж адкінуў, запусціў руку ў дарожную сумку. Зрэшты, твар прасвятлеў, Ашот выцягнуў блакітны сшытак, нешта ў ім прачытаў, скоса зірнуў на Любу. Сустрэўшыся з дзяўчынай позіркам, ён вымучана ўсміхнуўся і нават падміргнуў.

Люба нейкім, як кажуць, сёмым пачуццём адчувала, што размова Ашота па тэлефоне будзе тычыцца яе. Зрэшты, так яно і здарылася. Калі Ашот вярнуўся ў машыну, ён адразу падышоў да Любы і бадзёра сказаў:

— Праз гадзіну будзем на месцы, паціху збірайся. Цябе чакаюць.

— Я гатова, — хвалюючыся, прашаптала Люба і не пазнала свой голас. Зноў саленаваты камяк перахапіў дыхалку, яна закашлялася.

— Ну-ну, толькі не ўздумай самлець, — лагодна паляпаў Любу па спіне Ашот,— хворая ты ім не патрэбна...— Ён трошкі памаўчаў і, адчуваючы няёмкасць, дадаў: — І чаго цябе з такім здароўем панесла ў свет?

Люба нічога не адказала, але гэтае пытанне ўзяло за жывое. Імгненна, як на экране тэлевізара, перад вачыма прамільгнула яе жыццё. Пасля смерці маці, калі п'яніца-бацька прывёў у хату мачаху, у яе пачалося напаўжабрацкае дзяцінства і гэткае ж юнацтва. На выпускны школьны баль сама перашыла, пераніцавала старую суседчыну сукенку, якая і сёння як парадная ляжыць на дне чамадана. Пасля няўдалай спробы паступіць у інстытут — праца ў тралейбусным дэпо. Заробак не дазваляў раскашаваць, ледзь хапала на пражыццё, бо амаль усе грошы аддавала цётчыным знаёмым на разлік за мінскую прапіску. Яна магла спадзявацца толькі на сябе, таму адразу і ўхапілася за прапанову паехаць у Нямеччыну ў заробкі. Няхай пакаёўкай, няхай пасудамыйкай, абы толькі вырвацца з абрыдлай нястачы...

— Я вельмі добра сябе адчуваю. — Люба адштурхнула Ашотаву руку і,

злосна зірнуўшы на хлопца, дадала: — І, калі спатрэбіцца, змагу за сябе пастаяць...

— Гэткая ты мне падабаешся, — шчыра засмяяўся Ашот і, падышоўшы да вадзіцеля, гучна сказаў: — У нашага напаўсамлелага верабейкі вырасла дзюбка.

— Хто іх, жанчын, зразумее, — стомлена прабурчэў Дзмітрый. — Спярша дзюбка, а потым невядома адкуль з'яўляцца і дзюба, і змяіны зуб...

Ён пазяхнуў і, трымаючы руль левай рукой, правай ухапіў поліэтыленавую двухлітровую бутлю з вадой. Спярша зрабіў некалькі вялікіх глыткоў, потым лінуў вады на галаву, шыю, парослую чорнымі валасамі грудзіну і, страсянуўшы патлатай галавой, выдыхнуў:

— Другія суткі за рулём, хоць бы не заснуць... Ірка, сцерва, падвяла, выбіла з графіка.

— Трымайся, перададзім дзяўчыну і заначуем,— зручней уладкоўваючыся ў крэсле, адказаў Ашот і, выцягнуўшы цыбатыя ногі, заплюшчыў вейкі.

Да скрыжавання, на якім чакалі Любу, пад'ехалі каля адзінаццаці гадзін вечара. Як толькі машына спынілася і Ашот адчыніў дзверцы, у салон цяжкавата і не без дапамогі хлопца ўскараскалася невысокага росту гадоў пяцідзесяці жанчына ў вялізных, на паўтвару, акулярах. Гладка зачэсаныя валасы былі сабраныя на патыліцы і прыхопленыя ярка-чырвонай шпількай. Жанчына, не вітаючыся, на чыстай рускай мове зняважліва заявіла:

— Я — фрау Эльза, эканомка пана Ганса. Мой гаспадар прасіў перадаць, што за спазненне ён спагоніць з вашай фірмы штраф.

Ашот у апраўданне хацеў нешта сказаць, але жанчына рашучым жэстам рукі перапыніла:

— Не трэба тлумачэнняў, Люба Анікейчык — на выхад!

— Бывай, сяброўка, — абыякава прабурчэла за Любінай спінай Ірына і, шчыльней захутваючыся ў плашчоўку, санліва дадала: — Добра, што гэты славуты нямецкі парадак для мяне пачнецца толькі заўтра...

Люба на развітанне моўчкі пацiснула Кацярыне руку, ускінула на плячо дарожную сумку, падхапіла старэнькі чамадан.

Накрапваў невялікі дожджык, і першае, пра што падумала Люба, ступіўшы на зямлю, гэта быў парасон, які наўмысна не ўзяла з сабой з-за зламанай спіцы і зацыраванай у двух месцах матэрыі.

Насупленая і непрыступна-халодная фрау Эльза была ў машыне. Яна дачакалася, калі Люба ўладкавалася на заднім сядзенні, і толькі пасля гэтага, прачыніўшы шкло, падала Ашоту аркуш паперы.

— Вазьмі распіску аб выкананні абавязацельстваў, а памер штрафу гаспадар перадасць па факсе.

Сказаўшы гэта, эканомка завяла рухавік і, рэзка развярнуўшы машыну, ажно завіскаталі колы, на вялікай хуткасці рванула з невядомага Любе скрыжавання, толькі мільганула перад вачыма агромністая шыльда-ўказальнік: «Берлін — 40».

## 2

Высока ў недаступных гарах, там, дзе раздольнае неразгаданае неба ўпала на мёртвыя пабеленыя снегам каменныя глыбы і, быццам узяўшы іх у палон, ахутала аблокамі, кружыў стары адзінокі арол. Ён бачыў на вымачанай дажджамі, прапахлай смалой і кветкамі зямлі кожны каменьчык, кожную сцяблінку і кусцік, з-за якіх у любы момант мог выкуліцца заяц ці выскачыць з норкі палахлівы сурок, і ніяк не мог зразумець, чаму сёння паляну запаланілі людзі ў чорнай апратцы. Арол быў усхваляваны: жыллё і месца свайго палявання ён не хацеў саступаць ні чалавеку, ні маладому і нахабнаму суседу, які апошнім часам усё часцей і часцей спрабаваў завалодаць багатым на ежу лапікам зямлі. Маладзёну і ў галаву не прыходзіла, што спакушаецца на бацьк-

коўскае, забыўся на тое, што колькі год таму ўпершыню ўбачыў неба з гнязда старога арла.

Айшэ бліжэй за ўсіх стаяла да магілы, і ёй здавалася, што з кожным узмахам рыдлёўкі засыпаюць і яе. У нейкі момант пачало знікаць адчуванне ног, зрабіліся халоднымі, як у мерцвяка, рукі, здранцвела спіна, запаволілася дыханне. Нечакана Айшэ ўбачыла сябе, Лолу, Мусу, Рэната і іншых зводдаль, быццам і не стаяла побач са свякроўю. Свежавыкапаная, вільготная пасля дажджу зямля курэла парай. І раптам — балючы ўдар пад самае сэрца... Другі і трэці былі трошкі слабейшымі, але менавіта яны канчаткова вярнулі з небыцця. Вялікі жывот некалькі разоў скалануўся і стаў неймаверна цяжкім, у гэтую хвіліну Айшэ здалося, што ненароджанае дзіця цягнецца да невялікага пагорачка, хоча развітацца з нябожчыкам. Зноў затахкала ў скронях, гарачая хваля апякла грудзі, зрабілася млосна. Айшэ не магла больш чуць шоргату зямлі пад рыдлёўкамі, не ставала моцы бачыць, як засыпаюць Цімура, яе мужа і бацьку будучага сына. А што будзе сын, ніхто не сумняваўся, бо так сказала Цімурава прабабка — стогадовая Каміла. Айшэ, шукаючы паратунку, узняла вочы і, убачыўшы ў небе арла, ледзь не страціла прытомнасць: «Твая душа назірае за мной, — нячутна прашапталі бяскроўныя вусны, — яна ведае мой грэх... Я не любіла, але ж ты сам вінаваты, ты выбраў свой лёс і распарадзіўся маім...»

Айшэ агортваў нясцерпны страх, душу паланіла пачуццё віны. Супярэчлівыя запозненa-бездапаможныя перажыванні, здавалася, на часткі раздзіралі цела, бо так і не змагла дараваць Цімуру насілля і здзеку, і нават ніколі не спрабавала гэтага зрабіць. У памяці ў адначассе ўсплылі бяссонныя ночы, поўныя слёз і праклёнаў, узгадала, як неаднойчы глядзела на спячага мужа і жадала яму смерці. І смерць прыйшла... Прыйшла ў самы нязручны момант, прыйшла тады, калі Айшэ збіралася раджаць, калі ў яе, акрамя Цімура і ягонай радні, нікога не засталося...

— Ты ўся дрыжыш, і дзіцятка расхвалявалася, вунь як тузаецца, — заклапочана прагаварыла Лола і, прытрымліваючы Айшэ пад руку, падвяла да ўчарнелай вузкай лаўкі каля суседняй магілы. — Хоць бы схваткі заўчасна не пачаліся... Табе нельга было сюды прыходзіць.

Голас Лолы данёсся аднекуль здалёк, і Айшэ доўга не магла ўцяміць, што ад яе хоча свякроў, калі тая паспрабавала прымусіць праглынуць заспакаяльную таблетку. Шукаючы ў паднябессі арла, Айшэ ўзняла вочы, але не адразу ўбачыла маленькую кропку.

— Я не любіла, таму ён і загінуў, — сказала Айшэ.

— Мой сын, як сапраўдны джыгіт, загінуў, абараняючы Радзіму, — халодна, з абурэннем у голасе адказала Лола. — Роду Баджыевых не сорамна за яго, і ты абавязана паводзіць сябе як жонка героя!

Гэтае «абавязана» быццам токам працяло Айшэ. З першага дня знаёмства з Цімурам, а потым і ягонымі родзічамі, яна толькі і чула, што ўсім ім нечым абавязана, і ў першую чаргу, што яе прынялі ў старажытны, багаты род, што яе муж – вядомы ў рэспубліцы чалавек, што за яе заплацілі непамерна вялікі калым.

— Больш нічога я вам не абавязана, — напружана варухнуліся губы Айшэ. — Цімура няма, і я не застануся ў вашым доме.

— Ну-ну, супакойся, дачушка, — упершыню назваўшы Айшэ дачкой, памякчэлым голасам, прыхільна сказала Лола і, абняўшы нявестку за плечы, прытуліла да сябе. — Нам больш няма чаго дзяліць, акрамя гора... Дый унучак народзіцца, трэба на ногі падымаць...

Пякучыя слёзы жалю да сябе, да свайго лёсу раптоўна накаціліся на вочы, і адразу знікла, быццам растварылася, крыляючая чорная кропка ў небе. Айшэ сілілася зноў убачыць арла, яна хусцінкай выцерла вочы, але птушкі нідзе не было.

— Цімур пайшоў назаўсёды,— выдыхнула Айшэ і, уткнуўшыся тварам Лоле ў плячо, ціха заплакала.

Свякроў не супакойвала. Цяжка, роспачна ўздыхнуўшы, яна мацней туліла нявестку да грудзей, моўчкі гладзіла па галаве і, быццам калышучы немаўля, ціха хісталася. Айшэ не заўважыла, як перастала плакаць і сцішылася. У гэты момант ёй вельмі карцела зноў убачыць арла, але цела здавалася нейкім чужым і бяссільным, яна не магла нават узняць галаву і расплюшчыць вейкі. Устрывожаныя пачуцці, відавочна пад уздзеяннем заспакаяльнага, паціху саступалі месца горка-шчымліваму ўспаміну, які расчульваў і больш не выклікаў брыдкага пачуцця помсты.

Айшэ ўпершыню ўбачыла Цімура яшчэ ў школе, калі да іх запрасілі былых навучэнцаў, тых, хто ў жыцці дабіўся поспеху. На той час Цімур, майстра спорту міжнароднага класа па вольнай барацьбе, чэмпіён Расіі і Еўропы, быў кумірам грозненскіх школьнікаў, ягоны партрэт вісеў на ганаровым месцы побач з партрэтам генерала Дудаева. Дзяўчаты-адзінаццацікласніцы падчас сустрэчы адорвалі кожнага госця кветкамі, і Айшэ выпала паднесці букет Цімуру. Дваццаціпяцігадовы волат быў негаваркі, на ўсіх пазіраў сумнымі вачыма, а, убачыўшы дзяўчыну, і зусім спахмурнеў. Ён доўга лупіў на Айшэ трошкі вірлаватыя калючыя вочы і, не дачакаўшыся заканчэння вечарыны, сышоў са школы, спаслаўшыся на тое, што ў яго трэніроўка. А праз тыдзень да бацькоў Айшэ завіталі сваты. Цімуру адмовілі, бо бацька і маці марылі, што адзіная дачка-выдатніца пасля школы будзе вучыцца на медыцынскім факультэце Грозненскага універсітэта. Дый ранавата шаснаццацігадовай дзяўчыне замуж. Праўда, была ўмова, па якой Цімур мог разлічваць на жаніхоўства, але не раней таго часу, калі Айшэ будзе вучыцца на трэцім курсе. «Я гэтулькі чакаць не магу», — аблізнуўшы патрэсканыя тоўстыя вусны, прабурчаў жаніх і зірнуў на Айшэ так, што ў дзяўчыны ажно перахапіла дыханне, затрэсліся на нагах паджылкі, а душа напоўнілася холадам і страхам.

Больш за паўгода Цімур нічым не нагадваў пра сябе, і Айшэ супакоілася, пачала лічыць, што ён ад яе адмовіўся. Але гэта было далёка не так. Цімур і сапраўды чакаў, але не трэцяга курса універсітэта, а заканчэння Айшэ школы. Ён нават не дазволіў дяўчыне дачакацца канца выпускнога балю.

Як толькі Айшэ атрымала атэстат і невялічкі сіні футарал з залатым медалём, ёй перадалі, што на першым паверсе ў фае яе чакае фотакарэспандэнт, які хоча ў ранішні выпуск мясцовай газеты даць здымак медалісткі. Карэспандэнт зрабіў некалькі здымкаў, і Айшэ не заўважыла, як побач з'явілася некалькі дужых хлопцаў і Цімур. Няўдалы жаніх пырснуў у твар нечым прытарнагоркім з блакітнага балончыка, і Айшэ страціла прытомнасць. Апошняе, што засталося ў памяці дзяўчыны, было чорнае начное неба і мутна-жоўтыя шары-ліхтары на алеі каля школы.

Ачомалася Айшэ толькі пад самую раніцу. Яна ляжала на заднім сядзенні машыны пад коўдрай. Зірнула ў акно — вакол лес. Галава кружылася, ногі і жывот былі перапэцканы крывёю, шчымелі ссінячаныя грудзі. Нейкі час Айшэ разглядвала сябе і ніяк не магла дапяць, успомніць, як апынулася сярод лесу ў машыне і чаму голая. Яна ўшчыпнула сябе за шчаку, тузанула за валасы — хацелася верыць, што гэта толькі сон. Калі зразумела, што не спіць, упершыню цела імгненна пакрылася ліпкім халодным потам, яе закалаціла, як у ліхаманцы, затахкала сэрца, вось-вось вырвецца з грудзей. Яна імгненна ўспомніла і школу, і залаты медаль, і фатографа... Калі ж перад вачыма ўзнік Цімураў твар, з грудзей вырваўся дзікі вар'яцкі крык. Не памятаючы сябе, яна адчыніла дзверцы і кінулася прэч ад гэтай клятай машыны.

Айшэ не паспела зрабіць і некалькіх крокаў, як нехта моцны і цяжкі накінуўся ззаду, паваліў на зямлю і, заціснуўшы далонню рот, прашаптаў у патыліцу:

— Я хачу, каб ты была маёй жонкай...

Айшэ пазнала голас Цімура і, баронячыся, што сілы закалаціла рукамі і нагамі. Ён адхіснуўся, на нейкую хвіліну задумаўся і ў наступны момант рашуча і лёгка, як малое дзіця, прыўзняў Айшэ, павярнуў тварам да сябе, пера-

хапіў вольнай рукой рукі дзяўчыны і прыціснуў іх да зямлі за яе галавой. Іх вочы сустрэліся, і Айшэ зразумела, што зараз адбудзецца. Яна істэрычна затузалася, паспрабавала ўкусіць Цімураву далонь, якой ён заціскаў рот, — не атрымалася. Ён наваліўся на дзяўчыну сваім магутным целам, цяжка засоп, і ў наступнае імгненне вострьг, прыкра-моташлівы боль апёк ніз жывата, ногі звяла сутарга, а ў спіну з кожным рухам насільніка ўсё глыбей і глыбей упівалася нешта вострае і калючае. Айшэ здалося, што боль разарве цела на часткі, яна перастала вырывацца, сцішылася, заплюшчыла вочы.

Айшэ разумела, што некалі стане жанчынай, і з пэўнага часу рыхтавалася да гэтага, але ж нават уявіць не магла, што яе спярша згвалцяць беспрытомную, а потым у лесе, на голай зямлі, на нейкай вострай калючцы пад спінай. Ад бяссілля па шчоках каціліся несупынныя горкія слёзы, на душы было брыдка, інстынктыўна з'явілася прадчуванне непазбежнай імгненнай смерці. «Жыццё скончылася, — тахкала ў скроні,— ну і няхай, лепш памерці, чым жыць з гвалтаўнікам».

Час для Айшэ спыніўся. У нейкі момант яна перастала адчуваць боль, думкі пераблыталіся, у вачах усё плыло і мроілася. Убачыла сябе першакласніцай на вялікай плошчы пад мноствам чырвоных сцягоў, з голубам у руках, якога выпусціла, калі праходзіла ўздоўж трыбуны, перапоўненай людзьмі ў чорных аднолькавых гарнітурах. Голуб паляцеў, а Айшэ заплакала, бо ўбачыла спаражненні птушкі на сваёй новай сукенцы, бялюткай, як першы снег... Вось яна, падлетак, купаецца ў Чорным моры, куды прыехала разам з маці і бацькам на адпачынак. Хвалі закалыхваюць, Айшэ чакае самую вялікую і прама ў яе дае нырца. Маці, хвалюючыся, назірае з берага і, калі адведзеныя дачцэ хвіліны купання заканчваюцца, пачынае клікаць, але Айшэ не спяшаецца выходзіць на бераг. Ёй сорамна паказацца на людзях без станіка, а маці не заўважае, што ў дачкі набухлі саскі і вось вось «адскочаць» грудзі... У наступнае імгненне Айшэ бачыць сябе ў люстэрку ў шыкоўнай бальнай сукенцы, якую справілі бацькі на выпускны вечар. Нечакана яе падхоплівае невядомая сіла і віхрам кружыць у нейкім шалёным танцы...

Айшэ расплюшчыла вочы і ўбачыла сябе, захутаную ў коўдру, на руках Цімура. Прыціскаючы дзяўчыну да шырокіх грудзей, ён некуды спяшаецца. Наўкол лес, позірк Айшэ чапляецца за тоўстыя ствалы дрэў, за хісткія, шумлівыя кроны, праз якія не могуць прабіцца сонечныя промні. «Я не памерла?..» — здзіўлена, са скрухай думае Айшэ і зноў заплюшчвае вочы. Моцы хоць на нейкае супраціўленне больш не было.

Праз некалькі хвілін Цімур асцярожна апусціў дзяўчыну на зямлю і адкінуў коўдру. Айшэ імгненна, быццам ачуняўшы ад цяжкога сну, падхапілася, падцягнула каленкі і, абхапіўшы іх рукамі, сцялася.

— Прашу, не чапай мяне... — ускрыкнула яна і, убачыўшы за Цімуравай спінай невялікае возера, адчайна дадала: — Не то я ўтаплюся...

— Без тваёй згоды я больш ніколі гэтага рабіць не буду, — сцягваючы кашулю праз галаву, будзённа, як нічога і не адбылося, сказаў Цімур. Потым ён рэзкім рухам разарваў на грудзях майку і кінуў яе пад ногі Айшэ: — Ідзі памыйся, і паедзем дадому...

— Дадому? — перапытала Айшэ і зноў адчула, як цела пакрываецца ліпучым потам.

— Ты ведаеш нашы законы і, канешне, разумееш, што ў Грозны мы вярнуцца не можам. Я не хачу, каб твой бацька, як барану, перарэзаў мне гарляк. Цяпер ты — мая жонка, і гэты факт павінна прызнаць і твая, і мая радня.

— Я ніколі не буду тваёй, лепш смерць!.. — крыкнула Айшэ і, падхапіўшыся на ногі, пабегла да вады.

На гэты раз яна аказалася спрытнейшай. Не паспеў Цімур і вокам міргнуць, як Айшэ з высакаватага берага кінулася ў аслоненае густым кустоўем возера. І зноў няўдача — вады было па калена. Жыватом, грудзьмі яна балюча пляснулася аб мелкаводдзе, хуценька ўстала і толькі наважылася бегчы туды, дзе глыбіня, на сярэдзіну, як за спінай прагучаў зняважліва-цынічны Цімураў голас:

— У гэтым возеры яшчэ ніхто не ўтапіўся, — побач з Айшэ пусціла кругі скручаная матэрыя, і агідны голас раздражнёна дадаў: — Вады па калена аж да супрацьлеглага берага, а наўкол, на дзесяткі кіламетраў, лес...

Два месяцы Айшэ жыла ў гарах, у саклі Цімуравага, даўно памерлага прадзеда Рэната па матчынай лініі. Жыла не адна. Цімур абачліва, яшчэ за тыдзень да спланаванага крадзяжу нявесты, прывёз сюды, акрамя ўсяго неабходнага для жыцця, і старую Камілу, бо вельмі разлічваў на дапамогу прабабкі.

Каб сакля стала сапраўдным жытлом, Каміла, да прыезду ўнука, наколькі змагла, яе ўладкавала: кожны дзень паліла камін, дзіркі ў якім, каб не ішоў дым у саклю, сама ж замазала глінай, на невялічкіх вокнах памыла шкло і прыладзіла фіранкі. Для нявесткі выбрала самы светлы куток і адгарадзіла яго тоўстай чырвонай плюшавай занавескай, якую разам з матрацамі і коўдрамі прывёз унук. Акрамя хатняга клопату, Каміла вяла сапраўдную вайну з пацукамі, якія трыццаць гадоў, што пуставала будыніна, відавочна, лічылі яе сваім жытлом. Яны зусім не баяліся сухую згорбленую старую і разбягаліся толькі тады, калі яна шпурляла ў іх ці галяком, ці кавенькай. У ход пайшлі прывезеныя Цімурам і пасткі, і атрута, але Каміла была перакананая, што лепш за ўсё дапамагае багун, якім яна кожны вечар абкладвала і падлогу, і ўсе закуткі. Праўда, да ляска, у якім ён рос, было добрых паўкіламетра, але старая лічыла за радасць пахадзіць па мяккаму моху, адчуць свежы, смалісты лясны водар, і таму яна кожным надвячоркам шкрэбла падэшвамі камяністую сцяжынку, напяваючы забытую мелодыю, слоў да якой не памятала і сама.

Каміла сустрэла Айшэ як родную. На ўнука ж пазірала непрыхільна і холадна. Часцяком, асабліва, калі тое бачыла Айшэ, трэсла перад Цімуравым тварам маленькім, сухім кулачком і незадаволена бурчэла: «Ласкай трэба, а не сілай...»

Пасля няўдалай спробы на возеры звесці рахункі з жыццём, Айшэ ад свайго рашэння не адступілася. Думкі пра тое, што жыццё ў гарах, у гэтай старой, прасмярдзелай дымам і мышамі саклі не вечнае, што некалі прыйдзецца вярнуцца ў Грозны, прымушалі часцей біцца сэрца. Айшэ нават уявіць не магла сваёй сустрэчы з бацькамі, ведала, што да скону сваіх дзён не зможа выйсці на вуліцу, бо кожны, хто захоча, плюне ўслед. У гэтыя імгненні душа поўнілася невыразным страхам, рабілася млосна, ліпучы халодны пот ручайкамі сцякаў па твары, пёк вочы, істоту напаўняла адчайнае, непераадольнае жаданне скончыць усё разам... Ведаючы, што яе паводзіны кантралююцца, Айшэ наважылася на самае простае: яна адмовілася ад ежы...

Каміла заўсёды была побач. Старая не назаляла, старалася быць непрыкметнай, але ўвесь час трымала дзяўчыну навідавоку, была гатовая ў любы момант прыйсці на дапамогу і хоць чым-небудзь дагадзіць унукавай абранніцы. Каміла, як ніхто іншы, разумела абражаную і зняважаную Айшэ, адчувала яе думкі, здагадвалася і пра зламысны намер, бо і сама некалі перажыла тое ж самае... Але яна любіла ўнука і жадала яму шчасця, таму і рабіла ўсё, каб паміж маладымі найхутчэй наладзіліся адносіны.

Цімур быў злы, хадзіў учарнелы, не мог дачакацца, калі Айшэ прыме яго як мужа. Ён амаль не спаў, не выходзіла з галавы пачутае на возеры: «Лепш смерць, чым быць тваёй жонкай...» Ён шчыра любіў Айшэ і нават думкі не дапускаў, што з дзяўчынай можа нешта здарыцца. І ўсё ж трывога была, і яе ўзмацніла Каміла, паказаўшы на сваіх запясцях пісягі парэзаў, патлумачыўшы, што некалі спрабавала паквітацца з жыццём, калі яе выкраў Цімураў прадзед.

Менавіта рубцы на запясцях Камілы сталі прычынай узнікнення прыхільнасці, даверу і добрых адносін паміж Цімуравай прабабкай і Айшэ. Старая нячутна ўладкоўвалася на край ложка, заўсёды брала руку Айшэ і, слепавата прыплюснуўшы вочы, разглядвала далонь. Потым асцярожна клала руку нявесткі на коўдру і, цяжка, роспачна ўздыхнуўшы, гаварыла: «Чысценькая...» Айшэ ў нейкі момант не вытрымала, незадаволена спыталася:

— А якая па-вашаму яна павінна быць?

— Толькі не такая, як у мяне, — ахвотна адказала Каміла і, закасаўшы рукаў, паказала сінія набухлыя пісягі на сваёй руцэ.

Убачанае ўразіла Айшэ. Яна ўскінула на Камілу вочы, але запытацца не паспела, старая ўжо вяла рэй.

— Я была маладзейшая за цябе, мела гадкоў чатырнаццаць, не болей... Ахмед выкраў мяне ноччу сонную прама з ложка... Каб не крычала, рот завязаў, закруціў у бурку, перакінуў пасярод сядла на кані — і памінай як звалі. Цэлы год, ажно пакуль дзіця не нарадзіла, хаваліся ў гарах. Скажу шчыра: мне з Ахмедам пашэнціла, чалавек аказаўся добры...

— А рукі? — спыталася Айшэ.

— Гэта я на пачатку, ён жа на дваццаць гадоў старэйшы быў... Твой Цімур і трыццаці не мае...

— Ніякі ён не мой, — ускрыкнула Айшэ і сцялася, нечакана падумала: а раптам яна ўжо цяжарная?

— Не кажы так, дачушка, — спакойна сказала Каміла і, быццам прачытаўшы думкі Айшэ, дадала: — Я так разумею, што ў вас усё было, а значыць, і дзеці могуць быць...

Айшэ ўсхліпнула, па шчоках пакаціліся буйныя слёзы.

— Ён мяне сілай узяў...

— Цімур зрабіў гэта, бо кахае цябе,— Каміла пагладзіла Айшэ па плячы і стрымана дадала: — Выбару ні ў мяне не было, ні ў цябе няма, гэткі ўжо наш лёс... А есці трэба, — працягвала Каміла, — хочаш курынага булёнчыку прынясу?

Айшэ згодна кіўнула, выцерла насоўкай вільготныя вочы і нечакана для сябе заснула, упершыню спакойна і моцна.

Праз тыдзень Айшэ пачала хадзіць разам з Камілай у лес збіраць сушняк, дапамагала па гаспадарцы, а праз месяц, калі ў чарговы раз ноччу да яе за занавеску прыйшоў Цімур, яна прыняла ягоныя заляцанні. Старая Каміла не магла нарадавацца, бачачы, што ўсё пачало складавацца як мае быць. Але ж цяпер галоўнае было аб'явіцца Цімуру ў Грозным, павінавацца перад бацькамі і раднёй Айшэ, знайсці такіх сватоў, якія змаглі б дамовіцца наконт вяселля і абмеркаваць велічыню калыму за нявесту. Айшэ таксама хвалявалася, але выгляду не паказвала, злосць на Цімура не прайшла, у нейкі момант нават хацела, каб з ім паквіталіся. Праз гэта і пісьмо бацькам адмовілася напісаць, але Цімур і не настойваў, ён ведаў, як памірыць род Баджыевых і Буцуевых. Усё залежала ад велічыні калыму, і Цімур прапанаваў тое, ад чаго бацька Айшэ не змог адмовіцца. Ён купіў у прыгарадзе Грознага трохпавярховы дом і аддаў пяцьдзесят тысяч долараў. Толькі зусім мала пажылі бацькі Айшэ ў новым доме. У першы ж дзень вайны выпушчаная з самалёта ракета ўшчэнт разнесла будыніну, пахаваўшы пад абломкамі і бацьку, і маці. А сёння аднеслі на могілкі і Цімура...

Лола і Айшэ з могілак вярталіся апошнімі. На вузкім, у дзве дошкі ў шырыню, хісткім падвесным мастку праз бурлівы горны ручай прыпыніліся. Лола выцягнула з рукава белую насоўку, на імгненне прыклала яе да вачэй і адразу кінула ў мутную ад дажджоў ваду.

— Кінь і ты, — падтрымліваючы нявестку за локаць, папрасіла Лола, — няхай вада возьме наша гора...

Айшэ як і не чула. Яна, трымаючыся за вяроўкі-поручні, адштурхнула свякроў і, не адрываючы абцасаў ад дошак, пашкрэбла да супрацьлеглага берага, дзе іх чакаў малодшы Цімураў брат, Рэнат. Ён дапамог Айшэ ўскараскацца на высакаваты бераг і нечакана, ўскінуўшы ўгору рукі, крыкнуў у неба:

— Клянуся Алахам, што прывяду на магілу брата забойцу і крывёй змыю ганьбу, учыненую нашаму роду...

### 3

Фрау Эльза заехала ў расчынены, добра асветлены гараж, які месціўся пад раскідзістымі вербалозінамі леваруч ад двухпавярховага будынка, і рэзка затармазіла.

— Бяры чамаданчык і чакай мяне на вуліцы, — строга сказала эканомка.

Люба паслухмяна кіўнула і хуценька выкулілася з машыны. На вуліцы яна з асалодай удыхнула водар свежага начнога паветра, які бывае толькі пасля дажджу, і, убачыўшы, што фрау Эльза, не выходзячы з машыны, некаму тэлефануе па сотаваму, адступіла далей ад гаража, каб эканомка не ўбачыла ў люстэрка і не падумала, што яна падслухоўвае размову. Не заўважыла, як апынулася пад густой вербалозінай. У гэтае імгненне, быццам наўмысна чакаючы ахвяру, наляцеў свавольны, разгульны вецер, захістаў кроны дрэў, і не паспела Люба ачомацца, як тысячы халодных пырскаў, быццам з кулямёта, сыпанулі ў твар, аблілі, вымачылі з галавы да пят. Люба выбегла на дарогу і з жахам убачыла, што яе святочная сукенка прыліпла да цела. Першае, што прыйшло ў галаву, — выцягнуць з чамадана кофтачку і накінуць на плечы. Але зрабіць гэта Люба не паспела. Як толькі яна шчоўкнула замкамі і адкінула вечка чамадана, з гаража паспешліва выйшла эканомка і, ускінуўшы руку з чорнай пляскай скрыначкай, падобнай да школьнай гатавальні, націснула на чырвоную кнопку. Нячутна сышліся гаражныя металічныя дзверы. Люба імгненна замкнула чамадан і выструнілася, нават паспела абцягнуць спаднічку. Але фрау Эльза ўсё ж заўважыла, што Люба корпалася ў рэчах, і насцярожана агледзела дзяўчыну:

— Што фройлен дастала з чамадана? — свідруючы дзяўчыну ледзяным, падазроным позіркам, спыталася эканомка.

— Я трапіла пад дождж, хацела выцягнуць кофту...

— Дождж скончыўся дваццаць хвілін таму, — строга канстатавала эканомка. — У нас прынята гаварыць праўду!

— Але ж гэта праўда, — развяла рукі Люба, паказваючы прыліплую да цела сукенку.

Фрау Эльза не паверыла, пакуль сама не памацала тканіну. Потым далонню правяла па гэткіх жа вільготных Любіных валасах і, здзіўлена перасмыкнуўшы плячыма, задумалася. Зачапіўшыся позіркам за чамадан, які ляжаў на асфальце, яна ўжо незласліва, але цвёрда папрасіла:

— Адчыні. Мне добра плацяць, і я не хачу сюрпрызаў...

Люба пакорліва, нават з радасцю, выканала і гэты загад, разлічваючы, што цяпер эканомка не будзе перашкаджаць апрануць нешта сухое. Яна нават уявіць не магла, што гаспадар убачыць яе ў вільготнай, прыліплай да цела сукенцы. Што шукала ў чамадане фрау Эльза, Люба дапетрыць не магла, а вось наконт кофты не памылілася: эканомка і сапраўды падала вязаны джэмпер.

Акрамя эканомкі, Любу больш ніхто не чакаў. Фрау Эльза правяла яе ў дом з чорнага ўваходу, адразу на кухню. Яна паставіла чайнік, зрабіла два тонкія бутэрброды, якія падсмажыла ў мікрахвалевай печцы і, падаючы іх на блакітнай талерачцы з жоўтым абадком па краях, быццам між іншым, зазначыла:

— На вячэру вы спазніліся па сваёй віне, таму толькі гарбата і бутэрброды...

— Ды я зусім есці не хачу, — шчыра адмахнулася Люба.

Яна баялася гэтай строгай жанчыны з калючым позіркам зеленаватых вачэй і спадзявалася як найхутчэй апынуцца ў сваім пакойчыку, каб адпачыць і хоць трохі ачомацца з дарогі.

— Я разумею твой стан, — прысмальваючы цыгарэту даўжынёй з аловак і тонкую, як жытняя саломка, сказала эканомка. — Толькі перш, чым цябе ўбачыць гаспадар, я сама павінна праверыць твае дакументы і даць парады, канешне, абавязковыя да выканання. А ты, Люба, еш, а то я падумаю, што ты хворая. Хаця,— эканомка, хітравата прыплюснуўшы вочы, паглядзела на Любу і ўпершыню ўсміхнулася, — падумаць я магу, але пра тваё здароўе высновы будзе рабіць доктар Роберт.

— Дык я ж праходзіла медыцынскую камісію, да дамовы прыкладзена і заключэнне дактароў.

— Пан Ганс давярае толькі доктару Роберту, — пыхнула дымам эканомка і падсунула бліжэй да Любы кубачак з гарбатай. — Ты еш, дзелавыя размовы потым.

— А мой гаспадар, ён тут, ён сёння будзе гаварыць са мной? — захвалявалася Люба.

— Пан Ганс дома, але гаварыць з табой будзе толькі пасля агляду і дазволу на тое доктара Роберта. У гэтым доме хапае хвароб і без тваіх... Зрэшты, я таксама, перш чым трапіць сюды на працу, прайшла праз рукі сямейнага доктара...

Эканомка на хвіліну прымоўкла, у яе вачах зноў мільганулі злыя агеньчыкі, якія з першай хвіліны знаёмства выклікалі ў Любінай душы зябкую трывогу. Убачыўшы, як новая пакаёўка напружана сцялася, Эльза ўспомніла, што дзяўчына трапіла пад нейкі дзіўны, хвілінны дождж і ёй, напэўна, цяпер холадна ў вільготным адзенні. Жанчына падышла да адной са шматлікіх шафак, якімі былі аблеплены сцены вялікай кухні, і ўзяла з яго жоўтую бутэлечку.

— Дзве таблеткі аспірыну і гарачы душ табе, мілачка, не пашкодзяць, інакш можаш ніколі не сустрэцца з панам Гансам, а дамову заўтра ж скасуе доктар Роберт.

— І праўда, мяне нешта трасе, — яшчэ больш захвалявалася Люба.

— Тады пайшлі, — хваляванне перадалося і эканомцы, бо яна таксама адчувала сваю віну. — Твой пакой на другім паверсе, праўда, побач з лесвіцай, затое вельмі ўтульны і сонечны.

Пакой паказаўся Любе неймаверна вялікім і сапраўды ўтульным. Ён быў абстаўлены так шыкоўна, што ў дзяўчыны перахапіла дых. Пасярэдзіне высіўся ахутаны з усіх бакоў блякітным цюлем вялікі ложак. Справа і злева ад яго месціліся трумо, на якіх ляжалі старанна падабраныя пад адзін колер шкатулкі і розных памераў футаралы. Насупраць ложка — секцыя з чырвонага дрэва з мноствам люстэркаў, у нішах блішчэлі экраны тэлевізара і нават камп'ютэра. Падлога ўсцелена варсістым дыванам колеру бурштыну, леваруч ад уваходу гарбацілася тахта і некалькі мяккіх крэслаў. Але больш за ўсё Любу ўразілі дзве вялікія, пад самую столь, пальмы, якія месціліся бліжэй да адзінага акна, велічынёй ледзь не на ўсю сцяну. На адной з іх сядзела малпа і здзіўлена глядзела на ўвайшоўшых.

— Мне прыйдзецца з ёй жыць? — ускрыкнула Люба і разгублена паглядзела на эканомку.

— Прыйдзецца, куды ж дзецца, — засмяялася фраў Эльза. — У маім пакоі пад гэткай жа пальмай ляжыць леў — і нічога , яшчэ не з'еў.

— Дык гэта — лялька? – па-дзіцячы захоплена ўскрыкнула Люба і, машынальна скінуўшы на ўваходзе ў пакой абутак, што вельмі спадабалася эканомцы, падбегла да дрэва, дацягнулася рукой да малпы і пагладзіла яе па шаўкавістай спіне. — А як жывая!

— Гэта бацькі пана Ганса інтэр'ер заказвалі. У кожным пакоі — львы, тыгры, малпы, а ў басейне нават белы мядзведзь загарае на льдзіне з пенапласту. А тут ванная, — эканомка прачыніла дзверы леваруч ад уваходу і, не ўваходзячы, пстрыкнула выключальнікам. — Люба, хуценька пад душ і зрабі ваду найгарачэй, як зможаш цярпець, а потым у ложак. Нам хварэць не паложана! Я ж малачка пагрэю аспірын запіць.

«А эканомка не такая ўжо і благая, як напачатку здалося, — застаўшыся адна, падумала Люба. — Мне ніхто ў жыцці не тое, што малака, вады не падаў, тым больш у ложак».

Ванны пакой уразіў прасторай, чысцінёй і мноствам люстэркаў. Уключыўшы ваду, Люба хуценька распранулася, задумалася, ці мачыць галаву, бо не менш гадзіны давядзецца затраціць, каб высушыць валасы, але, убачыўшы на століку фен, наважылася і рашуча выцягнула шпількі, якімі падтрымлівалася каса на патыліцы. Яшчэ некалькі хвілін пайшло на тое, каб расплесці ка-

су. Залаціста-саламяныя валасы хвалямі рассыпаліся па плячах, і пры першым руху галавы, быццам ім было мулка на спіне, доўгімі кудзеркамі зваліліся на плечы, ахуталі грудзі. «Каб не перашкаджала працаваць, заўтра ж папрашу фраў Эльзу яе адрэзаць», — падумала Люба. Яна звычна дзвюма рукамі адкінула валасы на плечы, узняла вочы і, убачыўшы сябе ў люстэрку ва ўвесь рост, сцішылася, быццам загіпнатызаваная. У непамерна вялікім люстэрку, пры залацістым асвятленні, калі лямпачка не адна, а некалькі, і яны не толькі ў столі, а падсвечваюць са сцен, Люба ўбачыла сябе ўпершыню. Нават спалохалася, раптам зойдзе эканомка і ўбачыць яе голую перад люстэркам! Што фраў Эльза падумае? Люба хуценька крутнулася да дзвярэй, накінула засоўку і сарамліва, унікаючы нават зірнуць у люстэрка, стала ў ванну, захінула цэлафанавую фіранку. Але яе быццам магнітам цягнула да зыркага шкла, і Люба наважылася: яшчэ раз зірнуўшы на дзверы, яна стала на варсісты дыванок, зрабіла крок улева і, узняўшы вочы, некалькі хвілін уважліва разглядвала сябе.

Любу заўсёды прыкмячалі, хлопцы ліплі з заляцаннямі, гаварылі пра яе прыгажосць, некаторыя нават кляліся ў любові. Толькі сэрца дзяўчыны было занятае, і не хацелася верыць словам, якія ўжо некалі чула. «Ад прыгажуні Іван не адмовіўся б! — думала яна, а чарговаму лавеласу строга і сур'ёзна прапаноўвала: — Я прыму твае заляцанні паслязаўтра, а заўтра пойдзем у ЗАГС... А каб не перадумаў, давай свой пашпарт сёння... Калі раптам праспіш ці па п'янцы не ўспомніш, — будзь упэўнены, я і без цябе ажаню і штэмпель дзе трэба пастаўлю... У мяне там таварышка працуе...» Пасля гэткай прапановы прыліпалаў быццам ветрам здзімала.

Люба далонькмі правяла па высокіх пругкіх грудзях, крутнулася ўправа-ўлева, і адразу веерам рассыпаліся валасы, прыкрылі грудзі, жывот, шаўкавісты чорны трохкутнік між ног. Яны нават люстэрку не жадалі паказваць інтымныя часткі цела сваёй гаспадыні. «І чаму касу ў Мінску не адрэзала?» — услых сказала Люба і, аберуч перахапіўшы валасы на патыліцы, прымерылася, дзе было б лепш запусціць нажніцы.

Канешне, яна хлусіла, сілілася ці то падмануць, ці то пераканаць сябе, бо да гэтай хвіліны нават у думках не дапускала, што некалі наважыцца пайсці ў цырульню. Прычынай быў Іван, які калісьці на спатканнях вельмі любіў расплятаць і асабліва заплятаць касу. Люба верыла ў тое, што валасы памятаюць рукі каханага, памятаюць пацалункі і ягонае гарачае дыханне, бо менавіта праз гэта і сёння Іван часта прыходзіць да яе ў снах. Але ж цяпер усё зменіцца, прыслужніца, якая шмат траціць часу на сябе, наўрад ці задаволіць гаспадароў. А згубіць гэтую працу Люба не магла, не па тое сюды прыехала.

«А мо не чакаць да заўтра? Раней адрэжу — хутчэй адрастуць?» — нечакана прыняла рашэнне Люба і з непахіснай рашучасцю кінулася шукаць нажніцы ў шуфлядах тумбачкі, якая высілася зводдаль, каля самых дзвярэй. Знайшла адразу, але занадта маленькія. Яшчэ раз перагледзела ўсе шуфляды — большых не было. Як заpraўскі цырульнік, раз-другі пстрыкнула нажніцамі каля вуха, каб сябе лепш бачыць, усутыч наблізілася да люстэрка і, перакінуўшы валасы на грудзі, узняла руку...

— Люба, адчыні, — раздражнёна крыкнула і адначасова грукнула ў дзверы фраў Эльза. — Так доўга нельга пускаць гарачую ваду!.. Ды й халодную таксама!..

Толькі цяпер Люба заўважыла, што ад гарачай вады пакой напоўніўся лёгкім валакністым туманом, шыкоўныя люстэркі запацелі і лямпачкі ўжо не так ярка свецяць. Яна кінула нажніцы на тумбачку, хуценька залезла ў ванну і ўжо адтуль крыкнула:

— Фраў Эльза, яшчэ некалькі хвілін...

Калі Люба выйшла з ваннага пакоя, эканомка размаўляла па тэлефоне, але, убачыўшы дзяўчыну, з суразмоўцам адразу развіталася, склала сотавы тэлефон, сунула яго ў кішэню. Люба зрабіла некалькі крокаў на сярэдзіну пакоя, вінавата зірнула на эканомку і, наткнуўшыся на гнеўныя агеньчыкі ў вачах фраў Эльзы, спынілася. Зноў, як і ў першыя хвіліны знаёмства, душа напоўні-

лася міжвольным пачуццём страху. Дзяўчына ў прадчуванні нядобрага агледзела сябе, тужэй зацягнула пояс ружовага махровага халата і ў гэты момант, як ёй здалося, зразумела, чаму злуе эканомка.

— Я падумала, што халат для мяне,— разгублена прагаварыла Люба і, чырванеючы, паспешліва дадала: — Раніцай памыю...

Фрау Эльза як і не чула Любіных тлумачэнняў. Яна глядзела на Любу так, быццам бачыла ўпершыню. Позірк эканомкі абмацаў дзяўчыну ад пятак да галавы і раптам пацяплеў.

— У цябе такія доўгія і пышныя валасы? — здзіўлена і нечакана ласкава сказала фрау Эльза. Яна зрабіла некалькі крокаў насустрач, асцярожна, як нешта вельмі каштоўнае, аберуч абхапіла Любіны валасы і, быццам узважваючы, узнёсла ўскрыкнула: — Што за дзіва, ніколі не бачыла такой прыгажосці!.. А які незвычайны колер! Чым ты іх фарбуеш?

— Нічым, — прамармытала збянтэжаная Люба і ў думках ухваліла сябе за тое, што не мыла галавы і не карысталася фенам, бо невядома, як на тое магла адрэагаваць эксцэнтрычная, непрадказальная эканомка. — Фрау Эльза, — няўпэўнена працягвала Люба, — я хачу вас папрасіць адрэзаць мне касу...

Любіна просьба відавочна ўсхвалявала эканомку, яна нават пабялела з твару. Фрау Эльза нервова адкінула ад сябе Любіну касу і, міжвольна страсянуўшы кісцямі, быццам пазбаўляючыся ад нечага непрыемнага, разгублена спыталася:

— Навошта?

— Яны будуць перашкаджаць працаваць, і дагляд патрабуе часу...

— Глупства! Калі прычына толькі ў гэтым — выкінь з галавы свой намер, — з палёгкай уздыхнула эканомка, і яе вусны скрывіла ледзь улоўная насцярожаная ўсмешка.

Думаючы пра нешта сваё, фрау Эльза зашпацыравала па пакоі і, калі праз некалькі хвілін зноў спынілася насупраць Любы, разгубленасці як і не было, вочы эканомкі пазіралі холадна і ўладна, было відавочна, што яна прыняла нейкае рашэнне.

— Дазволь мне прыводзіць у парадак твае валасы, — сказала фрау Эльза.

Прапанова была настолькі недарэчнай, што Люба ўспрыняла яе як жарт, але фрау Эльза імгненна развеяла сумненні:

— Усё жыццё марыла мець такія валасы, — убачыўшы, як разгубілася дзяўчына, памякчэлым голасам здалёк пачала эканомка. — Кажуць, марыць няшкодна, але ж прыроду не перайначыш, і парыком натуральнае не заменіш...

— Не-не, я сама, — адчайна запярэчыла Люба.

— А калі я вельмі цябе папрашу?..

Любе стала страшна, здалося, што эканомка хоча спакусіць на нешта нядобрае, пра такое чытала ў кніжках, а калі жыла ў Мінску, у інтэрнаце ёй паказвалі дзвюх дзяўчат, пра якіх гаварылі, што яны жывуць як муж і жонка.

— Не думай нічога кепскага, — быццам прачытаўшы Любіны думкі, запэўніла фрау Эльза, — не хацела гаварыць, але ты нагадала Інгрыт, маю дачку... Ты думаеш, адкуль я ведаю рускую мову?

Люба глядзела на эканомку шырока расплюшчанымі немігатлівымі вачамі, пачуццё страху паціху саступала месца бездапаможнаму адчаю, нечакана прыйшло разуменне таго, што яна на цэлым свеце адна і, калі нешта здарыцца кепскае, ніхто не прыйдзе на дапамогу.

— Адкуль? — машынальна перапытала Люба і нечакана здзівілася: чаму раней ёй нават у галаву не прыйшло запытацца ў эканомкі пра мову, на якой фрау Эльза гаварыла вольна і без усялякага акцэнту?..

— Я руская немка, нарадзілася і сорак гадоў пражыла ў Казахстане, непадалёк ад горада Кустанай, чула пра такі?

Люба згодна кіўнула. Яна не ведала, як надалей сябе паводзіць, пра што гаварыць.

— Інгрыт выйшла замуж за казаха і, канешне, са мной на радзіму продкаў не паехала. Цяпер у іх з Русланам трое хлопчыкаў, жывуць бедна, летась наведвала і на свае вочы пабачыла: у суседа ваду з калодзежа і тую купляюць... Але сітуацыя хутка зменіцца, я пабудую новы дом, не горшы за гэты, і мы будзем жыць разам, усім месца хопіць. Для Руслана нават работу прыгледзела...

Фраў Эльза сумна ўсміхнулася і, прыхільна паглядзеўшы Любе ў вочы, роспачна ўздыхнула:

— Асабістае жыццё не склалася: у пяцьдзесят гадоў ні сям'і, ні сяброў... А ты мне глянулася, як дачка... У Інгрыт гэткія ж доўгія валасы, і я заўсёды дапамагала з імі ўпраўляцца.

Чулая душа не заўсёды распазнаеману, але яна заўсёды, пры любых абставінах, прагне рабіць дабро. Нечаканая споведзь фраў Эльзы кранула Любіна сэрца, дзяўчыне было сорамна за ганебныя думкі, і, каб найхутчэй паправіць памылку, яна, даверліва зірнуўшы на эканомку, далікатна зазначыла:

— Фраў Эльза, я не супраць вашай дапамогі, наадварот, буду вельмі ўдзячна. Калі быць шчырай, мне і самой не хочацца адразаць валасы, касу вельмі любіў...

Люба запнулася, вінавата паглядзела на эканомку, але, убачыўшы, з якой прыхільнасцю фраў Эльза глядзіць на яе, працягвала:

— Касу любіў мой каханы, яна як памяць...

— Вы разышліся, але ты ўсё яшчэ кахаеш яго? — выказала здагадку эканомка.

— Так, — пагадзілася Люба, — інакш...

— Інакш даўно б выкінула касу на сметнік... — скончыла Любіну думку фраў Эльза і самаздаволена, задзірліва засмяялася: — Ты, як мая Інгрыт, наіўная і зусім непрактычная... Верыш у каханне з першага погляду і з любімым гатова ўсё жыццё пражыць у шалашы.

— Так было раней, — спахмурнела Люба. Ёй было непрыемна гаварыць з малавядомым чалавекам на ўсё яшчэ балючую тэму.

— Канешне, раней, — адразу пагадзілася фраў Эльза, — інакш сюды не прыехала б. Усе мужчыны аднолькавыя, даб'юцца свайго і памінай як звалі... Мая Інгрыт таксама нарадзілася ад «вялікага кахання», і напачатку яе бацька абяцаў залатыя горы зманнай нябеснай, а як даведаўся, што забрухацела, пра абяцанкі-цацанкі забыўся, стракача задаў: па сёняшні дзень почуту няма... Адна дачку гадавала, вось і сюды за лепшым жыццём падалася... І ўсё дзеля яе. Але цяпер маладыя сваім розумам жывуць, праўда, да таго часу, пакуль, як людзі кажуць, свая вош не ўкусіць... Вось і цябе тая вош укусіла... Прызнавайся, хлопчык ці дачушка засталіся ў Мінску?

— Што вы, якія дзеці? — усхвалявана ўскрыкнула зніякавелая Люба і запунсавелася. Пачутая бязглуздзіца ўзрушыла, на нейкі момант выбіла з каляіны, нават стала цяжка дыхаць, у роце перасохла, язык зрабіўся цяжкім і шурпатым. Яна аблізнула імгненна сасмяглыя вусны і пажадліва паглядзела на сподак са шклянкай малака, што высіліся на трумо, на вечцы самай вялікай шкатулкі, і сваёй недарэчнай прысутнасцю ўносілі дысгармонію ў мірнае суіснаванне markерознакаляровых футаралаў-касметычак.

— Зрэшты, я тут не гаспадыня, — паблажліва ўсміхнулася фраў Эльза і, таксама паглядзеўшы на шклянку, дадала: — А малако, напэўна, астыла...

Люба зразумела, што ёй не паверылі.

— У мяне з Іванам нічога не было... — яшчэ больш заліваючыся чырванню, пачала апраўдвацца дзяўчына, і раптам вочы адкрыліся, яна зразумела, чаму эканомка завяла гаворку пра дзяцей. Люба набрала поўныя грудзі паветра і раздражнёна выдыхнула: — Фраў Эльза, можаце перадаць пану Гансу, што я дамовы не парушыла, дзяцей у мяне сапраўды няма...

— Што ты, што ты, — замахала рукамі, замітусілася зніякавелая эканомка. — У мяне і ў думках не было цябе пакрыўдзіць недаверам...

Яна крутнулася да трумо, абедзвюма рукамі схапіла сподак са шклянкай і, кіруючы да выхаду, унікаючы Любіных вачэй, кінула:

— Нешта мы забалакаліся, позна ўжо, ты кладзіся, а я зараз падагрэю малако.

Калі фрау Эльза вярнулася, Люба ўжо ляжала ў ложку пад нязвыкла пульхнай і надзіва лёгкай коўдрай. Яна моўчкі прыняла з рук эканомкі шклянку з малаком і невялічкімі глыткамі запіла дзве таблеткі аспірыну. Эканомка, прадчуваючы, што роспыты пра дзяцей насцярожылі новую пакаёўку, цяпер з усіх сіл старалася загладзіць сваю віну. Яна паправіла коўдру, спыталася, ці запаліць начны свяцільнік, на што Люба адмоўна хітнула галавой, і пасля даўгаватага напружанага маўчання, відавочна, думаючы пра сваю Інгрыт і ўнукаў, цяжка ўздыхнула:

— Няўжо і ў Беларусі ўсё так кепска, што вы едзеце сюды і згодны на любую працу, самую цяжкую, непрэстыжную і нізкааплатную?

— Вы таксама прыехалі не слёзы ліць па продках, — непрыветна сказала Люба, якой гэтыя надакучлівыя «допыты» пачалі здавацца небяспадстаўнымі.

— Люба, ты злюка, — вымучана засмяялася фрау Эльза і праз хвіліну паначальніцку строга дадала: — У нас будзе час пра ўсё пагаварыць, а цяпер — спаць, спаць, спаць... Заўтра пабуджу а шостай гадзіне, і памятай пра наш угавор...

Доўгачаканая цішыня і адзінота не прынеслі Любе спакою і жаданага сну. Наадварот, як толькі за эканомкай бясшумна зачыніліся дзверы, журботныя, часцяком пакутлівыя думкі імгненна запаланілі свядомасць, напоўнілі душу і надарваным болем, і асцярожнай недаверлівай радасцю. Яны (думкі), чапляючыся адна за адну і выхопліваючы падзеі не толькі апошніх напружаных дзён, але і жыцця ранейшага, жыцця вясковага, бударажылі, няўлоўна прымушалі часцей біцца сэрца. Усё яшчэ не верылася, што яна ў Нямеччыне, што ляжыць у гэтым шыкоўным мяккім ложку і, пачынаючы з заўтрашняга дня, пачне працаваць на сябе, на сваю мару... Цяпер яна зробіць усё, каб вярнуцца дадому з грашыма, яна адкрые сваю фірму і, зрэшты, паступіць вучыцца ва універсітэт, на завочнае юрыдычнае аддзяленне з эканамічным ухілам. Люба дакажа і бацьку з мачахай, і мінскай цётцы Клаве, і сяльчанам-верацейцам, і асабліва Івану, што зможа дабіцца ў жыцці большага, чым яны думалі, і што прадракалі.

Перад вачыма імгненна ўзнік бацька. Чамусьці Люба заўсёды ўзгадвала яго п'янага і слязлівага. Мо таму, што грубым і злым ён мог быць толькі цвярозы, на падпітку ж заўсёды дачку шкадаваў, амаль заўсёды плакаў, у нечым сябе вінаваціў і ўсё кляўся і абяцаў... Кляўся кінуць піць гарэлку і зноў сесці за руль «МАЗа», каб зарабіць Любе на кватэру ў Мінску. Абяцаў павезці яе з мачахай адпачываць «да сіняга мора», вада якога адразу вылечыць жончыны касцяныя хваробы. Мачаха, якая піла разам з бацькам і сваё п'янства тлумачыла клопатам пра мужа, маўляў, яму менш дастанецца, гэтыя абяцанкі-цацанкі ўспрымала ўсур'ёз і гнеўна крычала:

— Ёлупень, колькі разоў казаць, што ніякага Сіняга мора няма, ёсць Чорнае, туды хачу... Толькі на каго парсюка пакінуць?

— Зацугляю і адвяду на калгасную ферму, — разважліва адказваў бацька. — Федзька-свінар за пляшку гарэлкі дагледзіць у агульным статку.

— Ха, Федзька, знайшоў каму давяраць, — кідала ўсе свае справы жонка і з кулакамі сунулася на мужа. — Не чапай майго кабанчыка!.. Свінар — сцыкун, ён калгасных прап'е, а нашым закусіць...

Люба наперад ведала, што плануемая курортная ідылія скончыцца звадай, у якой больш за ўсё пацерпіць гадавалы парсючок, і, каб не бачыць і не чуць ідыятычнай бязглуздзіцы, паспешліва сыходзіла з хаты. Чутка, што Фроська зноў збіраецца да мора, імгненна разносілася па вёсцы. Дзятва гарохам высыпала на вуліцу і сядлала штакетнік уздоўж дарогі, у дарослых таксама знаходзіліся справы ў панадворках. Старыя і малыя ў чаканні дармавога цырку таўкліся непадалёк Любінай хаты, ім карцела ў чарговы раз пачуць, а калі пашанцуе — і пабачыць, як расчырванелая дзябёлая Фроська венікам, а здаралася,

што і дзяржальнам вілаў, апантана пераконвае мужыка купляць пуцёўку да Чорнага мора, а не да Сіняга. Крыкі, калатнеча і валтузня паміж жонкай і мужам скончацца тым, што яны вывалакуць з хлява худога, косці ды скура, парсючка і сілком пацягнуць яго ў другі канец вёскі да Ванькі-прадпрымальніка, які дасць паўцаны за віскатлівага, перапужанага бедака. Потым мачаха купіць у краме новую сукенку, чаравікі, капялюшык і абавязкова модны купальнік. Тут жа аб'явіцца вірлавокі Федзька, які прапануе пакупкі «абмыць», каб даўжэй насіліся, і важная Фроська з дзвюма торбамі, у адной рэчы, у другой віно, з капялюшыкам на галаве і ў суправаджэнні не надта цвярозых мужчын вернецца ў змрочную хату. Праз паўгадзіны бацька выцягне з-за печы стары баян, і пачнецца сапраўднае вяселле. Праз пэўны час у краму па віно прыклыпае бацька, потым прысунецца Федзька-свінар, а раніцай аб'явіцца яшчэ п'яноватая Фроська. Яна прынясе купальнік і будзе маліць прадаўшчыцу вярнуць за яго грошы, бо «...рэч не мерала, а парваная гумка — завадскі брак...»

Любе заўсёды было сорамна за бацьку і мачаху, і, нават жывучы ў Мінску, яна панічна баялася Верацей і верацейцаў. Толькі аднойчы, калі ад Івана доўга не было пісьмаў, Люба набралася мужнасці і прыехала дадому. Зайшла ў панадворак і быццам наляцела на нябачную перашкоду, здалося, што нікуды і не выязджала. У хаце натужліва і глуха рыпеў баян, Федзька неўпапад падвываў нешта пра тундру, а мачаха крычала пра сіне-чорнае мора, ажно аконнае шкло трымцела, вось-вось вываліцца. Люба, не памятаючы сябе, кінулася прэч, нявыплаканыя сірочыя слёзы спусташалі, вымывалі з душы апошнія спадзяванні на бацькоўскую, калі не любоў, дык хоць бы спагаду. Як незаслужана адлупцаваны шчанюк, не бачачы перад сабой нічога, акрамя пыльнай дарогі, спінай адчуваючы спачувальныя позіркі аднавяскоўцаў, яна, ціха галосячы, бегла да аўтобуснага прыпынку, каб паспець на той самы аўтобус, якім прыехала ў Верацеі. Аўтобус ад'язджаў, але маладжавы шафёр з раскосымі азіяцкімі вачыма, убачыўшы ў люстэрка сваю нядаўнюю пасажырку, прыпыніўся, абачліва адчыніў заднія дзверцы, дачакаўся, калі дзяўчына зойме вольнае месца.. Ужо на выездзе з вёскі, каля калгаснага клуба, пад вялізным кустом бэзу Люба ўбачыла зламаную лаўку, і слёзы жалю з новай, здавалася, невычарпальнай сілай хлынулі з вачэй. Не так даўно на гэтай учарнелай лаўцы, абвaрожаная начным пахам квітнеючага вясновага бэзу, яна ўпершыню адчула на сваіх вуснах нясмелы дотык Іванавых вуснаў і прызнанне ў каханні.

У той прыезд Люба так і не даведалася сапраўднай прычыны Іванавага маўчання, а зламаная лаўка надоўга пасяліла ў душы невыразны загадкавы страх і прадчуванне блізкай бяды. І бяда прыйшла, прыйшла трошкі пазней, яна звалілася на Любу з атрыманай з Верацей паштоўкі...

«Іван у войску ажаніўся...» — дрыжачай і, відавочна, нецвярозай рукой коратка паведамляла мачаха.

У канверце ляжаў яшчэ адзін лісток, пісьмо ад Іванавай маці, у якім цётка Вера катэгарычна прасіла Любу пакінуць сына ў спакоі, не пісаць і не шукаць сустрэч. Яна хваліла нявестку, называла «крутой бізнесменшай», відавочна, гэтыя словы нехта ёй падказаў, бо ў Верацеях іх Люба ніколі не чула.

Менавіта ў тую хвіліну Люба паклялася ўсімі святымі на свеце, што вернецца ў Верацеі толькі тады, калі даб'ецца ў жыцці поспеху і... пераплюне Іванаву жонку.

## 4

Расійскія федэральныя войскі акружалі Грозны, і складвалася ўсё многа горш, чым у першую ваенную кампанію. Сілы былі няроўнымі. Ні прэзідэнцкая гвардыя, ні спешна мабілізаваныя і на хуткую руку зведзеныя ў роты і батальёны жыхары нешматлікіх гарадоў, пасёлкаў і горных аулаў не маглі адкрыта супрацьстаяць рэгулярным войскам. Асабліва цярпелі ад самалётаў, якія, адчуваючы сваю беспакаранасць, метадычна, як на вучэннях, наносілі смертаносныя ўдары спярша па адміністрацыйных будынках Грознага, а по-

тым па дамах, дзе, як потым перадавалі па радыё ды пісалі ў скінутых лістоўках, была наладжана бандыцкая абарона. А калі ўлічыць, што кожны дом быў ператвораны ў крэпасць, то й бамбілі ўсё і ўсіх.

Айшэ са свякроўю жылі ў сутарэнні, перабудаваным і ўзмоцненым пад бамбасховішча, побач плошча Мінутка — цэнтральны пляц Грознага. Сцены, столь, падлога цэментаваныя, неймаверна рыпучыя дзверы абабітыя ржавым жалезам, акон не было. Асвятляўся пакой учарнелай лямпай-газніцай, да якой Айшэ баялася нават дакрануцца, бо патрэсканае шкло ў любы момант магло рассыпацца на шматлікія аскепкі. У сценах было некалькі квадратных адтулін, адкуль цягнула скразняком, і на ноч Айшэ затыкала іх анучамі.

Мужчыны сям'і Баджыевых ваявалі. Айшэ не бачыла свёкра Мусу з самага Цімуравага пахавання, па чутках, ён быў недзе непадалёк ад Ведзяно, а Рэнат, Цімураў малодшы брат, абараняў Грозны і чым мог дапамагаў маці і цяжарнай нявестцы. Беды сыпаліся, быццам гарох з дзіравага меха. Нечакана захварэла Лола. Паслізнулася, калі пераходзіла вуліцу, ударылася галавой аб брукаванку і злягла, здарыўся інсульт. Рэнат, які планаваў вывезці жанчын у нейкае іншае, больш бяспечнае месца, цяпер зрабіць гэтага не мог, патрэбна была машына, каб Лола магла ляжаць нерухома. Калі ж ён, нарэшце, знайшоў «хуткую дапамогу»(па чырвоных крыжах і федэралы не рызыкнуць страляць), горад не змагла пакінуць Айшэ. У адзін з начных налётаў загінулі яе маці і бацька. Бомба трапіла ў новы дом, куплены Цімурам у лік калыму, і цяпер на яго месцы чарнела глыбокая варонка, напалову запоўненая ржавай вадой з пагрозліва ўзнятымі на дыбкі абгарэлымі бярвеннямі, пакручастымі металічнымі штырамі, каменнымі глыбамі.

Цудам ацалеў разгалісты, таўшчэзны, як абхапіць рукамі, клён, які, учапіўшыся тоўстымі карэннямі за край варонкі, усё ж утрымаўся, не рухнуў, хоць яго і добра такі нахіліла. З аднаго боку дрэва было як згрызенае, з сярэдзіны ствала тырчаў вялізны руды асколак, падобны на зламаны клык дзіка, ад чаго здавалася, што не бомба ператварыла ў руіны трохпавярховае жытло, а злы шалёны звер, які, спрабуючы выкуліць клён, крышыў, капытамі таптаў зямлю, клыкамі рваў усё, што траплялася на ягоным шляху, ажно пакуль гэтая смертаносная зброя не зламалася.

Жудасную навіну прынёс Рэнат. У першыя хвіліны Айшэ быццам скамянела, яна глядзела на хлопца невідушчымі чорнымі вачыма і не магла ўсвядоміць, што ён гаворыць пра яе бацькоў. Калі, зрэшты, зразумела сэнс пачутага, ухапіла паліто і паспрабавала апрануцца, але ніяк не магла патрапіць у пусты рукаў. Калі паліто выслізнула з рук, падымаць яго не стала, наадварот, адпіхнула нагой і заспяшалася на выхад. Але Рэнат пераступіў ёй дарогу і нікуды не пусціў. Пасля хвіліннай барацьбы і спробы прарвацца знясіленая Айшэ апусцілася на падлогу і, абхапіўшы галаву рукамі, хісталася, адчайна і доўга галасіла.

Не зважаючы на маленне, просьбы і нават беспадстаўныя пагрозы, Рэнат замкнуў цяжарную нявестку ў пакоі, а ключ схаваў у кішэню. Ён толькі паабяцаў завезці яе да бацькоўскай хаты на машыне, але пазней, калі яна супакоіцца і, галоўнае, калі федэралы зробяць перадых і пакінуць бамбіць Грозны. Рэнат прыходзіў штодзень і, калі ўбачыў, што нявестка звыклася і пачала ўспрымаць смерць бацькоў як здзейснены факт, слова стрымаў. Надвячоркам, калі звычайна самалёты знікалі аж да самай раніцы, ён у суправаджэнні барадатага ўзброенага гвардзейца пад'ехаў на пакамечанай, без шкла, дзверак і верху, у некалькіх месцах прастрэленай легкавой машыне і завёз Айшэ на руіны бацькоўскай хаты.

Айшэ ведала, што Рэнат зрабіў усё, каб знайсці астанкі бацькоў і пахаваць іх па-чалавечы, ведала і не магла змірыцца з тым, што не будзе іх магілы, не будзе месца, куды можна прыйсці і з радасцю, і з болем.

— Пасля вайны прама тут паставім помнік, — быццам прачытаў думкі нявесткі Рэнат.

Айшэ згодна кіўнула, але працягвала рабіць усё па-свойму. Ігнаруючы

штохвілінную пагрозу быць заціснутай каменнымі глыбамі, яна з апантанай адчайнасцю сноўдала па руінах, зазірала ў кожны закуток панадворка, праз кожныя пяць хвілін прымушала Рэната і маўклівага гвардзейца абгарэлымі жардзінамі абмацваць дно варонкі, і ў той самы момант, калі зразумела, што трэба вяртацца і вяртацца ні з чым, позірк зачапіўся за клён, за жудасны жалезны клык, які наскрозь прабіў дрэва і цяпер у промнях заходзячага мёртвага сонца здаваўся крывавым і жудасна-страшным. Нечакана і клён, і раўнадушнае нядобрае неба змяшаліся ў адно цэлае, у нешта блакітна-зялёнае, працятае чырвонымі пісягамі, падобнымі на крывавую жалязяку-клык, і адразу зямля захісталася, іржавая вада ў варонцы зарабацілася і нахілілася, вось-вось выплюхнецца вонкі...

Ачомалася Айшэ ад прытарнага паху нашатырнага спірту і холаду ў скронях. Яна ляжала ў машыне на заднім сядзенні, галава ў Рэната на каленях, і ён вільготнай марляй, злітай лякарствам, імпульсіўна цёр нявестцы скроні. Барадаты гвардзеец, аб'язджаючы завалы на дарозе, нервова тузаў рыпучы рычаг пераключэння перадач, нешта злосна мармытаў і раз-пораз кідаў на патрэсканае мутнае люстэрка незадаволеныя позіркі. Убачыўшы, што Айшэ расплюшчыла вочы, барадач крыкнуў:

— Праз хвіліну-другую няверныя пачнуць артылерыйскі абстрэл, гэты раён ужо тыдзень пляжаць.

— Праскочым, — спакойна адказаў Рэнат і, ласкава зірнуўшы на Айшэ, нечакана ўсміхнуўся: — Ты зусім лёгкая, хоць і не адна...

Гэтыя словы і асабліва нерухомы, быццам каменны, саркастычна-пагардлівы позірк гвардзейца, які ўбачыла ў люстэрку, канчаткова вярнулі свядомасць. Прысаромленая Айшэ падхапілася і рашуча адсунулася далей ад Рэната. Не падымаючы вачэй, яна заправіла пасмачкі валасоў, якія выбіліся з-пад чорнай хусцінкі, і сцішылася.

«Праскочыць», як сказаў Рэнат, яны не паспелі. Нечакана над імі віскнула паветра, і адразу леваруч разарваўся снарад. Як падкошаны, рухнуў тэлеграфны слуп, другі снарад падкінуў у паветра абгарэлую легкавушку, трэці ўздыбіў зямлю пад вокнамі агароджанай калючым дротам прыземістай аднапавярховай будыніны.

— Склады прыстрэльваюць, — прыжмурыўшы вочы, па-камандзірску строга вызначыў Рэнат.

— Позна,— выскаліўся гвардзеец. — Два дні, як муку і бочкі з алеем вывезлі...

— Ведаю, што вывезлі, але ж нехта навёў?..

— Ужо няма шакала, інакш не трацілі б снарады на пустое...

Федэралы нечакана змянілі тактыку, самалёты пачалі бамбіць не толькі днём, але і па начах. Адразу ж некуды знік Рэнат, і больш двух тыдняў ад яго не было ніякіх вестак. Скончыліся лекі і прадукты, пачаліся перабоі з вадой. Лола правай рукой, якая трошкі шавялілася, быццам немаўля, паказвала на рот і цмокала вуснамі, што азначала: «Хачу піць». Айшэ ўсё цяжэй і цяжэй даваліся вылазкі на паверхню па ваду. Страх напаўняў душу, калі яна мацала свой вялікі жывот і, адчуваючы далонькмі моцныя штуршкі, разумела, што хутка прыйдзецца раджаць. У гэтыя адчайныя хвіліны Айшэ з жалем пазірала на Лолу, якая цяпер нічым не магла дапамагчы, узгадвала яе папярэджанні пра тое, што ні ёй, ні Айшэ не выпадае трапіць у рукі федэралаў, бо Муса і асабліва Рэнат займалі значныя пасады ў войску Ічкерыі. Але ж рабіць не было чаго, сама яна не народзіць ды й з Лолай няма сіл упраўляцца. Трэба неадкладна прымаць рашэнне.

«Калідоры жыцця», па якіх пакідалі Грозны дзеці, жанчыны і нямоглыя старыя, федэраламі ладзіліся ўсё радзей і радзей і толькі ў непагадзь, калі кепскае надвор'е не дазваляла самалётам пакідаць аэрадромы. Спакутаваная чаканнем, Айшэ наважылася шукаць дапамогі ў суседзяў, у гэткіх жа, як і сама, заложнікаў вайны, і спрабаваць самастойна вывезці Лолу ў лагер бежанцаў,

дзе па чутках былі ежа і дактары. Не атрымалася. Планы парушыў чалавек, які ноччу прыйшоў ад Рэната і разам з харчамі і лякарствамі для Лолы перадаў цыдулку, у якой мужаў брат катэгарычна забараняў ёй здавацца на міласць федэралаў і іх прыслужнікаў. Рэнат загадваў чакаць яго, прасіў падрыхтаваць Лолу і быць гатовымі да доўгай і небяспечнай дарогі.

— Колькі трэба чакаць? — прачытаўшы пасланне, спыталася ва ўзброенага чалавека Айшэ.

— Гэта ведае толькі камандзір, — прастуджаным голасам паведаміў вястун і, скасіўшы вока на вялікі жывот жанчыны, паспрабаваў яе супакоіць: — Два-тры дні, самае большае — тыдзень.

— Каб не было позна, — адказала Айшэ і, паклаўшы рукі на жывот, заклапочана дадала: — Перадай Рэнату, што адна я не змагу нарадзіць...

Той ноччу, калі прыходзіў чалавек ад Рэната, да іхняга жытла прыбіўся агаладалы хлопчык, на выгляд гадоў сямі, не болей. Айшэ яго ніколі не бачыла, але было відавочна, што хлопчык хаваўся дзесьці побач, хоць раней нічым аб сабе і не нагадваў. Айшэ на спіртоўцы разагравала бляшанку мясных кансерваў, калі ён, прываблены пахам смажанага, нясмела зашкробся ў абабітыя жалезам дзверы. Напачатку здалося, што гэта пацукі, якія ў сутарэнні лічылі сябе гаспадарамі і амаль не звярталі ўвагі на прысутнасць людзей. Атрута, якую Рэнат калісьці пасыпаў па кутках сховішча, імгненна знікла, але пацукоў не паменела, як швэндаліся па пакоі хвастатыя пачвары, так і швэндаюцца, не было ад іх аніякага ратунку, паўсюль сунулі доўгія морды, паўсюль відаць адбіткі зубоў, нават на жалезным ложку згрызеная фарба. Неяк звечара Айшэ не заўважыла, што спаўзла коўдра з нагі ў Лолы, а раніцай знайшла ўсе пазногці згрызенымі. А самае дзіўнае, што свякроў нават не пачула болю, бо ніякага знаку здаровай рукой не падала, не стукнула, як звычайна, жалязякай па спінцы ложка.

Нехта шкробся звонку. Не без боязі Айшэ прачыніла дзверы і ўбачыла хваравітага дыстрафічна-худога хлопчыка. Брудны ўчарнелы твар, рукі ў крывавых драпінах, на галаве капа ўскудлачаных агніста-рыжых валасоў, з якіх тырчала пер'е і нешта падобнае на пілавінне. На хлопчыку вісела не па росту доўгае, чырвонага колеру дзявочае зімовае паліто з адарванымі рукавамі і каўняром, з плечыкаў тырчалі пашкамутаная матэрыя і вата, іржавая, быццам абгарэлая, замест гузікаў — страляныя аўтаматныя гільзы, прыкручаныя да матэрыі медна-залацістым дротам. На нагах — старыя вайсковыя паўботы, адзін без шнурка, халява перавязана даўгаватай калмацістай шпагацінай.

— Што табе? — спыталася Айшэ.

Малы не адказаў. Ён умольна глядзеў на Айшэ шырока расплюшчанымі васількова-блакітнымі вачамі і, як спаралізаваная Лола, торкаў учарнелым брудным пальцам у разяўлены рот.

— Ты хочаш есці? Піць?..

У адказ хлопчык толькі шырэй разявіў рот і глыбей засунуў у яго палец. На яе ложку ляжаў рэчмяшок з харчамі, што пакінуў Рэнатаў пасыльны, і Айшэ выцягнула з яго пачак пячэння, першае, што трапілася ў руку, і падала малому. Ён абедзвюма рукамі ўхапіў пачастунак і зубамі пачаў разрываць папяровую ўпакоўку. Бліскучая папера не паддавалася, і Айшэ працягнула руку, каб дапамагчы, але хлопчык зразумеў гэты жэст па-свойму і, баронячы пачастунак, крутнуўся да яе спінай. У гэты момант пачак разарваўся, і пячэнне рассыпалася па падлозе. Хлопчык імгненна плюхнуўся на калені і, мітусліва збіраючы пячэнне, таропка засоўваў яго ў рот, а што не ўлезла, хаваў за пазуху. Айшэ не перашкаджала, яна замкнула дзверы, падсунула бліжэй да свайго ложка адзіную табурэтку і паставіла на яго шклянку з апельсінавым сокам, напалову разбаўленым вадой, які да з'яўлення малога выцягнула з таго ж самага рэчмяшка і мелася выпіць сама. Потым узяла хлопчыка за плечы і, паставіўшы яго на ногі, крутнула тварам да табурэткі:

— Гэта табе.

Хлопчык нават не зварухнуўся, толькі спадылба зірнуў на Айшэ і ў чакан-

ні знерухомеў. Рот у яго быў пусты, пячэнне, відавочна, незаўважна для Айшэ таксама апынулася за пазухай.

— Сок і пячэнне можаш з'есці, — па-руску сказала Айшэ і па тым, як у малога заблішчэлі вочы, зразумела, што ён, нарэшце, яе пачуў. Але гэта падштурхнула і да іншай, больш цяжкай думкі. Ацэньваючы дзіўнаватыя паводзіны госця і назіраючы, як ён, амаль не жуючы, уплятае пячэнне, Айшэ выцягнула з рэчмяшка яшчэ адну бляшанку кансерваў і, адкрываючы яе, спыталася: — Ты нямы?

Хлопчык нават брывом не павёў. Айшэ тузанула яго за плячо і, калі малы ўзняў на яе свае вялікія вочы, крыкнула: — Ты не гаворыш?

Хлопчык згодна заківаў, нясмела, як велізарнейшую каштоўнасць, паклаў надкусаную пячэніну побач са шклянкай соку і адчайна запляскаў бруднымі далонямі сябе па вушах.

— І-і не чуеш?..— здзіўлена ўскрыкнула Айшэ.

Хлопчык уважліва сачыў за яе вуснамі.

— Ты глуханямы?..

Малы, задаволены тым, што яго таксама зразумелі, згодна заківаў галавой.

— Ты можаш чытаць па губах?

Хлопчык задаволена заўсміхаўся і нешта хутка-хутка паказаў на пальцах.

— Дзе ж твае бацькі? — дапытвалася Айшэ.

Хлопчык імгненна спахмурнеў, васільковыя вочы яшчэ больш акругліліся і неяк памутнелі. Патрэсканыя шурпатыя нямыя вусны ўпарта акрэсліліся, ледзь прыкметна задрыжалі. Ён сціснуў кулачкі, адтапырыў вялікія пальцы, і, паказваючы, што страляе, істэрычна затрос рукамі каля свайго твару.

— Іх забілі?.. — роспачна ўздыхнула Айшэ і, стомлена сядаючы на край ложка, падсунула табурэтку бліжэй да хлопчыка. — Ты еш...

Айшэ глядзела на маленькага начнога госця і думала пра тое, што да вайны таксама можна прывыкнуць. Невядома як, але ж выжывае гэты сірата, ды й яна прызвычаілася да грукату, стрэлаў і нават забітых. З нейкага моманту штохвілінную небяспеку ўспрымае як непазбежнае, разумее, што прыйдзе час і пакуты скончацца, яна жыве надзеяй, рыхтуецца нарадзіць хлопчыка, і гэта дае сілы. Айшэ прызвычаілася да бамбёжак і ведае, што пасля трыццаціхвіліннай калатнечы будзе гадзінны перадых і за гэты час трэба агледзець уваходныя ў сутарэнне дзверы і, калі трэба, гукнуць суседзяў, каб адкінулі каменне, а бліжэй да вечара, пасля мінамётнага ці артылерыйскага абстрэлу, трэба вынесці смецце і нечыстоты і яшчэ паспець праз завалы даклэпаць да суседняй вуліцы і прынесці вады. Заўважыла, што з нейкага часу яна з большым хваляваннем прыслухоўваецца да штуршкоў у жываце, чым да выбухаў снарадаў і бомб. Калі над галавой калатнеча, Айшэ заўсёды гуляе са сваім дзіцём, яна ведае, што так супакойвае яшчэ ненароджанае дзіцятка. Яна кладзе руку на жывот і чакае штуршка ў далонь, потым мяняе месца і праз некалькі хвілін зноў чуе «стук-стук». Дзіцятка без слоў разумее маці, яно адчувае яе трывогу і, здаецца, з радасцю прымае няхітрую гульню.

Малы валацужка павольна апусціў рукі, і Айшэ адразу ўявіла, як гэтыя брудныя кулачкі калісьці таксама піхалі жывот сваёй маці, і яны таксама без слоў разумелі адно аднаго... Нешта тужлівае падкацілася пад самае горла, з грудзей быццам вырваўся цяжкі, з прысвістам уздых. Айшэ паднялася і няспешна пасунулася да дзвярэй.

У той самы момант, калі яна штукавала над замком, каб выпусціць з пакоя глуханямога хлопчыка, за спінай пачулася металічнае скрыгатанне, гэта Лола падавала знак, шкрэбла металічным трохкутным напільнікам па жалезнаму ложку. Азірнулася і ўбачыла, як свякроў адчайна праганяе хлопчыка, махае на яго бяссільнай, неймаверна схуднелай рукой, у нявetлых, глыбока запалых вачах свекрыві неспакой і пагарда. Малы, відавочна, раней трапляў у падобныя сітуацыі і даўно звыкся са сваёй неласкавай доляй, ён наперад ведаў, што павінен рабіць, каб не гнявіць гаспадынь. Хлопчык вокамгненна крутнуўся да кутка, у якім тулілася сметніца — зялёная, месцамі пражавелая да

дзірак скрынка з-пад патронаў з венікам усярэдзіне, і, ухапіўшы дрэўка, з веданнем справы, не ўздымаючы пылу, пачаў падмятаць падлогу.

Лола запытальна і злосна паглядзела на Айшэ. У адказ нявестка, ледзь стрымліваючы радасную ўсмешку, абыякава перасмыкнула плячыма і ў думках падакарала саму сябе, што не дапетрыла раней, не дадумалася пакінуць бяздомнага валацужку сабе памочнікам. Ён і па ваду збегае, і суседзяў гукне, калі ўзнікне патрэба расчысціць ад камення ўваходныя дзверы, і смецце вынесе...

— Ён будзе нам дапамагаць, — папраўляючы падушку Лолы, сказала Айшэ.

Свякроў адмоўна матлянула рукой, у куточках бяскроўных непаслухмяных вуснаў з'явіліся кропелькі пены. Цяпер гэтак было заўсёды, калі Лола хвалявалася і сілілася нешта сказаць.

— Рэнат прыслаў памочніка, — пайшла на хітрасць Айшэ, — канешне, лепш была б медычка, але ж дзе іх цяпер знайсці... Затое ён глуханямы і завуць яго... — Айшэ азірнулася на хлопчыка і нечакана для самой сябе сказала: — Рэнат назваў яго Рыжым...

Пачуўшы пра сына, твар Лолы прасвятлеў, вусны задрыжэлі, яна заплюшчыла зліплыя вейкі і неяк адразу абмякла, супакоілася. Айшэ ўкрыла свякроў коўдрай, прытушыла газнічку. Малы скончыў падмятаць падлогу і цяпер, не выпускаючы з рукі веніка, стаяў пасярод пакоя.

— Калі хочаш, заставайся, — сказала Айшэ.

Твар хлопчыка засвяціўся радасцю, ён падсунуў венік пад паху і нешта пачаў паказваць жэстамі рук. Айшэ, нічога не зразумеўшы, адмахнулася:

— Я мовы тваёй не разумею, дый гэта і не абавязкова, галоўнае, ты будзеш жыць тут і рабіць усё, што я скажу.

Рэнат не аб'явіўся, як абяцаў вястун, ні праз два дні, ні праз тры, ні праз месяц. За гэты час Айшэ яшчэ больш пацяжэла, раздалася ўшыркі, зрабілася нейкай санлівай і нават сама здзіўлялася запаволенай няспешнасці і свайму празмернаму жаданню ўвесь час ляжаць у ложку. Калі трэба было нешта зрабіць на падлозе, ці хоць бы падняць упушчаную анучку ці насоўку і побач не было глуханямога памочніка, гэтая дзея ператваралася ў паэтапную працэдуру. Спярша, прытрымліваючыся ложка ці абапіраючыся на падсунутую да патрэбнага месца табурэтку, яна апускалася на калені, рабіла, што трэба і, адпачыўшы, зноў караскалася ўгору. Цяжэй і цяжэй даваліся вылазкі на паверхню сутарэння. Глуханямы хлопчык аказаўся і сапраўды добрым памочнікам, але Айшэ ён нічым не мог дапамагчы, калі яна ўпраўлялася з Лолай: і паварочваць свякроў, і лекамі прамываць пролежні даводзілася самой. Затое ў іх заўсёды была вада, і гэты клопат цяпер цалкам ляжаў на хлопчыку.

На суседняй вуліцы нейкім цудам уцалела і нават працавала водаправодная калонка. Кволы, без напору струменьчык вады цёк несупынна, і каля яго заўсёды стаяла чарга. Набіралі ваду хто ў што, але кожнаму было адмерана толькі пяць хвілін. За гэтыя хвіліны больш двух літраў з калонкі не выцякала, таму нават падчас артылерыйскіх абстрэлаў, калі снарады падалі далекавата, людзі не разыходзіліся. Іншая справа — верталёты, што завісалі над горадам і з вышыні жывую людскую чаргу маглі прыняць за ўзброеных абаронцаў Грознага. Абвяшчалі паветраную небяспеку не менш тузіна сірэн, раскіданых па ўсім горадзе, але здаралася, што спрацоўвалі равуны пасля таго, як бомбы і ракеты ўжо сыпаліся на людскія галовы.

Айшэ і паўгадзіны не магла выстаяць у чарзе да калонкі, але, перш чым сысці, заўсёды прасіла, каб яе пяць хвілін перадалі рыжаму глуханямому хлопчыку, і праводзіла малога ўздоўж чаргі, каб яго запомнілі. Глуханямы хутка прывык да новага прозвішча-мянушкі, ды й не новае яно для яго было. Колькі сябе памятаў, заўсёды Рыжым чужыя клікалі, а часцяком яшчэ і тузалі за агністы чуб. Толькі маці і бабуля ласкава называлі Андрэйкам.

Андрэйка, калі напаўняў чайнік вадой і ліў у яго замест двух літровых слоікаў чатыры, адчуваў сябе сапраўдным героем. Ён хітравата пазіраў наў-

кол, з твара не сыходзіла прамяністая хітраватая ўсмешка. У гэтыя хвіліны ён вельмі ганарыўся сабой, бо ніхто ў чарзе не ведаў, што ён, як сказала Айшэ, «на чорны дзень» ужо напоўніў вадой пад самую накрыўку адзін бідон, у які ўмясцілася ажно сорак слоікаў, і цяпер носіць у другі. Праз гадзіну ён зноў стане ў чаргу, а потым зноў, і так да таго часу, пакуль не прынясе дадому паўнюткія тры чайнікі, і толькі тады ім будзе задаволена не толькі Айшэ, але і хворая гаспадыня, якую ён панічна баіцца. А баіцца таму, што Лола напільнікам шкрабе па металічным ложку, здараецца, у прыцемках ажно сыплюцца іскры, і Андрэйка ўспрымае гэта як папярэджанне, яму здаецца, што гаспадыня яго наўмысна пужае, нагадвае пра «чорны дзень», які настане, як толькі скончыцца вада, і тады старая ўхопіць сваёй зжаўцелай напаўжывой рукой яго за валасы і будзе скрэбці жалязякай па ягоных зубах. Ён думае так, бо аднаго разу, калі хаваўся ў напаўразбураным доме, на свае вочы пабачыў, як звязанага вяроўкамі акрываўленага чалавека барадатыя ўзброеныя дзядзькі спярша білі нагамі, потым гэткім самым напільнікам, як у Лолы, пілілі бедаку зубы, а потым застрэлілі.

Акрамя напільніка, ніякай зброі Андрэйка ні ў Айшэ, ні ў Лолы не бачыў, не знайшоў нават пад матрацамі, якія абмацаў, калі Айшэ выходзіла на паверхню падыхаць свежым паветрам. Сталовыя нажы ў разлік не ішлі, бо, каб імі рэзалі чалавека, хлопчык не бачыў, таму і зрабіў выснову, што, як настане «чорны дзень», старая да смерці запілуе яго напільнікам. А каб гэтага не здарылся, трэба цягаць ваду, не ўцякаць жа ад Айшэ, якая корміць і дазваляе начаваць у пакоі, дзе спіць сама. А што месца ягонае на падлозе, дык гэта яшчэ і лепш: унізе не чуваць цяжкага ўдушліва-прытарнага паху, што сыходзіць ад старой гаспадыні, які нават лекі не могуць перабіць. Па начах трывожаць пацукі, але і да іх Андрэйка прывык, ён гатовы трываць усё. Усё, акрамя голаду...

Пасля чарговага артылерыйскага абстрэлу струменьчык вады, што выцякаў з калонкі, зменшыўся напалову, чарга павялічылася, сюды пачалі прыходзіць людзі з больш дальніх вуліц, і цяпер на чалавека адпускаўся толькі адзін слоік. Паціху Айшэ пачала карыстаць назапашаную ваду. Калі Андрэйка ўпершыню ўбачыў, што гаспадыня зачэрпнула з бідона, з ягоных вачэй пакаціліся раптоўныя няўцешныя слёзы. Айшэ спыталася, што здарылася, але жэсты глуханямога расшыфраваць не змагла, ды й як зразумець мітуслівую бегатню па пакоі, спробу выхапіць ў свекрыві напільнік і выскалены шчарбаты рот, у якім глуханямы пальцам шкрабе па зубах.

— Ты хочаш пачысціць зубы? — каб хоць нешта сказаць, спыталася Айшэ.

У адказ глуханямы амаль істэрычна заматляў галавой, рот яшчэ больш ашчэрыўся, слёзы з новай сілай сыпанулі з вачэй. Бачачы, што Айшэ яго не разумее, Андрэйка ўхапіў чайнік і кінуўся вонкі. Адзінае, што яму заставалася, як ён лічыў у тую хвіліну, гэта больш часу стаяць у чарзе да калонкі.

Той ноччу зноў прыходзіў чалавек ад Рэната, ён прынёс харчы і лекі. Убачыўшы рэчмяшкі з прадуктамі, Айшэ без слоў усё зразумела і, стомлена апусціўшыся на табурэтку, ціха сказала:

— Я больш тут не застануся... Пайду разам з іншымі ў лагер бежанцаў...

— Ты носіш дзіця героя, а ягоны брат — брыгадны генерал, — пагрозліва працадзіў скрозь зубы агромністы чэчэнец з апаленай і ад таго рудаватай барадой. — Калі шакалы даведаюцца, хто ты — нарадзіць не дадуць... — У пацвярджэнне сваіх слоў і, відавочна, каб быць больш пераканаўчым, ён выхапіў з-за пояса вялізны бліскучы кінжал і, знізу ўверх рассекшы паветра, быццам нешта ўспароўшы, дадаў: — Яны зробяць гэта і выкінуць твайго сына шакалам... Выбірай!

У гэты самы момант прачнуўся Андрэйка. Убачыўшы чэчэнца і настаўлены на Айшэ нож, ён не раздумваючы кінуўся да барадача і ўпіўся зубамі ў ягоную руку. Нож зваліўся на падлогу, барадач ускрыкнуў, відавочна, больш ад нечаканасці, чым ад болю, і імгненна вольнай рукой ухапіў малога за доўгую чупрыну, узняў у паветра. Страціўшы кропку апоры, Андрэйка закалаціў нагамі, адчайна замахаў рукамі.

— Адпусці яго, — рэзкім, напятым, як струна, голасам цвёрда сказала Айшэ.

Вочы чэчэнца бліснулі злымі, нядобрымі агеньчыкамі.

— Ты спіш з рускім у адным пакоі?

— Ён нам дапамагае...

— Ён вас здасць няверным, — пагрозліва прасіпеў барадач, — Рэнат забараніў табе ...

— Мы выжываем тут, у Грозным, а дзе Рэнат, я не ведаю, — адчайна закрычала Айшэ, — праз тыдзень мне раджаць, і мы пойдзем да іх... А наконт малога не хвалюйся, ён глуханямы і, як бачыш, смелы, не хаваецца, як некаторыя...

— З яго атрымаецца добры раб, — адштурхнуўшы ад сябе Анрэйку, выскаліўся чэчэнец, — глухі, нямы, адданы... — Ён падняў кінжал, плашмя паклаў на ўкушанае месца лязо і, думаючы пра нешта сваё, змрочным цяжкім позіркам паглядзеў на малога, які імгненна зашыўся пад дзіравую аўчыну, што адначасова служыла і матрацам, і коўдрай. — Каб гэткім і застаўся, яго яшчэ трэба вылегчаць... Магу зрабіць паслугу...

— Бачу, што ты на большае не здатны, — стрымліваючы гнеў, задзірліва адказала Айшэ і, зірнуўшы на пасыльнага, адразу пашкадавала сваіх кпінаў. У наступнае імгненне іх вочы сустрэліся, і Айшэ з жахам зразумела, што вяр не жартуе, ён і сапраўды гатовы ўчыніць здзек над глуханямым. Раней ёй ужо даводзілася бачыць гэткія звярыныя, як памутнелыя, абмярцвела-расшыраныя вочы, што праглі помсты і крыві. Невядомая сіла падхапіла Айшэ на ногі і кінула да хлопчыка. Яна рашуча стала на шляху барадача: — Ты ўжо зрабіў усё, што мог, а цяпер пакінь нас...

Чэчэнец імгненна насупіўся, лоб, пераноссе перасеклі глыбокія зморшчыны, позірк утаропіўся ў вялізны жывот жанчыны, здавалася, ён узважвае, ці варта звязвацца з цяжарнай.

— На хлопчыка па нашых законах ты не маеш ніякіх правоў, — пайшла ў наступ Айшэ, — кранеш яго — будзеш мець справу з Рэнатам.

Імя начальніка на пасыльнага падзейнічала ацверажальна, у яго адразу быццам заслона з вачэй упала. Мармычучы нешта няўцямнае, ён хуценька схаваў кінжал і, унікаючы позірку Айшэ, пасунуўся да выхаду. У дзвярах чэчэнец прыпыніўся:

— Што перадаць камандзіру?

— Перадай, што, калі не вывезе, раджаць пайду да рускіх...

З першых дзён вайны з чатырох гадзін да сямі па няпісаных правілах у Грозным наступала перамір'е. У гэтыя гадзіны Айшэ, расчыніўшы ўсе дзверы, праветрывала памяшканне і пры дзённым асвятленні завіхалася ля хворай Лолы: рабіла ёй кампрэсы, прамывала пролежні, гатавала нешта гарачае. Звычайна разагравала на спіртоўцы тушонку, далівала вады, і атрымоўвалася наварыстая поліўка, адзінае, што свякроў магла яшчэ есці. На гэты час глуханямога выпраўляла на паверхню, часцей па ваду.

У той дзень Айшэ паспела толькі нагрэць вады і кінуць у яе бінты, знятыя з ран свекрыві, як зараўлі сірэны, цяжка затахкалі кулямёты, недзе зусім побач грымнула, ды так, што задрыжэла пад нагамі падлога, у лямпе-газніцы на дробныя аскепкі развалілася ўчарнелае шкло, са столі зацерушыла, пасыпалася тынкоўка. Ці то ад нечаканасці, ці то ад страху ногі Айшэ звяла сутарга, рэзкі боль працяў ніз жывата, яна не змагла дайсці нават да дзвярэй, каб іх зачыніць. Праз хвіліну ў пакой уварваўся віхор пылу і пах серы. «Хоць бы не заваліла ўваход у сховішча», — падумала Айшэ, і адразу ў вачах пацямнела, захісталіся сцены, нясцерпны боль новай хваляй уладарна ўварваўся ў цела, здалося, разарваў на часткі жывот, скроні, прымусіў апусціцца на калені. Яна закрычала, пакацілася па падлозе, але крыку ў гэткай калатнечы ніхто пачуць не мог, нават яна сама, наўкол усё грукатала і рушылася.

Айшэ страціла прытомнасць, а калі расплюшчыла вочы, адчула сябе ляжачай на падлозе з раскінутымі ўшыркі рукамі. Ніякага болю не адчувала,

наўкол цішыня, толькі шэры пыл, асядаючы на падлогу, быццам некага карагодзіў у нябачным танцы, і ў гэтую хвіліну Айшэ здалося, што яна чуе шоргат сукенкі, сатканай з пылінак.

Уставаць не хацелася, баялася, што боль паўторыцца, і ад гэтага душа напаўнялася невыразным, нейкім загадкавым страхам. Нешта няўлоўнае быццам падштурхоўвала да імгненных рашучых дзеянняў, і адначасова Айшэ баялася нават паварушыцца, цяпер яна прагла аднаго: цішыні і спакою.

Аднекуль здалёк даляцела: «вжык...вжык...вжык...», але свядомасць не ўспрымала аніякіх гукаў. «Вжык» настойліва і неспакойна стукаўся да яе, вяртаў з небыцця, ажно пакуль Айшэ не зразумела, што гэта Лола падае знак, яна чакае дапамогі. «Жывая», — усцешана падумала пра свякроў Айшэ і паварушыла адной рукой, потым другой. Зноў грымнула, хоць і далекавата, але адразу трывожна ўскалыхнулася набрынялае пылам паветра, імгненна зрушыўся рытм танца.

Айшэ падцягнула пад сябе ногі, пачала паволі ўставаць і раптам адчула штуршкі ў жывот, спярша ціхія, нясмелыя, а праз хвіліну моцныя, нават балючыя. «А пра цябе я зусім забылася...» — абхапіўшы жывот рукамі, шчасліва засмяялася Айшэ. Добрая цеплыня напоўніла грудзі, міжвольныя слёзы радасці пякучымі ручайкамі пакаціліся па шчоках. Неадчэпнае і свавольнае «вжык...вжык» прымусіла Айшэ азірнуцца.

Ложка Лолы на месцы не было, як не было і сцяны, каля якой яшчэ паўгадзіны таму ён туліўся. Праз даволі шчыльную завесу пылу ў чорным пагрозлівым прадонні Айшэ ўбачыла толькі жалезную скасабочаную спінку з бліскучымі булдавешкамі па краях і руку свекрыві, падобную на ссохлую галінку, якая з апошніх намаганняў шкрэбла і шкрэбла напільнікам па правай булдавешцы. Востры халадок новай бяды імгненна падкаціў пад самае сэрца, стала горача, ліпкі пот засціў вочы, на сасмяглых вуснах адчула моташлівую, прытарную саленаватасць. Адразу быццам хто староннi чымсьці вострым цюкнуў у патыліцу: «Недаглядзела...»

Айшэ ўстала, зрабіла некалькі крокаў, галава кружылася, было млосна, ногі амаль не трымалі. Напэўна, яна павалілася б, але ў апошні момант паспела ўхапіцца рукамі за спінку ложка і нават дакрануцца да Лолы. Боль у патыліцы не праходзіў, ён пульсаваў і тузаў мышцы, па шыі цякло нешта цёплае. Айшэ, усё яшчэ трымаючыся за ложак, паклала руку на балючае месца і ад гэтага дотыку ажно ўскрыкнула. Яна азірнулася туды, дзе толькі што ляжала, і, убачыўшы невялікую чырвоную пляму і кавалак тынкоўкі памерам з кулак, зразумела, што павалілася і страціла прытомнасць невыпадкова.

З чорнага халоднага прадоння, куды рухнула сцяна і кульнулася палова Лолінага ложка, патыхнула сырасцю, гніллю і мярцвячынай, і адразу запяршыла ў горле, салёная прытарная сліна напоўніла рот, тузануўся жывот.

Айшэ званітавала, і нечакана стала лягчэй, у галаве прасвятлела, боль амаль знік. Яна толькі не магла прымусіць сябе прыняць з патыліцы далонь, баялася ўбачыць кроў. Пад матрацам, там, дзе вылілася пакамечаная падушка, Айшэ хавала бінты, якімі карысталася, калі рабіла свекрыві кампрэсы і перавязкі. Не раздумваючы, выцягнула вялікаваты кавалак матэрыі, вольнай рукой склала яго ў некалькі разоў, хвіліну падумала і ўзяла з аптэчкі мазь Вішнеўскага, якой лячыла Лоліны пролежні. Зубамі скруціла з бутэлечкі накрыўку і вытрасла амаль палову змесціва на бінт. З вялікай перасцярогай і бояззю прыняла далонь, якой прыціскала рану, і адразу ж паклала на балючае месца гатовы тампон. Яшчэ некалькі хвілін пайшло на тое, каб забінтаваць галаву і сцерці з далоні кроў. Перавязку рабіла моўчкі, стоячы за спінкай ложка свекрыві, і Лола не бачыла нявесткі, таму, устрывожаная, тая зноў узялася за напільнік. Айшэ перахапіла руку хворай і як мага спакайней, нават з ноткамі бадзёрасці ў голасе, гучна сказала:

— Будзем мяняць жытло, тут занадта шмат скразнякоў.

Потым павязала хусцінку, каб свякроў не бачыла бінтоў на галаве, і толькі пасля гэтага паказалася ёй на вочы.

Лола ашалелымі вачыма глядзела на кучу камення, натужліва стагнала, сілячыся нешта сказаць, і торкала напільнікам у пустэчу. На яе ссінелых вуснах больш, чым заўсёды, ружавелася пена.

— Не вытрымала наша сховішча, — выціраючы свекрыві вусны, сказала Айшэ і толькі цяпер заўважыла, што другая спінка ложка заціснута вялізнай каменнай глыбай.

Лола працягвала торкаць рукой у навіслую глыбу, і Айшэ хутчэй адчула, чым убачыла, што камень варухнуўся, і ў наступнае імгненне галава свекрыві разам з ложкам хістанулася і папаўзла ўгору. Часу на роздум не заставалася. Айшэ ўхапіла хворую за тулава і сцягнула на падлогу. І якраз своечасова. Дзесьці ў глыбіні, амаль пад імі, бы ў якім ненажэрлівым чэраве, грукатала і сыпалася каменне, быццам правальваючыся ў бяздонную прорву, рушылася нешта вялікае і цяжкае, і адразу глыба, што трымала ложак, таксама зварухнулася, зарыпела і ў наступнае імгненне знікла з вачэй, як яе і не было, а ўслед і Лолін ложак кульнуўся лёгка, быццам пёрка, толькі трывожна дзынкнулі шклянкі з-пад лекаў. І амаль адразу промні зыркага сонца, прабіваючыся праз шчыльную завесу пылу, па-гаспадарску ўварваліся ў пакой, напоўнілі яго сліпучым мітуслівым святлом.

Калі пыл асеў, Айшэ з жахам убачыла, што палова дома разбурана, усё быццам правалілася ў агромністае бяздонне, над руінамі курэў шызы дым, з нетраў даносіліся енкі аб літасці, людскія стогны і крыкі. Столь над галавой пагрозліва прасела і ў некалькіх месцах чарнела крывулістымі расколінамі, у якія папросту мог улезці кулак.

«Зараз рухне і гэтая палова», — застукалі малаточкі ў скроні, і Айшэ, не раздумваючы, пацягнула Лолу да дзвярэй, якія цяпер, матляючыся, рыпелі толькі на ніжняй завесе, і на адным дыханні пераадолела некалькі крутых прыступак. Зноў нешта вострае і балючае рассекла жывот, і зноў сутарга сціснула сухажыллі на нагах. Айшэ разам з Лолай як падкошаная рухнула на прыступкі і, абхапіўшы жывот, скурчылася, не заўважыла, як пракусіла губу, і гэты боль быццам перамог, узяў верх над болем у жываце і нагах.

Праз некалькі хвілін палягчэла, толькі прытарна-саленаваты прысмак напоўніў рот. Сплюнула чырвоным, убачыла кроў, і зноў закружылася галава. Узняла вочы і нечакана ўспомніла, што, каб апынуцца на паверхні, трэба пераадолець пятнаццаць прыступак, і адразу імпэту паменела, зразумела: без старонняй дапамогі свякроў не ўратаваць. Узгадала глуханямога. Апошнім часам, каб падыхаць свежым паветрам, яна магла ўскараскацца на паверхню, толькі апіраючыся на плячо хлопчыка, але ж яго не было, мо трапіў бядак у каменнае месіва і цяпер недзе ляжыць расціснуты глыбамі... Ды й не памочнік ён у гэтай справе, сам ледзь ногі цягае, трэба шукаць некага дарослага...

Думка, што яны маглі і яшчэ могуць апынуцца пад абломкамі разбомбленага дома, надала Айшэ рашучасці, прымусіла дзейнічаць, штурхала ў плечы, падганяла на паверхню, да людзей, і цяпер было ўсё роўна, хто прыйдзе на дапамогу: рускія ці чэчэнцы, абы толькі вырвацца з гэтай каменнай пасткі-труны. Але ж і Лолу адну боязна пакінуць, што калі і на самай справе дом рухне, чуваць жа, як нешта над імі рыпіць і варушыцца.

«Добра, што хоць дзверы з сутарэння расчынены», — падумала Айшэ і ў спадзеўцы, што яе нехта пачуе, крыкнула:

— Людзі-і-і!..

Крык атрымаўся слабы, шапялявы і балючы, шкодзіла пракушаная і цяпер неймаверна распухлая ніжняя губа. Яе пачула хіба што Лола, якая адразу расплюшчыла вочы і немігатліва ўтаропілася на нявестку, быццам упікаючы і вінавацячы ва ўсіх няшчасцях.

— Я паклічу некага на дапамогу, — адвяла позірк Айшэ і толькі цяпер заўважыла, што Лола ляжыць на прыступках у адной начной кашулі, на назе няма бінту, відаць, зляцеў, калі кульнулася з ложка, і пальцы, абгрызеныя пацукамі, цяпер кроватачылі. Яна хуценька сцягнула з галавы хусцінку, склала яе ў некалькі разоў і падсунула хворай пад галаву. Калі ж убачыла, што кашу-

ля месцамі намокла і ўліпла ў пролежні, быццам усмакталася, зрабілася гарача, адразу перад вачыма прамільгнуў Лолін ложак, і Айшэ з жахам зразумела, што яны засталіся без бінтоў і лекаў.

Апошнія сумненні імгненна зніклі, Айшэ прыняла канчатковае рашэнне: яна павязе Лолу ў лагер бежанцаў. Але ж спярша трэба выкараскацца з гэтага каменнага склепа, які ў любы момант мог стаць ім магілай. Айшэ зрабіла некалькі крокаў па прыступках угору, азірнулася і, цяжка ўздыхнуўшы, вярнулася да свекрыві. Яна не магла пакінуць напаўраспранутую бездапаможную жанчыну адну на гэтай халоднай, небяспечнай лесвіцы. Трэба было нешта рабіць, але што? Зноў узгадала глуханямога і пашкадавала, што хлопчыка няма побач. Айшэ паправіла хусцінку, на якой ляжала галава Лолы, хоць патрэбы ў тым ніякай не было, і асцярожна, трымаючыся за шурпатую сцяну, пачала спускацца. Ёй хацелася ўбачыць нядаўняе жытло, хацелася пераканацца ў тым, што яно трывалае і яшчэ можа паслужыць хоць некалькі дзён. Яна спадзявалася на гэта, бо куды ж дзецца з нерухомай Лолай?

«Што, калі Лола нейкі час паляжыць на маім ложку? — разважала Айшэ. — Мне б толькі выбрацца на паверхню... там людзі, яны дапамогуць...»

Айшэ зрабіла некалькі крокаў уніз, але, убачыўшы пакой без сцяны з пагрозліва правіслай столлю, пасечанай чорнымі расколінамі, быццам павуціннем, адразу адмовілася ад задумкі перанесці сюды Лолу. Паспешліва, з затоеным дыханнем, увесь час спалохана азіраючыся і чакаючы, што ў любы момант нешта можа абрушыцца ці абваліцца, Айшэ рыўком сарвала з ложка коўдру, схапіла падушку і, паспешліва вярнуўшыся на лесвіцу, з палёгкай уздыхнула. Цяпер яна зусім па-іншаму ўспрымала і нізкаватую столь у калідоры, і сцены: шурпатыя, месцамі пакрытыя цвіллю, і вузкія прыступкі, на якіх двое не размінуцца.. Тут Айшэ чамусьці не адчувала ні боязі, ні жывёльнага страху, які яшчэ хвіліну таму правакаваў патлівасць ва ўсім целе і калатнечу ў грудзях.

Праз некалькі мінут Лола ляжала на прыступках спавітая ў коўдру, быццам немаўля ў пялёнках. Айшэ абвязала сваю галаву хусцінкай, што да гэтага служыла свекрыві падушкай і, трымаючыся за сцяну, пачала адлічваць прыступкі ўгору. На паверхні, зусім блізка з домам, нечакана загрукацела, залязгалі гусеніцы.

«Рэнат не прыйдзе, гэта танкі федэралаў», — са скрухай падумала Айшэ, і невыразны, міжвольны страх імгненна агарнуў душу, у грудзях гулка затахкала сэрца. У нейкі момант зямля пад нагамі пагрозліва задрыжэла, а з набліжэннем скрыгатлівага лязгату захісталася, у расчыненыя дзверы нечакана ўварвалася чорнае воблака смуроднага дыму. Айшэ спінай прытулілася да сцяны, заплюшчыла вочы і ў чаканні сцялася. Неяк разам, як па загадзе, незадаволена рыкнулі рухавікі, і адразу ўсё сціхла: ні грукату, ні лязгату. Праз некалькі хвілін пачуліся галасы: Айшэ не памылілася, гаварылі па-руску. Яна ўжо наважылася крыкнуць, падаць аб сабе знак, але голас прапаў, быццам нешта горкае і слязлівае перацiснула горла. Узгадала Рэнатава пасланца, вялізны крывы кінжал, якім ён страшыў яе, і міжвольныя слёзы закаплі на халодны цэмент.

Побач з уваходам у сутарэнне прайшло некалькі чалавек, і Айшэ спахапілася:

— Гэ-эй!..— гукнула яна і, ражком хусцінкі выціраючы вільготныя шчокі, зрабіла некалькі апошніх крокаў, што аддзялялі яе ад паверхні. — Дапамажыце!.. — наўздагон вайскоўцам крыкнула Айшэ, але яе не пачулі.

У гэты момант затахкалі кулямёты, зацакаталі аўтаматныя чэргі, дзесьці грымнула раз, другі, трэці, над галавой Айшэ цвіркнулі кулі. Вайскоўцы кінуліся ўрассыпную і імгненна зніклі ў руінах, быццам растварыліся. Айшэ, думаючы пра тое, што наконт вайскоўцаў магла і памыліцца, бо і ў чэчэнцаў форма і зброя рускія, таксама крутнулася да выратавальнага ўваходу ў бамбасховішча.

І тут яна ўбачыла глуханямога. Двухпавярховай будыніны, што яшчэ ўчора высілася насупраць і праз двор якой яны хадзілі наўпрасткі на суседнюю

вуліцу па ваду, не было. На месцы дома з зямлі тырчалі рэшткі сцен, на якіх, быццам на нейкім фантастычным шкілеце, застылі неверагодна пакручастыя арматурныя штыры з кавалкамі мураванкі, на месцы цэнтральнага ўваходу засталіся дзве калоны, адна з якіх пагрозліва навісла над тратуарам. Куча камення курэла смуродным дымам, і цяпер частка суседняй вуліцы была як на далоні. Хлопчык стаяў каля калонкі з чайнікам у руках.

— Рыжы... Рыжы... — з усіх сіл закрычала Айшэ і з жахам успомніла, што ён не чуе ні выбухаў, ні стрэлаў, ні яе. І раптам нешта ці ў ёй, ці наўкол змянілася, быццам святла і прасторы паменела, здалося, што ва ўсім горадзе засталіся яны ўдваіх, і цяпер усе кулі, наганяючы аскоміну сваім пераможнагнятлівым посвістам, ляцяць у яе ненароджанага сына і глуханямога хлопчыка. — Што ж гэта робіцца? — загаласіла Айшэ. — Яны ж зусім дзеці...

Выбухі, кулямётныя і аўтаматныя чэргі, як нечакана пачаліся, гэтак жа нечакана і перапыніліся. Зрабілася злавесна ціха, і зноў слых улавіў людскія стогны, у доме насупраць пад кучай цэглы адчайна завіскатаў сабака. Айшэ быццам токам працяло, здавалася, нехта нябачны падштурхоўвае ў плечы, не дае часу на роздум, і яна, даволі спрытна падхапіўшы з зямлі даўгаватую палку і мацаючы ёй перад сабой дарогу, каб не трапіць у выбоіны, заспяшалася да глуханямога. Абмінаючы завалы, ішла ў абход і ўвесь час у напружаным чаканні не зводзіла вачэй з рыжай кудлатай галавы, гатовая ў любы момант замахаць рукамі і прыцягнуць да сябе ўвагу, калі той раптам азірнецца. Хлопчык не азірнуўся. Вось ён зняў з носіка калонкі чайнік, паставіў яго на зямлю і адразу ж падсунуў пад струмень вады гарляк пластмасавай бутэлькі.

Ведаючы, што глуханямы будзе набіраць ваду не менш за дзесяць мінут, Айшэ, каб утаймаваць цяжкаватае дыханне і супакоіць празмернае сэрцабіццё, некалькі хвілін пастаяла, абапёршыся на палку, агледзелася. Неба было чыстым: ні самалётаў, ні верталётаў, глухія выбухі чуліся дзесьці далёка за горадам, там жа надрыўна тахкалі кулямёты.

«Напэўна, федэралы сёння адстраляліся», — падумала Айшэ, але, узгадаўшы танкі, заспяшалася, раптам рускія і сапраўды дзесьці побач, разумела, што ў любы момант можа зноў пачацца калатнеча.

Убачыўшы гаспадыню, глуханямы расплыўся вялікай шчарбатай усмешкай і шчасліва торкнуў брудным пальцам на паўнюткі чайнік і некалькі пузатых поліэтыленавых бутэлек.

— Маладзец, — пахваліла хлопчыка Айшэ і раскудлаціла рыжую чуприну. Малы ажно засвяціўся радасцю і, пстрыкнуўшы гільзай-гузікам, расхінуў паліто, выпнуў жывот, паказваючы, што напіўся вады, колькі хацеў.

— Трэба шукаць новае сховішча, у наш дом трапіла бомба,— сказала Айшэ і здзівілася свайму спакою і будзённасці, быццам тое, што перажыла гадзіну таму, здараецца з імі кожны дзень.

Малы адразу насцярожыўся, спахмурнеў, рукі замітусіліся, нешта жэстыкулюючы.

— Лола жывая, — хутчэй па вачах, чым па жэстах, зразумела нямко Айшэ і з удзячнасцю пагладзіла малога па галаве. Не могучы сказаць, ён сказаў галоўнае: яны засталіся жывыя...

Глуханямы адразу схіліўся над бутэлькамі з вадой і неяк па-даросламу разважліва пачаў нешта штукаваць над імі. Праз хвіліну ён укленчыў і, накінуўшы на шыю адну шпагаціну, потым другую, падсунуў іх пад каўнер свайго безрукаўнага паліто. Толькі цяпер Айшэ здагадалася, што хлопчык звязаў гарлякі бутэлек і збіраецца несці іх, як на каромысле. Яна хацела ўзяць чайнік, але малы незадаволена адштурхнуў яе руку. Праўда, ён толькі і змог, што ўзняцца са сваёй ношай, але ісці з чатырма паўтаралітровымі бутэлькамі на шыі і чайнікам у руцэ нямко не змог. Яго адразу ж захістала, павяло ўправа і, калі б Айшэ не падтрымала, глуханямы, напэўна, паваліўся б.

— Возьмем толькі чайнік, — прапанавала Айшэ, бо і сама не хацела занімаць нечым рукі, баялася паваліцца. — Уладкуемся на новым месцы, і адразу ж прынясеш бутэлькі.

Хлопчык, капрызна падціснуўшы вусны, насупіўся, вачэй не падняў і ношу здымаў неахвотна, усім сваім надзьмутым выглядам паказваючы, што гэтае рашэнне яму не даспадобы. Праўда, ваду каля калонкі не пакінуў, аднёс бутэлькі да бліжэйшых руін і прыхаваў, засунуў у цагляную расколіну глыбы-мураванкі, далей ад старонняга вока.

Вярталіся тым жа шляхам, якім Айшэ ішла сюды. Нямко нёс чайнік і часта прыпыняўся, каб змяніць руку. На скрыжаванні павярнулі на сваю вуліцу, абышлі паваленую жалезную тумбу, якая некалі служыла дошкай аб'яў і цяпер недарэчна зіхацела пашарпанымі каляровымі афішамі. Хлопчык, не азіраючыся, наўпрасткі праз дарогу, па завядзёнцы кароцячы шлях, скіраваў да іхняга сховішча. Айшэ, цяжка апіраючыся на палку, пасунулася ўслед, але не паспела зрабіць і трох крокаў, як зноў пачалі страляць, дзесьці ў дварах зусім побач прагучаў магутны выбух, і адразу сцены будыніны, каля якой знаходзіўся хлопчык, раскалоліся, над домам узнялося воблака чорнага злавеснага дыму. У наступнае імгненне дах здрыгануўся, здалося, што ён толькі памацаў канструкцыю на трываласць і, зразумеўшы, хто тут гаспадар, пачаў паволі, але настойліва прасядаць. Адразу ж захісталіся сцены, задрыжэла зямля пад нагамі, пасыпалася каменне... Не памятаючы сябе, Айшэ кінулася да глуханямога і, ухапіўшы малога за паліто, штосілы пацягнула прэч з гэтага пагібельнага месца...

Яна доўга не магла ачомацца, здавалася, нешта цяжкае і неабсяжна вялікае балюча навалілася на цела, сціснула грудзі, ды так, што ні ўдыхнуць, ні выдыхнуць. У нейкі момант нават прымроілася мора, быццам нырнула ў хвалю і ніяк не можа з яе выплыць. Кожны раз, як толькі галава з'яўлялася на паверхні, новая хваля, накатваючыся, сілком заганяла ў глыбіню, і яна не паспявала хватануць паветра. Мора не адпускала, яно, здавалася, гуляла з ёй у хованкі. Айшэ спрабуе калаціць па вадзе рукамі, нагамі, і не атрымоўваецца, бо не чуе ні ног, ні рук. Паветра небяспечна не хапае, а ёй патрэбен усяго толькі адзін глыток, хоць бы адзін, і тады ў яе хопіць моцы выкараскацца на паверхню, каб вызваліцца з вадзянога палону...

Расплюшчыла вочы, і адразу позірк зачапіўся за раскеўзаныя, як у тумане, абрысы Рыжага. На Айшэ ляжала нешта цяжкае, вялікае і цёплае, а нямко, бязгучна галосячы, тузаў яе за руку. Убачыўшы, што гаспадыня расплюшчыла вочы, глуханямы ўзрадаваўся, слёзы імгненна высахлі, ён асцярожна апусціў яе руку на зямлю і пачаў жэстыкуляваць, відавочна, спрабуючы сказаць нешта важнае. Айшэ глядзела на малечу праз бялюткае воблака туману і нічога не магла зразумець, ні пра што не думалася, у гэтую хвіліну турбавала адно: як вызваліцца ад непамернага цяжару і ўздыхнуць на поўныя грудзі. Убачыўшы, што яго не разумеюць, хлопчык учапіўся рукамі ў тое, што ляжала на Айшэ, заплюшчыў вочы і, сцяўшы зубы, з усіх сіл пацягнуў. Ягоны твар, шыя зрабіліся чырвонымі, і Айшэ імгненна дапетрыла: каб уздыхнуць напоўніцу, трэба дапамагчы малечы. Як толькі вольнай рукой яна ўперлася ў непадатлівую масу, якая ляжала на ёй, адразу зразумела, што гэта чалавек... Яна з цяжкасцю прыўзняла галаву, скасіла вочы і, убачыўшы плямістую зялёную матэрыю, з якой шыюць форму вайскоўцам, зразумела, што здарылася нешта кепскае. Зноў забалеў ніз жывата, толькі цяпер боль быў не рэзкі, а нейкі прытуплены, сутаргавата-скрыпучы, і адразу зашавялілася, нагадала аб сабе дзіця. Гэта надало рашучасці. Імгненна туман у вачах развеяўся, думкі прасвятлелі і, чапляючыся адна за адну, цалкам аднавілі ў памяці апошнія падзеі, у тым ліку выбух і сцяну, якая падала на глуханямога, але вайскоўца не ўспомніла, як ні сілілася.

Часу на развагу і роздум не было, думкі пра дзіця прымушалі дзейнічаць. Айшэ зірнула на глуханямога, і хлопчык, зразумеўшы, што хоча ад яго гаспадыня, пацягнуў вайскоўца за паясны рамень. Яна ўперлася вольнай рукой у плячо мерцвяка, і нарэшце цела зрушылася, трошкі спаўзло, і дыхаць стала лягчэй. Айшэ змагла вызваліць прыціснутую левую руку, трошкі адпачыла і паспрабавала, прыўздымаючы мёртвае цела, знізу выслізнуць з-пад яго. Ка-

нешне, каб Рыжы не цягнуў вайскоўца за рамень угору, наўрад ці тое атрымалася б.

Вызваліўшыся, Айшэ нейкі час сядзела на зямлі і ўтрапёна ўзіралася ў твар чалавека, які, відавочна, выхапіў яе і малечу нямко з самага пекла. Праўда, самому не пашэнціла, праз усю спіну наўскос гузікамі чарнелі тры кулявыя раненні. Твар рускага быў спакойны, быццам ён спаў, па скроні цякла кропелька поту. Вось кропелька трапіла на ружовы крывулісты шнар праз усю даўнавата не голеную шчаку і застыла, не змагла пераадолець гэтую перашкоду.

Айшэ не заўважыла, як побач з імі з'явіліся вайскоўцы і адразу схіліліся над ляжачым.

— Што з ім? — падымаючыся на ногі, спыталася Айшэ.

Вусаты салдат знізу ўверх цяжка зірнуў на жанчыну і, злосна мацюкнуўшыся, крыкнуў:

— Валі адсюль, сцерва!.. З-за цябе камандзіра забілі!..

## 5

Люба расплюшчыла вейкі, пацягнулася, адразу ўзгадала ўсё, што адбылося ноччу і, галоўнае, намер фраў Эльзы пабудзіць яе а шостай гадзіне. Пашукала вачыма гадзіннік, убачыла яго на тумбачцы і, згледзеўшы, што стрэлкі вось-вось стануць на шэсць, рэзка адкінула коўдру, а разам адкінула і рэшткі сну, неспакойнага, як забыццё. Стомленасці не адчувала, усе думкі былі скіраваныя на запланаваную эканомкай сустрэчу з панам Гансам, цяпер ад ягонай прыхільнасці будзе залежаць далейшы лёс Любы. Хуценька прыбрала ложак, апранулася ў ружовы халат і ўжо накіравалася ў ванны пакой, як у дзверы даволі гучна і патрабавальна пастукалі.

— Люба, пара ўставаць, — гукнула фраў Эльза.

Люба крутнула ручку засаўкі і расчыніла дзверы. Эканомка была ў тым жа строгім, без адзінай складачкі, светла-шэрым гарнітуры, валасы гладка зачэсаныя і сабраныя на патыліцы, на шчоках трошкі румянаў, вочы халодныя, быццам і не было паміж імі начной прыхільнай размовы, і ў дадатак — ледзь кранутыя бляклай памадай вусны, якія рабілі твар падобным на бяздушны манекен. Гэтую нязвыклую для Любы строгасць парушала бялюткая блузка з вясёлым карункавым каўнерыкам. Фраў Эльза заўважыла захапленне ў вачах пакаёўкі, і ледзь прыкметная ўсмешка кранула куточкі вуснаў.

— Ты, мілачка, пры поўным парадзе павінна сустракаць мяне ў шэсць гадзін раніцы на кухні, — уваходзячы ў пакой, незласліва паўшчувала Любу эканомка. — Але на сёння зробім выключэнне, нават касманаўты маюць права на адаптацыю.

— Мне б будзільнік, — зноў адчуваючы сябе вінаватай, насцярожана прамармытала Люба.

— У шафе знойдзеш уніформу, — прапускаючы міма вушэй Любіну просьбу, сказала эканомка і, відавочна падтрунятваючы над новай пакаёўкай, дадала:— Усё, што прывезла з сабой, можаш выкінуць у сметніцу.

Люба нічога адказаць не паспела. У гэтае імгненне знізу даляцеў пералівісты званочак, і эканомка заспяшалася да выхаду.

— Гэта Ганс, — сказала фраў Эльза і, зірнуўшы на гадзіннік, заклапочана дадала: — Прачнуўся на паўгадзіны раней, значыць, будзе буяніць... Цябе чакаю на кухні, не затрымлівайся.

На кухні, куды Люба прыйшла праз дзесяць хвілін, смачна пахла кавай, эканомка, нейкая ўся ўзбуджаная і злая, клала ў шырокую з залацістым абадком талерку парэзаную прадаўгаватымі лустамі смажаную бульбу. Убачыўшы Любу, загадала:

— Сядай снедаць, працы нам прыбавілася.

— Я дапамагу, — спрабуючы падтрымаць талерку, прапанавала Люба.

Наструнены выгляд эканомкі нічога добрага не прадвяшчаў, і яе нервовая ўзбуджанасць адразу перадалася Любе, якая адчула, што сапраўды нешта здарылася, і зноў трывожна стала на душы. «Хоць бы не адмовілі ў працы», — падумала Люба.

— У Ганса падучая, толькі што ў яго быў прыступ, — сказала эканомка і ўважліва паглядзела, як зрэагуе на гэта новая пакаёўка.

Люба, не ведаючы што сказаць, міжвольна перасмыкнула плячыма. Яе маўчанне фраў Эльза ўспрыняла па-свойму.

— У дамове з табой хваробы не пазначаліся і не канкрэтызаваліся, таму па законе ты маеш права адмовіцца ад працы і нават спагнаць з гаспадара кампенсацыю.

— Я прыехала працаваць пакаёўкай, — усё яшчэ думаючы, што ёй спрабуюць адмовіць у працы, прамармытала Люба. — І, потым, я ж не доктар і не магу лячыць пана Ганса.

— Гэта ты добра сказала,— павесялела эканомка,— а што тычыцца доктара, то ён хутка прыедзе, заадно і цябе паглядзіць. І ведай, што за не прадугледжаныя кантрактам сітуацыі будзе даплата асобная.

Зноў падаў голас віскатлівы званочак, і фраў Эльза заспяшалася ў пакоі гаспадара, кінуўшы Любе на хаду:

— Пачынай прыбірацца з кухні і пільнуй машыну, у восем гадзін павінен пад'ехаць доктар Роберт.

— Я магу дапамагчы,— устала з-за стала Люба і, узгадаўшы, як часцяком не магла дацягнуць п'янага бацьку да ложка, дадала:— З ляжачым цяжка ўправіцца...

— Пан Ганс — мой клопат, — паспешліва адмовілася ад дапамогі эканомка.

«Напэўна, за падучую шмат даплочваюць, калі гэтая фраў не хоча падзяліцца, — падумала Люба і, ацэньваючы аб'ём работы, абвяла позіркам кухню, — зрэшты, гэта мяне не тычыцца, і тут справы хопіць».

Роўна а восьмай гадзіне Люба пачула шум рухавіка машыны і, памятаючы наказ эканомкі «сустрэць доктара», перапыніла мыццё посуду і, выцершы ручнікам рукі, накіравалася да ўваходных дзвярэй. На дварэ яна ўбачыла, як з вялікай прыземістай, нібы прыплюснутай, зялёнага колеру машыны выйшаў высокі, хударлявы, трошкі сутулы чалавек з пузатым чамаданчыкам у руцэ. Чамаданчык без усялякага сумневу быў доктарскі, а вось чалавек больш нагадваў нейкага казачнага персанажа, чым урача. На круглай, быццам шар, галаве — ніводнай валасінкі, затое шчокі ўпрыгожвалі рудаватыя калмацістыя бакенбарды. Тоўсты нос і магутная сківіца з глыбокай ямінкай пасярэдзіне, быццам наўмысна прасвідраванай, глыбока пасаджаныя вочы і асабліва зрослыя на пераноссі калматыя бровы гэткага ж колеру, што і бакенбарды, нагадвалі казачнага гнома. Заставалася накінуць гэтаму чалавеку на плечы чырвоную накідку, нацягнуць на лысую галаву блазенскі каўпак — і здымай у кіно. Пры ўсёй вонкавай казачнасці госць, якога сустракала Люба, выглядаў непрыветным і нават злым, асабліва палохалі калючыя глыбока пасаджаныя шэрыя вочы і вялікая сківаца, напалову парослая кучаравым валассём. Але, як толькі ён убачыў дзяўчыну і бліснуў перламутравай белізной раўнюткіх зубоў, усе перасцярогі і неспакой адразу зніклі. Па-сапраўднаму прыхільная непадробная ўсмешка вокамгненна ператварыла доктара ў добрага знаёмага. У адказ Люба ўсміхнулася шчыра і прыветна.

— Добрай раніцы, — і сапраўды, як з даўняй знаёмай, павітаўся доктар і, прапускаючы дзяўчыну першай увайсці ў памяшканне, прытрымаў дзверы. — Зараз адгадаю: вы новая пакаёўка, і завуць вас Люба. Правільна? — Ён далікатна дакрануўся да яе локця, і Люба нават праз матэрыю адчула гарачыню ягоных пальцаў.

Люба кіўнула галавой, але адказаць не паспела, за яе гэта зрабіла фраў Эльза, якая сустракала іх у вестыбюлі.

— Яе і сапраўды завуць Люба, прозвішча Анікейчык, — свідруючы госця здзекліва-зацятым позіркам, рэзка сказала эканомка. — Дзяўчынка пры-

ехала з Беларусі працаваць па дамове, і пан доктар пра гэта ведае. Пан доктар ведае і тое, што можа стацца, калі ён яшчэ хоць раз дакранецца да пакаёўкі ці будзе разыгрываць улюбёнага блазна.

— Наколькі мне вядома, з сённяшняга дня фройлен Люба таксама мая пацыентка, — хітравата пазіраючы на эканомку, жартаўлівым голасам адказаў доктар, — і, напэўна, Ганс захоча каб я яе агледзеў? Як жа мне гэта зрабіць без рук і вачэй?

— Гаспадар напіша інструкцыю, — не ўспрымаючы жартаўлівы настрой госця, строга сказала фрау Эльза, — дзеля гэтага ён цябе, блазна, і паклікаў.

— Яму стала лягчэй? — імгненна стаў сур'ёзным доктар Роберт і, спакваля зірнуўшы на Любу, перапытаў: — Колькі прыступаў было за апошнія суткі?

— Ты, мілачка, дамый посуд і чакай нас у сваім пакоі, — ігнаруючы доктарава пытанне, як у пустату, быццам Любы тут і не было, сказала фрау Эльза і, рэзка крутнуўшыся, накіравалася да гаспадарскіх пакояў, па-салдацку гучна адбіваючы кожны крок.

Доктар Роберт неяк адразу замітусіўся і, яшчэ больш уціснуўшы галаву ў плечы, пасунуўся ўслед за эканомкай.

«Ці не закаханая фрау ў гэтага эскулапа?» — прыняўшы пыхлівую злосць фрау Эльзы за рэўнасць, падумала Люба і, узгадаўшы доктараву лысую галаву з рудымі бакенбардамі, не змагла стрымацца, каб не засмяяцца.

Люба хутка ўправілася на кухні, вярнулася ў свой пакой і, памятаючы папярэджанне эканомкі, што яе павінен агледзець сямейны ўрач, прыняла цёплы душ і ў чаканні ўладкавалася ў мяккім крэсле. Першай у пакой перaward пераможна ўвайшла эканомка, за ёй, не падымаючы вачэй, праслізнуў доктар у бялютка чыстым халаце. На ягоным твары ўспыхвалі чырвоныя плямы, і цяпер бакенбарды, у параўнанні са шчокамі, выглядалі блякла, у хударлявай ссутуленай постаці адчувалася нешта вінаватае.

— Пан Роберт зробіць поўны агляд, — склаўшы рукі на грудзях, кіруючы да акна, не сказала, а загадала фрау Эльза.

Люба нічога не адказала, доктар рашуча наблізіўся да трумо, што месцілася леваруч ад ложка, адсунуў футаралы і паставіў на іх месца свой пузаты чамаданчык. Шчоўкнулі замкі, і ў наступнае імгненне на зморшчанай шыі доктара з'явіўся фанендаскоп, побач з чамаданчыкам на трумо ляглі танометр і гінекалагічнае люстэрка.

— А гэта нашто? — кіўнула Люба на люстэрка.

— Поўны медыцынскі агляд прадугледжаны кантрактам, — узвінчаным голасам нагадала фрау Эльза і зашпацыравала па пакоі. Доктар Роберт зірнуў на Любу і толькі перасмыкнуў плячыма, маўляў, я раблю тое, што мне загадваюць.

— У такім выпадку я хачу каб вы, фрау, пакінулі мой пакой, — спакойна сказала Люба і, больш не зважаючы на эканомку, пачала павольна расшпільваць на халаце гузікі.

Агляд і сапраўды быў поўны, доктар Роберт, адчувалася, быў спецыялістам, як кажуць, шырокага профілю. Праз гадзіну ён вынес пісьмовы вердыкт (так патрабаваў пан Ганс) і як хірург, і як тэрапеўт, і як гінеколаг, і як акуліст, нават пералічыў зубы і пломбы на іх. Узяў аналізы крыві, а астатняе папрасіў Любу падрыхтаваць да заўтрашняй раніцы, папераджальна пакінуўшы пакаёўцы стэрыльныя бутэлечкі. Калі ён склаў усе свае прычындалы ў чамаданчык, Люба не вытрымала, спыталася:

— Ну, як?

— У вас, фройлен, выдатнае здароўе, пану Гансу гэта спадабаецца. Я асабіста не бачу аніякіх перашкод для выканання абавязкаў пакаёўкі. І ўсё ж канчатковае рашэнне будзе прынята праз два дні, калі будуць вынікі ўсіх аналізаў.

Люба, стоячы ля акна свайго пакоя, бачыла, як доктар у суправаджэнні фрау Эльзы ішоў да машыны. Эканомка, нешта імпульсіўна даказваючы, разпораз рэзка ўзмахвала рукой, доктар у адказ толькі ківаў сваёй вялікай і, здавалася, вельмі цяжкай галавой. Вось ён расчыніў дзверцы, абыякава кінуў ча-

маданчык на задняе сядзенне і, склаўшыся напалам, залез у машыну. Фрау Эльза стаяла пабач і ўсё гаварыла і гаварыла. Відавочна, гэтая размова добра такі надакучыла доктару, бо ён нечакана хуткім рухам правёў далонню па назе эканомкі ад калена і вышэй... Жанчына ад нечаканасці рэзка адхіснулася, зрабіла крок назад, і гэта яшчэ больш ускладніла сітуацыю, бо спаднічка ўзляцела ўгору, мільганула ніжняя бялізна. Раз'юшаная эканомка адштурхнула ад сябе руку доктара, але няўдала, пальцы машынальна ўхапілі прыпол, і ў наступнае імгненне не толькі пан Роберт, але і Люба ўбачылі карункавыя трусікі і белыя некранутыя загарам ногі. Але камічней за ўсё выглядала тое, што эканомка сама трымала ў руцэ прыпол спаднічкі і дэманстравала сябе. Адразу ж глуха чыхнуў рухавік, і машына, рэзка развярнуўшыся, імкліва пакідала месца стаянкі, доктар Роберт не спяшаўся зачыніць дзверцы і аж да самай паваротківі азіраўся на агаломшаную эканомку і скаліў свае перламутравыя зубы. Фрау Эльза ўжо ачомалася ад шоку і нешта крычала абразлівае наўздагон свайму каханку. А што яны каханкі, Люба цяпер не сумнявалася.

Патрабавальна-істэрычны званок як адштурхнуў Любу ад акна, і першае, што яна наважылася зрабіць, гэта гукнуць эканомку, усё ж менавіта яе клікаў гаспадар.

Гаспадароў покліч фрау Эльза не чула. Яна зірнула на гадзіннік, няспешна абедзвюма рукамі прыгладзіла і без таго як прылізаныя валасы і, загадкава пасміхаючыся, накіравалася да гаража. Ад злосці на доктара Роберта, якая яшчэ хвіліну таму агнём пякла грудзі, не засталося і следу. Менавіта дзёрзкім і цынічнім ён больш за ўсё ёй і падабаўся. З гаража яна зараз патэлефануе яму на сотавы і пачуе прабачэнні каханка за гэтую дзіцячую выхадку, а потым ён абавязкова прызначыць сустрэчу...

Званок звінеў несупынна, здавалася, вось-вось захліпнецца. І Люба наважылася. Яна хуценька апранула уніформу, накінула бялюткі фартух, які павінна была насіць, прыладзіла да валасоў карункавы какошнік, больш падобны да святочнага ўбрання, які звычайна чапляюць на Новы год снягурачкам, і, перасільваючы хваляванне, выйшла з пакоя.

Да гаспадарскіх пакояў яе штурхаў не толькі патрабавальны захлёбісты званок, а, напэўна, больш за ўсё таямнічасць і звычайная цікаўнасць. Заўсёды ў складаных жыццёвых сітуацыях Любе даводзілася прымаць самастойныя рашэнні, зрэшты, і тут, у Нямеччыне, у гэтым вялікім доме, яна не магла адчуваць сябе спакойна, не ведаючы свайго найміта, не пабачыўшы чалавека, які выклікаў яе з Мінска. У калідоры прыпынілася каля вялікага люстэрка і яшчэ раз агледзела сябе. Не ведаючы, як уладкаваць касу, яна перакінула яе некалькі разоў з грудзей на спіну і ўсё ж вырашыла, што на спіне будзе лепш, рашуча адчыніла дзверы ў пакой пана Ганса.

У прыцемненым вялікім пакоі, дзе практычна не было мэблі, калі не лічыць нешта падобнае на тахту ўздоўж сцяны, толькі вельмі нізкае і шырокае, у інваліднай калясцы сядзеў чалавек. Ён быў гэткі вялікі, што каляска выглядала дзіцячай, і першае, што падумала Люба, калі ўбачыла чалавека: «Як толькі гэтая канструкцыя не разваліцца пад агромністым целам». Люба знерухомела ў дзвярах, чакаючы нейкіх указанняў. Было відавочна, што гаспадар не чакаў убачыць у сваім пакоі незнаёмага чалавека, бо толькі разгублена лыпаў вачыма і з яшчэ большай апантанасцю ціснуў на кнопку пульта. Званок цяпер, здавалася, галасіў, ажно мурашкі папаўзлі ў Любы па скуры. Яна не толькі разгубілася, але і спужалася: што як зараз гэтае агромністае цела пачне крычаць? Вочы звыкліся з прыцемкам, што вітаў у пакоі, і Люба добра такі разгледзела свайго гаспадара, але ніяк не магла ўбачыць вачэй. Ёй у гэтыя хвіліны здавалася, што дастаткова іх толькі ўбачыць, і яна зразумее настрой пана Ганса, зразумее, ці правільна зрабіла, што праявіла ініцыятыву, прыйшоўшы сюды замест фрау Эльзы.

Нарэшце гаспадар ачомаўся, заварушыўся, каляска захісталася, жалобна зарыпела. Адразу звінець перастала, хоць у вушах яшчэ нейкі час гнятлівым перазвонам насілася рэха. У тое ж самае імгненне пад столлю пыхнула мнос-

твам яркіх лямпачак-светлячкоў крышталёвая люстра, падобная да вялікага прыплюснутага павука з мноствам лапак-гірляндаў.

Гаспадар, хоць і сядзеў у калясцы, але быў не ніжэйшы за Любу. Шыі быццам і не было, адразу да магутнага квадратнага тулава была як прылеплена касматая чорная галава, падобная на кавун. Няголеныя шчокі даўно ператварыліся ў чорную, як смоль, бараду, якая яму не пасавала, а пасмамі тырчэла ў розныя бакі і надавала неахайны выгляд. Доўгі кручкаваты нос, здавалася, вісеў над тоўстымі губамі, з-пад шырокіх зрослых на пераноссі броў пакаёўку прыдзірліва вывучалі вузка пасаджаныя трохі вірлаватыя вочы. Вялікія парослыя чорным валассём рукі нерухомымі кувалдамі ляжалі на каленях, і скрыначка-пульт у іх выглядала, па меншай меры, недарэчна.

«Гэткімі рукамі толькі молатам махаць»,— падумала Люба і прыгадала верацееўскага каваля Прохарчыка, які і кавадла цягаў без усялякіх цяжкасцей. Яна моўчкі чакала гаспадарскага загаду: усё ж яму нешта было трэба, калі гэтак настойліва клікаў фрау Эльзу. Паўза зацягвалася. Пан Ганс свідраваў Любу немігатлівым позіркам і маўчаў.

— Я ваша новая пакаёўка, — не вытрымала, першай парушыла маўчанне Люба. — Фрау Эльза праводзіць доктара Роберта... Я магу выканаць любы ваш загад...

Граміла нечакана крутнуў каляску і, так і не сказаўшы аніводнага слова, паехаў да акна. Люба зразумела, што з ёй не жадаюць гаварыць. Стала няёмка і нават сорамна: што цяпер яна скажа эканомцы, як растлумачыць свае паводзіны? Ёй жа катэгарычна было загадана не парушаць усталяванага парадку, не заходзіць на гаспадарскую тэрыторыю, бо гэта прэрэгатыва належыць толькі фрау Эльзе. Люба адчула, як чырвань залівае шчокі, падумалася найгоршае: «Цяпер могуць і звольніць...» Яна нясмела ступіла некалькі крокаў да выхаду, стараючыся быць нячутнай, выслізнула з пакоя і ... тут жа наляцела на эканомку.

— Званілі... а вас не было... — унікаючы позірку начальніцы, пралепятала Люба.

— Чакай мяне на кухні, — нядобра бліснулі вочы эканомкі.

Хоць кухня і зіхацела чысцінёй, але рукі самі ўхапілі анучку і пачалі церці газавую пліту, потым стол, шафкі... Да швабры справа не дайшла, нячутна ўвайшла эканомка і, сядаючы ў крэсла, без усялякай злосці сказала:

— Доктар гаварыў з гаспадаром пра цябе... Хваліў... Мы, немцы, здароўе ставім на першае месца, а яно ў цябе выдатнае... Пан Ганс, ну і я таксама, вырашылі не чакаць вынікаў аналізаў і дапусціць цябе да працы ў поўным аб'ёме, як тое прадугледжана кантрактам.

Люба, як паслухмяная вучаніца-школьніца, слухала эканомку моўчкі, з вінаватым выразам твару. Рукі, здавалася, у гэтую хвіліну ёй перашкаджалі, не ведаючы, куды іх дзець, яна міжволі знайшла ім занятак: машынальна расплятала і заплятала кончык касы.

—А яшчэ пан Ганс дазволіў табе раз на тыдзень тэлефанаваць у Беларусь за ягоны кошт. Мінск гэта будзе ці якое іншае месца, розніцы няма, толькі не больш двух мінут.

Толькі цяпер Люба ўспомніла, што цётка Клава прасіла яе адразу патэлефанаваць, як прыедзе на месца і ўладкуецца. У гэтай цётчынай просьбе быў свой падтэкст. Калі ў пляменніцы ўсё добра, яна павінна перадаць прывітанне бацьку, калі ж у Любы з'явіліся праблемы, і праблемы такія сур'ёзныя, што трэба бегчы ў міліцыю (у першую чаргу цётка Клава мела на ўвазе свайго каханка, участковага маёра міліцыі з дзіўным імем па бацьку — Ірэушавіч), яна павінна нагадаць, што не атрымала канчатковы разлік у трамвайным дэпо, і трэба схадзіць па грошы. Канспірацыю прыдумала цётка і, калі пляменніца ад'язджала, гаварыла толькі пра гэта і пераканаўча верыла ва ўсемагутнасць каханка, які зможа абараніць пляменніцу і ў Нямеччыне. Зрэшты, змог жа ён адвадзіць свайго папярэдніка, які некалькі год запар тэрарызаваў, не даваў цётцы Клаве спакойна жыць. Як толькі напіваўся, абавязкова прыязджаў да яе

і скандаліў. Да каго толькі ні звярталася, куды ні пісала, а з'явіўся Ірэушавіч — і ўраз праблему вырашыў. І не адну...

Па тым, як Люба разгублена паглядзела і даверліва ўсміхнулася, фрау Эльза зразумела, што патрапіла ў самую кропку. Каб замацаваць гэты давер, эканомка паблажліва дадала:

— Твае родныя могуць таксама тэлефанаваць і, канешне, без усялякіх абмежаванняў. Гаспадар толькі папрасіў, каб гэта было па мясцовым часе не пазней дзевяці ўвечары і не раней васьмі гадзін уранку.

Люба зірнула на гадзіннік, стрэлкі паказвалі на дзесяць. «Значыць, у Мінску цяпер восем, цётка праз паўгадзіны пойдзе на працу».

— А можна мне прама цяпер патэлефанаваць у Мінск? — аблізнуўшы імгненна сасмяглыя ад хвалявання вусны, спыталася яна.

— Канешне, — адразу пагадзілася эканомка. Яна зрабіла крок да століка, на якім месціўся чорны плоскі тэлефонны апарат, выцягнула з шуфляды тоўстую кнігу і, разгарнуўшы яе на закладцы, дадала: — Чырвоным падкрэслены код Мінска, я некалькі разоў тэлефанавала на фірму, якая шукала цябе для нас, — сказала і адразу накіравалася да выхаду, даючы пакаёўцы магчымасць без усялякага кантролю пагаварыць з раднёй. Праўда, у дзвярах прыпынілася і нагадала: — Памятай, не больш дзвюх мінут.

Званку цётка Клава шчыра ўзрадавалася, а яшчэ больш узрадавалася прывітанню, якое павінна перадаць бацьку. Люба спехам расказала пра дарогу ў Нямеччыну, пра тое, як яе добра тут сустрэлі (гэта больш тычылася вушэй фрау Эльзы, якая няшчыльна зачыніла дзверы і, верагодней за ўсё, была побач), прадыктавала нумар тэлефона, па якім цётка зможа тэлефанаваць хоць кожны дзень. Пачуўшы апошняе, цётчын голас імгненна змяніўся, дый Люба зразумела, што сказала лішняе.

— На «кожны дзень» ты, пляменніца, не разлічвай і рот не разяўляй, — раздражнёна перапыніла Любу цётка Клава, — я не багацейка, каб па заграніцах тарабаніць, а ты не прынцэса сірыйская, каб здароўем тваім штодня цікавіцца... Кантрольны званок я, канешне, зраблю, пераканаюся, што ў цябе ўсё добра, як ты кажаш... А будзеш вяртацца ў Мінск, парык мне за гэта прывязеш, ды каб пад бландзінку, кажуць, немчура іх робіць не з конскіх хвастоў, а з сапраўдных валасоў, чалавечых... Так што май гэта на ўвазе і, калі надумаеш адрэзаць касу, танна не прадавай, спярша пацікаўся коштам...

Цётка Клава слова стрымала, патэлефанавала ў той жа дзень, і фрау Эльза, перадаючы Любе слухаўку, грэбліва ўсміхнулася:

— Спытайся, якія цэны на чалавечыя валасы ў Мінску...

«Канешне, эканомка ранішнюю размову падслухала, — зразумела Люба, — і не пад дзвярамі , а з паралельнага тэлефона, што ў вестыбюлі... Інакш адкуль яна ведала б пра лухту, якую цётка плявузгала наконт каштарыса на валасы?»

Пачуўшы голас пляменніцы, цётка Клава адразу перайшла на канспіратыўную размову.

— Буду тэлефанаваць бацьку, што яму сказаць пра цябе?

— Перадай яму прывітанне і скажы, што ў мяне ўсё добра, — суха адказала Люба і, ведаючы, што сквапная цётка ў гэтыя хвіліны сочыць за секунднай стрэлкай гадзінніка, каб потым прадставіць ёй каштарыс, развіталася першай.

## 6

Трывожны, здавалася, бясконцы дзень змяніла беспрасветная задушлівая ноч, але і яна не прынесла чаканага спакою, наадварот, была для Айшэ нелітасцівай, прапахлай дымам і смуродам пажарышч і, галоўнае, бязмежна напоўненай болем. Яна, як планавала, не змагла ні сама перабрацца з разбуранага сутарэння, ні перанесці Лолу. Толькі што і паспела з дапамогай глуханямога ўладкаваць свякроў на свой ложак, як адышлі воды, і адразу падзеі дня

дый наогул ранейшае жыццё быццам саступілі месца новаму і нязведанаму. Здавалася, што ўсё ранейшае адбывалася не з ёй. Сяк-так уладкаваўшыся на падлозе, на месцы, дзе да гэтага начаваў Рыжы, Айшэ як змагла патлумачыла глуханямому, што трэба прывесці сюды жанчыну, і справадзіла малога на паверхню. Яна не была ўпэўненая, што хлопчык яе зразумеў, але больш ужо нічога зрабіць не магла... Боль не адпускаў ні на хвіліну, здавалася, яму было цесна ў целе і ён шукаў выйсця... Было душна і горача, пот засціў вочы, міжвольна з грудзей вырваўся крык... Айшэ спужалася гэтага крыку, спужалася, што яго пачуюць федэралы, і тады спраўдзяцца Лоліны і Рэнатавы папярэджанні... Перад вачыма імгненна ўзнік непрыемны барадаты твар Рэнатавага пасыльнага, які рассякаў паветра вялізным кінжалам і праз рэдкія зубы пагрозліва цадзіў: «Яны не пакінуць Цімуравага сына жывым...» Прыбег перапужаны Рыжы і, не разумеючы, што сталася з гаспадыняй, чаму яна, расхрыстаная і ўзмакрэлая ад поту, ляжыць у закутку на яголым матрасе, замітусіўся, ухапіў чайнік і пачаў плёскаць ваду ў твар Айшэ. Яна бачыла хлопчыка быццам у тумане і ніяк не магла дапетрыць, навошта ён гэта робіць, ваду ж трэба берагчы, хоць і прыемна адчуваць яе прахалоду. Нечакана стала лягчэй, туман пачаў развейвацца, і Айшэ, ужо напоўніцу ўсведамляючы складанасць сітуацыі, у якую трапіла, зноў замахала на малечу рукамі і колькі было сілы закрычала, каб ён прывёў жанчыну... Уся надзея была толькі на яго, і глуханямы, нарэшце, зразумеў... А мо ёй гэта толькі здалося...

Калі Айшэ зноў расплюшчыла вочы, ля яе ног завіхаўся чалавек у белым халаце, і ёй было напляваць, што чужы мужчына гладзіць і ціскае яе голы жывот. Яна недзе бачыла гэты зморшчаны старэчы твар у круглых акулярах з неймаверна тоўстымі шкельцамі, ад якіх вочы ўдвая павялічыліся і, здавалася, разглядваюць яе быццам праз павелічальнае шкло. Аднекуль здалёк данёсся глухі Рэнатаў бас, і Айшэ ніяк не магла зразумець: ці тое, што адбываецца з ёй, праўда, ці яна трызніць. Зрэшты, ёй было ўсё роўна, бо ў наступнае імгненне зноў усё зблыталася ў адно вялізнае і, здавалася, нерэальнае воблака цягучага цяжкага туману. Айшэ хацелася крычаць, і яна крычала, не стрымлівала сябе і не баялася, што нехта яе пачуе, крычала, і ў гэтыя імгненні боль, здавалася, адступаў...

«Рыжы, мне халодна, не пырскай у твар вадой», — спрабавала адмахнуцца ад глуханямога хлопчыка Айшэ, але гэта ёй ніяк не ўдавалася. Халодныя кроплі цяклі па лбе, скронях, шчоках, ручайкамі сцякалі на шыю. Непрыемна зябкай і ліпучай здавалася падушка. І ўсё ж прачынацца не хацелася, нешта падсвядомае падказвала: спі, інакш боль вернецца...

— Трызніць, нейкага Рыжага кліча, — сказаў незнаёмы голас. — Што, як і сапраўды кранецца розумам?

— Рыжы — гэта глуханямы малеча, — адказаў Рэнат і трошкі цішэй загадаў: — Не плявузгай абы-чаго, лепш сачы за доктарам, стары так і зыркае, каб сігануць у які куст.

— У мяне не сігане, куля ўраз дагоніць. А мо гэты доктар нас наўмысна палохае?

— Запомні: ён нам патрэбен жывы. І з Айшэ будзе ўсё добра, — зласліва і яшчэ цішэй прасіпеў Рэнат.

— Ты што, увесь гэты табар прывядзеш на базу? Хочаш звязаць атрад па руках і нагах? Ці не лепш жанчын з дзіцем пакінуць у якім-небудзь ауле, а доктара і глуханямога пусціць у распыл? Навошта нам сведкі?

Айшэ пачула пра дзіця, і забыццё як рукой зняло. «Я нарадзіла, я нарадзіла...» — затахкала ў скроні. Усё яшчэ не верачы пачутаму, яна спахапілася, рукі, міжвольна мацаючы цела, слізганулі ўніз... Жывата не было. Айшэ адразу паспрабавала ўстаць, але нечыя дужыя рукі імгненна прыціснулі яе да вільготнай падушкі.

— Дзе мой сын? — ухапіўшы руку, зашаптала Айшэ і, як ні было цёмна, усё ж пазнала Рэната.

— У цябе і сапраўды сын, — у самае вуха радасна зашаптаў Рэнат, — а ў

мяне найлепшы ў свеце пляменнік. З ім усё добра, а табе трэба ляжаць, нарадзіны былі цяжкімі, але, здаецца, усё абышлося. Мы цябе данясём...

Толькі цяпер Айшэ адчула гайданку, недзе ў нагах убачыла да непазнавальнасці размытыя дажджом і ноччу людскія сілуэты, на плячах якіх месціліся насілкі. Яна зразумела, што гэта нясуць яе, вось чаму так блізка быў да яе Рэнатаў твар. Дробны дождж сыпануў на непрыкрытыя шчокі, але цяпер ён не шкодзіў, наадварот, халодныя кроплі былі жаданымі, яны змылі апошнія імгненні трызнення і надалі рашучасці.

— У мяне сын! — аблізнуўшы сасмяглыя шурпатыя вусны, уголас сказала Айшэ. — Мой сын! Рэнат, я хачу яго ўбачыць...

— Ты яшчэ вельмі слабая, не здужаеш, — стомлена прасіпеў Рэнат. — Не хвалюйся, пляменнік у надзейных руках. Праз гадзіну мінём блакадныя пасты федэралаў і далей паедзем на машынах, там і сустрэнецеся.

Каля Рэната з'явіўся маленькі чалавек, якога Айшэ ўбачыць не магла, і толькі каптурок плашчоўкі на ягонай галаве, падобны на завостраную грыбную шапку, то знікаў, то зноў з'яўляўся побач з насілкамі..

— Яна цябе пазнала? — прагаварыў каптурок.

— Пазнала, — лагодна адказаў Рэнат і, прыкрываючы нявестку ад дажджу, падцягнуў і падсунуў пад яе плечы спярша коўдру, потым нешта шурпатае, відаць, таксама плашчоўку.

— Імя тваё назвала, ці як? — дапытваўся каптурок.

— Назвала, — адказаў Рэнат.

— А пра дзіця, што пра дзіця гаварыла?

— Патрабуе, каб прынёс маленькага ёй.

— Лоб памацай, ці ёсць тэмпература? — не сунімаўся чалавек.

— Што гэткім дажджом зразумееш, — абурыўся Рэнат, але да лба Айшэ дакрануўся. — Мокры ён у яе.

— Значыцца, усё прайшло добра, — не сунімаўся чалавек пад каптурком. — Выпадак выключна цяжкі, але, дзякаваць Богу, усё абышлося.

— Алах бароніць нашу сям'ю, — гучна, каб пачула і Айшэ, сказаў Рэнат. — Ён падараваў нам джыгіта...

— Бог даў, а нам гэткай слотай малечу трэба не прастудзіць і накарміць...

У гэты момант непадалёк расчалася страляніна, непраглядную цемень імкліва пераразалі, быццам падзялілі на часткі, трасіруючыя кулі, і адразу ў чорным небе ўспыхнулі асвятляльныя ракеты. Шэсце прыпынілася, але толькі на хвілінку.

— Усім да сцяны і сцішыцца! — загадаў Рэнат.

Ён мог гэтага і не гаварыць, бо тыя, хто нёс Айшэ, добра ведалі сваю справу і, хаваючыся, ужо туліліся сярод каменных глыб. Як толькі насілкі з Айшэ апынуліся на зямлі, каля яе адразу ж узнік чалавек у плашчоўцы з накінутым на галаву вострым каптурком. Ён паклаў жанчыне на лоб шурпатую халодную далонь, пальцамі другой рукі перацiснуў запясце. Пакуль планіравалі на зямлю асвятляльныя ракеты, Айшэ бачыла парослую рэдкім сівым шчаціннем скіўцу і вузкую палоску рота без вуснаў, быццам узятую ў палон шматлікімі старэчымі зморшчынамі.

— Не так і кепска, магло быць і горш, — пасля даўгаватага маўчання прашапялявіў чалавек, і Айшэ пазнала ў ім доктара, што быў у сутарэнні.

— Дайце мне сына, — папрасіла Айшэ. Яна спадзявалася, што доктар пераканае Рэната.

Асвятляльныя ракеты з нейкім змяіным шыпеннем падалі непадалёк, відавочна, у лужыны, і зноў цемень, здавалася, з яшчэ больш апантанай сілай праглынула разбомбленыя дамы, рэдкія дрэвы, людзей, што, хаваючыся, туліліся сярод каменных глыб.

— Слабая ты, можаш не ўтрымаць хлопчыка. А наогул, ты малайчына і сына нарадзіла здаровенькага. Багатыр!.. Каб сіла вярнулася, трэба паспаць... А прыйдзеце на месца...

Доктар не паспеў скончыць фразу, а можа, Айшэ і не пачула, бо ў гэтае ім-

гненне насілкі хістануліся раз, другі і, узляцеўшы ўгору, зноў занялі сваё месца на плячах нябачных маўклівых людзей. Словы доктара нечакана супакоілі Айшэ, яна адчувала сябе неймаверна стомленай і як бы развінчанай. Паспрабавала сціснуць кулачкі, каб адчуць у руках сілу, і не змагла. Зрэшты, пальцы ў кулак звяла, але ніякай сілы ў руках не адчула. «Трэба і сапраўды, пакуль нясуць, скарыстаць момант і паспаць, — падумала Айшэ, — я ж не ўтрымаю сыночка...» Хаваючыся ад дажджу, яна слізганула глыбей пад коўдру, нацягнула на галаву вільготнае крысо плашчоўкі, заплюшчыла вочы і сцішылася. Ёй і сапраўды ў гэты момант было пакойна на душы. Айшэ давярае Рэнату, а яшчэ больш чамусьці верыць гэтаму старому доктару. Ёй прыемна і радасна чуць, што яе сын вырасце здаровым і шчаслівым. Айшэ вельмі гэтага хоча... У наступнае імгненне чамусьці ёй бачыцца школа, у якой вучылася, і яна позніцца на першы ўрок. Айшэ бяжыць і штохвілінна зыркае на гадзіннік, яна бачыць, як спяшаюцца стрэлкі, а ногі зрабіліся быццам ватныя, зямля нейкая ліпучая, і ад гэтага кожны крок неймаверна цяжкі і балючы. Звініць званок, Айшэ з усёй моцы штурхае дзверы, і раптам ледзяное бязлітаснае святло балюча сцёбае па вачах. Нейкі час яна нічога не бачыць, толькі ружова-фіялетавыя кругі ў вачах. Айшэ чуе музыку і, калі асцярожна расплюшчвае вейкі, бачыць Цімура. Ён у дальнім кутку, бліжэй да аркестра. Твар, як заўсёды, суровы, вочы халодныя, у руках аўтамат. Ён вольнай рукой падзывае Айшэ, але нешта яе трымае, не адпускае. Яна спрабуе адмахнуцца і натыкаецца на нешта вострае, азіраецца, а за спінай Лола. Худое цела свекрыві абкручана калючым дротам, і адзін канец драціны ў руках Цімура. Ён цягне маці да сябе, Лола робіць маленькія крокі насустрач, пакідаючы на падлозе чорныя плямы крыві... Праходзячы міма, Лола, не паварочваючы галавы, кідае нявестцы: «Прачынайся, табе трэба ўнука карміць».

## 7

Іван Серада адчуваў сябе няўтульна, нешта як шкодзіла, быццам муляла, душа поўнілася неўсвядомленым раздражненнем, а ў пэўныя моманты нават гневам. Нейкі час ён не мог зразумець прычыны свайго неспакою, пакуль не пачуў галасы. Нехта гаварыў прыцішана і глуха, быццам бухаў у бочку, напалову запоўненую вадой, зрэшты, гэты нехта толькі падтакваў, а вось другі голас, ціхі, з прысвістамі, падобны на шыпенне змяі, здавалася, п'яўкай прысмактаўся да галавы, і кожнае слова абцугамі сціскала скроні з неймавернай сілай. Вось што яго раздражняла і выклікала абурэнне. У той самы момант, калі, як кажуць, цярпенне лопнула і Іван сабраўся ўжо крыкнуць, каб сціхлі і далі магчымасць спакойна паспаць, бо раніцай ён са сваім узводам павінен заступаць у каравул, нешта ў галаве як выбухнула: «Дзе я? Чаму не разумею сэнсу слоў? Дый галасы гэтыя чую ўпершыню... А раптам нас акружылі духі?» Адразу неспакой саступіў месца асцярожнай разважлівасці, левая рука слізганула да аўтамата, які заўсёды «спаў» побач, але звычную прахалоду металу не намацаў, рука нечакана праваліласся ў пустату. «Так і ёсць, абяззброілі, праспалі духаў... Толькі жывым не дамся, не на таго натрапілі... зараз будзе вам сюрпрыз...». Разумеючы, што за ім могуць назіраць, Іван асцярожна пасунуў руку да пояса, да патаемнай кішэні, у якой хаваў гранату, і нават ноччу не разлучаўся з ёй. Рука наткнулася на голае цела, імгненна стала горача, затахкала ў скроні: «Каб не ўцёк, распранулі...» Чакаючы ўбачыць здзеклівыя варожыя твары, няспешна расплюшчыў вочы, але замест звыклай зялёнай матэрыі палаткі над галавой убачыў высокую столь, па якой блукалі прывідныя начныя цені. У гэты момант нехта запаліў святло, і праз хвіліну над ім схілілася жаночая галоўка ў белым капялюшыку. Вялікія шэрыя вочы з трывогай абмацалі Іванаў твар і нечакана пацяплелі, заіскрыліся радасцю:

— Ачуняў, саколік, — зляцела з пульхных жаночых вуснаў.

Іван улавіў пах тытуню, таннай парфумы і... гарэлкі. Адразу засмактала пад лыжачкай, да няўсцерпку захацелася курыць.

— Дзе я? — прашаптаў Іван.

— Там, дзе і павінен быць, у шпіталі, — папраўляючы хвалістую пасмачку русява-попельных валасоў, якая выбілася з-пад капялюшыка, усміхнулася жанчына. — Зараз зраблю табе ўкольчык, і будзеш спаць, саколік, аж да самай раніцы...

Іван таксама ўсміхнуўся, але неяк вымучана і нясмела. Усведамленне таго, што ён не ў палоне, а ў сваіх, нечакана расчуліла, на душы зрабілася лёгка і спакойна, настолькі спакойна, што добрая і аднačасова пакутлівая цеплыня быццам перацiснула горла, і прыемным саленаватым камяком на міг заняло дыханне.

— Мне б п-пакурыць, — сілячыся пракаўтнуць здрадніцкую слабасць і ад таго заікаючыся, папрасіў Іван.

— Я, сынок, зраблю табе такі ўкольчык, які лепей і за цыгарку, і за чарачку...

— Пятроўна, шырні і мяне, — бухнуў бас.

— Табе гэты ўкольчык доктар адмяніў, вельмі хутка прывыкаць стаў. Ты, часам, траўку раней не смаліў? — штукуючы каля Іванавага пляча, незласліва, прыцішыўшы голас, сказала жанчына.

— Траўку, траўку, — перадражніў жанчыну бас. — У чалавека, ёлкі-палкі, гора, баліць і цела і душа, а вашаму доктару дзярма гэтага шкода... Ну, хоць дымедрольчыку з анальгінам можна?

— Дымедрольчыку можна, — пагадзілася медычка.

Іван скасіў вочы і, убачыўшы, як медычка ўставіла шпрыц у мутнавата-белую трубку, што тырчала, як здалося, ледзь не з самай шыі, занерваваўся, рукі міжвольна пацягнуліся да гэтай трубкі.

— Супакойся, саколік, — медычка пяшчотна пагладзіла яго па плячы, перахапіла руку, — табе яшчэ доўга тут ляжаць... І катэтар не чапай, лякарствы лепш праз яго ўводзіць, чым кожны раз вены калоць.

«Што са мной здарылася, чаму я ў шпіталі?..»

Гэтае пытанне нечакана і імкліва ўварвалася ў свядомасць, яно ўварвалася разам з гарачай і нейкай бязвольна-прыемнай цеплынёй, што імгненна разлілася, запаланіла цела. Іван хацеў запытацца ў медычкі і не змог, перад вачамі ўсё плыло і хісталася, здалося, ён бачыць, як рухаецца пад столлю дрыготкае паветра, а медсястра раптам, як дырыжор, пачала ўзмахваць рукамі, і адразу аднекуль здалёк, ад акна, у якое стукаліся месячык і начное зорнае неба, палілася мелодыя вальса, апошняга вальса, які ён танчыў са сваёй каханкай на праводзінах у войска. Іван з асалодай заплюшчыў пацяжэлыя вейкі, у гэтыя хвіліны ён не жадаў нікога бачыць і нічога чуць, акрамя музыкі.

Музыка знікла гэтак жа нечакана, як прыйшла. І зноў была ноч, і зноў Іван чуў прыглушаны бас і гугнявы з прысвістам шэпт. Праўда, цяпер галасы не раздражнялі, наадварот, было прыемна ўсведамляць, што ты не адзін, што нехта ёсць побач, і, галоўнае, знікла адчуванне штохвіліннай небяспекі, наўкол свае, і можна не хваляваца за жыццё, сваё і падначаленых.

... Духі... чэхі... вяртушка... засада... фугас...

Гэтыя словы з нейкім асаблівым націскам, а мо павагай, гугнявіў невядомы чалавек, а другі, згаджаючыся, іх паўтараў, басіў быццам наўмысна для Івана.

Цяпер Іван не прыслухоўваўся і не сіліўся зразумець, пра што гаманілі ў палаце, але гэтыя словы міжвольна ўразаліся ў свядомасць, дастукваліся да яго памяці, варушылі яе, пакуль канчаткова не вярнулі з небыцця. Здалося, быццам хтосьці нябачны — р-раз — і сарваў фіранку з вачэй... І ўсё, што шкодзіла, імгненна знікла... І ён успомніў падзеі апошняга боя да апошніх дробязей...

Кожную вуліцу Грознага, кожны лапік зямлі федэральныя войскі бралі з боем. Узвод Івана Серады толькі што заняў дом, а дакладней, тое, што ад яго засталося, і гэта была перамога. Яны першымі зачапіліся за стратэгічна выгадны плацдарм каля плошчы Мінутка і хутка занялі кругавую абарону. Ведалі, што праз гадзіну-другую іх паспрабуюць адсюль выбіць, не кідаць жа

стрэмку каля «сэрца». Так яно і здарылася. Недзе праз паўгадзіны варожая гаўбіца, расчышчаючы дарогу пяхоце, распачала метадычна абстрэльваць страчаны плацдарм. Іван перадаў па радыёстанцыі і свае каардынаты, і варожыя, узгадніў сумесныя дзеянні з камандзірам батальёна, але, як часцяком бывае на вайне, нешта не спрацавала, і замест варожых пазіцый артылерыя пачала абстрэльваць яго, а тут яшчэ і самалёты наляцелі...

Рыжага хлопчыка Іван убачыў, калі той пераходзіў вуліцу. Пачаў крычаць, але хіба можна нешта пачуць, калі наўкол вайна. Здзівіла, што малы не баіцца ні выбухаў, ні стрэлаў, здавалася, для яго зусім не існавала гэтага жахлівага пекла. Ён ішоў па вуліцы з чайнікам у руцэ і прастадушна ўсміхаўся. Раптам да малечы падбегла цяжарная жанчына, і ў гэты самы момант снарад трапіў у бліжэйшы ад іх дом. Спярша абрушылася страха, знікла імгнення і цалкам, быццам яе нехта праглынуў, усмактаў у сярэдзіну будыніны, потым захісталіся сцены. Жанчына, пужліва азірнуўшыся на слуп з дыму і агню, які шугануў у неба, ухапіла малога за руку і пацягнула прэч ад гэтага пагібельнага месца. У нейкі момант прапаршчык Серада таксама перастаў чуць вайну, уся ўвага была скіравана на сцяну, якая, пагрозліва хістануўшыся раз-другі, быццам выбіраючы месца, куды лепш паваліцца, пачала павольна хіліцца на ўцекачоў. Жанчына з хлопчыкам чамусьці беглі ўздоўж вуліцы, Іван бачыў, што яны не паспеюць мінуць разбомблены дом. Сцяна падала на іх, і паратунку, здавалася, не было. Невядомая сіла імгнення падхапіла Івана на ногі і кінула насустрач жанчыне з хлопчыкам. І адразу зацікалі над галавой кулі, фантанчыкамі ўздыбіўся асфальт каля ног, але гэтага Серада не бачыў і не чуў. Ён быў добрай мішэнню, стралялі з варожых пазіцый, і было відавочна, што не толькі ён назіраў за цяжарнай жанчынай і рыжым хлопчыкам з чайнікам у руцэ.

Серада як віхор наляцеў на ўцекачоў, аберуч абхапіў абодвух і сігануў да супрацьлеглага боку вуліцы, да адзінага месца, куды каменныя глыбы не даляталі. Ён паспеў налічыць усяго сем крокаў, як нешта злавесна-вострае апякло спіну, і адразу быццам шквальны вецер адарваў ад зямлі і, балюча штурхнуўшы ў плечы, кінуў на яе зноў. Падаючы, Серада бачыў вялікія аксамітна-чорныя вочы спалоханай жанчыны, ён чуў яе перарывістае дыханне, і раптам гэта ўсцешыла, у нейкі момант неспакойна-зацятая прастора, што акружала яго, пашырылася да непазнавальнасці, і на руках ён ужо трымаў не перапалоханых людзей, якія шукалі ратунку ад смерці, а сваю каханку... « Ты выбрала мяне...»— радасна прашаптаў Іван і, перш чым ён страціў прытомнасць, мяккае цяпло гаючым бальзамам пралілося ў спаралізаванае цела, напоўніла душу ціхамірнасцю і спакоем.

## 8

Любе хапіла тыдня, каб зразумець і да самых нязначных дробязей вывучыць абавязкі пакаёўкі. У першы дзень яна прыбіралася шэсць гадзін, у другі — чатыры, а на трэці ўправілася і за тры, чым вельмі ўсцешыла фраў Эльзу, хоць выгляду эканомка і не паказала. Працавітая і старанная пакаёўка ёй спадабалася з першай сустрэчы, але хваліць было не ў правілах пыхлівай, а часцяком да істэрычнасці правільнай немкі. Гаспадар усе гэтыя дні таксама меў добры настрой і свайго буянства ні ў чым не праявіў. Пасля недарэчнай сустрэчы з панам Гансам Люба неяк унутрана насцярожылася, у душу закралася пачуццё боязі, яна штохвілінна чакала непрыемных навін, лічыла, што з ёй могуць скасаваць кантракт, не дачакаўшыся заканчэння выпрабавальнага тэрміну. Але міналі дні, а пан Ганс ніяк сябе не паказаў, нават на вочы пакаёўцы не трапіўся, быццам наўмысна пазбягаў сустрэчы, ды й голасу ягонага да гэтага часу Люба так і не пачула. Зрэшты, Люба цяпер паводзіла сябе больш асцярожна і не кідалася на скрут галавы на гаспадаровы званкі-выклікі. Навучаная адзін раз, цяпер, што б ні здарылася, у гаспадарскія пакоі не заходзіла, заўсёды клікала эканомку. Звычайна пакоі пана Ганса Люба прыбіра-

ла, калі фраў Эльза гуляла з гаспадаром на вуліцы, катала яго на калясцы ці на машыне вазіла гаспадара-калеку ў Берлін на нейкія працэдуры.

Люба некалькі разоў спрабавала пагаварыць з фраў Эльзай пра доктара Роберта, які свайго абяццання не выканаў і праз тры дні ў доме не з'явіўся. Не й не, ды прамільгне неспакойная думка: «Чаму доктар гэтак доўга не прывозіць вынікі яе аналізаў?» Ліпла з гэтым пытаннем і да эканомкі, але тая толькі адмахвалася і кожны раз казала адно і тое: «Каб было нешта кепскае, доктар Роберт даўно быў бы тут... Ён за цябе, за тваё здароўечка грошы атрымлівае і, павер, вельмі добрыя грошы!» Любу гэткі адказ супакойваў, але ненадоўга.

Любе раз на тыдзень належала браць выхадны, і гэта было абумоўлена кантрактам. Выхадны яна магла выкарыстоўваць па-свойму, як захоча. Праўда, у Любы ніякіх асабістых планаў нават не ўзнікала, зрэшты, напачатку, пакуль не абжывецца і не прывыкне да мясцовых парадкаў, і не магло ўзнікнуць, але фраў Эльза паклапацілася і першая павяла рэй пра Любін адпачынак. Напярэдадні нядзелі, у суботу, эканомка яшчэ за сняданкам спыталася, як Люба хоча скарыстаць заўтрашні вольны дзень, і, не чакаючы, што адкажа пакаёўка, прапанавала звазіць Любу ў Берлін на экскурсію, а заадно зрабіць «налёт» на магазіны. Люба толькі засмяялася ў адказ:

— Якая з мяне налётчыца без капейчыны ў кішэні? А потым, я прыехала зарабляць грошы, а не траціць.

Фраў Эльза ажно прышчоўкнула ад задавальнення языком, калі пачула словы пакаёўкі. Ёй усё больш і больш падабалася гэтая беларусачка. Але ж і яна павінна выконваць свае абавязкі, а якраз экскурсіі з пакаёўкай у выхадныя і святочныя дні былі пазначаны ў яе асабістым кантракце і аплочваліся чамусьці ўдвая больш. Таму і не магла фраў Эльза дазволіць Любе сядзець дома.

— Дарога да Берліна і назад табе бясплатная, — трошкі памаўчаўшы, сказала эканомка. — Зрэшты, ці варта быць гэткай катэгарычна строгай да сябе? Думаю, у дробязях ты не павінна сябе абмяжоўваць, маладая прыгожая дзяўчына абавязана мець нешта шыкоўнае з апраткі, раптам пан Ганс ці ягоныя бацькі захочуць запрасіць гасцей?

— Не толькі радка, нават пункціка няма ў кантракце наконт таго, што я павінна ўлагоджваць і красавацца перад гаспадаровымі гасцямі. Мая справа — прыбіраць дом, мыць посуд, паліваць кветкі...

— А калі цябе папросяць папрысутнічаць не як служанку, што тады? Хіба ты зможаш адмовіць па той прычыне, што ў цябе няма чаго апрануць? Я ж таксама не з неба звалілася, кумекаю, што да чаго. Уяві, што па заканчэнні тэрміну працы ты атрымаеш поўны разлік і, што ні кажы, а без магазінаў не абыдзешся, тут жа шмоткі нашмат таннейшыя, чым у Мінску. Ці варта адкладваць пакупкі на апошні дзень, калі можна загадзя і без усялякай спешкі набыць усё, што трэба. А потым, ты ж павінна будзеш нешта расказаць дома. Хто паверыць, што ты жыла два гады ў Нямеччыне, усяго ў сарака кіламетрах ад Берліна і ні разу не была ў горадзе, не бачыла Брандэнбургскіх варот? Калі ёсць магчымасць сумясціць прыемнае з карысным, сумяшчай. І грошы ў цябе ўжо ёсць, пан Ганс адкрыў на тваё імя крэдыт наяўнымі ў тысячу марак, канешне, з улікам канчатковых разлікаў.

Трошкі падумаўшы, Люба пагадзілася. Зрэшты, ёй і самой вельмі хацелася пабыць у Берліне, паглядзець горад, дый эканомка гаварыла пераканаўча, некалі ўсё роўна прыйдзецца швэндацца па магазінах і нешта купляць, дык чаму б і сапраўды гэта не зрабіць цяпер?

У нядзелю раніцай, а шостай гадзіне, фраў Эльза вырулiла свой «фольксваген» з гаража. Ужо седзячы ў машыне, калі бязгучна апусціліся вялізныя гаражныя дзверы і эканомка, зручней уладкаваўшыся побач, шчоўкнула рэменем бяспекі, Любу нечакана працяла трывожная думка: «Хто будзе прыглядваць за панам Гансам?»

— Выхадныя супадаць у нас з табой будуць не заўсёды, — сказала фраў Эльза і, перш чым завесці рухавік, высакавата падцягнула прыпол спаднічкі.

Легкадумнасць, з якой эканомка агаліла стройныя, пакрытыя роўным залацістым загарам ногі, ніяк не пасавала яе строгасці, якую прывыкла бачыць Люба. Дзяўчына шырока расплюшчанымі вачыма паглядала на фрау Эльзу, і тая, зразумеўшы прычыну гэтага здзіўлення, весела засмяялася:

— Гэта, — яна пляснула далонямі па сцёгнах, — паратунак ад паліцэйскіх. Мужчыны паўсюль аднолькавыя, што ў Расіі, што ў Казахстане, што тут... Калі правілы дарожнага руху парушу, убачаць і нават правы не патрабуюць. Каторы пагергеча, нехта блазнавата пальцам пагрозіць, самы нахабны — візітоўку дасць... Пераймай, Люба, вопыт, вучыся, пакуль ёсць у каго...

— А як жа пан Ганс? — не жадаючы надалей працягваць «вучобу», пераняла Люба размову на тое, што хвіліну таму хвалявала.

— Ганс, зрэшты, не дзіця, — выпаліла фрау Эльза і, відавочна спужаўшыся сваёй смеласці, імгненна патлумачыла: — Сёння ў яго будуць госці, — эканомка кінула на Любу насцярожаны позірк і, каб пазбегнуць магчымых пытанняў, шматзначна дадала: — За ім будзе каму прыглядзець, два разы ў месяц ён выправаджвае ўсю абслугу і застаецца адзін. У яго параліч ног, а астатнія часткі цела працуюць як трэба...

«Усё ж гэта гаспадар запланаваў паездку ў Берлін, — падумала Люба і, убачыўшы, як засяроджаная і зноў строгая фрау Эльза шмарганула спаднічку на каленкі, пашкадавала пра ўзнятую гаворку. — Зрэшты, што мне за справа да гаспадаровых гасцей?» І толькі цяпер Люба ўцяміла, пра што сказала ёй эканомка.

— Дык ён чакае жанчыну?..

— Т-с-с, — фрау Эльза прыклала палец да вуснаў і, азірнуўшыся на акно, у якім заўсёды маячыла постаць пана Ганса, быццам ён мог іх пачуць, падміргнула: — І, як звычайна, не адну... Самае слабае месца ў яго — ногі, на другім месцы — галава, а астатняе працуе добра... Ты і сама зразумееш, калі заўтра будзеш прыбіраць ягоны пакой і знойдзеш каля дзесятка прэзерватываў.

Не пачутая навіна ўразіла Любу, а тое, як фрау Эльза яе сказала, з якой відавочнай іроніяй і нават знявагай.

— Па тэлефоне заказвае прастытутак, — працягвала фрау Эльза, — а ў сутэнёраў умова: каб ніхто староннні іх не бачыў, нават прыслуга. Думаю, працуюць нелегалы, а ім, зразумела, сведкі не патрэбны.

Люба адразу ўспомніла Ірыну, дзяўчыну, з якой разам ехалі ў Нямеччыну, узгадаліся яе любошчы ў Польшчы з рэкецірамі ў чорным «мерседэсе», і адразу адчула, як халодныя мурашы прабеглі па спіне, стала холадна і няўтульна.

— Паехалі, — умольна прашаптала яна, — гэта нават лепш, што нас тут не будзе.

Да Берліна яны даехалі даволі хутка. Праз апушчанае шкло Люба ва ўсе вочы разглядвала сучасныя вуліцы, шырокія і шматгалосыя, з высачэзнымі хмарачосамі, якія, здавалася, зляплены з аднаго шкла, але ні на адным прыпынку фрау Эльза не спынілася. Яе быццам магнітам прыцягвалі старыя вулачкі і вузкія закуткі, на якія машынам было забаронена заязджаць. Пакінуўшы машыну, Люба, поўная ўражанняў і захаплення, цэлы дзень хадзіла следам за эканомкай і слухала спадарожніцу пра яе продкаў, якія калісьці жылі ў Берліне і, магчыма, на адной з гэтых вулачак. Наведвалі і магазіны, але як экскурсанткі, фрау Эльза нічога купляць не дазваляла, раіла набрацца цярпення, бо на выездзе з горада ёсць магазін, дзе тавары значна танней і якасці не горшай.

— Кожны горад мае свой пах, сваю энергетыку і свайго святога абаронцу, — нечакана зрабіла выснову фрау Эльза, — і, на мой погляд, гэта можна адчуць толькі наведаўшы царкву, старую частку горада, старажытны музей, чыгуначны вакзал і хоць бы адзін з тэатраў... Інакш горад не зразумееш, і ён цябе не прыме. Як кажуць, на сваёй скуры адчула. Калі я сюды прыехала, то паўгода баялася адысці ад дома, каб не заблудзіцца. Толькі да бліжэйшай крамы дарогу і ведала, а потым старая немка, таксама з рускіх, навучыла.

— Я жыць тут не збіраюся, — сказала Люба, разумеючы, да чаго хіліць хітрая эканомка.

— Хто ведае, што з намі будзе праз тыдзень, месяц, год, — перасмыкнула плячамі фрау Эльза і, летуценна ўсміхнуўшыся, паблажліва дадала: — Зрэшты, сёння мы добра такі нашморгаліся абцасамі і, як кажуць матросы, да бляску надраілі брукаванку старога горада. Так што знаёмства ў цябе пачалося. Наступны раз наведаем музей старадаўняй зброі і гэтак далей... А ў тэатры, — яна нечакана падміргнула Любе, — б'юся аб заклад, ты мяне сама пацягнеш, калі, канешне, да таго часу не знойдзеш больш вартага суправаджальніка...

— Якога яшчэ суправаджальніка? — абурылася Люба.

— Вось гэтага я не ведаю, але па тым, як на цябе азіраюцца хлопцы, бачу: адна ў тэатр ты не пойдзеш...

— Можа, нам трэба вяртацца? — не жадаючы больш гаварыць на гэтую тэму, абурана сказала Люба.

— І то праўда, — зірнуўшы на гадзіннік, адразу пагадзілася эканомка. — Пакуль датэпаем да стаянкі, заедзем у магазін ды вырулім за горад — дзве гадзіны пройдзе.

У магазіне фрау Эльза настояла, каб Люба прымерала некалькі сукенак і пакінула тую, што ёй спадабалася, потым сама выбрала туфлі і нават ніжнюю бялізну. Калі Люба ўбачыла цэтлік з каштарысам, міжвольна замахала рукамі на прадаўшчыцу: «Найн, найн... гэта вельмі дарага...» Але эканомка павяла сябе дэспатычна і на Любіны пярэчанні аніякай увагі не звярнула. Зрэшты, што магла зрабіць Люба, калі грашыма распараджалася фрау Эльза.

Калі выйшлі з магазіна на вуліцу і пакавалі клункі ў машыну, да іх скіравала жанчына ў форме паліцэйскага. Спыніўшыся за некалькі метраў, яна рашуча тыцнула пальцам спярша ў дарожны знак, на якім быў пазначаны час дазволу стаянкі на прыпынку, потым на гадзіннік, умураваны над уваходам у магазін, і, выцягнуўшы занатоўнік з вузкай чорнай сумкі, што вісела на шырокім паясным рэмені побач з пісталетнай кабурой, разгарнула яго. Жанчына-паліцэйскі вырвала з занатоўніка лісток, які аказаўся квітком аплаты штрафу, і моўчкі падала яго фрау Эльзе. Эканомка таксама зірнула на гадзіннік і, разгублена вінавацячыся, прамармытала:

— Усяго на пяць хвілін затрымаліся...

Ад пачутага пярэчання ў ахоўніцы парадку знішчальным гневам бліснулі вочы. З відавочным намерам пакараць яшчэ і за тое, што з ёй спрачаюцца, яна зноў разгарнула занатоўнік.

— Найн, найн, — імпэтна замахала рукамі фрау Эльза і хуценька выцягнула грошы.

— А вы ёй свае ногі пакажыце, мо пальцам паківае ці спатканне прызначыць... — не стрымалася, помсліва ўпікнула эканомку Люба, «аддзячыла» за трату грошай.

Амаль усю дарогу дадому ехалі моўчкі. Фрау Эльза толькі кідала на Любу ледзяныя позіркі і цяжка ўздыхала. Калі звярнулі з галоўнай магістральнай шашы, яна не вытрымала:

— А ты, Люба, злая.

— Вы таксама...

Люба, хоць і чакала гэтай размовы і была падрыхтаваная да яе, усё ж не стрымалася:

— Ашчаслівіла, дабрадзейка... Патраціла мой крэдыт на непатрэбнае барахло і паводзіць сябе так, быццам нічога не здарылася...

— Люба, мы купілі не барахло, — абурана ўскрыкнула фрау Эльза. — Вы мне яшчэ дзякуй скажыце...

На «вы» эканомка пераходзіла толькі ў крайніх выпадках, калі вельмі хвалявалася ці хацела падкрэсліць начальніцкую перавагу над пакаёўкай. Люба зразумела, што сказала лішняе, але ёй вельмі карцела даведацца яшчэ пра адно:

— Вас пакаралі справядліва і, спадзяюся, што грошы на штраф не будуць узятыя з майго заробку?

— Вы скупянда і, як мне здаецца, няспраўная, пераплюнулі нават мяне, немку... А пану Гансу я нічога не скажу, не ў маіх інтарэсах, так што можаце не хвалявацца.

— Я не скупянда, я ашчадная, і грошы мне патрэбны для іншага...

Фраў Эльза гаварыла праўду, але вэрхал, які пабачыла Люба ў доме пасля наведвання «гасцей», яе не здзівіў, у сваім жыцці, у бацькоўскім доме ёй даводзілася бачыць сапраўдныя Садом і Гамору. Памыць газавую пліту, змесці са стала, так, менавіта змесці венікам, бо недаедкі, недакуркі, усохлыя кавалкі хлеба, шмаццё каўбас, аскепкі бітага шкла не падлягалі расфасоўцы, для іх шлях адзін — у сметніцу. Потым трошкі мыльнай пены на анучку, і праз дзве гадзіны кухня зноў зіхаціць чысцінёй. Ёсць яшчэ і асвяжальнік паветра, пахучы апельсінавы дэзадэрант, які канчаткова распраўляецца з гасцямі пана Ганса, «забівае» нават пах тытуню, ад якога, здавалася, не будзе ратунку.

Эканомцы гэтым разам не пашэнціла, і яна ў Любінай прысутнасці пастарэчы перабольшана шматзначна вохкае:

— Не свае абавязкі выконваю... Не пакаёўкай я сюды наймалася...

Вохкае, але робіць, не пярэчыць гаспадару, які Любу чамусьці ў свае пакоі не пусціў, і фраў Эльзе давялося самой там прыбірацца. Люба, радая такому павароту, у думках дзякуе пану Гансу, што аскепкі сваёй распусты прымусіў прыбіраць Эльзу, а не яе. З яе хапіла і бруду, пакінутага сутэнёрамі, дзяржаўную прыналежнасць якіх адразу зразумела, як толькі ўбачыла кухонны стол. Для Любы з дзяцінства знаёмая карціна, калі ў адной талерцы і кансерва, і каўбаса, і хлеб, і нейкая зеляніна, і ўсё гэта перасыпана цыгарэтным попелам, і ў дадатак з хлебнага мякішу тырчыць скамечаны недакурак. Адразу ўзгадаўся бацькаў сябрук Федзька, які, шукаючы апахмелкі, яшчэ прыцемкамі ўтаўчэцца ў хату, выкалупне з мякіша недакурак, дрыжачымі рукамі яго прысмаліць, а потым перагледзіць усе бутэлькі і зліе кроплі ў мутны ад тлушчу двухсотграмовік. Кульне ўчарашнія недапіткі ў шчарбаты рот і закусіць усохлым мякішам, з якога толькі што выкалупваў недакурак.

Спаць клалася пазней звычайнага. Прыняла душ і не сцярпела, выцягнула клункі з сённяшнімі пакупкамі, прымерала. Сукенка выглядала яшчэ больш шыкоўнай, чым у магазіне. Яно і зразумела, не чаплялася вока за іншыя рэчы, не было з чым параўноўваць. Крой выгадна падкрэсліваў Любіну фігуру, і чырвоны колер ёй вельмі пасаваў. Прымерала туфлі і, назіраючы за сабой у люстэрка, прайшлася па пакоі. «Эх, убачыў бы мяне такую Іван...» — падумала Люба і спынілася, рукі пацягнуліся да касы, пачалі яе расплятаць.

— Люба, гэтае, як ты сказала, барахло, вельмі табе пасуе, — прыхільна сказала, нячутна ўвайшоўшы, фраў Эльза і, наблізіўшыся, паспрабавала расправіць складачкі на плечыках сукенкі. — І наконт крэдыта можаш не хвалявацца, ён застаецца некранутым. Сённяшнія пакупкі лічы падарункам...

«Яна зноў увайшла без дазволу і ў самы нязручны момант», — абурана падумала Люба, але, убачыўшы, з якім замілаваннем эканомка разглядвае яе, абурэнне стрымала, толькі скрушна ўздыхнула:

— Маглі б і пастукаць...

І тут да Любы дайшоў сэнс апошніх слоў фраў Эльзы. Яна крутнулася да эканомкі:

— Як гэта — падарункі?

— Вось так. Я расказала пану Гансу аб прычыне нашага з табой непаразумення, і ён зрабіў падарунак... Ён харошы чалавек, табе вельмі шанцуе... А я, дурніца, магла і болей чаго накупіць, толькі хто ведаў наперад, што ўсё так атрымаецца?

— Не трэба мне ніякіх падарункаў, — рашуча запярэчыла Люба. — Няхай гаспадар вылічвае грошы з майго заробку.

— Ну, гэта твая праблема. Я зайшла сказаць, што заўтра раніцай пан Ганс адпраўляе мяне ў Берлін, — імгненна змяніла тэму гаворкі фраў Эльза, — да

сямейнага банкіра. Вярнуся ў другой палове дня, так што спраўляйся тут без мяне.

Раніцай Люба падхапілася раней звычайнага. Расхінула фіранкі на вокнах і ажно зажмурылася ад яркага залацістага сонца. Адчыніла дзверы на балкон і, здалося, што разам з ранішняй прахалодай і мядовым водарам ліпаў, што з усіх бакоў абступалі будыніну, на поўныя грудзі ўдыхнула і добры настрой. Стрэлкі насценнага гадзінніка паказвалі на палову шостай. У гэты момант нешта бразнула ўнізе пад разгалістай вербалозінай, быццам зачынілі дзверцы машыны, і Люба ўбачыла «фольксваген» эканомкі з запацелым шклом. Побач з машынай фрау Эльзы, якую эканомка паспела ўжо выгнаць з гаража, блішчэў блакітным перламутрам «мерседэс». Каля расчыненых дзверцаў чужой машыны стаяў невядомы Любе чалавек, які зверху здаўся ёй тоўстым і нейкім як запаволеным у рухах. Чалавек глядзеў на цэнтральныя ўваходныя дзверы ў дом, відавочна, некага чакаючы. «Разаспалася паненка, — упікнула сябе Люба, — не пачула нават машыну...» Яна паспела толькі апрануць халат, як у дзверы пастукалі.

— Люба, адчыні, гэта я, — гукнула фрау Эльза.

Эканомка ў пакой не ўвайшла, а, як толькі Люба скінула засоўку і прачыніла дзверы, фрау Эльза, унікаючы вачэй пакаёўкі, з нейкай перабольшанай рашучай цвёрдасцю ў голасе паведаміла:

— Нечакана прыехалі родзічы пана Ганса, а маю загадзя запланаваную паездку ў банк адмяніць нельга.

— Бацькі пана Ганса таксама прыехалі? — спыталася Люба.

— І бацькі таксама... У іх нешта накшталт сямейнай рады.

— Я спраўлюся, — адразу зразумела клопат эканомкі Люба. Хваляванне фрау Эльзы імгненна перадалося і ёй, што ні кажы, а для пакаёўкі гэта экзамен, і экзамен ці не галоўны. Бацькі гаспадара яшчэ не прыязджалі, іх Люба бачыла толькі на фотаздымках. І, зразумела, што экзаменатарам будзе маці пана Ганса. — Лядоўні поўныя, а плітой і мікрахвалёўкай я карыстацца ўмею. Ды й меню пана Ганса ведаю... Ёсць чым гасцей частаваць...

Фрау Эльза ўважліва паглядзела Любе ў вочы, цяжка ўздыхнула:

— Ты вось што...— на шыі эканомкі праступілі чырвоныя плямы, першы знак хвалявання. Яна нервова пераступіла з нагі на нагу, машынальна паправіла карункавы каўнерык белай кофты і нечакана, зусім па-мужчынску секанууўшы паветра рукой, відавочна, прыняўшы нейкае важнае рашэнне, выпаліла: — Рызыкаваць не трэба, закажы абед у рэстаране, няхай прывязуць гатовае.

— Добра, закажу, — здзіўленая паводзінамі начальніцы, адразу пагадзілася Люба і паспрабавала яе супакоіць: — Вы не хвалюйцеся, я насамрэч спраўлюся, але рэстаран дык рэстаран.

Люба хутка прывяла сябе ў парадак, але з пакоя нікуды не пайшла, ведала: гаспадар, калі прыязджаў нехта староннi, заўсёды званіў, выклікаў фрау Эльзу да сябе. Яна бачыла, як эканомка кінула ў багажнік велікаватую сумку і, угледзеўшы Любу ў акне, развітальна памахала рукой. Квадратны чалавек усё тоўкся каля сваёй машыны, праўда, цяпер ён гаварыў з некім па тэлефоне.

Люба, хоць і чакала званка, усё ж, пачуўшы яго, здрыганулася, яшчэ раз агледзела сябе ў люстэрку і ў апошні момант похапкам падмалявала вусны, чаго ніколі раней не рабіла. Любе вельмі хацелася зрабіць ураджанне на родзічаў пана Ганса, асабліва на ягоную маці, зрэшты, не ўвесь час ёй наканавана быць пакаёўкай. Яна здольная і шмат чаму навучылася ў фрау Эльзы. Думка пра будучыню вярэдзіла Любіну душу. Два гады мінуць хутка і, калі яна сёння спадабаецца некаму з родных пана Ганса, ёсць шанц, надзея, што яе могуць запрасіць і ў эканомкі. А чаму б і не? Вунь фрау Эльза некалі таксама была пасудамыйкай.

Шафёр, які яшчэ некалькі хвілін таму быў на вуліцы і тоўкся каля машыны, цяпер стаяў каля ўваходных дзвярэй. Ён, і сапраўды, быў што ў вышыню, што ў шырыню, — аднолькавы:

— Гутен таг, — праходзячы міма яго, павіталася Люба.

Чалавек і брывом не павёў, як і не чуў, толькі пякучы, учэпіста-ліпкі позірк слізгануў па ёй, абмацаў, быццам рэнтгенам прасвяціў.

«Ахоўнік, — здагадалася Люба і адразу ўспомніла фраў Эльзу, якая расказвала, што родзічы ў пана Ганса вельмі «крутыя». — Трэба ім спадабацца, раптам, і сапраўды, глянуся як будучая эканомка.» Дзверы ў гаспадарскі пакой былі, як заўсёды, зачыненыя з сярэдзіны на аўтаматычны замок. Люба пастукала і, дачакаўшыся, калі глуха, як камень у ваду, булькнула зашчапка, увайшла.

У пакоі, акрамя пана Ганса, які чамусьці сядзеў не ў інваліднай калясцы, як заўсёды, а ў мяккім крэсле, было яшчэ тры чалавекі. Хлопцы прыблізна аднаго ўзросту, гадоў трыццаці, чарнявыя, чыста паголеныя, у дарагіх гарнітурах, пры гальштуках. Яны сядзелі на канапе ў аднолькавых позах, закінуўшы нага на нагу, і ад таго здаліся Любе падобнымі адзін да аднаго. «Напэўна, браты, — падумала Люба, — калі не родныя, то стрыечныя.» Люба павіталася і пабегала позіркам па пакоі, шукаючы маці, якую добра сабе ўяўляла па фотаздымку, які стаяў у пана Ганса на стале. Фотаздымак быў на месцы, а вось ні маці, ні бацькі ў пакоі не было.

— Ты некага шукаеш? — спытаўся пан Ганс.

Люба здзіўлена паглядзела на гаспадара, голас якога за два тыдні працы пачула ўпершыню, і ён ёй не спадабаўся: мала таго, што гугнявы, дык яшчэ і шапялявы. Чамусьці падумала: «Калі пана Ганса падстрыгчы, пагаліць ды апрануць у касцюм, як у братоў, ён таксама будзе ніштавата выглядаць». А ўголас разгублена, з трывогай запыталася:

— А дзе вашыя бацькі, фраў Эльза сказала, што і яны прыехалі?

— Ты, Люба, прысядзь, — па-руску, толькі з акцэнтам, сказаў адзін з братоў і павольна, з адчуваннем сваёй значнасці, устаў з канапы, зрабіў крок насустрач. — Як кажуць, у нагах праўды няма.

Ён выцягнуў з кішэні тоўстую цыгару, адкусіў кончык і, ухапіўшы яе зубамі, пстрыкнуў запальнічкай. Пыхнуўшы дымам раз-другі, зрабіў яшчэ крок насустрач Любе. Нядобра зарыпелі маснічыны пад нагамі.

Хлопец быў настолькі высокі і магутны, што, здавалася, запоўніў сабой увесь пакой. Люба ў першыя хвіліны нават разгубілася. Маючы рост сто семдзесят пяць сантыметраў, яна дацягвала толькі да ягонай грудзіны і цяпер знізу ўверх глядзела на волата. Ёй было не па сабе, імгненна ўзнікла адчуванне трывогі, безабароннасці, неўсвядомленай залежнасці ад гэтага чалавека і нават страху. Хлопец, быццам адчуўшы яе сполах, адступіў, але цяпер не толькі рыпнулі маснічыны, але і дзынькнулі крышталёвыя фужэры на стале, якія абступілі пузаты графін, напоўнены бурштынавай вадкасцю, як піскляты квактуху. Чарнявы двума пальцамі, вялікім і ўказальным, узяў цыгару, Любін позірк міжвольна слізгануў услед за бела-сінім струменьчыкам дрыготкага дыму, і ў нейкі момант яна ледзь не ўскрыкнула ад здзіўлення. Яе ўразілі неймаверна доўгія рукі, шызы дымок цяпер курэў каля самых хлопцавых каленяў. Чорныя немігатлівыя вочы працягвалі вывучаць дзяўчыну, і яна адчувала іх халодны дотык. Люба паспрабавала паглядзець хлопцу ў вочы, але позірк нечакана зачапіўся за кручкаваты нос і як прыклеіўся да ўздрыгваючых ноздраў. У нейкі момант ёй пачало здавацца, што гэты хлопец да яе яшчэ і прынюхваецца.

— Прысядзь, Люба, — пыхнуў дымам чарнявы.

Яна зрабіла крок назад і нечакана згубіла раўнавагу, бо ў гэты самы момант нехта нябачны падсунуў пад ногі крэсла, якое адразу і з пяшчотай увабрала ў сябе цела дзяўчыны. Убачыўшы, якімі шальмоўскімі, неспакойнымі вачамі на яе ногі глядзяць гаспадаровы браты, яна паспешліва нацягнула прыпол спаднічкі на калені, шчокі імгненна заружавеліся. Любе было нязвыкла ад гэткай перабольшанай мужчынскай увагі, хоць у душы і прыемна. Некалькі хвілін у пакоі панавала цішыня, якую парушала толькі перарывістае, сіпучае дыханне пана Ганса і размеранае ціканне ходзікаў на сцяне.

Хлопец з цыгарай сеў на канапу насупраць Любы і, скасіўшы вочы на графін, сказаў:

— Плісні каньячку.

Люба падхапілася, нарэшце знайшлася работа, але той, хто быў за яе спінай, адразу паклаў рукі на плечы і ўстаць не дазволіў.

З канапы няспешна ўстаў адзін з гаспадаровых братоў і, увесь час пазіраючы на Любу і па-блазенску скалячыся, падышоў да стала, пяцярнёй згроб графін і разліў каньяк у чатыры фужэры.

— Налі і Любе, — загадаў велікан.

— Я не п'ю, — дрыжачымі вуснамі сказала Люба і, шукаючы падтрымкі, шырока расплюшчанымі вачамі паглядзела на гаспадара: — Пан Ганс...

Больш яна сказаць нічога не паспела, грымнуў смех... Не смяяўся толькі здаравяк, ён няспешна цадзіў каньяк і калючым, нерухомым позіркам лыпаў на Любу. Ёй па-сапраўднаму стала страшна.

— А ты нават прыгажэйшая, чым на здымках, — сказаў здаравяк і пыхнуў цыгарай. — І тварам свежая, адразу відаць — несапсаваная...

— На якіх здымках? — прашаптала Люба і адчула, як халадком кальнула пад сэрца, невыразны, загадкавы страх імгненна напоўніў душу супярэчлівымі і трывожнымі пачуццямі.

— Слон, хопіць ламаць камедыю, — стрымліваючы смех, бухнуў той, што наліваў каньяк. — Пакажы ёй здымкі...

— Слон? — здзіўлена паўтарыла Люба.

Яе вочы яшчэ больш акругліліся, усё наўкол замітусілася, як спіцы ў веласіпедным коле, людзі ператварыліся ў нейкія злыя прывідныя цені і паплылі... Паплылі, хто куды: здаравяк з цыгарай некуды ўгору, ажно пад самую столь, пан Ганс, седзячы ў крэсле, адарваўся ад падлогі і танчыў у паветры, нават пузаты графін з каньяком нечакана крутнуўся з донца на рыльца, але вадкасць з яго чамусьці не вылілася. Люба адчула, што яе хіліць долу, і яна не можа гэтаму супраціўляцца, ды й не хоча. Але нейкая сіла не дазволіла павваліцца, яе моцна трымалі за плечы, перад вачамі нечакана ўзнік зыркасты фужэр з бурштынавым напоем, і ў наступны момант нехта націснуў на сківаіцу, расчыніў ёй рот і перакуліў у яго пахучую вадкасць...

Імгненна апякло, перахапіла дыханне, з вачэй пырснулі слёзы. Люба замітусілася, затузалася, хацела выплюнуць брыдоту, але зрабіць гэтага ёй не дазволілі. Тыя ж моцныя рукі сціснулі сківаіцы і трошкі адхіліўшы галаву, прытрымалі, ажно пакуль не праглынула каньяк. Потым тое ж самае зрабілі яшчэ раз і яшчэ, ажно пакуль яна не аціхла і не перастала вырывацца. Калі расплюшчыла вочы, у галаве кружылася, але аніякіх прывідаў больш не было. На канапе насупраць у тых самых паставах, што і напачатку, калі ўвайшла ў пакой, сядзелі госці пана Ганса. Гаспадар у крэсле трошкі зводдаль. Цяпер яны ўсе былі нечым усхваляваныя, але злымі не здаваліся.

— Бык, яна па-сапраўднаму самлела, відаць, нервенная і нутром хілая, — сказаў нябачны Любе чалавек, які стаяў за яе спінай і трымаў за плечы. — Глядзі, каб розумам не кранулася...

— Не кранецца, — ашчэрыўся хлопец з цыгарай у руцэ. — Яна дзеўка вясковая, костка моцная... Ды й каньяк добра выпрамляе мазгавыя звіліны. Вунь ужо і зенкамі міргае так, што дай Любашы здымачкі, няхай палюбуецца...

«Бугай з цыгарай — Бык, нехта з іх — Слон... — мільгалі думкі ў Любы. — Дык гэта ж мафія, а ніякія не гаспадаровы браты... І пан Ганс — заложнік... Бядак, сядзіць прышыблены, нават варухнуцца не можа... Калеку не пашкадавалі, адабралі каляску і, каб не рыпаўся, кінулі ў крэсла... Трэба паліцыю выклікаць, але ж як? Божачкі! Што цяпер са мной будзе?! Хоць бы фрау Эльза хутчэй прыехала... Не верыла я сваёй цётцы, што ў іх тут сам чорт не разбярэ, што творыцца, яшчэ і смяялася, кіношнікаў вінаваціла, маўляў, яны ўсялякіх страхаў панавыдумлялі... А ўсё аказалася праўдай... Мафія наляцела сярод белага дня!..»

Як з неба на прыпол спадніцы зваліліся каляровыя здымкі, Люба глядзела на іх і баялася ўзяць у рукі. Той, хто трымаў за плечы, нечакана злосна засоп, страсянуў яе, рыўком згроб фотаздымкі і, сунуўшы іх дзяўчыне, жорстка рыкнуў у самую патыліцу:

— Сюды глядзі...

Любіны дрыжачыя пальцы не ўтрымалі слізкія бліскучыя лісты, яны выслізнулі з рук і веерам рассыпаліся па падлозе. Імгненна з канапы сарваўся адзін з «братоў» і, падхапіўшы некалькі здымкаў, гнеўна зароў на Любу:

— Ты дурніцай не прыкідвайся, сказана: глядзі — значыць глядзі...

Перапужаная Люба шырока расплюшчанымі, невідушчымі вачамі глядзела на фотаздымкі. Раптоўныя імклівыя слёзы імгненна засцілі вочы, гарачымі ручайкамі пацяклі па шчоках, закапалі на гэтыя брыдкія здымкі, якіх яна яшчэ не бачыла, але ўжо ўсёй душой узненавідзела. Шукаючы падтрымкі, Люба паглядзела на гаспадара. Пан Ганс, па-блазенску скалячыся, нечакана ўзняўся з крэсла, паблажліва паляпаў па плячы бліжэйшага ад яго хлопца і накіраваўся да дзяўчыны. Ён прысеў каля Любіных ног, ажно хруснулі суставы.

— Ён ходзіць... ходзіць... — адчайна зашаптала Люба і адчула, як гарачыя далоні абхапілі пад спадніцай яе сцёгны. Апошняе, што яна пачула, гэта непрыемны пах з рота гаспадара і ягоныя словы:

— Вось і ўсё, як кажуць: фініта ля камедыя...

## 9

Прачнулася Айшэ гэтак жа нечакана, як і заснула. Яна адразу ўцяміла, дзе знаходзіцца, імгненна ўзгадала падзеі гэтай непрыветна-трывожнай ночы і апошнюю размову з Рэнатам. А яшчэ неспакойна стукала ў грудзях сэрца. Нейкі час ляжала з заплюшчанымі вачамі і ніяк не магла пазбавіцца ад хуткацечнага насланння, убачанага ў сне: Цімур з аўтаматам на грудзях цягне да сябе маці, абкручаную калючым дротам, і Лола не супраціўляецца, пакорліва ідзе, а сляды на падлозе крывавыя... І раптам Айшэ ўзгадвае апошнія словы свекрыві: «...Табе трэба ўнука карміць».

Айшэ адкінула з твару плашчоўку, паспрабавала прыўзняцца і не змагла, бо ногі аказаліся нашмат вышэй галавы. Усё гэтак жа ў такт цяжкім крокам хісталіся насілкі, імжыў дробны дождж, наўкол цёмна, нічога не відаць, і толькі той, хто цёгся наперадзе, быў намнога вышэйшы за тых, хто, усё часцей і часцей спатыкаючыся, сіпіць побач з галавой Айшэ. Яна варушыцца, робіць яшчэ адну спробу прыўзняцца, і зноў нічога не атрымліваецца: нешта трымае ў грудзях. Міжвольна мацае цела і разумее, што не гара, на якую цягнуць насілкі, вінаватая ў тым, што не можа прыўстаць. Рукі натыкаюцца на тоўстую вяроўку, якой яе прывязалі да насілак.

Айшэ не раздумваючы гукнула Рэната.

— Ціха, не крычы, — з цемры праваруч адказаў нябачны Айшэ чалавек, але насілкі адразу паставілі на зямлю.

— Развяжыце мяне, — ухапіўшы бліжэйшага чалавека за халяву гумовага бота, ціха, з бояззю сказала Айшэ.

Над ёй адразу нехта схіліўся, і праз некалькі хвілін Айшэ адчула, як сашморгнула з грудзей вяроўка, і ўсё той жа голас незадаволена прабурчэў:

— Адпусці нагу, мы прыйшлі, далей паедзем на машыне.

Адразу каля Айшэ з'явіўся невысокі чалавек у доўгай, да самых пят, плашчоўцы з ужо знаёмым вострым капялюшыкам-каптурком над галавой. Ён не дазволіў Айшэ не тое што ўстаць, нават прыўзняцца.

— А табе, дарагуша, трэба ляжаць, — рашуча перапыніў ён спробу Айшэ злезці з насілак на зямлю. — Зацягнуць і ў машыну, калі ўжо сюды данеслі.

Побач з імі прайшоўся нехта з ліхтарыкам. Цьмянае, жаўтавата-шэрае святло слізганула па насілках, трошкі даўжэй затрымалася на твары чалавека, які схіліўся над Айшэ.

— Не давяраюць, — пасміхнуўся незнаёмец і іранічна дадаў: — І правільна робяць, каб не ты, даўно б сігануў у які куст...

Святла хапіла, каб Айшэ пазнала доктара.

— Вы — доктар, вы прымалі ў мяне роды...

— Ну, не зусім каб доктар... Фельчар я, але табе, дарагуша, усё роўна пашэнціла, што мяне знайшлі Рэнатавы архараўцы, інакш...

— Дайце мне майго сына, — узмалілася Айшэ.

— Маладзец, — задаволена прыцмокнуў языком стары і, паклаўшы шурпатую далонь жанчыне на лоб, дадаў: — Усё памятаеш, але ў нейкі момант і мяне, старога, напужала, думаў, збрэндзіла... Ад болю, вядома... А сына не прасі, гарачая ты, тэмпература яшчэ высокая, так што будзе лепш, калі нейкі час сыночак твой пабудзе асобна... А паказаць пакажам. Зараз, як толькі ў машыну загрузімся, дык і ўбачыш свайго джыгіта. Цяпер жа лякарства трэба прыняць... Рэнат маладзец, пастараўся, знайшоў не толькі антыбіётыкі, але і таблеткі для скарачэння маткі.

Айшэ паслухмяна з прыкрасцю глытала горкія таблеткі, запівала іх з фляґі цеплаватай вадой, ад якой патыхала тванню і хлоркай. Калі гэтая працэдура была скончана, доктар схаваў флягу за пазуху і выцягнуў адтуль апельсін. Айшэ не бачыла пачастунак, але, як толькі ён пачаў абіраць лупіны, адразу адчула яго пах.

— А цяпер больш прыемнае і карыснае для душы, і асабліва для цела, — весела сказаў доктар. — Апельсінчык — тое, што трэба... Па-першае, вітамін, па-другое, гаркату ад таблетак пераб'еш.

— Як вас завуць? — спыталася Айшэ, з асалодай глытаючы саладкаватую, сакавітую мякаць, амаль не жуючы.

— Пятровічам, мілая...

У гэты момант пачуўся шум рухавікоў, і праз некалькі хвілін непадалёк рыпнула тармазамі вялікая машына з будкай, яшчэ адна спынілася далей. Насілкі з Айшэ адразу падхапілі, і праз некалькі хвлін яна апынулася ўсярэдзіне будкі. У столі змрочна і неяк нясмела міргала маленькая, на доўгім цокалі лямпачка, але святла хапіла, каб Айшэ ўбачыла, як у кузаў запіхнулі яшчэ адны насілкі, у якіх ляжала Лола, потым, крэкчучы, залез доктар, і апошнім, з вялікім кошыкам у руках, імкліва сігануў барадаты гвардзеец са злымі пачырванелымі вачыма. Пальчаткі прыкрывалі толькі кісці ягоных рук, а ўчарнелыя ад бруду і сажы пальцы заставаліся голымі. На ягонай шырокай грудзіне матляўся аўтамат з кароткім ствалом і без прыклада, на вайсковым паясным рэмені, як браты-блізняты, туліліся адна да адной тры рабрыстыя гранаты, збоку блішчэла лязо кінжала. Гэткі кінжал з крывым лязом Айшэ ўжо бачыла ў Рэнатавага пасланца, які збіраўся кастрыраваць глуханямога.

Доктар адразу забраў з рук гвардзейца кошык і строга загадаў:

— Дзверы зачыні.

— Маўчы, няверны, тут я аддаю загады, — імгненна вызверыўся барадач і, ухапіўшы доктара за каршэнь, страсянуў так, што ў старога ледзь кошык з рук не выслізнуў.

— Тады сам і лячы хворых жанчын, — гнеўна бліснуў вачыма доктар і, паставіўшы на падлогу кошык, у якім заварушылася, зарумзала немаўля, дадаў: — І Рэнатавага пляменніка даглядай таксама.

— Пакажыце мне сына, — прыўзнялася, пацягнулася да кошыка Айшэ.

— Няхай ён спярша дзверы зачыніць, — спадылба зірнуўшы на гвардзейца, пакрыўджана ўзбычыўся доктар. — Нельга на скразняках малому...

Гвардзеец меўся зноў запярэчыць, але, зірнуўшы на Айшэ, зніякавеў, буркнуў нешта неразборлівае па-чэчэнску, абыякава махнуў рукой, маўляў, рабіце што хочаце, мая справа — вас ахоўваць, і пасунуўся да дзвярэй. У гэты момант рухавік чыхнуў, выплюнуў з выхлапной трубы воблака чорнага смярдзючага дыму, якое адразу, быццам пыласосам, усмакталася ўсярэдзіну будкі. Патыхнула прытарным смуродам перагарэлай саляркі і гумы. Дым, брудна-шэрымі шчупальцамі чамусьці пацягнуўся да кошыка, да немаўля, быццам збіраючыся там атабарыцца.

— Што я казаў?.. — ускрыкнуў Пятровіч і, падхапіўшы кошык, узняў яго над галавой, каб дым не трапіў на малога. — Калі гэткі не прастудзіць, дык абавязкова атруціць...

— Рускі, прыкусі язык, — не паварочваючы галавы, рыкнуў чэчэнец і, зачыняючы дзверцы, зласліва дадаў: — Інакш можаш яго згубіць...

У гэты момант машына кранулася з месца, будка хістанулася, доктара павяло ўправа, да зялёных драўляных скрыняў, што туліліся ўздоўж сцен будкі. Айшэ ўскрыкнула, перапужаная тым, што стары не ўтрымае кошык з малым, але Пятровіч паспяхова прызямліўся на адну са скрыняў побач з маці малечы і, як ні ў чым не бывала, ашчэрыў шчарбаты рот:

— От, цяперака можаш зірнуць на свайго карапуза.

Хлопчык сцішыўся, перастаў плакаць, быццам зразумеў, што зараз расхінуць шэрую вайсковую коўдру, возьмуць яго на рукі і нарэшце пакормяць.

— Трэба цыцку маломе даць, — выцягваючы дзіця з кошыка і перадаючы яго Айшэ, сказаў Пятровіч. – Канешне, кепска, што ў цябе высокая тэмпература, але ж не паміраць яму з голаду... Ды й ты сама павінна нешта з'есці...

Ён зірнуў на барадатага гвардзейца, які таксама сядзеў на гэткай жа, як і сам доктар, скрыні, толькі не зялёнай, а белай, з чырвоным крыжам пасярэдзіне і, унурыўшы долу калматую галаву, немігатліва разглядаў свае гумовыя боты, з якіх на падлогу нацякла вялікаватая лужына. На каленях ён трымаў аўтамат, на паясным рэмені гойдаўся вялізны кінжал без похваў і глуха стукаў аб металічную засоўку на скрыні.

— Гэй, Ахмед... — гукнуў доктар, — ты сядзіш на міжнароднай дапамозе... Адарві свой зад ад чырвонага крыжа і паглядзі, што там ёсцека з ежы.

— Я нэ Ахмед і ніколі ім не быў... А для цябе, рускі, я — начальнік...

— Паслухай, — доктар абурана зірнуў на Айшэ, — растлумач хоць ты гэтаму «начальніку», што ён павінен слухацца мяне. Так сказаў Рэнат.

Айшэ ў гэты момант нічога не чула і нікога не бачыла. Дрыготкімі ад хвалявання і слабасці рукамі яна няспрытна прытуліла да сябе малечу і ніяк не магла наважыцца не тое што прыкласці яго да грудзей, але нават трымаць на руках. Галава ў малога не ўтрымалася і неверагодна адкінулася, спіна нечакана правалілася паміж далоняў Айшэ, а калі ён раптам заварушыўся і падаў слабы пісклявы голас, маладую маці ажно затрэсла ад страху.

— Мамачка мая, — міжвольна вырвалася ў Айшэ, — мне страшна, ён жа гэткі маленькі...

— Ну, як ты трымаеш сына? — Пятровіч імгненна пераключыў свой гнеў на жанчыну. — На руцэ павінен ляжаць, спінка на далоні. Трымай роўненька, каб галоўка не запракідвалася. — Ён падхапіўся на ногі і, не зважаючы на перапалоханую Айшэ, паклаў дзіця так, як лічыў патрэбным. — А цяпер цыцку давай, што зенкамі лыпаеш?

— Мамачка, я ж яе не выцягну, рукі ж занятыя, — узмалілася Айшэ, яе вочы напоўніліся слязьмі.

— Ну і дзяла-а! — забіраючы малога з рук жанчыны, прабурчэў доктар. — Напэўна, калі дзіця рабіла, дык дапамогі ў маці не прасіла...

Доктар хацеў яшчэ нешта сказаць, але, убачыўшы, як па шчоках Айшэ пацяклі, закапалі на коўдру буйныя слёзы адчаю, адразу зніякавеў, голас памякчэў:

— Ты, унучачка, супакойся і маю балбатню не слухай. Ведай, што ніхто, акрамя цябе, твайго сыночка не пакорміць... А ён бач, які малайчына, не крычыць, раток адкрыў і чакае... Ён чуе цябе... Так што будзь смялей, я малечу патрымаю, а ты акуратна расшпілі гузікі і выцягні адну цыцку... І ніякага страху тут няма, вось пабачыш...

Айшэ рабіла ўсё, як казаў гэты зарослы рэдкім сівым шчаціннем доктар, а ў скроні тахкала адно: «Не паміраць жа сыночку з голаду...» Побач нерухома ляжала Лола і, часта-часта міргаючы, глядзела на нявестку. На яе вуснах пры кожным выдыху надзімаліся і адразу лопаліся цяпер ужо крывавыя пухіры, барада чырвоная, гэткая ж і марля на грудзях, якую Айшэ яшчэ ўвечары паклала свекрыві, і да гэтага часу ніхто яе не замяніў. Лолін твар у мігатлівым

іржавым святле здаўся яшчэ больш худым і жоўтым, быццам воск, запалыя вочы шугалі нездаровым пакутлівым агнём. Яна ўсё бачыла, чула, разумела...

І нешта як надало рашучасці Айшэ. Пальцы перасталі дрыжэць, рухі зрабіліся ўпэўненымі, яна хутка вызваліла ад апраткі грудзі, узяла хлопчыка ў доктара і вольнай рукой усунула набухлы сасок сыну ў рот, быццам рабіла тое тысячу разоў. Малы нясмела, яшчэ неспрактыкавана засмактаў, і Айшэ адразу як апякло, цёплая хваля напоўніла душу жанчыны нязведанай дагэтуль любасцю і пяшчотай. Нясцерпны боль і нягоды, спустошанасць і расчараванні, якія давялося перажыць, зніклі, і, галоўнае, знікла пачуццё безвыходнасці, быццам ніколі і не поўнілі душу, не вярэдзілі яе свядомасць. У гэтае імгненне для яе ўсё стала ясным і зразумелым, жыццё ў адначассе набыло сэнс, яно да астатку напоўнілася клопатам, і клопат гэты цяпер вучыўся смактаць матчына малако.

Стары фельчар убачыў, што справа зрушылася, задаволена крактануў, адвярнуўся, каб не бянтэжыць маладую маці, і адразу наткнуўся на шальмоўскасквапныя вочы барадача-ахоўніка, які стаяў за ягонай спінай і, па-блазенску скалячыся, глядзеў на Айшэ.

— А ты, басурман, што бельмы вылупіў? — ускіпеў Пятровіч і адразу прыкрыў далонню рот, каб не напужаць ні малечу, ні маці. — Вось раскажу Рэнату, куды зенкі пяліш, ён тваім жа кінжалам і адшморгне табе тое самае месца...

Ці ад гэтых слоў, ці ад таго, што ў гэты момант на чарговай ухабіне машыну добра такі страсянула, барадача падкінула, і ён, стукнуўшыся галавой аб столь кузава, імгненна крутнуўся да свайго месца, да скрыні з чырвоным крыжам.

Малы закруціў галоўкай, неяк зусім па-даросламу закрактаў і, адмовіўшыся есці, заплакаў.

— Пятровіч, што з ім? — устрывожылася Айшэ.

— Малака яшчэ не хапае, — азваўся фельчар, — давай другую цыцку, няхай рассасвае...

Ён скоса зірнуў на ахоўніка, запытаўся:

— Там, куды едзем, карова ёсць?

— У нас усё ёсць, — важна адказаў барадач, — а чаго няма сёння, будзе заўтра, ведаем, дзе ўзяць...

— І ўсё ж паглядзі, чым напакаваная скрыня, на якой сядзіш, дасць Бог, не аўтаматамі, — міралюбіва папрасіў ахоўніка Пятровіч. — Айшэ трэба добра есці, інакш малака не будзе.

— Ён заснуў, — падала голас Айшэ, — што рабіць далей?

— Значыцца, пад'еў, — кіруючы да жанчыны, сказаў Пятровіч, — пакладзём яго ў кошык, няхай малеча дрыхне... Цяпер для карапуза патрэбны толькі сон ды цыцка.

Натужліва ракатаў матор, машына, часцяком прабуксоўваючы, з цяжкасцю караскалася ўгору. У нейкі момант насілкі з Айшэ і Лолай пасунуліся да задняй сценкі, зарыпелі, хістануліся скрыні, аднекуль выкулілася пустая гільза ад гаўбічнага снарада і па жалезнай падлозе з непрыемным бразгатаннем падкацілася пад ногі барадатаму гвардзейцу-ахоўніку. Ён павольна ўзняўся, трохі пастаяў, нахмурыўшы лоб, відавочна, абдумваючы, як замацаваць санітарныя насілкі, каб не соўгаліся. Прыняўшы пэўнае рашэнне, ён адсунуў насілкі з Айшэ на месца, няспешна зняў скрыню, якая больш за астатнія гойдалася, і падторкнуў ёю ляжанку жанчыны. Потым гэтаксама ўмацаваў і насілкі з Лолай.

Калі ахоўнік выцягнуў кінжал, сэрца ў Лолы страпянулася, толькі цяпер яна ўспомніла пра глуханямога. Яна азірнулася, спадзеючыся ўбачыць Рыжага ў нейкім дальнім закутку будкі, але было зразумела, што хлопчыка тут няма, інакш яе памочнік даўно б паказаўся на вочы, і Лоле твар абмыў бы, і крывавую марлю памяняў.

— Са мной быў хлопчык, дзе ён? — з трывогай у голасе спыталася яна ў фельчара.

— Рэнат глуханямога трымае каля сябе, едуць у той, другой машыне, — адказаў Пятровіч.

Ён сядзеў на скрыні, трымаючы на каленях кошык, у якім спаў сын Айшэ, і ўважліва сачыў за тым, як ахоўнік сваім вялізным крывым кінжалам уздзірае дошкі са скрыні з гуманітарнай дапамогай. Было чуваць, як рыпяць цвікі, калі барадач, падчапіўшы дошку спярша лязом кінжала, а потым кароткімі, тоўстымі пальцамі, аддзіраў яе ад скрыні. Дошкі былі прыбіты моцна, нават вельмі, бо, калі трапляўся сучок, яны не вытрымлівалі і з трэскам ламаліся на тым месцы. Назіраючы за чэчэнцам, Пятровіч зрабіў выснову, што ён чалавек гаспадарлівы, во нават цвікі пазагінаў, перш чым адкінуць у кут адарванае і паламанае ламачча. Нарэшце рука ў скуранай пальчатцы з голымі пальцамі слізганула ў скрыню, і ахоўнік пачаў выцягваць з сярэдзіны пакеты розных памераў, у асноўным медыкаменты. Ён перабіраў пакеты, некаторыя разглядваў на свет. Фельчар зразумеў, што барадач нешта шукае, і не памыліўся.

— Во! — радасна ўскрыкнуў ахоўнік, — малако парашковае, значыцца, карова не патрэбна...

Ён перакінуў пакет з рукі на руку, быццам узважваючы, і, прыжмурыўшы вочы, шматзначна паглядзеў на Пятровіча:

— Так і скажаш Рэнату, не то сам будзеш яе пасвіць і даіць. — Ахоўнік трохі памаўчаў, перасцярожліва зірнуў на Айшэ і, убачыўшы, што нявестка камандзіра спіць, нахіліўся да Пятровіча і пагрозліва прасіпеў у твар: — Ты будзеш пасвіць карову, а я буду пасвіць цябе... Кумекаеш, што да чаго?.. А цяпер уяві: раптам мне здалося, што ты хочаш збегчы? Як думаеш, што я зраблю?..

— Канешне, кумекаю, — спакойна адказаў фельчар, — карову і з верталёта можна ўбачыць...

— Маладзец, дзед, — барадач паблажліва паляпаў Пятровіча па плячы і, усміхнуўшыся, дадаў: — Я не хачу цябе страляць, ну, можа, толькі чут-чут рэзаць...

— Дастраляліся ўжо... Што адны, што другія... — буркнуў фельчар і, торкнуўшы кошык з малым барадачу ў рукі, накіраваўся да Лолы. — Трымай камандзірскага пляменніка ды не разбудзі. Каб што добрае рабіць, а то страляць ды рэзаць?.. На баб сваіх паглядзіце... — адной рукой мацаючы пульс на шыі, а другой выціраючы хворай скрываўленую бараду, раздражнёна выпаліў Пятровіч. — Хіба гэта жытка?! Ні нарадзіць па-людску, ні памерці...

Ахоўнік не паспеў ні абурыцца, ні запярэчыць. У гэты момант закрактала, заварушылася немаўля, і барадач стрымаўся, пракаўтнуў сваю нянавісць да рускіх, да федэралаў, якія не даюць магчымасці жыць яму, яго народу так, як яны хочуць. Ён на выцягнутых руках, як нешта найкаштоўнейшае, трымаў кошык, а вочы палыхалі нянавісцю і крыўдай.

— Мы — вольныя людзі, — выдыхнуў чэчэнец і, скрыгатнуўшы зубамі, сеў на скрыню, унурыў галаву ў плечы, насупіўся. Рукі міжвольна сціснулі кошык, ды так моцна, што затрашчалі лазняковыя пруткі.

— Усе мы аднолькава вольныя, — пальцамі растапырыўшы Лоле вейкі і слепавата прыжмурыўшыся, разглядваючы яе вочы, заклапочана сказаў Пятровіч. — Ад гэткай волі дзецца няма куды. Ты вольны, але чамусьці ўцякаеш, і мяне, таксама вольнага, з сабою цягнеш, за кумпанію... Толькі чамусьці я ў цябе пад дулам аўтамата... Вось дык воля ў нас з табой атрымліваецца!.. Але хопіць пра гэта, трэба машыну спыніць, зусім жанчыне кепска... Памірае яна.

Барадач, нядоўга думаючы, паставіў на падлогу кошык з малым, адкінуў з дзвярэй засоўку і, тузануўшы затвор аўтамата, высунуўся напалову на двор, відавочна, спрабуючы «пальнуць» у паветра і гэтак прымусіць шафёра спыніцца.

— Ну і балда... — зразумеўшы намер ахоўніка распачаць страляніну, прабурчэў Пятровіч і адчайна махнуў рукой, маўляў, рабі, што хочаш.

Але ў апошні момант нешта спыніла чэчэнца. Мо ранішняя шэрань, праз якую ён добра такі разгледзеў дарогу і бліжэйшае кустоўе, за якім адразу пачынаўся лес, а мо і пачуццё самазахавання? Што, калі федэралы пачуюць і за-

пеленгуюць? Хаця ў гарах гаспадары яны, чэчэнцы, але ад няма чаго рабіць рускія шмаргануць з гармат проста так, дзеля прафілактыкі... Машына рухалася ўгору гэтак марудна, што Ахмед, імгненна ацаніўшы сітуацыю, саскочыў на зямлю і, закінуўшы аўтамат за спіну, подбегам кінуўся да кабіны.

Да слыху Пятровіча даляцелі галасы, і адразу машына затузалася, зарыпелі тармазы, рухавік, гыркнуўшы, чыхнуў і заціх, і зноў чорнае воблака дыму захінула ўваход у будку. Святла амаль удвая паменела, відавочна, гэта залежала ад работы рухавіка, лямпачка заміргала часцей.

Айшэ прачнулася ад нязвыкла-даўкай цішыні, і хуткацечны трывожначуйны сон, больш падобны да забыцця, яшчэ нейкі час трымаў у сваіх ліпучых абдымках. Яна млява павяла вачыма па сценах будкі, трошкі даўжэй позірк затрымаўся на лямпачцы ў стале, потым угледзела Пятровіча, і парадзіху як токам працяла: адразу ўзгадала, дзе яна і што з ёй адбылося.

— Мы прыехалі? — аблізнуўшы сасмяглыя, набухлыя і да крыві пакусаныя вусны, заклапочана спыталася Айшэ, і напружаны, учэпісты позірк замітусіўся ў пошуках кошыка, у якім спаў сын. Цяпер яна пачувалася амаль што добра, толькі злёгку кружылася галава і хацелася есці.

— Не... — адказаў фельчар і больш нічога патлумачыць не паспеў, бо ў гэты момант у дзвярах узнікла Рэнатава постаць. Стары азірнуўся і на нямое пытанне, што ўбачыў у разгубленых, шырока расплюшчаных вачах чэчэнца, сказаў праўду:

— Твая маці памірае...

Пятровіч саступіў Рэнату месца на ўваходзе і па ягоным знаку пасунуўся ўслед. Айшэ ўжо трымала сына на руках і ўстрывожана, спадылба пазірала на Лолу, якая нечакана расплюшчыла вочы, убачыла Рэната, які, стоячы на каленях, схіліўся над ёй. Лола пазнала сына, яе вусны ледзь прыкметна варухнуліся, і зноў у куточках рота заружавелася крывавая пена, буйная чырвоная кропля выкацілася з ноздры. Грудзі цяжка з прысвістам прыўзняліся, у іх нешта забулькала, і Лола зноў заплюшчыла вейкі і, як здалося Рэнату, заплюшчыла іх назаўсёды.

— Доктар, што рабіць?.. — адначасова шукаючы і парады і паратунку, адчайна ўскрыкнуў Рэнат. — Ёсць жа ўколы, парашкі... Тут поўныя скрыні лепшых замежных лекаў... Мама, не памірай... — Ён ухапіў бязважкую руку маці і прытуліўся да яе вільготнай шчакой, па якой цяклі скупыя мужчынскія слёзы. — Ты не можаш памерці цяпер, калі ўсё скончана... Праз тыдзень я перапраўлю цябе ў Стамбул... У лепшую клініку Еўропы...

Напэўна, ён не павінен быў гэтага рабіць у прысутнасці Айшэ і тым больш на вачах рускага доктара, які і не доктар зусім, а фельчар, і то «конскі». Ён, Рэнат Баджыеў, цяпер ужо камандзір спецыяльнага атрада мсціўцаў, не павінен ні перад кім, ні перад чым і ні пры якіх умовах выказваць і тым больш паказваць свае пачуцці і слабасці.

— Трэба вынесці з машыны... на свежае паветра... — сказаў Пятровіч.

— Правільна, на чыстае горнае паветра, — як за выратавальную саломку, ухапіўся за словы фельчара Рэнат. — Ахмед, дапамажы.

Насілкі аднеслі да вялізнага каменя-валуна і паставілі так, каб не дзьмуў вецер. Рэнат паправіў пад галавой маці падушку, шчыльней захінуў на грудзях коўдру. Адзіны сонечны промень, невядома як прабіўшыся праз ахутаную аблокамі горную вяршыню, слізгануў па валуне і быццам зваліўся з яго на Лолін твар. Жанчына адразу адчула гэты нясмелы, хоць восеньскі і раннішні, але ўсё ж цёплы дотык. Здрыгануліся, затрымцелі вейкі, і яна павольна расплюшчыла вочы. Зіхоткае, трапяткое святло не сляпіла і не раздражняла, яно было ў радасць. Пасвятлеў твар, разгладзіліся заўчасныя зморшчынкі, нават на шчацэ абазначылася, хоць і кволая, але ўсё ж ямінка, яна заўсёды з'яўлялася, калі Лола смяялася.

— Ёй лепей, яна смяецца, — ускрыкнуў Рэнат і зноў схіліўся над маці. — Мама, мы хутка прыедзем, а праз тыдзень ты паляціш у Стамбул...

Лола глядзела на сына і не бачыла, позірк струменіўся ўслед за сонечным

промнем, які, упэўнена караскаючыся па валуне, як ліхтар, высвечваў лапікі рудаватага моху і танклява-хісткія сцяблінкі зялёнай травы ў расколінах. На хвілінку праменьчык затрымаўся на шалупайцы яйка ў шэрую крапінку, якое, відавочна, яшчэ вясной выпала з гнязда невядомай птушкі, і нечакана знік, быццам недзе там, у паднябессі, нехта паглядзеў на ўсё, што робіцца на зямлі, і захінуў фіранку на акенцы.

— А-й-ш-э-э, — прашаптала Лола.

— Яна гаворыць?! — радасна ўскрыкнуў Рэнат і азірнуўся. — Яна кліча Айшэ...

— Парадзісе нельга ўставаць, — сурова і катэгарычна сekануў рукой паветра Пятровіч. — І скажы, што нявестка нарадзіла ўнука... Няхай ведае, ёй будзе лягчэй...

— Чуеш, мама? — выціраючы кроў на вуснах Лолы бруднай, у ружовых плямах марляй, насцярожліва, баючыся парушыць хісткі масток свядомасці, якая вярнулася да маці, і здольнасці гаварыць, сказаў Рэнат. — Айшэ нарадзіла хлопчыка... Джыгіта!..

Лоліны вусны зноў варухнуліся, але слоў Рэнат не пачуў.

— Мы зараз прынясём Айшэ і ты скажаш усё, што хочаш, — адчайна замітусіўся Рэнат і, крутнуўшыся, не зважаючы на фельчаравы пярэчанні, крыкнуў: — Ахмед...

Але выносіць нявестку з машыны не давялося. Прыхінаючы да грудзей сына, Айшэ басанож стаяла за спінамі Пятровіча і Ахмеда. Вецер адчайна і гучна лупіў тоўстай матэрыяй па голых нагах, шкуматаў крысо коўдры, сілячыся вырваць яе з рук, скінуць са слабых жаночых плеч. Айшэ пачувалася як ніколі добра, толькі трошкі кружылася галава і калі-нікалі сударгавата тузаўся ніз жывата. Холаду не адчувала, у гэтыя хвіліны яе перапаўняла затоеная, хмельная радасць, да няўсцерпку хацелася паказаць Лоле сына, ёй хацелася, каб маленькага ўбачыў увесь свет, хацелася крыкнуць так, каб рэха панесла па гарах галоўную навіну яе жыцця і каб гэтую навіну пачулі ўсе людзі...

## 10

Іван Серада папраўляўся хутка. Загаіліся прастрэленыя спіна і грудзі, пакінуўшы на целе ружовыя плямкі маладой скурчанай скуры, якая зрэдку свярбела і трэскалася, і тады клапатлівая Пятроўна, медыцынская сястра шпіталя, прыкладвала гаючую мазь і ляпіла на тое месца пластыр. Не турбаваў боль у сцягне, і толькі пякучым агнём гарэлі ступні ног, якіх не было.

Варожы снайпер, канешне, пастараўся, але больш за яго клопату дактарам нарабіла абрынутая на Івана сцяна. Патрушчаныя косці скласці не здолелі і, каб не дапусціць гангрэны, а ўсе сімптомы паказвалі на тое, Іванавы ногі, учарнелыя і распухлыя, давялося адпілаваць амаль да каленяў. «Магло быць і горш», — у адзін голас казалі дактары, падбадзёрвалі, і кожны лічыў сваім абавязкам расказаць пра ваеннага лётчыка Марэсьева.

Ногі адрэзалі, а ступні нясцерпна балелі... Гэтага Іван ніяк не мог зразумець. Удзень яшчэ трымаўся, а нанач прасіў, каб зрабілі абязбольваючы ўкол. Але часта прачынаўся і зноў ціснуў на чырвоную кнопку над галавой, выклікаў медычку. А цяпер паўтаралася з ім тое самае, некалі пачутае з вуснаў Пятроўны: «Доктар табе, саколік, гэныя ўкольчыкі адмяніў, а дымедрольчыку шпурляну, не шкода...»

У бальнічнай палаце іх было трое. Іванаў сусед справа, прапаршчык-сувязіст Васіль Хвастоў, падарваўся на міне, але цудам застаўся жывы, пра такіх кажуць — «у кашулі нарадзіўся». Дактары здолелі выратаваць яму левую нагу, правую ж адпілавалі па самае калена. Ён быў старэйшы за Івана на добры дзясятак гадоў, і са шматлікіх размоў, а Хвастоў быў вельмі гаваркі, нават залішне, выходзіла, што прапаршчык свет пабачыў і не першы раз у «гарачай кропцы». На ягонай абстрыжанай галаве не ставала часткі левага вуха і ладнага кавалка скуры над ім, зрэзала асколкам, ці, як жартавала Пятроўна: «Ця-

бе, Васятка, смерць толькі языком лізнула, паспытала і не ўпадабала, значыцца пажывеш яшчэ».

— Абы дзеўкам падабаўся, — жартаўліва адказваў Хвастоў, наперад ведаючы, што скажа Пятроўна.

Медычка заўсёды падміргвала някаму з хворых, лічыла, што гэтак падымае маральны дух параненых, і з напускной весялосцю дадавала:

— З гэтым у цябе поўны парадак. Памятаю, калі аперацыю рабілі, дык наша дакторка-хірург мала чаго не памылілася і разам з нагой ледзь не адшчыкнула тое самае... Зрэшты, праз гэта аперацыя доўжылася больш запланаванага, бабы нагледзецца ніяк не маглі... А каб інфекцыю якую не занесці, не толькі нагу зялёнкай перапэцкалі...

Іван чуў гэта амаль кожны дзень, але заўсёды смяяўся, бо Пятроўна ў дадатак яшчэ і высакавата расхінала крысо халата, паказваючы, дзе, што, як рэзалі і пэцкалі Хвастову.

Смяяўся нават Фёдар Волгін, трэці жыхар палаты нумар восем. Гэта быў пануры, не па гадах разважлівы дваццацігадовы сібірак. З нагамі ў яго быў поўны парадак, не хапала левай рукі. Як сказаў Сан Саныч, іх лечачы ўрач: «Гэты сібірака вам, бязногім, у помач — і прынясе, і падасць».

Зрэшты, так яно і было. Цяпер, калі раны пачалі зажываць, Фёдар ва ўсім дапамагаў Івану. Яны хутка паразумеліся і пасябравалі. Волгін гадзінамі катаў Івана ў інваліднай калясцы спярша па шпітальных калідорах, потым, калі пацяплела, у старым парку, што не надта падабалася дактарам, і асабліва галоўнай медыцынскай сятры Розе Карлаўне. Баялася медычка, каб не зламалі каляску, бо Фёдар, не зважаючы на заасфальтаваныя сцяжынкі, заўсёды цягнуў Івана па бездарожжы ў самы гушчар, каб хвостка секлі па твары пругкія кусты, каб сыпаліся за каўнер ранішнія кроплі расы. У гэтыя хвіліны і боль меншаў, і дыхалася вальней, і хвалько Хвастоў не дакучаў сваёй несупыннай балбатнёй.

У кожнага з траіх была свая, асабістая прычына, якая ўрэшце пратаптала сцяжынку да гэтай трохпавярховай шпітальнай будыніны. Івана сюды прывяло адчайнае, нераздзеленае каханне, у Фёдара не было выбару: што можа сказаць салдат тэрміновай службы, акрамя «ёсць», куды паслалі — туды і пайшоў, а Хвастовым кіравала толькі магчымасць разбагацець. Хоць бы ён пра гэта маўчаў, дык не, кожны дзень, і асабліва пасля адбою, заўсёды, цяжка ўздыхнуўшы, пачынаў размову быццам сам-насам:

— Чаму гэтак доўга няма адказу з Міністэрства абароны?..

Іван адварочваўся і, каб не чуць гугнявага голасу, нацягваў на галаву прасціну, але паратунку не знаходзіў. У першы ж дзень, як толькі прывезлі сюды з рэанімацыі, ён адразу ўведаў, што Хвастоў пятнаццаць гадоў на звыштэрміновай службе. Праўда, не ў дэсантных войсках, а звычайны штабны сувязіст. Як патлумачыў сам Хвастоў, «менавіта азбука Морзе, «кропачкі-цірэ» і перавàжылі, ісці ваяваць ці не». Канешне, гэта давесак, асноўнае было тое, што ўсім вайскоўцам на тэрыторыі Чэчні паабяцалі плаціць, як удзельнікам міратворчай акцыі ААН, «голубым беретам». Даведаўшыся аб гэтым загадзе Прэзідэнта, Хвастоў адразу і падаў рапарт аб пераводзе.

Хвастоў, карыстаючыся тым, што старэйшы па ўзросце, разважаў, не хаваючы думак, і часцяком для дэсантнікаў Івана і Фёдара крыўдна і абразліва. У сваіх мудрагеліста-шкурніцкіх гаворках ён увесь цяжар вайны перакладваў на іх салдацкія плечы. Маўляў, дэсантура ў пекле, гэта яны ваюють, ім і адказваць за ўсё. А што возьмеш з яго, штабнога сувязіста? Яго забіваць не вучылі... Яму галоўнае — не высоўвацца, трымацца бліжэй да начальства, а штабныя ў атакі не ходзяць, яны іх плануюць і на гэтай вайне баяцца толькі снайпераў.

— Каго будзе валіць чэх-снайпер? — часцяком пытаўся Хвастоў. — Мяне, прапаршчыка, ці палкоўніка?— і, не дачакаўшыся адказу, весела рагатаў: — Зразумела, што палкоўніка... Селяві, хлопчыкі, такое жыццё. Салдат па абавязку можа трапіць толькі на адну вайну, а потым — як захоча, а афіцэ-

ры ваююць усё жыццё, ім сябе берагчы паложана, бо дзяржава не беражэ... Я іншым разам думаю: калі б армія камплектавалася толькі кадравымі вайскоўцамі, то і войнаў гэтых не было б. Палушчылі б нашых афіцэрыкаў — і не было б каму ваяваць... Трымалі б толькі памежнікаў...

— Афіцэры тут ні пры чым, не яны вырашаюць, — не вытрымліваў Фёдар. — Хаця, канешне, і сярод іх сустракаюцца жлабы, якія нашага брата-салдата на вайне за мяса трымаюць. Праўда, толькі аднаго гэткага сустрэў, ды цяпер вось ты...

— Я не афіцэр, — рагатаў Хвастоў, радуючыся таму, што ўсё ж зачапіў за жывое салдата. — У арміі я, можна сказаць, высокакваліфікаваны рабочы. А «залатыя пагоны» якраз пры чым, гэта ім патрэбны перамогі, дзеля іх, радзімых, можна і палітыкам стаць, абы толькі ворага знайсці... Канешне, каму слава, а каму і грошы, гэта ўжо хто на каго вучыўся... Не знайшлі прыстойнага знешняга ворага, памітусіліся, памітусіліся — і тут жа аб'явіўся свой, унутраны, самі з сабой пачалі ваяваць, а вучыліся ж у адных вучылішчах і акадэміях.

— Дык што ж ты трымаешся за войска, калі гэткі разумны? — уступаў у спрэчку Іван. — Ты ж сюды за грашамі прыпёрся... Мо лепш заняўся б бізнесам і хадзіў бы здаровенькі на дзвюх нагах? Не спрацавала, значыцца, твая тэорыя, калі без нагі застаўся.

— Маладыя вы, зялёныя, — цяжка ўздыхаў Хвастоў, відавочна шкадуючы сябе.

— Ды ўжо ж якія ёсць.

— Цяпер і тамака вайна, — праз хвіліну-другую павучальна працягваў прапаршчык-сувязіст. — На гэтай вайне я толькі нагу згубіў, і то па п'янцы штабнога начальніка-дурня, якому ў вайну захацелася пагуляць, а на той адразу сякуць галовы. Так што выбар мой правільны, для мяне шанц выжыць і разбагацець якраз тут, у войску.

— Ха, разбагацець! Ты што, радыёстанцыю прадаў?

— Той, хто прадае зброю, тэхніку, гаруча-змазачныя матэрыялы, медыкаменты і нават тушонку, рана ці позна сядзе ў турму. Я ж прадаў сваю нагу і цяпер пастараюся напоўніцу атрымаць за яе кампенсацыю. Мне медаль і пенсія па інваліднасці не патрэбны, я хачу застацца служыць у войску, і спецыяльнасць сувязіста гэта дазваляе. Калека — ён і ў Афрыцы калека. Сумна бачыць маладых хлопцаў, па якіх прыязджаюць бацькі і плачуць ад радасці, што сын застаўся жывы. Правільна, гэта вялікая радасць сёння, але што будзе з хлопцамі заўтра, калі бацькі пойдуць у лепшы свет? Успомні Афганістан. Колькі пакалечаных жыве без дагляду і без прытулку. Радасць, як пабачылі, прайшла, а гора засталося, і нікому тыя калекі не патрэбныя. Так што гэтая перспектыва не для мяне. Мне б толькі далі згоду. Зачаплюся, а там ведаю, што рабіць, тое сёе прывязу з гэтай калатнечы... Зрэшты, не могуць мне генералы адмовіць, сёння як ніколі патрэбны ў войску геройскія хлопцы, каб было на чым прыкладзе моладзь вучыць.

— Значыцца, цяпер будзеш прапагандаваць ідэю абаронцы...

— Ніякіх ідэй я прапагандаваць не буду, — рэзка перапыніў Івана Хвастоў. — Ды й не для мяне іхнія ідэі... Гэта раней на смерць ішлі за Цара-бацюшку, потым за Леніна—Сталіна, за Партыю, а цяпер за каго? Хіба за алігархаў? Слова ж нейкае прыдумалі, быццам сабака адначасова і брэша, і смяецца: алі-гар-хаў... Хоць бы тыя алі-гар-хі свае былі... А то нейкія чужынцы-нелюдзі сядзяць у палацах за бугром, зямельку нашу дзеляць ды з нас, ідыётаў, пасміхаюцца, ім у радасць бачыць, як мы страляем адзін аднаго... Так што няма аніякай для нас з табой ідэі...

Хвастоў гучна зарагатаў, у калідоры пачуліся хуткія крокі, дзверы рыпнулі, і на парозе ўзнікла заспаная, з распушчанымі валасамі санітарка ў мультанавым рудым халаце.

— Хлопчыкі, спіце ўжо, гадзіна ночы, мне ж раніцай на кірмашы аспірын прадаваць...

— Ды спім мы, спім, — сказаў Хвастоў, — прыснілася, што нагу згубіў, а прачнуўся — мац-мац, і сапраўды яе няма... Вось і вырваўся ідыёцкі смех... Нервеннае гэта.

Жанчына павольна зачыніла дзверы і стомлена пасунулася да рыпучай старой тахты, што тулілася на калідоры побач з пастом. З ардынатарскай выйшла дзяжурная медсястра і, пазяхаючы, спыталася:

— Ну, што там?

— У сне крычаць, — зручней уладкоўваючыся на тахце, адказала санітарка і, калі дзяжурная зноў схавалася ў ардынатарскай, са скрухай у голасе прабурчэла: — Тут не крычаць, выць трэба, ды так, каб ажно ў Маскве пачулі... Гэткую калатнечу заварылі! Свае дзеткі ў «гварвардах» вучацца, а нашых калгаснікаў штабялямі кладуць ды вунь як калечаць...

— Бачыце, што робіцца, — калі за санітаркай зачыніліся дзверы, шэптам сказаў Хвастоў, — шпітальныя санітаркі, шкадуючы нас, прадаюць на кірмашы лекі, за якія потым купляюць для нас гародніну і садавіну. Зразумела, што лекі тыя няўлічаныя, з гуманітаркі, але ж чаму сюды не даходзяць «улічаныя»? І дзе тая садавіна з гароднінай, што нам паложаны па харчатэстату?

— Вядома, дзе, — бухнуў бас Волгіна, — снабжэнцы скушалі.

— Во, нават Фёдар разумее: каму вайна, а каму і маць радна, — паблажліва рагатнуў Хвастоў.

У палаце надоўга ўсталявалася цішыня. Здавалася, што начная хвастоўская палітінфармацыя скончана, амаль пра ўсё пагаварылі, але Іван Серада ўжо трошкі ведаў суседа і напружана чакаў камень у свой агарод. Прапаршчык-сувязіст чамусьці абмінуў яшчэ адну любімую тэму: «пра жанчын». І заводзіў ён гэтую гаворку, толькі каб падкузьміць Івана, бо не верыў, што хлопец ад нераздзеленага кахання ўцёк на вайну. Але сёння ён абмінуў жаночае пытанне, як кажуць, не рызыкнуў тузаць тыгра за вусы.

Відавочна, яго нешта хвалявала. Было чуваць, як Хвастоў цяжка ўздыхае, як варочаецца з боку на бок, як пад ім рыпіць ложак, як, крэкчучы, круціць накрыўку на гарляку пластмасавай бутэлькі, і мінеральная вада, зашыпеўшы па-змяінаму, ліецца на падлогу, як таропка і гучна глытае напой.

— Можа, спаць будзем? — няўпэўнена прабасіў Фёдар. — Ці схадзіць папрасіць якіх таблетак альбо мікстуры для сну?

— Вось, што я вам, калегі-калекі, скажу, — прапусціўшы міма вушэй Фёдаравы словы, гугнява-надрыўным голасам загаварыў Хвастоў.— На грашах, а значыцца, на крыві ўсё замешана...

Развагі пра армію і палітыку, вайну і грошы настолькі ўзрушылі, узялі сувязіста за жывое, што ён ужо не мог стрымаць сябе і гаварыць пра нешта іншае.

— Слухаць у эфіры радыё і тэлефонныя перамовы — мой абавязак. Бывае, гэткага наслухаешся, што не заснеш, пакуль сябе да бяспамяцтва гарэлкай не накачаеш... Наслухаўшыся, пра што людзі быццам бы без сведак гавораць, зразумеў я: у гэтай вайне нафта вінаватая! Зямля тут залатая, дзе рыдлёўку ні ўваткні — ці ручай, ці рака нафтавая. Як Саюз разваліўся, кожны ў сваім гародчыку апарат перагоначны саштукаваў — у цане сёння бензін ды салярка. Зразумела, не ўсім гэта спадабалася... А то ж — алі-гар-хі!.. Яны ў нас зубастыя, сквапныя, акрамя партспецшкол нідзе не вучыліся, а тут мільёны з неба зваліліся... І ўсё мала, мала... Зразумела, не падзялілі залатую зямельку, сям'я на сям'ю папёрла... Не ў прамым сэнсе, канешне, на людзях ручкаюцца ды цалуюцца, у прэзідыумах заўсёды побач.

— Нешта ты, Васіль, перабольшваеш, — стомлены гэтымі размовамі, цяжка ўздыхнуў Іван. — Якія алігархі? На маіх вачах дзесяцігадовы хлапчук з гранатай кінуўся пад танк...

— Гэта наступствы, ці тое яшчэ будзе?! Ты на свае вочы бачыў, а я на свае вушы чуў, як адзін і той жа голас з інтэрвалам у пяць мінут па адным канале загадаў дваццаці духам зайсці ў аул і заняць абарону, а па другім канале, гэта ўжо звышсакрэтным, той самы чалавек загадаў нашым зняць ачапленне і пра-

пусціць бандытаў, маўляў, стратэгічны манеўр. А раніцай самалёты і артылерыя тры гадзіны пляжылі гэты аул разам з мірнымі жыхарамі. Клаліся спаць трыста чалавек, а прачнулася толькі чатыры... Мужчын не было, дзеці ды бабы... Каму гэтая вёска стала косткай у горле? Пакуль дождж не лінуў, тыдзень зямля гарэла... Як думаеш, чаму?..

## 11

Каньяк падзейнічаў, і цяпер Люба бачыла ўсё, што робіцца ў пакоі, быццам у вязкім зыбка-малочным тумане. Разам з хісткім п'янкім паветрам хісталася і непамерна вялізная, напаўсцяны ўшыркі і пад самую столь, шафа з разводнымі люстэркавымі дзверцамі. Два разы тая спрабавала паваліцца на Любу, але дзяўчына заплюшчвала асалавелыя вочы, і шафа адступала, зноў тулілася да сцяны. Кружылася галава, віхурыліся страхавітыя неспакойныя думкі, яе ванітавала, але свядомасць заставалася яснай. Ёй зноў улілі ў рот смярдзючую вадкасць, але на гэты раз галаву не трымалі і яна адразу выплюнула каньяк на падлогу. У наступнае імгненне Любу падхапілі на рукі і груба шпурнулі на канапу.

— Бык, аддай дзеўку мне, — глытаючы канчаткі слоў, заенчыў Любін гаспадар. — Давяла сцерва, сніцца па начах...

— Чаму табе? — абурана ўскрыкнуў той, што наліваў каньяк. — Чысценькая, акуратненькая... Мы ўсе тут роўныя...

— Я магу быць і не першым... — паспешліва загундосіў Ганс.

— Кінем жэрабя, каму як пашанцуе, — прапанаваў нехта з прысутных.

Люба адчула на сваім твары гарачае перарывістае дыханне, і адразу агромністая шурпатая далонь балюча сціснула грудзі, нехта нябачны гладзіў сцёгны і ў нейкі момант уладарна рассунуў ёй ногі. Гэта імгненна ацверазіла, надало рашучасці і сілы. Люба з усёй моцы адштурхнула ад сябе кудлатую гаспадарову галаву, падхапілася, села і з жахам убачыла, што форменнай спаднічкі пакаёўкі на ёй няма, кофта расшпілена, ссуканы станік чамусьці не прыкрывае грудзі, а бездапаможна матляецца на жываце, і пяць пар бязлітасна-шкляных, шалёных вачэй пажадліва з'ядаюць яе цела. Той, хто трымаў яе ногі, па-блазенску скалячыся, пацягнуўся да яе трусоў.

«Усё, гэта канец, — жахнулася Люба, — спраўдзіліся цётчыны словы: мяне згвалцяць і прададуць у нейкі бардэль...» Цела больш не падпарадкоўвалася, яго быццам спаралізавала, і ў дадатак пачала трэсці нервовая дрыготка.

Бык, гэта той, хто смаліў цыгару і, як зразумела Люба, быў сярод «братоў» за галоўнага, нечакана і рэзка стукнуў яе гаспадара нагой у бок, кінуў на падлогу тоўсты недакурак і, злосна расцiснуўшы яго абцасам, ажно пырснулі ў розныя бакі іскры і струменьчыкі дыму, пагрозліва працадзіў скрозь зубы:

— Прэч адсюль...

Ён выхапіў аднекуль з-пад пахі пісталет, гучна клацнуў затворам, і варанёнае стальное дула чорным бязлітасным вокам зірнула Любінаму гаспадару ў твар.

— Ты, тлустая, смярдзючая свіння, мяне дастаў... Кожны раз адно і тое...

Ганс спалатнеў, вірлаватыя вочы яшчэ больш акругліліся, сківіца дробна задрыжэла.

— Б-бык, я ўсё з-зрабіў, як ты з-загадаў, — заікаючыся прагаварыў ён. — М-мы ж з-заўсёды іх т-трахалі...

Адчуўшы падтрымку, Люба вырвалася з ліпучых пажадлівых рук гвалтаўнікоў, рыўком сцягнула з канапы коўдру, абхінулася калянай матэрыяй і сцішылася. Чамусьці нават думкі не ўзнікла крычаць, клікаць некага на падмогу ці хоць бы паспрабаваць кінуцца наўцёкі. У душы зацяплілася надзея. Хацелася, каб хутчэй вярнулася Эльза, у гэтыя хвіліны ўся спадзеўка была нават не на хлопца з пісталетам, а на немку, верылася, што толькі яна, спрактыкаваная ў розных жыццёвых сітуацыях, здолее абараніць і навесці тут парадак.

— Я адмаўляюся ад сваёй часткі грошай, толькі аддай яе... — не зводзячы вачэй з пісталета, заклянчыў Ганс. Ён усё яшчэ не мог паверыць, што Бык не жартуе.

— Я пасяку цябе на кускі і скармлю свінням на ферме твайго бацькі, — ухапіўшы Ганса за доўгія патлы і ўставіўшы ў рот дула пісталета, раздражнёна сказаў Бык. Ён цяжкім каменным позіркам абвёў прысутных, дадаў: — Ніхто не дакранецца да гэтай дзяўчыны без майго дазволу! Пытанні ёсць?..

Усе маўчалі.

Галінка таполі за акном, нечакана падхопленая пругкім парывам ветру, даволі моцна шкрэбнула раз-другі па шкле і зноў ціхамірна захісталася зводдаль. Усе, акрамя Любы, насцярожана азірнуліся, той, хто наліваў каньяк, таксама выхапіў пісталет.

— Мы не ў сябе дома, і нам трэба быць вельмі асцярожнымі, — кіўнуўшы на акно, выціснуў з сябе Бык і скрывіўся так, быццам пракаўтнуў нешта кіслае і яму спаралізавала сківіцу. Пасля доўгага маўчання ён паглядзеў на ўсіх цяжкім немігатлівым позіркам, скрыгатнуў зубамі, сказаў як адрэзаў: — Значыцца, пытанняў няма, дый не павінна быць. Ты мяне зразумеў? — Ён зноў схіліўся да ляжачага каля ног Ганса.

— Зразумеў, — пужліва кіўнуў Ганс і пацёр патыліцу, месца, якое толькі што тузаў Бык. Гэткім раздражнёным і страшным ён яшчэ ніколі Быка не бачыў.

— Цяпер слухайце мяне ўважліва, — зашпацыраваў па пакоі Бык. — На кон пастаўлены вялікія грошы, — ён на хвілінку прымоўк, — вельмі вялікія грошы, — амаль крыкнуў верхавод хаўруса, — і таму я хачу, каб гэта зразумелі ўсе. — Выклікайце сюды доктара, няхай адпрацоўвае сваю долю... І чаму тут няма гэтай старой воблы Эльзы?

— Эканомка з'ехала, — спахапіўся Ганс, — па дамове сёння — апошні дзень...

— Дзень яшчэ не скончыўся. Знайсці...

У гэты момант адзін з Быковых хаўруснікаў падаў яму сотавы тэлефон.

— Доктар...

Пакуль Бык размаўляў з доктарам, Ганс скарыстаў паўзу па-свойму. Ён, упёршыся рукамі ў крэсла, цяжка ўзняўся з падлогі і, хістаючыся, быццам ногі адмаўляліся яго слухацца, паклэпаў да стала, ухапіў пузаты графін і прагна выпіў усё, што ў ім было. Потым перакуліў графін, пастукаў рыльцам па далоні і тымі некалькімі бурштынавымі кроплямі, што выцеклі на яе, працёр лоб, скроні, шыю.

— Вучыцеся, у немцаў нічога не прападае, — скалячыся, але шэптам, каб не шкодзіць размове Быка, сказаў той, хто раней паіў Любу каньяком.

— Што да твайго прыезду трэба зрабіць з турысткай? Яе калоціць... — Бык зірнуў на Любу. — Твар, шыя, жывот у нейкіх плямах... — Бык некалькі хвілін уважліва слухаў суразмоўцу, нечакана ягоны твар спахмурнеў, калматыя бровы сышліся на пераноссі, у вачах заблішчэлі злыя агеньчыкі: — Не твая сабачая справа, што мы з ёй зрабілі, — крыкнуў ён у трубку і адразу перадаў тэлефон Гансу, уладарна загадаў:

— Зробіш так, як скажа Роберт...

Пачуўшы пра доктара, Люба зразумела, што і Эльза, і Роберт, і Ганс — паслугачы гэтай бандыцкай хеўры. «Калі не ў бардэль, тады што яны са мной зробяць?» — адчайна падумала Люба, і раптам па вушах балюча сцебанулі цынічныя словы, сказаныя цёткай Клавай яшчэ ў Мінску, калі яна збіралася ў дарогу: «Пад рознымі прычынамі вывозяць нашых людзей за мяжу, а там забіваюць, выразаюць вантробы і прадаюць... Прапаў чалавек, а ён зусім і не прапаў, ён на запчасткі пайшоў... Знікнеш і ты, калі не паслухаеш мяне і паедзеш. А міліцыі што, яна трошкі пашукае і спіша справу ў архіў, ты ж ведаеш, ні бацька, ні хто іншы цябе шукаць не будзе. А потым прыедзе ў Мінск нейкая багатая мамзель і выпадкова спытаецца ў мяне дарогу ў тэатр ці на

тую ж Камароўку. Пагаворым і разбяжымся па сваіх справах, толькі хто будзе ведаць, што ў ейных грудзях б'ецца тваё сэрца?..»

Пакутны, бясконца страшны жаль ахінуў дзявочае сэрца, няўцешныя слёзы гарачымі ручайкамі пацяклі па шчоках. Грудзі раздзірала балючая, невыносная туга, якая нечакана вырвалася вонкі дзікім, жывёльным крыкам. Цяпер толькі адно жаданне кіравала Любай, яе, быццам магнітам, прыцягвала зыркае святло ў акне, і, здавалася, не было ў свеце сілы, што змагла б перашкодзіць задуманаму.

— Трымайце яе, — крыкнуў Бык.

Люба не паспела і кроку зрабіць, як яе схапілі. Яна змяёй звівалася ў дужых руках, што моцна трымалі яе за рукі і ногі, крычала, вырывалася, спрабавала драпацца, і тады яе, быццам немаўля, закруцілі ў коўдру. Не памятаючы сябе, Люба пачала пляваць на ўсіх. Напэўна, гэта вельмі напалохала і Быка і ягоных хаўруснікаў. Нехта крынуў:

— Звар'яцела дзеўка...

— Шукай зноў доктара, — вонкава застаючыся спакойным, загадаў Гансу Бык.

Ганс дрыжачымі рукамі ціскаў на тэлефонныя кнопкі і ўвесь час спалохана пазіраў на Любу. Калі зноў пачуў у слухаўцы голас доктара Роберта, ён амаль справіўся з хваляваннем і коратка, па-вайсковаму адрапартаваў:

— Яна спрабавала выкінуцца ў акно. Крычала, вырывалася, цяпер як звар'яцелая плюе на ўсіх. Што рабіць?

Хвалявацца Гансу было з-за чаго. Калі з Любай нешта здарыцца, у доме за ўсё адказваў ён, гэткая была ў іх дамоўленасць з Быком. Зразумела, што ўсе наступствы прадугледзець было немагчыма, але, ведаючы Быка, Ганс разумеў, што за «вар'яцтва» дзяўчыны давядзецца адказваць па поўнай праграме, як любілі гаварыць хаўруснікі між сабой. А гэта азначала, што не толькі грошы можа згубіць віноўца...

Атрымаўшы інструкцыі ад доктара Роберта, Ганс, ні на кога не зважаючы, кінуўся да стала, нервова тузануў адну з шуфляд, ажно ўсё начынне пасыпалася на падлогу, але патрэбнае, вялікаватую пластмасавую шэрую скрыначку, усё ж паспеў ухапіць амаль што на ляту. У наступнае імгненне на падлогу паляцела цэлафанавая ўпакоўка ад аднаразовага шпрыца, яшчэ праз секунду пад ногі Быку пакацілася пустая ампула з-пад морфія.

Што-што, а ўколы рабіў Ганс добра. Быў спрактыкаваны. Нават у час наркатычнай «ломкі», калі кожны міліметр цела зводзіць сутарга, ён мог знайсці і патрапіць іголкай у «глухую» вену не толькі на чужым целе, але і на сваім...

— Шэсць гадзін поўнага спакою, — прыціскаючы ватку да кропелькі крыві, якая выкацілася следам за выцягнутай з рукі іголкі, сказаў Ганс і заклапочана зірнуў на гадзіннік.

І сапраўды, пасля ўколу Люба хутка супакоілася, у нейкі момант імгненна ацяжэлыя вейкі міргнулі раз, другі, а на трэці яна не здолела іх расплюшчыць. Нейкі час яна яшчэ чула галасы ў пакоі, але нечакана яны пачалі аддаляцца. Спярша — быццам у суседні пакой, потым — на першы паверх, на двор і раптам зніклі зусім. І гэта было Любе ў радасць, яна нікога не хацела чуць, ёй вельмі-вельмі хацелася спаць.

Бык задаволена кашлянуў у кулак і, прыхільна зірнуўшы на Ганса, сказаў:

— Ну, хоць з гэтым справіўся. Цяпер аднясіце дзяўчыну ў свой пакой, пакладзіце ў ложак, няхай выспіцца... І каб без усялякіх сюрпрызаў.

— Ніякіх сюрпрызаў у прынцыпе і быць не можа, — усцешаны тым, што нарэшце ўлагодзіў Быка, загарачыўся Ганс. — Нікуды наша козачка не ўцячэ. Напачатку стрыножым, а калі спатрэбіцца, і зацугляем, на гэты выпадак маюцца спецыяльныя бранзалеты і ланцужкі, гэткія, што і мядзведзь не парве. Будзе яна спаць прыкутая да ложка...

— Глядзі, каб на запясцях ні сінякоў, ні драпін не засталося.

Люба расплюшчвае вейкі, доўга глядзіць на цьмяна-жоўтае святло начной лямпы і ніяк не можа ўцяміць, дзе яна. Ёй не хочацца прачынацца. На душы ціха і спакойна, цела здаецца лёгкім і трошкі чужым. Яна заплюшчвае вейкі, каб зноў вярнуцца ў сон. А сніліся Любе родныя Верацеі, снілася, што піла ваду з крынічкі, якая струменіцца з-пад вялікага каменя-валуна ў недалёкім сасонніку, які расце побач з вёскай і ахінае яе з поўначы, абараняе ад халодных сцюдзёных вятроў. Ёй сніўся Янка... Спярша яны цалаваліся каля неймаверна тоўстай, як абхапіць дваім, сасны, а потым беглі да крынічкі і па чарзе схіляліся да вірлівага іскрыста-трапяткога струменьчыка, лавілі яго губамі. Вада ў крынічцы неймаверна халодная, ажно да колікаў у зубах, але Любу сёння гэта чамусьці зусім не страшыла, яна піла і не магла напіцца...

У роце перасохла, горла шчыміць, Люба разумее, што не спіць, і ёй насамрэч хочацца піць. Яна зноў глядзіць на святло лямпы, узгадвае лядоўню, у якой поўна ўсялякага пітва: розных гатункаў сокаў, газіровак, мінеральнай і простай вады, толькі ў бутэльках і ачышчанай. Чамусьці больш за ўсё хочацца апельсінавага соку. Яна нават чуе яго прыемны казытлівы пах, але Любе настолькі лянотна, што зусім не хочацца ўставаць.

Нечакана яна прыкмеціла, што лямпа не на сваім звычайным месцы, побач з ложкам, а стаіць далекавата, на тумбачцы, каля самай пальмы. Гэта здзіўляе, але думаць і тым больш успамінаць, як яна там апынулася, зусім не хочацца. Не хочацца не толькі ўставаць, але нават варушыцца. Толькі да няўсцерпку хочацца піць, здаецца, ажно язык распух, гэтак пячэ ў роце.

На сцяне насупраць бачыць прывід вялізнай конскай галавы. «Адкуль у маім пакоі коні? — неяк запаволена круцяцца Любіны думкі. — А мо я заснула і зноў сняцца Верацеі, бо конь вельмі ж падобны да Федзькавага Орліка. Ён заўсёды прывязвае лейчыны да плота насупраць майго акна, і Орлік будзе тыцкаць пысай у фортку, пакуль не выпрасіць акраец хлеба, быццам ведае, што пачастунак у цэлафанавым мяшэчку яшчэ з вечара прыхаваны пад падушкай. Федзькі не будзе сама менш паўгадзіны, цяпер ён разам з маім бацькам хаваецца ў хляве ад староннiх вачэй, дзе шнарыць па дзіравых кішэнях, шукаюць рублі на апахмелку. А як не хопіць грошай, то пойдуць да ўдовай суседкі Гапкі. Хітрая Гапка грошы дасць ці, што для іх яшчэ лепш, «выкаціць» бутэльку самагонкі. Праўда, перш, чым гарэлку аддаць, прымусіць Федзьку распіску напісаць, што ён грошы ў палучку верне. Толькі нашто Гапцы грошы, ёй патрэбен работнік з канём, ведае, што ў калгасе грошы атрымліваюць раз у квартал, а то і паўгода. Вось і будзе Федзька за гэтыя распіскі і зямлю араць, і лес на дровы траляваць, і гной у поле вывозіць. Бацька таксама падпішацца пад дакументам, гэтага запатрабуе Федзька, піць жа будуць удвух, а значыцца, і адпрацоўваць таксама. Гапка наконт бацькавага подпісу не настойвае, ёй галоўнае ўхапіць Федзьку з канём. Орлік жа дастукаўся да мяне, разбудзіў і мяккімі цёплымі губамі далікатна ўзяў пачастунак з далоні. Смачна жуючы хлеб, ён прыжмурыў вочы, напэўна, ад задавальнення і, відавочна, у гэтыя хвіліны пачуваецца на вяршыні свайго конскага шчасця. «Эх Орлік, Орлік... Пабачыўшы тыя распіскі, што б ты сказаў, каб умеў гаварыць? Цябе ж прадалі ў рабства ажно на пяць гадоў... Ды й Гапка ў вёсцы не адна...»

Люба сочыць за Орлікам, бачыць на тоўстых губах пухіры белай пены, зноў працягвае праз фортку хлебны акраец. Конь не спяшаецца браць хлеб. Нечакана ён неяк хітра паглядзеў на Любу, падміргнуў вялікім карычневым вокам, зусім як суседка Гапка, і, ашчэрыўшы зяпу з вялікімі жоўтымі зубамі, голасам Федзькі сказаў: «А я ведаю, што мяне прадаюць кожны дзень, галоўнае, што мне гэта падабаецца. Якая розніца, на якім полі жылы рваць, калгасным ці прыватным? З Федзькам я ніколі не прападу, яму ад гаспадара-прыватніка пляшка гарэлкі, мне лішні кілаграм аўса ці пойла... А што я атрымаю ў калгасным стойле?.. Ахапак саломы... Ды й ты не лепшая за мяне... У мяне Федзька, а ў цябе Бык...»

«Які Бык? — крычыць Люба. — Што ты вярзеш, конская морда?.. Пайшоў прэч, не атрымаеш больш пачастунку!..»

«Аддай хлеб, ён мой», — заіржаў, злосна затупаў капытамі Орлік і ўхапіў зубамі Любіна запясце.

Боль у руцэ цалкам разбудзіў дзяўчыну. Яна падхапілася, села ў ложку і ўбачыла, што правая рука даўгаватым бліскучым ланцужком прыкута да металічнай падкавападобнай трубы, што тырчала са сцяны. Гэткіх падкоў на розных узроўнях каля ложка было ўмуравана чатыры, дзве з аднога боку, дзве з другога, але сапраўднае іх прызначэнне Люба зразумела толькі цяпер.

Люба цалкам яшчэ не ачомалася ад наркатычнага чаду, яшчэ не паспела ўспомніць усяго, што адбылося напярэдадні, яна хутчэй інстыктыўна ўхапіла вольнай левай рукой ланцуг і пачала тузаць яго. Тузала доўга, з усёй сілы, і з кожным рыўком абуджалася памяць, у вачах паўставалі твары прайдзісветаў, якім трапіла ў рукі, да дробязей успомніліся іхнія словы і дзеянні. Ланцуг, здрадніцкі пакой і гэты пракрустаў ложак напаўнялі душу адчайнай, балючай злосцю, якая ў той самы момант, калі, здавалася, зніклі апошнія сілы, вырвалася з грудзей цягучым прарэзлівым крыкам.

Доктар Роберт шпарка ўвайшоў у пакой, быццам чакаў за дзвярыма, калі Люба падасць голас. Ён выглядаў заклапочаным і паніклым, ад заўсёднай весялосці і быццам прыклеенай да твару ўсмешкі не засталося і следу. У руках доктар трымаў неразлучны тоўсты чамаданчык і ўжо знаёмую Любе пластмасавую скрыначку, якую Ганс хаваў у шуфлядзе стала.

— Люба, як сябе адчуваеш? — ставячы чамадан на крэсла, а скрыначку побач з футараламі на бліжэйшае да ложка трумо, напружаным, трошкі асіплым голасам спытаўся Роберт.

Люба не адказала. Не мяняючы паставы і не хаваючыся пад прасцынёй, яна моўчкі спадылба назірала за доктарам. У дзявочай душы цеплілася надзея, што весялун і жартаўнік Роберт, а менавіта гэткім ён запомніўся ёй, не можа быць заадно з бандытамі. Яна хацела ўбачыць ягоныя вочы.

Доктар, унікаючы Любіных вачэй, узяў ейную руку, намацаў пульс і, звёўшы да пераносся рудыя калматыя бровы, засяродзіўся на стрэлках гадзінніка. Люба бачыла, як на лысай доктаравай галаве трошкі вышэй вуха пульсуе сіняя жыка, як імгненна пакрыўся потам вялікі лоб, адчула, як уздрыгваюць кончыкі ягоных пальцаў. «А ён хвалюецца», — падумала Люба, і сэрца затахкала мацней, зацеплілася надзея на падтрымку.

— Не так усё і кепска, як намаляваў Ганс, — праз некалькі хвілін, стараючыся выглядаць бадзёрым, гучна сказаў доктар. — Пульс напоўнены, рытм выдатны...

— Вы з імі заадно? — ціха спыталася Люба.

Доктар узняў вочы, і Люба зразумела ўсё без слоў.

— Якая ж я дурніца, — цяжка, роспачна ўздыхнула дзяўчына. Яна бразнула ланцугом і адчайным, надтрэснутым голасам спыталася: — Ну скажыце, Роберт, што яны ад мяне хочуць?

— Я ўсяго толькі доктар... — неяк вінавата адказаў Роберт і замітусіўся, ухапіў скрыначку. – Думаю, заспакаяльны ўкольчык табе не пашкодзіць...

— Не трэба, — абыякава адмахнулася Люба. — Мне б схадзіць у прыбіральню... і піць вельмі хочацца...

— Як скончу агляд, цябе адразу і напояць, і накормяць,— сказаў Роберт і, апасліва азірнуўшыся на дзверы, зашаптаў: — Ты, Люба, прыгожая, вельмі прыгожая...

— Значыцца, спярша будуць гвалціць, а потым з мяне зробяць прастытутку?.. — зразумеўшы, што ў любы момант у пакой можа ўвайсці нехта яшчэ, паспешліва спыталася Люба. Нешта ёй падказвала, што доктар ведае сапраўдную прычыну яе з'яўлення на гэтай віле. — А можа, мяне прададуць на запчасткі?

— На якія яшчэ запчасткі? — аслупянеў Роберт.

— Ты ж доктар, а ў іх пісталеты... Прымусяць цябе выразаць мае вантробы, а потым прададуць... каму сэрца, каму ныркі...

— Ха-ха-ха, — адрывіста і шчыра зарагатаў доктар, — ну ты і фантазёрка, прыдумала ж гэткае... Ха-ха, на запчасткі...

У Любы адразу адлягло ад сэрца, гэты непрытворны шчыры смех трошкі супакоіў, падаў надзею на тое, што можа ўсё і абыдзецца.

— Ты, Люба, трымайся Быка, — сур'ёзна, быццам пракаўтнуўшы смех, сказаў Роберт. — Бык нікому не дазволіць цябе крыўдзіць, канешне, пры ўмове, што не будзеш яму пярэчыць і будзеш ва ўсім слухацца.

— Але ж Бык, як я зразумела, завадатар гэтага хаўрусу, — перахапіўшы Робертаў пажадлівы позірк на сваім напаўголым целе, сказала Люба і пацягнула на сябе прасціну.

Вочы ў доктара замітусіліся, ён адчуў сябе ніякавата, быццам зрабіў нешта кепскае і яго злавілі на гарачым.

— Доктар гаворыць праўду, на чужбіне супраць шэрсці гладзяць, а будзеш слухацца — ніводная валасінка не зваліцца з тваёй галавы. Гэта я табе гарантую, — прагучаў знаёмы ўладарны голас.

Люба і Роберт разам азірнуліся. Бык сядзеў, закінуўшы нага на нагу, у тым крэсле, дзе стаяў доктарскі чамаданчык, які цяпер сіратліва туліўся каля ягоных ног. Бык быў апрануты ва ўсё той жа чорны гарнітур, белую кашулю, гальштук, і толькі замест чаравікаў — тапачкі на босую нагу. Таму, напэўна, ні доктар Роберт, ні Люба нават не пачулі, калі ў пакой увайшоў завадатар банды.

Убачыўшы Быка, доктар буркнуў Любе нешта неразборлівае, падхапіўся на ногі, спалохана ўцягнуў галаву ў плечы, ад чаго, здавалася, нават паменеў ростам, і мітусліва заснаўдаў па пакоі, быццам штосьці шукаючы. І сапраўды, наткнуўшыся вачамі на свой чамаданчык, доктар асцярожна, як нешта найкаштоўнейшае, узяў яго ў правую руку, потым крутнуўся да трумо, да пластмасавай скрыначкі. Ён выглядаў спалоханым і не хаваў гэтага.

— Ну, дык я пайду? — не то сцвярджаючы, не то просячы ў Быка дазволу, сказаў доктар і пакорліва сцішыўся ў чаканні.

Люба глядзела на Быка, на доктара Роберта, а душу раздзірала неўтаймоўнае пачуццё краху, краху ілюзій і спадзяванняў. Прыйшло разуменне таго, што ў гэтым халодным доме, у гэтай чужой краіне яна зусім адна, тут няма ні сяброў, ні зычліўцаў. Па-хамску прыкутая да сцяны, быццам рабыня нейкага старажытнага фараона, прыніжаная і змучаная фізічна, яна ў гэтыя хвіліны канчаткова зразумела, што можа разлічваць толькі на сябе.

— Роберт, наша казачка ачуняла, — не зважаючы на просьбу доктара, сказаў Бык. Ён перагарнуў некалькі старонак Любінага занатоўніка, які трымаў у руках, уважліва паглядзеў дзяўчыне ў вочы: — Думаю, на гэты раз яна без істэрык здолее мяне выслухаць і, на што я больш за ўсё спадзяюся, правільна ўспрыняць і ацаніць сітуацыю?

— Я хачу піць, — вытрымала Быкоў позірк Люба, — і я хачу па патрэбе.

— Эскулап, суправадзі госцю. — Бык кінуў на тахту побач з Любай ключы ад наручнікаў, выцягнуў з кішэні тэлефон і хуценька націснуў на пісклявыя кнопкі. Дачакаўшыся суразмоўніка, строга загадаў: — Эльзу сюды...

Калі Люба з накінутай на плечы прасцінай пратэпала ў ванны пакой, Бык кінуў ёй у спіну:

— У тваім, дзяўчынка, распараджэнні ўсе мае рэсурсы: і фізічныя, і грашовыя. Людзі, што цябе акружаюць, будуць аддана служыць табе, канешне, пры ўмове стопрацэнтнага падпарадкавання мне. Ведай гэта і рабі высновы.

Ад нечаканай здагадкі Любу кінула ў жар. Яна прыпынілася і, не паварочваючы галавы, ціха спыталася:

— Ты хочаш, каб я стала тваёй?..

— Ну што за бабы ў рускіх?.. Кожная лічыць, што зямля круціцца толькі вокол яе.

— Я беларуска...

— А, адзін хрэн, — махнуў рукой Бык.

— Тады што ты ад мяне хочаш? — роспачна крыкнула Люба і крутнулася да гэтага незразумелага і скрытнага чалавека, якога ўсе наўкол баяліся. Страху больш не было, душу поўнілі толькі няпэўнасць і адчай. — Думкі тва-

іх галаварэзаў я ведаю, а што ад мяне хочаш ты? Навошта разыгрываць спектакль з працай у Нямеччыне, ці не прасцей: мех на галаву і вязі куды хочаш, выдаткі мінімальныя?

— З цябе толк будзе, — адкусваючы кончык цыгары, нечакана зусім пасяброўску падміргнуў Любе Бык. — Ты разумная... Хутка дапетрыла і пра мех добра сказала, з пачуццём.

— А ты не смалі ў маім пакоі гэтыя смярдзючыя цыгары. — Люба раззлавана і моцна тупнула босай нагой па варсістым дыване, ажно пятка забалела. — Усё жыццё гадасцю прасмярдзела...

— Ты, Люба, ідзі прымі душ, прывядзі сябе ў парадак, а мы з Эльзай нешта перакусіць зграмэздаем. Потым за сталом і пагамонім, ты, бачу саспела для дзелавой размовы, — пстрыкнуў газнічкай і часта-часта зацмокаў губамі Бык. Калі цыгара засмылела, ён з асалодай пыхнуў бялявым кудлатым дымам і, прыжмурыўшыся, дадаў: — А наконт цыгарэт — праўду кажаш, і ўсё ж я зраблю пару зацяжак, з прынцыпу... Там, дзе я нарадзіўся і вырас, жанчына ніколі не будзе ўказваць мужчыне... Надалей і пра гэта памятай, калі не хочаш са мной пасварыцца. А ты, Роберт, пабудзь каля Любы, паназірай, дапамажы, як доктар, канешне.

— Мне памочнікі не патрэбны, — пагардліва і з выклікам прабурчэла дзяўчына і паспрабавала зачыніцца ў ванным пакоі, але не атрымалася, доктар паспешліва торкнуў нагу ў прачыненую дзверыну і, сустрэўшыся з Любай позіркам, перасмыкнуў плячыма, маўляў, тут не я аддаю загады.

«Баяцца, каб я што-небудзь кепскае з сабой не зрабіла. — Люба крутнулася ў дальні кут і, міжвольна аглядаючы сцены ваннага пакоя, у думках адзначыла: — Адсюль уцячы немагчыма, няма ні акна, ні запаснога выхаду. Значыцца, я ім патрэбна жывая і гэткая, як ёсць цяпер... А калі ўзяць ды шморгнуць па шчацэ лязом... Мо адчэпяцца?»

Люба доўга разглядвала сябе ў люстэрку, потым кіпцюром указальнага пальца, моцна націскаючы, павольна правяла па шчацэ ад самай скроні да сківіцы і ў нейкі момант быццам убачыла той чырвона-сіні крывулісты шнар. Яе ажно скаланула, рэзка адхіснулася ад люстэрка, пужліва азірнулася і, убачыўшы лысую бліскучую галаву доктара Роберта, гідліва ўсміхнулася:

— А калі так?..

— Не дапаможа, — спалохана і ціха адказаў доктар.

У наступнае імгненне па Любіных голых нагах пацягнула скразняком, галава знікла, з пакоя данёсся голас фраў Эльзы. Пра што гаварылі хаўруснікі, разабраць было немагчыма, але здагадацца было не так ужо і цяжка.

Калі Люба выйшла з ваннай, часопісны столік змяніў сваё месца і цяпер, устаўлены рознай ежай, стаяў не за тахтой, а пасярэдзіне пакоя, і быў быццам уціснуты між двух агромністых мяккіх крэсел. У адным высіўся медзведзяваты Бык, другое, зразумела, чакала Любу. Пунсовая і манументальная фраў Эльза, як заўсёды прылізаная і чысценькая, стаяла зводдаль з вісячым ручніком праз руку, як у афіцыянтаў, і, дэманстратыўна не заўважаючы Любу, глядзела нейкімі мутнымі вачамі ў акно. Там жа, каля акна, паміж пальмамі, заклаўшы рукі за спіну, стаяў чалавек, твар якога разгледзець было немагчыма з-за вогненнага сонечнага святла, якое лілося ў пакой. Другі ахоўнік сцярог дзверы. Доктар Роберт усё яшчэ тоўкся каля ваннага пакоя.

— Гэтулькі ўвагі — і ўсё мне? — усміхнулася Люба. — Я пачынаю адчуваць сябе важнай «шышкай»... Мо сапраўды спадчына якая прываліла, а я і не ведаю?

— Калі жартуеш, значыцца, са здароўем праблем няма, — выскаліў белыя роўныя зубы Бык. — Сядай, Люба, кажуць, у нагах праўды няма.

— Што праўда то праўда, для мяне яе няма і ў бліжэйшы час і не прадбачыцца.

Яна выглядала, хоць і насцярожанай, але па-дзелавому спакойнай. За апошнія паўгадзіны неяк само па сабе прыйшло разуменне таго, што ні крык, ні істэрыка ёй не памочнікі.

— А ты яшчэ і філосаф, — паблажліва рагатнуў Бык і, пакуль дзяўчына ўладкоўвалася насупраць, адкаркаваў чорную бутэльку са стракатай наклейкай. — І наконт «шышкі» не памылілася, — пліснуўшы бурштынавы напой у плоскі празрысты фужэр на тонкай доўгай ножцы, няспешна вёў рэй Бык. — Але пра гэта трошкі пазней, спярша вып'ем каньячку, глядзіш, і паразумеемся хутчэй.

— Мне апельсінавы сок, — сказала Люба і рашуча прыкрыла далонню свой фужэр, не дазволіла наліць з чорнай бутэлькі. Бык не настойваў, і яна пацягнулася да бутэлькі з сокам, але, убачыўшы эканомку, імгненна памяняла рашэнне, не стала саму сябе абслугоўваць.

— А я вып'ю, ёсць за што, — думаючы пра нешта сваё, уздыхнуў Бык, узняў фужэр, але, убачыўшы, што Люба соку так і не наліла, строга зірнуў на Эльзу. — Што скамянела, быццам помнік, абслугоўвай мамзель...

Эльза незадаволена хмыкнула, яшчэ больш пачырванела, але з месца не скранулася. Было відавочна, што ёй вельмі ж не хачацца прыслужваць пакаёўцы.

— Працуй, шлюха нямецкая, — рыкнуў Бык.

Эканомку скрывіла, быццам пракаўтнула нешта вельмі горкае, але не паслухацца Быка і тым больш пайсці супраць яго яна не магла. Эльза ўзяла бутэльку, звычным рухам працёрла рыльца ручніком і павольна, каб не было чуваць булькаў, як некалі вучыла і Любу, наліла роўна трэцюю частку фужэра. Люба гнеўна зірнула на сваю настаўніцу-здрадніцу, выхапіла бутэльку і сквапна прыпала вуснамі да рыльца. Піла доўга і з асалодай, потым наўмысна кінула пустую бутэльку на падлогу, пад ногі эканомцы.

Гэтая Любіна выхадка імгненна перакрэсліла Эльзіны і страх, і амбіцыі. Яе твар, шыю пабіла чырвонымі плямамі, голас па-здрадніцку дрыжэў, калі яна абурана прамаўляла:

— Гэта дзікунства, гэта свінства...

— У свінарніку і павінна быць усё па-свінску, — помсліва сказала Люба і з непрыхаваным задавальненнем назірала за тым, як раз'юшаная Эльза наўмысна кінула на падлогу, на плямы разлітага соку той самы ручнік, якім яшчэ пяць хвілін таму працірала фужэры і рыльца бутэлькі, з якой піла пакаёўка.

— Вока за вока, зуб за зуб, — назіраючы за жаночымі «разборкамі», засмяяўся Бык, і ўсё ж, калі эканомка прыбралася, не рызыкнуў яе тут пакідаць, справадзіў.

— Ідзі, Эльза, калі спатрэбішся, паклічу.

У наступнае імгненне Бык, быццам успомніўшы, дзеля чаго сядзіць за гэтым сталом, спехам перакуліў у рот усё, што было ў фужэры, і адным глытком пракаўтнуў. На нейкую хвілінку сцішыўся, быццам да нечага прыслухоўваўся, і асцярожна, двума пальцамі ўзяў відэлец. Вочы адразу ажывіліся, позірк замітусіўся па талерках, але ў нейкі момант ён цяжка ўздыхнуў і, так нічым не закусіўшы, зноў паклаў відэлец на белы абрус. Валасатая рука пацягнулася да бутэлькі...

— Што, смажыць? — здзекліва спыталася Люба. — Кажуць, гурковы расольчык лепш за ўсё дапамагае...

— Табе, Люба, вельмі пашэнціла, што мы сустрэліся, — не зважаючы на здзеклівыя кпіны і разглядваючы дзяўчыну праз шкло фужэра, сказаў Бык.

Люба адчула, як халодныя мурашы прабеглі па спіне, як міжвольна напружылася цела і знямелі кончыкі пальцаў. «Ну, скажы, нарэшце, што ты ад мяне хочаш?» — ірваўся з грудзей бязгучны, задушлівы крык. Яна прагна ўтаропілася Быку ў пераноссе і зацята чакала.

— Ты цярплівая і не спешчаная жыццём, — вёў сваё Бык, — спадзяюся, што і не дурніца, як некаторыя твае сяброўкі...

— У мяне тут няма сяброўак, — аблізнула імгненна сасмяглыя вусны Люба, ёй зноў да няўсцерпку захацелася піць…

— А дзяўчаты, з якімі ты прыехала ў Нямеччыну?

— Я сама па сабе... Я прыехала па выкліку...

— Ведаю тваю гісторыю, — перапыніў Бык дзяўчыну і зноў выпіў каньяк, цяпер павольна, смакуючы. Ягоны кастлявы зашчацінены твар нечакана прасвятлеў, відавочна, ад самаўпэўненасці і ганарыстасці, губы скрывіліся ў пераможнай усмешцы. Калі іх позіркі сустрэліся, Бык раптам запытаўся:

— Табе не хочацца даведацца, адкуль я ўсё пра цябе ведаю?

— Хочацца, — згодна кіўнула Люба.

— Дык гэта ж я ўсё прыдумаў, я... — урачыста крыкнуў Бык і, скалячыся, радасна запляскаў сябе па тоўстых ляжках. Пад ягоным магутным целам нешта трэснула ў крэсле, і адразу жалобна зарыпелі спружыны, хістануўся стол.

Люба прамаўчала, і гэтае маўчанне Бык расцаніў па-свойму. Ён з відавочнай асалодай і адразу памякчэлым, прыцішаным голасам пачаў хваліцца:

— Я прыдумаў і твой выклік з Мінска, і хворага Ганса, і гэтую вілу, і ўсё астатняе...

— Я даўно зразумела, што наша сустрэча невыпадковая, — ледзь стрымліваючы даўкія слёзы, выдыхнула Люба. – Ну, скажы, што, што са мной будзе?

— Я хадзіў у савецкую школу, дзе нас вучылі, што кожны чалавек куе сваё шчасце сам. І я каваў... Люба Анікейчык нічога не кавала, але сёння мае магчымасць змяніць лёс і пачаць жыць добра, ці...

Бык нечакана змоўк, накалоў відэльцам некалькі скрылёў вэнджаніны, адправіў іх разам у рот і цяжка засоўгаў сківіцамі.

— Што значыць «ці»? — не вытрымала Люба і ад хвалявання не заўважыла, што нават стукнула кулачком па стале.

— Маладзец, маеш характар, — прашамкаў Бык і, глынуўшы каньяку, гучна прапаласкаў у роце, пракаўтнуў і, падміргнуўшы Любе, дадаў: — Учора хватануў лішку, стрэс здымаў, і ўсё праз цябе... Моцна напужала, у нейкі момант нават здалося, што ў цябе страха паехала... Гэтулькі працы — і кату пад хвост...

— Ты не адказаў, што значыць «ці»?

— А тое і значыць, што ты не павінна ісці супроць мяне, — Бык дапіў каньяк і хутка, скарагаворкай выпаліў: — Усяго і спраў — гэта пражыць два гады з адным чалавекам... Справа зроблена, усё падрыхтавана, і ў цябе няма ніводнага шансу з тысячы. Прымаеш правілы гульні — і мы ўсе застаёмся ў выйгрышы, дакладней, з бабкамі, з вялікімі бабкамі... А пойдзеш супраць — аддам сваім архараўцам, яны гэтага толькі і чакаюць. Пацешацца хлопцы, а праз тыдзень-два прадам цябе ў бардэль, як звычайную прастытутку...

Бык убачыў, як Люба спалатнела, пахіснулася, але нешта гаварыць ці камандаваць, як тое было ўчора, не было патрэбы. Доктар Роберт чакаў гэтага моманту і быў напагатове. Ён далікатна прытрымаў дзяўчыну за плечы і, лёгенька прыўзняўшы яе галаву, прымусіў выпіць заўчасна падрыхтаваную заспакаяльную мікстуру. Люба не супраціўлялася, яна безуважна праглынула смярдзючую гаркату, закашлялася, доктар папераджальна паднёс да дрыжачых вуснаў фужэр з апельсінавым сокам. Гэтая нескладаная працэдура заняла ўсяго некалькі хвілін, але, напэўна, іх было дастаткова, каб лякарства падзейнічала і Люба змагла зірнуць на Быка не такімі ўжо і лютымі вачыма.

— І ўсё ж ты хочаш зрабіць з мяне прастытутку, — прашапталі яе бяскроўныя вусны.

— Прастытуткі абслугоўваюць за суткі не менш за тузін кліентаў, а ты будзеш жыць з адным чалавекам, разумееш, з а д н ы м...

— Я хачу прылегчы, нешта кружыцца галава, — сказала Люба і закрыла далонямі твар.

— Эскулап, дапамажы дзяўчыне, — загадаў Бык і, ухапіўшы каньяк, устаў з-за стала, зрабіў некалькі цяжкіх крокаў па пакоі і, дачакаўшыся, калі Люба ўладкуецца на тахце, прысеў каля ейных ног, глытнуў з бутэлькі, сказаў: — Ты павінна цалкам уяўляць абставіны, што склаліся вакол тваёй справы, таму, пакуль не заснула, слухай.

Ён зноў прыклаўся да рыльца, потым выцягнуў цыгару, пакруціў у пальцах, але прыкурваць не стаў.

Канешне, Люба выслухае Быка, чаго б ёй гэта ні каштавала, і ў рэшце рэшт даведаецца ўсю праўду.

— Мы знайшлі чалавека, які хоча мець толькі цябе. Яму падабаецца тваё цела, твая каса, усмешка, зубы, ну, і ўсё астатняе...

— Я дапускаю, што той чалавек мог мяне бачыць, — не падымаючы галавы ад падушкі і не расплюшчваючы веек, сказала Люба. – Зрэшты, мяне знялі на відэакамеру і, канешне, дэманстравалі каму хацелі, але што ён можа ведаць пра астатняе, я ж з ім не спала...

— І не толькі з ім, ты, Люба, забылася, што яшчэ ніколі ні з кім не спала... — весела рагатнуў Бык і паляпаў дзяўчыну па клубах. — Наш кліент плаціць вялікія грошы менавіта за цябе, а яшчэ за тое, што ты некранутая, што ты цнатлівая, і ён вельмі хоча быць тваім першым мужчынам... У кожнага свой «сдвиг по фазе», а ў багатых шыза не адна, у іх яна суцэльная...

Па-блазенску зарагаталі ахоўнікі, якія да гэтага нічым аб сабе не нагадвалі, заліўся тоненькім дураслівым смяшком доктар Роберт, але, як толькі на яго зірнуў Бык, адразу пракаўтнуў свой хіхіклівы смех.

— Нешта ты, эскулап, вочкі хаваеш, і смяшок у цябе нейкі агідненькі, — спадылба зірнуў на доктара Бык, — я да таго, што ты нашу турыстку правяраў...

— Цэлка яна, — пакрыўджана ўнурыў галаву ў плечы доктар Роберт, — і ў картцы медагляду гэта запісана...

— Ведаем мы вашага брата, самі правяраеце, самі пішаце. — Бык падміргнуў аднаму з ахоўнікаў, і яны зноў весела зарагаталі.

Люба не зрэагавала ні на Быкову выхадку, ні на ягоныя жарты і вельмі здзівілася свайму спакою. Чамусьці ёй было ўсё роўна, што гавораць пра яе гэтыя людзі...

Калі Люба расплюшчыла вейкі, адразу ўбачыла Быка, які сядзеў у крэсле за сталом і з апетытам еў. На адной з талерак танюсенькім хісткім струменьчыкам дымілася тоўстая цыгара. У Любіным крэсле, але трошкі зводдаль ад стала, сядзеў, закінуўшы нага на нагу, доктар Роберт з бляшанкай піва ў руцэ, каля дзвярэй велічна, не зварухнуць, быццам урос у падлогу, ахоўнік. Ведала, што, калі азірнецца, то ўбачыць гэткага ж здаравяка каля выхаду на балкон. Нічога ў пакоі не змянілася, здалося, што і не спала зусім, але стомы больш не адчувала, думалася лёгка і ясна, толькі вельмі хацелася есці, ажно да спазмаў у страўніку.

— Калі б я не была цнатлівай, ты б мяне адпусціў? — не падымаючы галавы ад падушкі, ціха спыталася Люба ў Быка.

— Не, цяпер не, — нават не зірнуўшы на дзяўчыну, стрымана адказаў Бык, быццам яны і не перапыняльі пачатай размовы. — А каб у цябе думак пра гэта не ўзнікала, зараз паглядзім адну вясёлую кіношку, і ты ўсё зразумееш. Наперад скажу, што дзяўчына, а ты яе добра ведаеш, ехалі разам у Нямеччыну, сама сябе пазбавіла дзявоцкасці... А чым гэта для яе скончылася, зараз і паглядзім... Эскулап, запусці відэакасету, няхай Люба на свае вочы пабачыць... Тая дурніца таксама пытанні задавала і слову майму не паверыла. А каб гэткага з табой не здарылася, каб цябе, Люба, асцерагчы ад неабачлівага, бо раптам і ты надумаешся ўваткнуць у тое самае месца лыжку падчас абеду, трэба паглядзець мой серыял, ён не горшы за некаторыя... Калі табе спадабаецца, кіну ўсё і буду кіно здымаць...

— А мо не трэба? — упершыню паспрабаваў запярэчыць доктар Роберт.

— Ты, немчура недабітая, калі яшчэ хоць раз мне запярэчыш, прымушу, каб ты сам сабе яйцы адрэзаў, — вызверыўся Бык.

— Я што, я нішто, — лісліва загундосіў доктар, — я да таго, каб чаго кепскага з ёй не здарылася...

— Калі да гэтай хвіліны не здарылася, то ўжо нічога з нашай прыгажуняй не здарыцца...

Бык кінуў у рот масліну, прыцмокнуўшы губамі, высмактаў з яе костачку

і выплюнуў у пусты фужэр. Тэлевізійны экран, які ў гэты момант міргнуў чырвонай плямкай, зашыпеў, на ім замітусіліся цені.

— Ты, барышня, сядзь і глядзі, — адсунуўшы ад сябе стол і выцягнуўшы доўгія ногі, трохі памякчэлым голасам сказаў Бык, — глядзі і кумекай... Гэтая дурніца таксама мела магчымасць пачаць новае жыццё, але распарадзілася сваім лёсам сама і па-свойму... Не, даражэнькія, са мной гэткія нумары не праходзяць...

Люба ўбачыла на экране Кацярыну, сваю суседку, з якой ехала ў Берлін. Адразу прыгадала яе палахлівыя вочы, яе даверлівасць, калі расказвала пра тое, што едзе вучыць музыцы нямецкага хлопчыка з багатай сям'і. Цяпер, прыкутая да сцяны за рукі гэткімі ж, як і ў Любы, ланцугамі, яна голая ляжала на ложку, вакол стаялі Быковы хаўруснікі. Сярод іх былі і Ганс, і доктар Роберт... Па загадзе нябачнага чалавека, напэўна, таго, хто здымаў на відэакамеру, увесь хаўрус, а іх было не менш дзесяці чалавек, кінуўся да расхрыстанага безабароннага цела...

— Не трэба, выключыце, спыніце гэты здзек, — умольна прашапталі скрыўленыя ў плачы вусны. Люба заплюшчыла вочы, па шчоках цяклі гарачыя слёзы.

— Секс спыні, — загадаў Бык, — але не выключай, знайдзі карцінку, дзе яна праз некалькі дзён.

— Не трэба больш нічога паказваць, — закрыла далонямі твар Люба, — табе, фашысту, веру і без усялякіх карцінак.

— За фашыста трэба цябе пакараць, — рагатнуў Бык,— але мы цяпер кампаньёны і ў дробязях павінны саступаць адно аднаму. Ці праўду я кажу: мы кампаньёны?

*Працяг будзе.*



ЯЎГЕН ХВАЛЕЙ

# НАЧНОЕ ЦЯПЕЛЬЦА

### ЗАЦВІТАЕ ШЫПШЫНА...

Сад бялютка адцвіў,
Зацвітае шыпшына.
Квет — ружовы агонь —
Завалодаў душой.
У Іспанію замуж выходзіць дзяўчына —
Развітацца мне цяжка з крывінкай маёй...

Што ж чакае цябе,
Мая родная, светлая,
Чужаземны які спаланіў цуда-квет?
Пад парывісты вецер світальнага веку
Паляцела шукаць сваё шчасце за свет.

Мне да Нёмна імкнуць,
Бы ў мінулым стагоддзі...
Ну а ты пералётнаю птушкай ляціш
Там, дзе мора Міжземнае хвалю лагодзіць,
Дзе аліўкі, міндаль —
А не жолуд-спарыш.

Прашчур кліча мяне
На зямлю, дзе радзіўся.
Ці прывечу нашчадка з далёкіх краёў?
Зацвітае шыпшына...
А шыпы, быццам дзіды,
Мецяць гойстра ў бацькоўскае сэрца маё.

## У МАТЧЫНАЙ ХАЦЕ НА РАСТВО

Бяссонная ноч народзін Хрыстовых —
Блукаюць упоцемку вочы,
Шукаюць адзінага, крэўнага слова.
А дзе?
Не згледзець уночы.

Бяссоная ноч народзін Хрыстовых —
У вусцішы вушы не чуюць
Таго запаветнага роднага слова.
Дзе зараз, святое, начуе?

Бяссонная ноч народзін Хрыстовых —
На подступе ранак.
Світае...
Шукае душа сакральнага слова.
Знайшла —
У нябёсах лунае...

## НЕ СУСТРЭЦЦА НАМ...

*Памяці Алеся Махнача*

Не сустрэцца ранкам,
ні пад захад сонца —
Столькі год суседзямі былі...
Крэпасці славутай абаронца,
Як сапёр,
ступалі па зямлі
З кульбачкай,
якая да вытокаў
Нёмана прыводзіла не раз:
Бацька Нёман на радзіме продкаў
Быў для Вас —
малітва і абраз.

Цытадэль жа над ссівелым Бугам
Сны ўзрывала Вашы праз гады.
Ад яе прайшлі Вы —
круг за кругам —
Дантавае пекла маладым.

...Не сустрэцца ранкам,
ні пад захад сонца.

## ВЁСКА РАЙСКАЯ

Божай маці выява. Каплічка.
Крыж з распятым Хрыстом каля вёскі.
На старэчых дубах —
Гнёзды белых буслоў.
Хваляў нёманскіх —
Сініх, як неба, —
Усплёскі,
І наўкола —
Карона вячыстых лясоў.

Вёска Райская,
Дзе між сяліб я ступаю,
Насамрэч ты здалася мне раем.
Тут сяльчане жывуць па законах дзядоў:
Садзяць бульбу вясной у гародах,
Косяць траўныя поймы лугоў,
І на лодках,
Як продкі калісьці,
Увосень
Перавозяць праз Нёман дары
Зарачанскіх бароў...

## ПУСТАЯ ХАТА

*Памяці сябра, апошняга жыхара гэтай хаты*

Хата старая — пустая.
Больш жыхароў не спаткае.
Хата, што ведала стрэчы
Ранкам,
апоўдні
і ўвечар.
Маці ў маленстве ля весніц мая
Слухала ў садзе спеў салаўя.
Розныя лёсы хата люляла —
Бабкі Насты,
дзеда Міхала,
Бацькі Янкі,
цёткі Магдусі,
Продкаў маіх — дзяцей Беларусі.
Часта заходзілі госці з сяла —
Век з чалавекам хата жыла.

Хата пустая,
Ля возера хата,
Чым жа цяпер ты будзеш багата?
Смуткам і вусцішшу,
Быццам на могілках.
І ад хвароб,
як і мне,
Заняможацца.
Толькі аблокі
Адны над табою.
І дажываць табе дні
Удавою.

## ВАЛУНЫ

### Актава

*А. В. Грэкаву*

Што валуны — звычайныя каменні,
Я нізавошта не паверу вам.
Гляджу ў нябёсаў выш у захапленні —
У аблачынах бачу белы храм.
Ён збудаваны з мараў і нахтнення
І блізкі родзіч дзіва-камяням.
Вакол яго — аблокі-валуны,
Плывуць, як памяць вечная, яны.

* * *

Дзень вясновага раўнадзенства.
Не зімы,
а вясны — яе дзейства.
Не шкада мне зусім ледзяша.
Адтае, як зямля, душа,
І пачуцці бягуць раўчукамі
Да цябе,
Да мяне —
Мы зіму іх з табою чакалі...

## НАЧНОЕ ЦЯПЕЛЬЦА

Ночы,
шчодрай на пахі,
цяпельца
Асвятляе зялёнае ўлонне.
Недзе цёхне салоўка...
І сэрца
Б'ецца гэтак,
як птушка ў палоне.

Бераг стромы...
Плынь рэчкі.
І вусціш...
Зоркі смуглыя неба працялі.
І так вусны імкнуцца да вуснаў, —
Як да берага плыткія хвалі.

* * *

Гляджу на цыферблат гадзінніка,
На яго секундную стрэлку,
Якая бегае вельмі хутка —
Хвіліна, яшчэ хвіліна...

Гэтак і ты
Па лёсе маім прайшла —
Па цыферблату секундная стрэлка.

## СТАРЫ ХЛЕБАРОБ НАЗІРАЕ ЗА ЖНІВОМ

Аржаны дух...
Камбайны між калосся...
Пад небам жыта летні звон.
Рукой правёў па коласе,
Здалося —
Смычком струны крануўся ён.

### ЖОЎТЫЯ ВЯРГІНІ

Жоўтыя вяргіні.
Смутак забыцця.
Што буяла — згінула:
Пустка. Міг жыцця...

Я хаджу між імі,
Жоўтымі вяргінямі, —
Колер суму, жалю
Сціснуў сэрца мне.
Не стрымаеш хвілю,
Быццам тую хвалю,
Што нібыта ў вечнасць,
У сінь-мора мкне.

### БОРКАЎСКІ СКРЫЖАВАНАК

*Нас было дзевяць у мікрааўтобусе,*
*якім вярталіся з прэзентацыі кнігі*
*«Бацька наш Нёман»,*
*калі здарылася аварыя.*

Боркаўскі скрыжаванак.
Уздзенская вярста.
Боркаўскі скрыжаванак —
Ценем распяцця Хрыста.

Быў жа пачатак чароўны.
Нёмана, Лошы выток,
Дзе аж кіпела чаромха,
Стаў як прычасця глыток.

Ехалі мы да Магільна —
Шлях сюды вёў, а ці лёс?
І ля Рынгольта магілы
Зведаў я тайны нябёс...

Быццам радзіўся ў кашулі.
Нёман ратоўца ці Бог?
Дзеля старэнькай матулі
Хто ўратаваць мяне змог?

### ПРЫЙДУ НА БЕРАГІ...

Прыйду на берагі крутыя,
Дзе хвалі Нёмна залатыя
Сплываюць спеўнымі радкамі,
З дубамі шэпчуць, чаратамі.

Якуба Коласа радзіма —
Край мой бруісты, край адзіны.
Над Нёмнам — золак салаўіны
І адвячорак мой буслiны.

Альбуць, Высокі Бераг, Смольня
Душу саборна мне замоляць,
Палёў, лугоў званкі-званочкі
Пакажуць шлях сюды і ўночы.

Каб я ніколі не зблудзіўся,
Гаючым словам прычасціўся:
«Мой родны кут! Як ты мне мілы!
Забыць цябе не маю сілы!»

Якуба Коласа радзіма —
Ты васільковымі вачыма
Глядзіш у неба Белай Русі.
Памерці тут я не баюся...



ТАІСА БОНДАР

# ПУСТЫ П'ЕДЭСТАЛ

## *Фантасмагорыя*

Усё шторазм адбывалася на вачах у зорак. Пасярод ночы, якая доўжыцца ніяк не менш, чым некалькі стагоддзяў. Стагоддзяў, а мо і тысячагоддзяў... Хто сёння ўзяўся б вызначаць хоць бы якую прыдатную меру часу? Ды і што такое час, калі паўсюдна страчана адчуванне рэальнасці — адчуванне Пустаты? Зямля, цяжка, з натужным рыпеннем паварочваючыся, імкне некуды ў Бязмежжа, і нікому, жывому ці мёртваму, і ў галаву не прыходзіць запытаць, выгукнуць услед — ці насустрач — гэтаму руху: куды? навошта? Урэшце, нікому і не саскочыць падчас імклівага лёту, калі б хто і схацеў. То чаго абурацца? Чаго загадзя палохацца? У любы момант можна проста заплюшчыцца і не пазіраць. Увогуле, калі верыць таму, што пад няспынную калыханку нашэптваюць сненні, не прачынацца. Гэтае жыццё, іншае... Адна карціна, другая... Заўсёды знаходзіцца той, хто ўсім распарадзіцца і распараджаецца, і як яго потым ні называй — сапраўднае імя застанецца для любой з эпох невядомым. Бог. Д'ябал. Правадыр. Лідэр... І ўсё на тым. Прэтэндэнтаў на п'едэстал лічыць не пералічыць, а п'едэстал як стаяў пустым, так і стаіць...

— Для сляпога.

— Для відушчага, галубок, кім бы ты ні быў, азваўшыся на мае думкі... Сляпому ўсюды цені дарогу засцяць.

— І я для цябе цень?! Я, самы вялікі...

— Самы вялікі! Самы дужы! Самы мудры! Прымі паклон Пустаты, ха-ха-ха! — смяецца Ноч, і смех зусім не падобны на жаночы. — Не ты першы, не ты апошні ўскараскацца на п'едэстал сабраўся. Зірні перш, куды, па чыіх слядах, па чыіх касцях...

— Якая розніца! Не пра косці рабоў гаворка, а пра руіны цывілізацый, на якіх п'едэстал улады ўзведзены.

— Улады? Чыёй? Над кім і чым, як пуста вакол? На мірыяды светлавых гадоў пуста! Промні шляхоў... Піраміды Цібету... Арыён...

— Во-во! Каму Зямлі мала, таму зоркі падавай, каб сабе ці каму іншаму вянок вар'ята сплесці!

— Ты хацеў сказаць: праведніка... праваднікa Высокай Сілы?..

— Я, Вярхоўны Жрэц з касты Недатыкальных, сказаў тое, што сказаў. Вар'яты на Зямлі ніколі не пераводзіліся, і з нашаю дапамогаю таксама, —

а сіла як была ў руках Вялікіх, так і застаецца. П'едэстал для таго і ўзводзіўся, для таго і ўмацоўваецца на працягу ўсёй гісторыі, каб дэманстраваць непарушнасць нашае ўлады. Маёй улады! — тут, сёння і давеку.

— Прывіднай, пагадзіся, улады.

— Гэта як для каго! Для любога з іх, — успыхнуў у руцэ Жраца жэзл, адразу нагадаўшы паходню, і ў нияркім святле стала бачна, як рухаюцца натоўпы закаваных у ланцугі рабоў, — аднаго жэсту маёй рукі даволі, каб укленчылі, пыл глытаючы.

— Пад бізунамі наглядчыкаў...

— Пэўне ж. Аднойчы аддадзены загад не паўтараецца. Ён выконваецца. Скрозь і ўсімі. Па сваёй волі ці пад прымусам. Дэталі ніколі не маюць ніякага значэння.

— Смерць сотняў, тысяч, мільёнаў бяспраўных — гэтаксама з разраду дэталяў? — раскочваюцца словы рэхам далёкага перуновага гулу, каб раптам зноў змяніцца глухім смехам. — Ці мо ты напраўду прылічыў сябе да Вялікіх, напраўду верыш, што смерць мільёнаў абернецца тваім бяссмерцем?

— Хіба жыццё самое Зямлі не корміцца трупамі дрэў, жывёлы, людзей? Хіба ўзвышэнне не патрабуе ахвяры, мноства ахвяр? Чым бы асвятляліся бяздонныя тоні змроку, калі б раптам патух ахвярны агонь, што ўзгарэўся некалі Вышэйшай Воляй?

— Ахвяраваць можна толькі сабой, сваім... Злачынствы, масавыя расправы над безабароннымі ніякага дачынення да сапраўднае ахвяры не маюць, не ачышчаючы ні Зямлю, ні зямных уладыкаў. Апошнія — становяцца першымі. Так было. Так будзе скрозь, пакуль не адвернецца Бог.

— Вой-ё-ёй! Напужала! Ад чаго, ад каго б гэта Ён адварочваўся, як усё, засведчанае ў старых кнігах, створана Ім самім? Усё! І такім, якім бачаць усе здольныя бачыць. Цёмным...

— Светлым і радасным!

— Цёмным і беспрасветным...

— Дзівосна-прыгожым і радасным!

— Ра-дас-ным? Расказвай казкі каму іншаму! Нават мне, Вярхоўнаму Жрацу з касты Недатыкальных, не ўявіць свет, у якім усе пажыраюць усё, іншым — асветленым радасцю. Што ж да нікім не лічаных пакаленняў дзяцей чалавечых, то яны прыходзілі і прыходзяць на гэту Зямлю не радасці шукаць, а няволі. Ярма на сваю шыю. Самі ж скрозь падстаўляюць шыю дужаму, бачачы ў ім і заступніка, і валадара, і суддзю свайго.

— Ад таго, што не знаюць, не чуюць Бога ў сабе.

— Бога? А я для іх — хто?! Я, узышоўшы на п'едэстал....

— Перш узысці трэба, — смяецца Ноч, і зноў у смеху чуюцца раскаты перуноў. — Думаеш, гэта груда пeратрушчаных і закамянелых костак, якія і ты, як шмат хто да цябе, жывой людской крывёй амываеш, прыступку да ўлады для сябе мосцячы, не Галгофа, а п'едэстал, падмурак Храма Нябеснага? Дык жа і не Галгофа, і не п'едэстал. У лепшым выпадку — камяні сваёй уласнае грабніцы. Маўзалея.

— Гэта яшчэ адкуль: маў-за...

— Цс-с-с! Заслона падымаецца! Сачы за думкаю...

Там, дзе высілася гара скамянелага праху зямнога, узводзімага і ўяўляемага п'едэсталам, на яе паверхні, на сколе, што нагадваў вялізны экран, адна за адной пачалі праяўляцца аграмадныя цёмныя літары. Цёмныя — на цёмным, яны на міг успыхвалі крамяна-чорным агнём — і тады льга

было скласці з іх словы-імёны: Бог, Божы Пасланнік, Фараон, Імператар, Папа, Правадыр... Словы набягалі адно на адно, перакрэсліваючы папярэдні надпіс і тут жа рассыпаючыся пад націскам наступнага; словы вярталіся, мяняючыся толькі знешне, у адпаведнасці з іншым алфавітам, і зноў знікалі ў чырвона-чорным кіпенні, над якім і ўздымалася заслона. Так, так, заслона. Калі і не зусім тэатральная (памеры, як кажуць, не тыя!), то яўна з тэатральным эфектам, бо там, на зломе гары, на пустой, вышмальцаванай ілбамі і каленямі пляцоўцы п'едэстала, што і ўяўляла ў гэтыя хвіліны сабой падмосткі сусветнае сцэны, ужо і дэкарацыі з'яўляліся.

— Дэ-ка-рацыі?! — сіпеў, раптам страціўшы голас, Вярхоўны Жрэц. — Як ты смееш? Як насмелілася?

— Сачы за думкаю, — уздыхнула Ноч, лёгкім павевам ветру раздзьмухваючы крамяна-чорны кіпень, застылы на слове Правадыр...

Карціна зрушылася. Пакуль што менавіта карціна, а не дзеянне, бо ўсё, што ўзнікала перад паглядам, нагадвала хоць і фантасмагарычную, але дэкарацыю. З тоўшчы гары, аднекуль з-пад яе, выцягваліся, звіваючыся і ўтвараючы бясконцыя вузлы і перапляценні, рухомыя, жывыя і таму падобныя на непамерна доўгіх чарвякоў ніці. Вышэй і вышэй. Да самай паверхні. Праз яе. Праз шэрань, якая з яе цадзілася некуды ўгору, — туды, дзе павінна было ззяць Неба і якога там не было. Праз колькі імгненняў і адтуль, зверху, з густой шэрані, пачалі апускацца гэткія ж звілістыя і рухомыя ніці-канаты, на якіх, перш чым яны дасягнулі паверхні пляцоўкі ці якога з вузлоў, утвораных цяжкімі звівамі, загайдаўся прамавугольны крамяна-чорны крышталь. Труна, не труна... Пэўне ж, труна! Чым бы яшчэ гэта магло стацца!

Труна ледзь заўважна пагойдвалася між раз'едзенай тлустымі чарвякамі былых эпох гарой і нябачнай з-за тоўшчы, раз'едзенай гэткімі ж чарвякамі шэрані неба, на яўна сатанінскіх арэлях, і па-свойму жахлівае відовішча міжволі адштурхвала пагляд. Адштурхвала — і ўсё-ткі прыцягвала, прываблівала. Бо дэкарацыя кімсьці нябачным і няўмольным у сваёй жорсткасці працягвала дамалёўвацца — і з таго боку, адкуль зрэдчас прабіваліся слабыя водсветы адсунутай за сцены рэальнасці раніцы, рушылі, набліжаючыся, а ў хуткім часе ўжо тоўпячыся перад сцэнаю, шэрагі людзей. Адзін бясконцы шэраг! То роўны, то няроўны і звілісты ў сваім няспынным руху да труны і паўз яе, ён, гэты бясконцы паток вернікаў і нявернікаў, быў толькі дэкарацыяй тых падзей, што павінны былі адбывацца на сцэне. Ніводнага згуку, ніводнага шолаху не дасягала слыху Ночы, цішыня станавілася ўсё больш асязальнай і халоднай...

## I

Халоднае паветра сеялася белым ашмоццем расталых пры набліжэнні да зямлі аблокаў і, дасягаючы горных схілаў, парослых магутнымі векавымі кедрамі, ахутвала іх хрусткім ззяннем. Ззяннем неба ці яшчэ больш далёкіх наднебных вышынь у якіх патанаў любы згук, любы рух думкі, колькі б ні чапляліся за яе збуджаныя незнаёма-глыбокай цішынёй згадкі. Згадкі іншага, пэўна ж, ім ніколі не зведанага жыцця, пра якое калі што і знала душа, то, як здавалася яму нават у гэту хвіліну, ужо забыла і ўспомніць няздатная. Ды вось жа і няздатная, а ўспамінала... Гэта не магло не дзівіць, не здзіўляць Л., міжволі змушаючы прыслухоўвацца, услухвацца ў снежнае бязгучча тайгі, — і чым больш услухваўся ён, тым выраз-

ней чуў ціхае пахрустванне. Не пад нагамі — колькі ж часу ўжо стаяў абсалютна нерухома, не чуючы нават уласнага дыхання, — а дзесьці ў бязмежнай прасторы над сабою, над тайгою, над Саянамі, адкуль церушыўся празрысты, сатканы з самога сонечнага святла іней.

Згук — не згукі, а менавіта адзін працяглы згук, які з цягам часу стаў нагадваць тонкі, ледзьве ўлоўны звон, чамусьці трывожыў, то быццам папярэджваючы аб нечым, то зачароўваючы — і палохаючы незразумелаю сілай гэтых чараў. Не проста ж хараство сонечнага зімовага ранку запыніла яго тут, сярод кедраў, на ўкрытай глыбокім снегам паляне! — штодня выходзіў на лыжах у тайгу, штодня зазіраў у зіхоткія глыбіні неба над ёй, на поўныя грудзі ўдыхаючы марознае паветра. Чаму сёння ўсё бачылася, успрымалася інакш — праз насцярогу і чаканне чагосьці незвычайнага? Што міжволі насцярожвала? Напружанне цішыні? Хрусткае, ломкае святло, рассыпанае ў паветры? Раптоўныя бліскі яго, падобныя на белыя, ружовыя, залатыя кветкі сонца, рассыпаныя паўсюдна і бачныя толькі ў тыя кароткія імгненні, калі сэрца сцінался ад бязмежнага захаплення?

Чарговы бліск — і Л. нечакана адчуў, што слепне. Аслеп! І мала таго, што нічога, ніводнае рыскі знаёмага краявіду нават зрокам памяці не бачыў, перад ім — вакол яго! — палымнела сцяна святла, і гэта святло пачынала паглынаць яго самога. Паглынаць асязальна, як у вір, уцягваючы яго (ці мо толькі яго свядомасць) у сваё халоднае нутро, у халодны агонь нябачнае прасторы. Ён спрабаваў неяк бараніцца: перш проста прыкрываў твар даланёю, потым абедзвюма рукамі спрабаваў адмахнуцца, адштурхнуць нерухомую хвалю агню, але рукі нямелі і хутка перасталі слухацца, а потым і адчувацца. Звыклыя адчуванні ўвогуле знікалі, пакуль не зніклі ўсе да аднаго. Калі што і ўспрымалася, то чыста свядомасцю, і Л. паспрабаваў засяродзіцца хоць бы на гэтай думцы.

Свядомасць... Не агонь, а свядомасць, успыхнуўшы і зліўшыся з касмічным агнём, паглынала яго, адкрываючы ці толькі абяцаючы адкрыць невядомае. Невядомую будучыню. Невядомую рэальнасць... Папярэджваў жа яго ранак!

Думка слізганула па краі свядомасці і згінула, а хваля святла, у якой ці на якой ён знаходзіўся, пачала ўздымацца і, уздымаючыся, разгортвацца, як разгортвалася б насустрач сонечнаму цяплу неверагодных памераў кветка. Хвалі-пялёсткі, хвалі-прасторы разгортваліся, расхіналіся, абдымаючы ўвесь свет, увесь сусвет, і Л., не бачачы, не ўсведамляючы ні сябе, ні ранку, пасярод якога застыў, асляплы і анямелы, — б а ч ы ў гэта. Нейкім неверагодным чынам бачыў і ўсведамляў.

Калі дзівосная кветка святла распусцілася і спакойна зазззяла, рассыпаючы кругa вясёлкавыя промні, на яе зіхоткай паверхні ўжо зараджаўся новы рух, вызначыць, назваць які было немагчыма. Хтосьці нябачна маляваў святлом па святле — як такое пазначыць нават проста ўяўленнем?

— Ты гатовы да сустрэчы? — пачуў Л. непрагучалае.

— Да якой сустрэчы? З кім?

— З Той, у кім жыве душа тваёй зямлі, у кім плача душа твайго народа.

— Так, так, так! Плача! — імкнуўся ён разгледзець скрозь нясцерпнае ззянне перад сабой хоць што-небудзь. — Гэты плач ужо разбудзіў рэвалюцыйны рух...

— Ты гатовы да наканаванага?

— Канечне, — пасуровеў Л. — Няхай здзейсніцца ўсё наканаванае, іначай не здзейсніцца мой уласны лёс і некаму давядзецца пачынаць усё спачатку.

— Не некаму, а табе самому.

Голас прагучаў гэтак жа спакойна, без усялякай эмацыянальнай афарбоўкі, хоць штосьці яўна мянялася проста на вачах. Што? Напружанне святла. Зіхценне яго, што нібыта загучала, канцэнтруючыся ў цэнтры і ўсё больш нагадваючы шар... Калі жаданне Л. убачыць, з кім гаварыў, не прамовіўшы ніводнага гуку, стала неадольным, раптам, і зусім не па ягонай волі, адкрыўся іншы — духоўны — зрок, і ў ім (высветленая ім) узнікла выразная карціна невядомай рэальнасці.

«Я сплю», — мільганула думка, і на кароткую долю імгнення хіснулася ўбачанае, быццам раптам хліпнула ад няўлоўнага руху думкі святло, але калі што і змянілася, то незаўважна. Белы сляпучы шар перад ім мякка выпраменьваў кругa промні ўсіх колераў вясёлкі, і кожны з промняў, дзівосна прыгожы і гарманічна спалучаны з астатнімі, маляваў-узводзіў свой куточак незнаёмага свету, свой дыяментава-празрысты храм пасярод неабдымнага сонечнага горада. І вось ужо з усіх бакоў яго ўставала над гэтым горадам сонца — адно, другое, трэцяе... Пагляд адмаўляўся верыць — душа трымцела ад захаплення і любові!

— Ты правільна вызначыў адчуванне, — зноў загучаў у ім голас, і цяпер Л. мог пакляcціся, што гэта жаночы голас. — У кім жыве любоў, у тым жывы Бог. Яны — адно. Усё — адно ў адным, і толькі на пэўным узроўні свядомасці льга гэта ўразумець. Уразумець і прыняць да канца. Як Шлях. Як місію.

— Як місію? — няўцямна перапытаў Л. — Хіба місія даецца простым смертным? Тут, на Зямлі, нават вернасць свайму абавязку перад большымі, чым ты сам, гаротнікамі, перад будучыняю — тою, якую прагнеш разгледзець у цемры вякоў, караецца смерцю, і любы каранаваны валадар не гнушаецца быць катам.

— І ты будзеш каранаваны. І ты — пральеш кроў. І цябе назавуць катам. А вось жа ідзеш!

Словы прагучалі глуха. Як з-за сцяны, раптам узніклай паміж імі. І Л. міжволі памкнуўся зрабіць крок, рух у зіхоткую прастрань перад сабою, у якой пад промнямі мноства сонцаў незаўважна раставу дзівосны дыяментавы горад. Памкнуўся адно думкаю. Парыванне так і засталося парываннем, а там, дзе толькі што ззяў усімі колерамі вясёлкі горад нябесных храмаў, стаяла сцяна белага полымя. Ён адчуваў, што слепне. Аслеп! І зноў — невядома якім вокам ці зрокам — бачыў, здавалася, самую структуру полымя, імклівы рух яго дрогкіх напружаных ніцей, яго іскраў і іскрачак, што кожнае імгненне пераўтвараліся ў зіхотка-празрыстыя зоркі, утвараючы зорную, касмічную прастору.

«Гэта сон... Палёт у сне...» — мільганула лёгкае шкадаванне, ледзь не патушыўшы адкрытую перад душою карціну, але адчуванне таго, што ён ужо зліўся з бачным у гэтыя імгненні душы і імкне разам з ім некуды ў Бязмежжа, нават узрасло. З кожным імгненнем узрастала.

Рух — доўжыўся. І — не ўспрымаўся. Так, быццам ён, Л., і ўяўляў сабою і рух, і Космас з вірамі зорнага агню, і шлях праз яго. Вось толькі голас, што то ўзнікаў, то знікаў, то зноў пачынаў гучаць у ім... Каму належаў голас? Не сам жа з сабою ён гаварыў!

— І ты будзеш каранаваны на ўладу. І ты пральеш кроў. І цябе многія

назавуць катам. Усвядоміўшы гэта з маіх слоў, не хочаш павярнуць назад?

— Куды — назад? — як наткнуўшыся на голас, застыў Л. у якойсьці кропцы руху. — Ні гісторыю, ні жыццё народа, ні сваё жыццё павярнуць назад, да пражытага ўжо, немагчыма. Такі паварот азначаў бы, напэўна, вяртанне на ніжэйшыя віток развіцця, а то і проста небыццё.

Не чуючы адказу і страціўшы бачную карціну той рэальнасці, у якой знаходзіўся, Л. разгубіўся. Зноў толькі святло калыхалася вакол спакойным роўным мроівам, зноў толькі глыбокая — да звону ў вушах — цішыня.

— Я гатоў паверыць, што не сплю, — загаварыў, звярнуўся да цішыні, чамусьці ўпэўнены, што яго пачуюць, — але мне, чалавеку, вельмі павярхоўна знаёмаму з рознымі містычнымі з'явамі, патрэбны хоць якія-небудзь тлумачэнні таго, што са мною адбываецца. Каму я спатрэбіўся тут, у прастранях думкі, у космасе духу? Чаму я, загадзя пагадзіўшыся ахвяраваць сваім жыццём, прысвяціўшы яго справе рэвалюцыі, павінен наперад прасачыць свой лёс? Мяне выпрабоўваюць? Пужаюць? Папярэджваюць? Але ж я — у ж о! — ведаю.

— Ты не ведаеш таго, на што згадзіўся дух твой і што ведае толькі ён, — сатканая з самога святла постаць з'явілася перад ім так нечакана, што Л. і здзівіцца не паспеў — анямеў, знерухомеў, не здольны ні ўкленчыць, ні адступіць. — Коўш Вялікай Мядзведзіцы нахіліцца, сыпануўшы на Зямлю вогненнае зерне, тады, калі Русь — народы яе — падымуцца з каленяў. І гэта табе падымаць іх — сваім словам, сваім прыкладам, сваёй нязломнай воляй.

— І за гэта мяне назавуць катам?

— Агонь бясстрашша ўзгараецца ў крыві, на крыві, і калі ўзгараецца, то асвятляе ўсе шляхі чалавецтва. Іначай, на жаль, не бывае. Якую эпоху на зямлі ні ўзгадай: усё зацягвала раска коснасці, усё зжыралі сквапнасць і зайздрасць — і патрэбен быў меч...

— Мяне назавуць катам!

— У гісторыі ты застанешся Правадыром. Але толькі ў тым выпадку, калі здолееш выканаць узятую на сябе місію да канца.

— І ў чым гэта місія? — стараўся не толькі не паказаць свайго ўнутранага трымцення Л., але і пераадолець яго. — У тым, каб стаць Правадыром?

— У тым, каб на зломе эпох адбыўся злом у свядомасці людзей — людства! — мякка гучаў голас, пакалыхваючы на ўсёй прасторы бачнага лёгкае мроіва святла, у якім раз-пораз кароткімі бліскамі ўспыхвалі зоркі, і Л. не ведаў, што выклікала ў сэрцы большае захапленне: гэты дзівосны покрыў, які прамяніўся ад паўсталай перад ім постаці, ці сама нябесная пасланніца, укленчыць перад якой перашкаджала толькі пачуццё няпэўнасці, душэўнае нявызначанасці. — Злом балючы. На мяжы таго, што льга вытрымаць і пераадолець. Без аніякай гарантыі таго, што зрасцецца ўсё так, як след, не пакінуўшы на целе краіны наростаў і незажыўных ран. Таму і гаворым пра ахвяру.

— Га-ворыце? Хто?

— Відушчыя — праз мяне.

— А вы... ты... хто? — заікаўся Л., быццам праз сілу прамаўляючы словы раптам анямелымі вуснамі. — Я ніколі не верыў...

— Ты можаш не верыць, ты в е д а е ш. Мы страчаліся. У духу. І гэта дух твой вядзе цябе — і павядзе народы! — свядома абраным шляхам, куды б гэты шлях ні дамкнуў, дзе б і калі ні абарваўся. Місія вадзіцеля народа стане місіяй народа, але толькі ў тым выпадку, калі справе, служэнню

ёй ты, абраны для гэтай справы, аддасі ўсё. Усё — і без шкадавання і сумненняў. Мо і не здолееш не скаламуціць Святло ў сабе, мо не заўсёды пазбегнеш цёмных дарадцаў, з якімі неаднойчы сутыкне жыццё, выпрабоўваючы тваю мужнасць і тваю рашучасць, але ты пройдзеш. Толькі не азірайся. Нават у самую цяжкую хвіліну не азірайся назад, не прыгадвай перажытае і пераадоленае — табою і народам. Ты ўжо на самым вастрыі руху, які ў хуткім часе ўзломіць сцяну коснасці, і павінен не адно ўсвядоміць гэта, але і прыняць. Прыняць як знак майго даверу, як знак майго спадзявання.

— Ты... ты тая, каго называюць Ма-ці Свету... — заікаўся ад хвалявання Л., баючыся нават у думках прызнаць, што здагадваецца, перад кім стаіць, — ці проста паслана Ёю сюды...

— Не будзе вялікай памылкай думаць, што перад табою — сама Расія. Ва мне, у тым Святле, што праменіцца праз мяне, увасоблена Душа Расіі. Паланёная, адгароджаная змрокам мінулага, яна гукае да цябе, папярэджваючы: узятая табой на сябе місія павінна быць выканана, інакшай дадзеная клятва абернецца пракляццем.

— Хіба я даваў...

— Імгненне, адведзенае на сустрэчу, мінае... Слухай уважліва! Зямное ўвасабленне любога духа на нейкі час засланяе шлях, чарговы раз абраны ім як для свайго ўдасканалення, так і для ўдасканалення ўсяго зямнога жыцця. І ўсё ж мэта — мэта, запаведаная Госпадам! — з часам усё больш высвятляецца, выпрамляючы і доўжачы рух, вяршачы лёс. Твой лёс — трагічны. Велічны і трагічны. Ты ведаў гэта з самага пачатку, і ні хвіліны не сумняваўся, пагаджаючыся на яго. Гані з душы сумненні і надалей. Каб не адзін нейкі ўчынак, а ўсё жыццё стала подзвігам, сілы, табе дадзенай, хопіць, мужнасці... Мужнасць давядзецца прырошчваць самому. З дня ў дзень. З года ў год. Да самага скону...

— Я буду памятаць сказанае цяпер?

— Ты будзеш ведаць. Незалежна ад таго, будзеш памятаць ці забудзеш. Адлік пайшоў...

— Які адлік?! — сумеўся Л., фізічна (праз холад, які працінаў цела) адчуваючы, як сцінаецца, гасне святло, а ён правальваецца ў цем, у чорную яе бездань.

Апрытомнеў ад лёгкага ўколу думкі: «Выбірайся з сумёту: задубееш...», першае, што адчуў: холад, халодныя калючыя дотыкі снегу. Змусіў сябе разляпіць павекі і зразумеў, што ўпаў, з'ехаўшы з лыжні, у сумёт і добра, калі ацалелі лыжы, бо выбрацца з тайгі пешкі па глыбокім снезе наўрад ці здолее.

Сонца весела іскрыла, адбіваючыся ў кожным ледзяным крышталіку, — Л. жмурыўся, радуючыся, што рукі, ногі цэлыя, лыжы, здаецца, таксама...

— Э-э-эй! — нечакана для самога сябе загалёкаў ён і тут жа засмяяўся, прыкрываючыся рукамі: светлым іскрыстым воблачкам закружыўся над ім іней, так, бы неба асыпала яго срэбрам. — Э-э-эй!!

## II

Зімовая тайга... Снежны цалік... Каржакаватая постаць нязграбнага ў крыху мешкаватай адзежы лыжніка... Карціна застыла і паступова ператваралася ў простую дэкарацыю, якая на вачах змяншалася ў памеры, не губляючы яркасці, і хутка ўжо нагадвала своеасаблівую ілюстрацыю напісанага невядома кім пейзажа на сцяне...

Ледзьве ўзнікла думка пра сцяну, як сцяна з'явілася. Старая цагляная сцяна дома, заціснутага ў вузкую вулачку невялікага бюргерскага гарадка, якая павольна паварочвалася, мяняючы перспектыву: па адзін бок, адсунуты на самы край позірку, ляжаў бязлюдны ў гэтыя гадзіны гарадок, па другі — у святле лямпы з зялёным абажурам — мераў крокамі ўздоўж і ўпоперак свой невялікі пакойчык Л. Спыніўшыся, спыніўшы позірк на пейзажнай замалёўцы на сцяне, адчуў нечаканы сверб у патыліцы, нават пацягнуўся рукой, каб зняць адчуванне, і знерухомеў на міг: пейзаж пачаў адплываць, павеяла марозным паветрам, пачулася хрумсценне снегу пад лыжамі.

— Табе ж было сказана не азірацца назад! — чмыхнуў хтосьці нябачны побач.

— Азірацца можна і на тое, што будзе, — не сказаў, а падумаў Л., адступіўшы на колькі крокаў і па-ранейшаму ўзіраючыся ў сколак далёкай тайгі. — План стварэння не адмаўляе пераўтварэнняў.

Каму ён адрасаваў сказанае? Хутчэй, не каму, а чаму: невядома адкуль узніклая трывога не адпускала пагляд, і хацеў бы Л. ведаць, што гэта азначала.

— І дзесяці гадоў не міне.

— Хацеў бы я ведаць...

— Напраўду хацеў бы? — паддражніў голас. — Дык глядзі!

Штосьці падказвала Л. адвесці позірк, адступіцца, а ён яшчэ нейкі час назіраў за рухам таёжнага масіву, за рухам ценяў, што ўсё больш нагадвалі ўзброеных людзей. Круг замыкаўся, пачынаў сціскацца — пейзаж, нягледзячы на тое, што ажыў, ламаўся, камячыўся, як камечыцца аркуш паперы, і з утвораных складак, зморшчын, а потым і разломаў сталі выбівацца чырвоныя, чырвона-бурыя кроплі, потым — цурочкі-струменьчыкі... «Кроў! Ахвярная кроў!» — апякла здагадка, і Л. не здрыгануўся, толькі злёгку прымружыў вочы, каб праз міг ашчаперыць рукамі галаву і задумацца.

Азваўся тэлефон. Сцяна заняла сваё месца. І хоць кроплі па-ранейшаму скочваліся, падалі, адбіваючы невядома кім вызначаны рытм, пакой звыкла асвятляўся лямпай з зялёным абажурам, а голас Л., злёгку рэзкаваты і картавы, гучаў спакойна.

— Вы бачыце іншы шлях? Вы можаце гарантаваць бяскроўную перадачу ўлады пралетарыяту? Не, не і не! Улада партыі — гэта ўлада пралетарыяту, і мандат на поўную і безагаворачную ўладу нам можа даць толькі рэвалюцыя. Рэ-ва-люцыя! На яе алтар мы кладзём і пакладзём усё. Усё і ўсіх!

Апошняе прагучала пасля таго, як ён павесіў трубку, і ў цішыні, што запоўніла пакой, патанулі і цяжкія размераныя крокі, і думкі.

Зімовая тайга... Снежны цалік... Акрываўленыя трупы на снезе... Для таго, перад кім узвышаўся п'едэстал, няхай сабе ўсё яшчэ заняты, гэта не мела асаблівага значэння: бяскроўных рэвалюцый не бывае, і толькі кроў успыхвае вогнішчам, якое асвятляе будучыню. Чыя кроў? І кроў рэвалюцыянераў, і кроў тых, каго яны паднімуць на барацьбу, і царская кроў. Вогнішча павінна ўспыхнуць, затхлы спакой паўсядзённасці павінен быць вынішчаны: рух! рух! рух! — вось што вызначае жыццё. Сёння і давеку. І трэба быць на чале руху, на грэбні народнага абурэння, і не трапіць пад ногі натоўпаў, а ўзвысіцца над імі, над іх бядотамі і спадзеўкамі. Рух! рух! рух! — калі вера становіцца сцягам, калі словы плавяць цвярдыні ўлады,

калі штыкі ачышчаюць шлях да п'едэстала, не разбіраючы сваіх і чужых. Хто — свой, хто — чужы на шляху да ўлады? Правадыр — не павадыр. Ён — заўсёды тыран. Дыктатар! І наіўна думаць іначай.

— Чые думкі завучваеш? — пацікавілася цішыня, не хаваючы занепакоенасці.

— За... завучваю? — сумеўся Л.

— Не ты першы. Калі ўзгадаць гісторыю...

— Гісторыя апраўдае што заўгодна! Фараоны, цэзары, імператары, каралі... Яны ведалі, чаго хацелі для сваіх народаў, агнём і мячом караючы няверных. Калі б не іх воля, не іх цвёрдасць, людзі ніколі не выйшлі б з пячор, не ўзжадалі б святла, — абараняўся сам не ведаў ад каго ці чаго Л.

— Да святла выводзяць светлыя пасланнікі Неба, святыя, — глушэў голас, быццам аддаляючыся.

— Ага, так і хадзілі за імі натоўпы, пакуль глоткі не надрывалі ў крыку: «На крыж яго! Укрыжуй яго!» — палка жэстыкуляваў Л., адганяючы першы лёгкі цень сумнення ў рэальнасці сваіх прэтэнзій. — Што могуць ведаць пра шлях эвалюцыі людскія масы? Што трэба гэтаму аграмаднаму статку, акром выгану і пастухоў? Хто калі ўсур'ёз лічыўся з так званай народнай воляй, калі ўся яна лёгка ўмяшчаецца ў сцятым кулаку?

Л. зноў мераў крокамі пакой, жэстыкулюючы і раз-пораз горда ўскідваючы галаў, і нягучнае рэха кідалася за ім — ад сцяны да сцяны, і цямнелі, чарнелі сцены, пакуль контуры іх не зліліся з чарнатою ночы, не сышліся з межавай лініяй далёкага начнога гарызонту. Але Л. нічога не заўважаў: зялёны водсвет лямпы пакалыхваўся то леваруч, то праваруч, то ярчэючы, то зноў цьмянеючы і быццам аддаляючыся, а яму ўяўляліся плошчы, вуліцы, запруджаныя людскімі натоўпамі, якія сабрала, трымала ў напружанні яго прамова.

— Вы бачыце, — звяртаўся ён да іх, — як свет корчыцца ў муках новага нараджэння, у муках перараджэння на прасторах старой Еўропы, што неўзабаве будзе спаласавана акопамі сусветнай вайны, выпалена пажарамі гневу, нянавісці да сённяшніх гаспадароў жыцця. Усё будзе змецена гэтым агнём, усё будзе вынішчана гэтай нянавісцю — дзеля будучыні, дзеля ўлады над ёй. Я — той, хто ведае шлях у будучыню, хто бачыць яе за сценамі пажараў і рэкамі крыві. Не ахвяр трэба баяцца на гэтым шляху, а подленькіх думак сваіх пра спакой: зямля ўздыбіцца пад крокамі тых, хто панясе новую веру праз свіст куль і выбухі снарадаў, — толькі так сцвердзім новую краіну, узняўшы акрываўленыя сцягі над яе гарадамі і весямі.

Маналог гучаў палка, упэўнена — рэзкія ўзмахі рукі драбілі зялёнае святло лямпы, і ўсё больш цьмяныя драбінкі яго то ўзляталі ўслед за ўзмахам, то асыпаліся, рассыпаліся па кутах, губляючыся, знікаючы ў цемры, здэцца, ужо бязмежнай. Ды і бязмежнай! Бо вось ужо і пляцоўка пакоя, і нізкарослы аратар з масіўнай, ужо добра падголенай плешынаю галавой, схмялелы ад уласнага імпэту, і пляміна зеленкаватага святла, паколатая няспынным рухам груваcткага ценю ўзад-уперад, пачалі сцінацца, змяншацца, усё больш нагадваючы тэатральную сцэну, дзіўныя тэатральныя падмосткі, да якіх сцякаліся ўсё яшчэ невыразныя, цёмныя постаці.

Так, так, цемра ўсё відочней ажывала, напаўняючыся (хутчэй, выяўляючыся) рухомымі бясцелымі постацямі, і відовішча, калі б азірнуўся на яго ў гэту хвіліну Л., падалося б яму нерэальным, прывідным. А прывіды тым часам усё прыкметней матэрыялізаваліся, і чым смялей хто з іх набліжаўся да паколатай, хісткай пляміны святла, тым рэальней выглядаў.

Хутка ўжо льга было апісаць каторага з іх, вылучаючы то вузкі жылісты твар, прыкрыты акулярамі і клінам бародкі, то акруглыя масляністыя вочкі на акруглым, асклізлым, хоць і маладым, твары, то чорную грыву валасоў над нізкім ілбом, з-пад якога буравіў ноч востры, з хітрынкай, пагляд, то густую бараду, што акаймляла, здавалася, не адно падбародак, але і ўвесь твар. Якраз яны, добра праяўленыя, пераўвасобленыя ў тых, хто існаваў на самай справе, дзесьці ў зямным жыцці, акружалі цяпер цьмяна асветленую пляцоўку, каб праз мінуту-другую апынуцца ва ўвінчаным у ноч, у начны змрок пакоі, што быў цяпер для Л. і схронам, і своеасаблівым п'едэсталам.

— Вы можаце стаць гаспадарамі новага жыцця, — па-ранейшаму палка кідаў кругам даўно прадуманае, вынашанае ў душы Л., усё яшчэ не заўважаючы, каму, — вы, першыя з апошніх! Вам будзе належаць тое, што вы здолееце ўзяць, пераступіўшы цераз любога, хто ўстане на шляху, адпрэчыўшы Бога і д'ябла: слабым, мяккацелым, жаласлівым у барацьбе, што нас чакае, не выстаяць, не выжыць. Будучыня — побач, новая краіна чакае вас!

— Во ўпрогся ў ідэю! Сама лейцы накідваць...

— Цс-с-с! Яму здаецца, што трон ужо рассыпаецца.

— Кроў, кроў павінна горлам хлынуць, перш чым трон вызваліцца. А тут мы — яму памочнікі...

— Памочнікі? — улавіў штосьці, быццам наткнуўшыся раптам на нябачную перашкоду, Л. і застыў у чаканні, напружыў увагу, каб чаго-небудзь не ўпусціць. Нават прыжмурыўся больш, чым зазвычай. І — дзіўная рэч! — калі зусім сышліся павекі, раптам убачыў вакол незнаёмых людзей. Выразна ўбачыў. Усяго на міг. Але і імгнення было даволі, каб трапіў ён пад уплыў новага адчування. Абхапіўшы сябе рукамі, пахітваўся ён нейкі час, быццам працівячыся гэтаму ўплыву, але неўзабаве сцішыўся, звёў павекі.

— Да каго ты звяртаешся? Каго пераконваеш?

— Народ... Народныя масы... — мармытнуў Л., спрабуючы разгледзець і пазнаць хоць каго-небудзь з прысутных: штосьці знаёмае... і незнаёмае адначасова.

— Мы сустрэнемся праз чатыры гады, — памкнуўся дапамагчы яму зарыентавацца даўгалыгі суразмоўнік з вузкім тварам, прыкрытым акулярамі, а калі ўбачыў, што Л. збялеў і ледзь не губляў прытомнасць, суха засмяяўся. — Ды ты прысядзь, прысядзь, таварыш, а то ненарокам...

— Мы — тыя, каго прывабіў твой рэвалюцыйны імпэт, — супакойліва дадаў другі, з хітрынкай у жорсткім паглядзе. — Учора, сёння, заўтра — не мае значэння для таго, хто зазірае ў будучыню.

— Адзін зазірае, другі крышыць сцены і загарадкі паміж эпохамі, — хадзіў кругамі вакол крэсла мажны, расплывісты пры няпэўным асвятленні барадач. — Ты хочаш улады, а хто — не хоча? Ты марыш пра новую краіну за сценамі пажараў і рэкамі крыві, а хто гаворыць пра малочныя рэкі з кісельнымі берагамі?

— Сіла ўсё вырашае!

— Сіла і жорсткасць.

— Самыя моцныя сцены на крыві стаяць...

— Зямля і неба ўзвыюць ад захаплення, ледзь толькі ўздыбім мы ўвесь люд абяцаннем свабоды.

— Свабоды і роўнасці! Роўнасці, якой дамагаюцца з ружжом у руках!

Воклічы пасыпаліся на Л. з такой хуткасцю, з такой сілай, што ён міжволі ўгнуўся, сцяўся ў крэсле, стараючыся расплюшчыцца, апрытомнець, але словы то грымелі, то пераходзілі ў віск — і аблытвалі, аблытвалі

яго. Усё мацней. Усё няўмольней. Праз мінуту Л. ужо і варухнуцца не мог. Яму здавалася, што цела абвіта, скручана калючым дротам і вось-вось адзеравянее.

— Вы... вы хто такія? — выціснуў з сябе.

— Твае паплечнікі ў барацьбе за ўладу, — прагундосіў хтосьці над самым вухам. — Каму дастанецца ў рэшце рэшт улада невядома, але мы з табой...

— З табой, з табой, таварыш, не сумнявайся!

«Сілы нябесныя!» — выплыла аднекуль з глыбіні прапамяці думка і нечакана прамень яе выблісnуў высока над усім, што адбывалася, і Л. нібыта зверху, з аграмаднай вышыні ўбачыў цьмяна асветлены пакой, уласнае, скурчанае ў крэсле цела і тых, хто ладзіў свой шабаш вакол. Чыста нячысцікі!

— І цябе назавуць катам... катам... катам... — пракацілася, змываючы толькі што бачнае водгулле хто ведае калі і кім сказаных слоў.

## III

Хто закрыў заслону, выключыў нават гэта цьмянае святло, ноч не ведала, хоць па-свойму ўзрадавалася: збрыдла бясколерная карціна эмігранцкага прытулку пачатку стагоддзя — чым, запытацца, адрознівалася яна ад іншай у любы з часоў, калі некаму муляла ўзвысіцца над ім? Гэты горад, іншы... Гэткая кватэрка, большая... Адзін палац, другі... Мяняюцца дэкарацыі, героі — тыя ж! Гэты шлях, іншы... Гэткі імпэт, большы... Адзін натоўп, другі.. Мяняюцца заклікі, рэкі крыві — тыя ж: лёгка напоўніць, лёгка пяском засыпаць, згладжваючы. Люду зноў і зноў нараджацца, каб волі ўладыкаў патрафляць, а ўладыкі... Ім толькі здаецца, што яны нечым ці некім валодаюць! Ім і ў галаву не прыходзіць задумацца, спытаць, хто імі — іх розумамі і ўчынкамі — кіруе!

— Я! Фараон!

— Я! Цэзар!

— Я! Імператар!

Ноч зычна, весела засмяялася — нават зорачкі сям-там пачалі прадзёўбвацца. З цікаўнасці. Ці проста з-за таго, што ўскалыхнулася ўся прастрань і сям-там пачалі ўтварацца шчыліны і дзіркі. У адну з такіх шчылін патрапіў, відаць, аскепачак смеху, бо стала яна рвацца, шырэць, і вось ужо ссунулася, сцялася цемра па абодва бакі ад яе і на зноў бачным, вышмальцаваным ілбамі п'едэстале з'явілася постаць у высокім галаўным уборы, які адсвечваў золатам.

Ноч па-ранейшаму смяялася, варочаючы глыбы цемры, выварочваючы з-пад іх груды камянёў і каменьчыкаў featured рознага кшталту і кошту.

— Асыпайце мяне! Сыпце мне пад ногі! — загадваў невядома каму той, на п'едэстале, і каменьчыкі, пастукваючы, перасыпаліся, зіхцелі ў яго пад нагамі.

«Уніз, уніз зірні!» — падказвала Ноч, утвараючы своеасаблівы чорны раструб, у гарлавіну якога і ўцягваліся груды каштоўных камянёў, каб там, дзе яна звужалася, і, быццам перашчыкнутая, пераходзіла, уваходзіла ў новы раструб, ператварыцца ў тло — у мірыяды аскепкаў чорна-чырвонага пылу ці гарачага, нязгаслага яшчэ попелу. Вызначыць было цяжка, ды ніхто не збіраўся нічога вызначаць.

Той, у высокім уборы, нічога, апроч бляску, не бачыў, нічога, апроч

сваіх пыхлівых думак, не чуў. Калі ж унізе, ля падножжа сцэны (ці, як замоўлена, — п'едэстала!), стаў расці натоўп сагнаных адусюль рабоў, і гул галасоў, стук калодак закрануў-такі яго слых, толькі ўскінуў руку, патрабуючы цішыні і пакоры.

— Ніц! Ніц перад Уладыкам Свету! Вы — пыл у мяне пад нагамі, і тое, што дасюль не растаптаны, не скінуты ў прадонне агню і цемры, вялікая ласка Таго, перад Кім і я, Уладыка Свету, схіляю галаву. Яго храмы — гэтыя пірамiды, што па волі фараонаў узводзіліся, што па ўсёй Зямлі стаяць, хаду часоў вызначаючы, і адно мне, Вялікаму Уладару і Вялікаму Жрацу, знайсці ў любым з іх схрон і застацца ў вечнасці. Вы ж — пыл у мяне пад нагамі, і адным паглядам магу я развеяць, рассеяць гэты пыл па пустыні, скрозь сцежкі жыцця засыпаючы. Помніце гэта, ілбамі пясок раўняючы, на ўгнутыя спіны ношу цяжкую ўзвальваючы, дазволеным глытком вады сілу вяртаючы! Праца, праца і праца! Вы — рабы яе да скону, і радуйцеся, што не ўтаптаны ва ўласныя цені, скукожаныя ад сонца, ад ззяння яго на жэзле мне дараванае ўлады. А цяпер — прэч! Ідзіце і працуйце, поту не шкадуючы, крывавым потам камяні для новага храма амываючы. Прэч! прэч!

— Уладыка гневаецца? — абвівала яго ногі сваім гнуткім целам Ніла, наблiжаная не так за хараство сваё, як за ўменне растварыцца ў любым з пачуццяў гаспадара.

— Каго можа ўгнявіць пыл пад нагамі, калі яго не ўзвее, не ўзвіхрыць без волі Уладыкі на тое нават бура?

— Не варты яны слоў тваіх, Сонцатвары! Прыляг... адпачні... Паслухай гул Неба...

— Гул? — пачаў прыслухоўвацца той. — Але я не чую гула ў перазвоне сонечных промняў.

— Гэта таму, што не чуеш усплёскаў агню ў сэрцы сваім, — абвівала Ніла стан яго, лашчачыся, лашчачы, здавалася, кожную тканку дужага, прыкрытага адно тонкім выкшталцоным палатном цела і, адчуваючы, як паддаецца ён ласцы, ласкавым рухам умелых, чуйных пальцаў яе. — Гэта таму, што каторы ўжо дзень не даеш волю вогненнаму жаданню крыві, не заўважаеш рабы, пакорнай дыханню твайму, о Вялікі! Усё ва мне належыць табе — чаму ж не хочаш узяць, расплёскаць, растаптаць мяне, наталяючы смагу? Чаму не прымаеш ласку, любоў, табе прыналежную? Цела маё — у руках тваіх, жарсць мая дыханне тваё апаляе... Вазьмі ж мяне! Вазьмі, Сонцатвары! Адпі ад агню, ад жарсці гэтае...

Шэпт Нілы патанаў у звоне сонечных промняў, гнуткае цела яе, выслізнуўшы з празрыста-бязважкіх адзежын, ззяла ў залатых водбліскax сонца, рукі працягвалі свой эратычны танец, зачароўваючы адно за адным імгненні збліжэння.

— Вазьмі мяне, Сонцатвары! Спалі мяне палкім жаданнем... — знемагала ад распаленай страсці Ніла.

— Вазьмі яе, Валадар!

— Кінь на каменнае ложа замест падсцілкі!

— Пакажы, на што здатная сіла мужа!

— Камячы рабу сваю, вылюбі з сілай мужаскай, каб уздыхнула вольна сэрца!

Галасы найбольш прыбліжаных да фараона чуліся з усіх бакоў — здавалася, круг іх нават звужаўся, бо кожны з прысутных хацеў атрымаць сваё ад хвіліны, якая, калі разарве напружанне чакання, выльецца ў чарговую оргію для ўсіх і ўся.

— Забудзь пра ўсё, Сонцатвары! Бяры сваё тут і цяпер!

Хтосьці, згінаючыся да зямлі, падносіў чару з віном, хтосьці адцягваў, адцягнуў спрытнюгу ад п'едэстала, што стаў у гэту хвіліну каменным ложам, хтосьці хінуў да сябе адну з тых, каго ўпадабаў, і, распалены відовішчам збуджанай такі страсці валадара, прагнуў падкамячыць пад сябе па знаку таго. Знакам магло стаць што заўгодна: любы жэст, любое моўленае ці нават не моўленае слова — і дазвол не прамарудзіў. У той жа міг сцэна — прабачце, п'едэстал! — стаў нагадваць даволі агідны рухомы клубок сплеценых, скручаных самымі неверагоднымі вузламі аголенай страсці чалавечых цел, над якім пагойдваліся хвалі віннага духу і выпарэнняў цяжкога мужчынскага поту. Стогны перамешваліся з няўцямнымі воклічамі, звонам перакуленай чары, што качалася па вышчарбленых камянях, адгукаўся звон струменьчыкаў нябачнага фантана, цяжкія рытмы раз'яднаных і з'яднаных шалам спаконвечнага жывёльнага пачуцця рухаў адштурхвалі тым часам спахмурнелае неба...

— Фараон, ха-ха-ха! Валадар свету, бачыце! — смяяўся хтосьці адтуль, з-за хмар, і цяжка, павольна разгінаўся, падымаўся, адштурхоўваючы ад сябе стаптанае, паўмёртвае жаночае цела, фараон. Не прысаромлены, не! — раззлаваны, бо зноў выказаў слабасць, зноў паддаўся зямной спакусе, — і гэта ён, абраннік Неба!

— Ты — мой абраннік, мой! Запомні! З гэтай мінуты і да веку мой! — чулася праз раскаты смеху, якія крамсалі раптоўна загуслую, сцёмненую цішыню, і ў крамяна-чорных блісках то выяўляліся, то знікалі, пакідаючы па сабе цёмныя струменьчыкі дыму, цені.

— Я — сын Тота! — выпраміўся, развінуў плечы фараон, адчуваючы, як ледзяныя голкі пакодваюць нутро. — І не табе, хто б ты ні быў, прад'яўляць правы на дадзеную Ім мне ўладу!

— Уладу? — грамчэў, усё больш паходзячы на раскаты грому, смех. — Мне належыць тваё жыццё, твая цёмная душа, а ты... Няўжо і ўзапраўду думаеш, што падапрэш, прыўздымеш плячамі неба, каб хоць паглядам дапяць да сонма святых?

— Хто ты, што насмеліўся...

— Той, перад кім  ты ўкленчыш!

— Я?! Сын Тота? — не мог ён змагчы незразумелае здранцвенне, марна спрабуючы прыўзняць руку, намацаць жэзл вярхоўнага жраца і з яго дапамогаю прызваць Бога, знайсці падтрымку.

— Кленчы, сын Зямлі!

Гучныя раскаты грому ўжо нічым не прасочвалі смех, яны (калі верыць адчуванню) грымелі, грукаталі ўжо над самай галавой, і колькі фараон ні ўзіраўся ў крамяна-чорныя бліскі вакол, нікога з жывых ці мёртвых рабоў не бачыў. Ні душы — ні паблізу, ні ўнізе... Хоць дзе верх, дзе ніз у гэтым вэрхале бліскаў і грукату вызначыць было немагчыма.

— Ніц! — грымела ўжо адусюль. — Пакуль не раструшчаны цяжарам заклёну, кленчы!

«Мо і сапраўды... Ніхто ж не ўбачыць. Нікога няма ні паблізу, ні воддаль...» — кінулася на дапамогу думка, і хоць фараон разумеў, што гэта — думка слабага, думка палахліўца, ён не адкінуў яе, як зрабіў бы калісь, на пачатку часоў. І гэтага аказалася дастаткова, каб пачалі вянуць ногі, каб надламаліся калені, грукнуўшы аб каменную, вышмальцаваную каленямі і лбамі пляцоўку.

— Га-га-га! Га-га-га! — адкочваліся, адступалі, аціхалі раскаты перуна.

## IV

Навальніца наляцела раптоўна. Здавалася, ні хмурынкі не было яшчэ хвіліну таму, а тут адразу ў некалькіх месцах быццам разламалася прастрань неба і кавалкі, проста на вачах цямнеючы, сталі напаўзаць адзін на другі, крышыцца, выкрасаць вогненныя стрэлы маланак. Дажджынкі сеяліся перш нягуста. Кроплі то дыяментава ўспыхвалі, трапляючы пад промні, што прарываліся праз разломы неба, то цямнелі, цяжэлі, на міг запавольваючы падзенне, каб тут жа пасыпацца гусцей, імклівей, згінаючы, прыбіваючы да зямлі высокі мурожнік.

Спадарожніца па шпацыру цягнула Л. за руку, сама не знаючы куды, — паблізу не было ніводнае спаруды. Яны ўжо вымаклі да ніткі, і Л. відочна не працівіўся, раз за разам азіраючыся на хмару, узіраючыся ўглыб разломаў адразу незнаёмага, паглыбелага неба. Будзь ён тут, ля падножжа Альпаў, сам па сабе, і з месца не скрануўся б: хараство, што адкрывалася пагляду ў сваёй чароўнай, а часам і пагражальнай зменлівасці, вабіла амаль з неадольнай сілай.

— Нам трэба дзе-небудзь схавацца, перачакаць... — мармытала Н., і ён не працівіўся, ішоў за ёй, наўрад ці чуючы гэта мармытанне, над галавой, кругом іх асляпляльна бліскалі кароткія, імгненна гасшыя стрэлы, якія, здавалася, варочалі ўсе паколатыя глыбы сіні і ўсё больш груваcткія, сям-там падсвечаныя гэтай сінню хмары.

— Ну што ты азіраешся? — не хавала непакою Н.

— Калі б льга было ўразумець, што ў падобную хвіліну мовіць неба! — вырвалася ў Л., і ён, пасля таго, як ад нечаканасці адказу Н. выпусціла яго руку, глыбока, з палёгкаю ўздыхнуў.

— Ты сябе добра пачуваеш?

— Бяжым! — тузануўся ён прэч. — Бяжым вунь да таго стажка на схіле!

Кароткімі шпаркімі крокамі пабег ён куды паказваў і, хоць ніводнага разу не азірнуўся, дакладна ведаў, што Н. не адстае — не адстане, а мажліва, і апярэдзіць яго напрыканцы, каб выказаць папярэдлівасць і чарговы раз пацвердзіць свае правa на пастаянную апеку над ім. Так, урэшце, і здарылася. Нават мокрае зверху сена паспела яна адгрэбці, рыхтуючы сушэйшае месца для Л., і таму нічога не заставалася, як яшчэ раз уздыхнуць, выціскаючы ўдзячную ўсмешку.

— Скінь пінжак і працісквайся ўглыб, — камандавала Н., працуючы абедзвюма рукамі. — Сена яшчэ не зляжалае...

Ён па звычцы падпарадкаваўся, асабліва не задумваючыся чаму, тым больш, што адразу адчуў і цяпло, і ўтульнасць мяккага травянога гняздоўя: за каўнер не капала, а назіраць за ўсім, што тварылася звонку, распатланая духмяная стрэшка не перашкаджала.

Нейкі час ён бачыў толькі завесу вады, быццам дождж незаўважна пераходзіў у лівень, але пасля першага ж удару перуна, ад якога здрыганулася ўсё вакол, завеса гэта хоць і не знікла, стала больш празрыстай і асабліва не замінала. Л. жмурыўся, узіраючыся ў злёгку размытую далячынь, усміхаўся на кожны бліск маланкі і не заўважаў ні сваёй рэакцыі, ні свайго непрыхаванага ўзрушэння. Хмары варочаліся, пераварочваліся, агаляючы вогненнае нутро, то вышэй, то ніжэй, маланкі то ўзвіхурвалі струмені вады, асвятляючы іх белым трывожным ззяннем, то прыбівалі да зямлі — і ва ўсім, над усім стыў халодны звон, які зрэдку разбівалі, рассыпалі кругом раскаты грому.

Калі раптоўна на міг усё аціхла, Л. падумаў, што ад грукату ці напружанага чакання наступнага ўдару заклала ў вушах. Цішыня ж доўжылася, глыбела, уцягваючы яго ў незнаёмыя тужлівыя тоні, і марна было працівіцца, спрабаваць супрацьстаяць. Л. і не працівіўся. Адкінуўшыся, наколькі льга было, на пругкую тоўшчу сена і нават не ўсвядоміўшы свайго руху, ён цікаваў за зменлівай плямінай святла перад сабой, за якой не праглядвалася ўжо нічога канкрэтнага, рэальна азначанага, і бязгучна, адно ў думках, паўтараў: «Мне было сказана... сказана... даверана... Мне было сказана...» Спытайся ў яго хто ў гэту мінуту: «Што сказана?», пытанне абурыла б яго сваёй бязглуздасцю і неадпаведнасцю яго перажываннямі.

Тым часам пляміна святла ўсё выразней акрэслівалася, набываючы форму. Форму дзіўнага, без галін і лісця, дрэва, якое, калі ён, жмурачыся, прыглядзеўся, нагадвала зіхоткі пясочны гадзіннік з няроўнымі конусамі, пірамідальна замкнёнымі і павернутымі адзін да аднаго сваімі вострымі вяршынямі, — не дрэва, а матэматычная загадка!

Ужо хацеў адступіцца, стомлена прыкрыўшы вочы, але дрэва, што нагадвала пясочны гадзіннік, шырэйшым конусам скіраваны ўніз, як стаяла, так і стаяла перад паглядам. Адно ззяла яшчэ ярчэй — так ярка, што было незразумела, чаму ён не слепнуў, чаму бачыў рух кожнага зыркага промня. Промня-маланкі! — вярнулася раптам згадка пра заспелую навальніцу, і тут жа сыпанулі зверху ўніз бела-залатыя стрэлы, залатыя промні, якімі акрылася ўсё наўкруг.

Л. спрабаваў адшукаць паглядам толькі што бачнае пасярод паляны дрэва, але ўвагу яго неадольна прыцягвала іншая — цёмная! — пляміна крыху воддаль: яна набліжалася, і ўзніклая раптам трывога падказвала, што ў набліжэнні яе тоіцца небяспека, нават пагроза, і нікуды ў гэту хвіліну не схавацца...

Дзіўная рэч! Цёмная невыразная пляма, набліжаючыся, не распаўзалася, а расла, відочна цяжэла, — стрэлы ж маланак не ламаліся, па-ранейшаму сыпаліся, скакалі наўкруг, утвараючы жудаснае ў сваім харастве атачэнне бачнага. Праўда, Л. хутка нібыта перастаў заўважаць іх, напружваючы зрок, каб не прапусціць ніводнага руху пляміны — цёмнай выявы невядома каго, што ўжо праступала праз яе, набываючы ўсё больш пагрозлівую выразнасць.

— Спалохаўся? Баішся таго, не знаеш чаго?

Л. уздрыгнуў, пачуўшы голас І., па якой сумаваў тут, у гарах, хоць ніколі не прызнаўся б у тым нават самому сабе. Уздрыгнуў — і ўсё ж не дазволіў сабе расслабіцца: падсвядома адчуваў, што ад яго сабранасці ў гэту хвіліну залежыць не толькі ягонае жыццё.

— Звярніся да яго... Загавары з ім...

— З кім? — варухнуў ён знямелымі губамі (ці яму здалося, што варухнуў, бо даўно не было адчування ўласнага цела). — Нікога ж няма. І ты... Ты дзе?

— Загавары з ім!

Напружанне моманту было такім, што вібрыравала, звінела паветра, і Л., які не верыў ні ў Бога, ні ў д'ябла, не ведаў, ні чым гэта вытлумачыць, ні як да гэтага паставіцца. Не мог жа ён усур'ёз думаць, што перажываемыя хвіліны выпалі з рэальнасці і ён узіраўся не ў цёмную пляму пад крылом навальніцы, а ў цёмную душу сваю!

— Мама! — бязгучна пагукаў ён, нават не ўсвядоміўшы гэтага. — Мама-а...

— А-а! — узвілася цёмная тоўшча паветра і, асядаючы, ніжэючы, быццам прарэдзіла маланкавыя бліскі, якія перашкаджалі разгледзець утвараемую на вачах форму. Форму чалавека — постаць волата...

Л. не верыў таму, што бачыў: магут, які галавой падпіраў хмару, ва ўсім, што льга было назваць зямным, прасочваў яго, паходзіў на яго, і гэта выглядала да жудасці страшна.

— Загавары з ім.

— Ды пайшлі вы са сваімі парадамі! — агрызнуўся Л., спрабуючы знайсці хоць якое тлумачэнне таму, што адбывалася, і думка злосна выбліснула, падобна мячу рассёкшы прыблуду з ягоным аблíччам папалам.

— Ну і храбрэц, ха-ха-ха! — пакаціўся раскат перуна па краі пагляда — з цэнтра ж, з тае кропкі, дзе ўвайшло ў зямлю вастрыё думкі, вырваўся агонь. Няяркі, ненатуральна празрысты, ён пачаў набліжацца і, калі Л. міжволі памкнуўся адкаснуцца, адхінуцца («Сена ж успыхне, як порах!»), раптам сцяўся ў клубок, зашыпеў і ператварыўся ў... у злыдня, няйначай! — у каго ж яшчэ?

— З'явіўся, не запыліўся, — мармытнуў Л., цікуючы за няпрошаным госцем, а той спакойна захінуўся ў плашч, усеўся, прыняўшы позу йога, насупраць, за якіх паўметра ад яго, і ўсміхнуўся. Ці то яму, ці то якойсьці сваёй думцы.

— Цяпер бачна: выбар мой правільны.

— Спадар, перапрашаю, што мае на ўвазе?

— Спадар! Во-во! Так і звяртайся да мяне — у самую кропку, што называецца, — не варухнуў той губамі, але Л. выразна чуў кожнае слова, з цікавасцю і прыхаваным страхам узіраючыся ў неспадзяванага суразмоўніка: доўгі вастраскулы твар, асветлены толькі чорным бляскам глыбока пасаджаных вачэй, тонкія выгнутыя лініі губ над вострай бародкай, пакладзеныя на калені рукі, абцягнутыя тонкімі чорна-сінімі, як і плашч, пальчаткамі, якія, здавалася, падкрэслівалі крыху ненатуральную даўжыню пальцаў... — Я тут, бо прыйшоў час дзейнічаць.

— Пры чым тут...

— Слухай і запамінай! — працяў яго калючым ледзяным позіркам той, змусіўшы сцяцца і змоўкнуць. — Стагоддзе, ледзьве пачаўшыся, будзе зламана — і зламана тваімі рукамі. Пра тое — наш клопат. Год жа, дзень прызначаны няўмольна набліжаецца, і далейшае прамаруджванне смерці падобна... Дзеянне, дзеянне, дзеянне! Любой цаной, любой крывёй мэта павінна быць дасягнута — хай свет узвые ад захаплення і жаху! Хай апошнія стануць першымі, але на наш капыл — на мой! Ха-ха-ха!

— Мо скажаце, з кім маю гонар? — з цяжкасцю выбраўся са свайго здранцвення Л., стараючыся не пазіраць таму ў вочы.

— Не здагадаўся? — не ўсміхнуўся той. — Ці бязвер'е не дазваляе прыняць відочнае за рэальнае? Быў бы Бог, быў бы і той, хто здольны Яму супрацьстаяць...

— І што вы — вы ўсе! — ад мяне хочаце?! — зазлаваў Л. невядома чаму, узрадаваны ўжо тым, што не толькі страху, але і ніякаватасці больш не адчуваў.

— Хацець — твая прывілея, — і брывом не павёў той. — Не мы, а ты — хочаш звергнуць царызм! Не мы, а ты — трызніш рэвалюцыяй, прагнучы ўсадзіць нож пад рабрыны старога свету! Не я, а ты ўзжадаў убачыць сябе правадыром сірых і пакрыўджаных — усіх гарапашнікаў зямлі гэтай грэшнае! Вось і не адступайся. Дзейнічай. Збірай вакол сябе тых, хто

выканае любы загад, каму і ў галаву не прыйдзе пашкадаваць якую з тваіх ахвяр.

— Ма-іх?!

— «Ахвяр гісторыі» — табе больш да спадобы?

— Урэшце, справа не ў той ці іншай колькасці ахвяр...

— О-о-о! — ледзь заўважна прыўзняў край брыва гаспадар становішча, яўна задаволены паваротам гаворкі.

— ...калі шлях бачыцца далёка наперад, — не пачуў і не мог пачуць Л. ягоны вокліч, прадоўжыўшы думку, — чым, чыймі касцьмі ён будзе выбрукаваны, няважна нават для гісторыі. Галоўнае, ці будзе дасягнута мэта, ці знойдзе сваё завяршэнне сусветная рэвалюцыя, ці прызнае свет яе герояў.

— Цаной, заплачанай за гэта, пацікавяцца няскора, — бязгучна падказваў суразмоўнік.

— А і не прызнае... — зноў не заўважыў паўзы Л. — Толькі яны, апярэджваючы сваю эпоху, ведаюць, што такое свабода. Толькі яны могуць прадбачыць золак наступных дзён, маюць мужнасць вітаць яго прыход. Толькі яны, абылганыя натоўпам, узвышаюць незалежны і горды голас нават тады, калі іх асуджае грамадства. Толькі яны ў сабе саміх знаходзяць і сілу, і спадзеўку і з непахіснай душою, са святой прагай справядлівасці ідуць да вызначанае мэты не азіраючыся, ці ідуць за імі астатнія. Толькі яны могуць дасягнуць тых вышыняў, з якіх можна паказаць адсталаму свайму пакаленню шлях у будучыню. У шчаслівую будучыню!

— А як наконт таго, што нельга прыняволіць чалавека быць шчаслівым?

— Ну, гэта мы яшчэ пабачым! — буркнуў Л. у адказ, незадаволены, што яго ўсё-ткі перапынілі.

— Так, так. Калі ты правадыр...

— Мне прапанавалі! — вырвалася ў яго міжволі.

— Можа, скажаш, хто? — яўна падзужваў той, хоць на ледзь-ледзь асветленым спахмурнелым небам твары і жылка не ўздрыгнула.

— Пасланец Шамбалы, — мовіў Л., і ў думках не трымаючы нічога падобнага.

— Ха-ха-ха! — азваўся пярун, сыпануўшы жменю нябесных стрэл проста ім на галовы — і месца, дзе, на думку Л., яны знаходзіліся, успыхнула дзіўным нежывым агнём. Усяго на момант. Таму што ў наступны момант агонь — і цяпер ужо агонь сапраўдны! — перакінуўся на яго, на стажок сена, у якім колькі хвілін назад знайшоў ён прытулак.

Узгадаўшы стажок сена, Л. згадаў і сваю спадарожніцу («Заснула яна, ці што? А як заснула, то і...»). Але згадка мільганула і знікла, паглынутая агнём, што віраваў вакол, шугаючы да нябёсаў: ён услухваўся, углядваўся ва ўласнае ўспрыманне таго, што адбывалася. Агонь павінен быў спаліць, паглынуць і яго — і не паглынаў, боль апёкаў павінен быў адчувацца — і не адчуваўся. Больш таго: выпальваючы ўсё вакол, шалёны агонь вынішчаў і змрок — прастора святлела, і хоць немагчыма было вызначыць, што гэта за прастора, чые гэтыя зямля і неба, карціна праяснялася, чысцела, не змяніўшы, а засланіўшы ўсё толькі што перажытае.

Яшчэ адзін пільны позірк — і Л. адкрылася бязмежжа, бязмежная прастора Расіі. Ад Пецярбурга — на ўсход. Далёка, куды дацягваўся пагляд, на ўсход — над лясамі і азёрамі, гарадамі і пасёлкамі, рэкамі і лагчынамі... Гэткую далячынь немагчыма ахапіць паглядам, убачыць аднамомантна, а ён, Л., бачыў. Дзіва дзіўнае! — а і гэта яшчэ не ўсё. Ледзьве паспрабаваў

ён зірнуць на сябе самога, адшукаць сябе ў гэтым бязмежжы, як тут жа згледзеў пастамент. Перш — валун, што стаў пастаментам для помніка Пятру, і яго, Пятра, на кані, потым голы валун — пусты п'едэстал, што ўзвышаўся над усім бачным з чатырох бакоў бязмежжам.

«П'едэстал не павінен заставацца пустым», — мільганула ў думках, і думка ў той жа міг матэрыялізавалася: на валуне, што ператварыўся ў п'едэстал, стаяў з ускінутаю рукой угору-ўперад ён сам. І хоць у постаці яго ўсяго і было ад правадыра, што гэта ўскінутая над прастранню рука, Л. сабе спадабаўся. Памкнуўся нават яшчэ больш наструніцца ўслед за рухам рукі — і невысокая постаць яго быццам павышэла ў гэты міг, набыўшы адпаведную моманту манументальнасць.

— Хто быў нікім, той стане ўсім! — выгукнуў ён у прастрань, і тая раптам зрушылася, ажыла, змусіўшы Л. азірнуцца, а потым і закружыць на месцы, узіраючыся ва ўсё новыя карціны прыадкрытай перад ім будучыні, хутчэй за ўсё, недалёкай па часе. Пра ўскінутую руку ён забыў, і калі б мог зірнуць цяпер на сябе збоку, убачыў бы, што выглядае смешна, калі не карыкатурна. Але адкрытае пагляду відовішча незнаёмых і захапляльных у сваім размаху падзей забірала ўсю ўвагу. Л. увогуле хутка перастаў адчуваць сябе, сваю прысутнасць, жыў адно свядомасцю, стараючыся ахапіць, асэнсаваць хоць штосьці з убачанага.

Першае ўражанне: уся Расія ляжала перад ім як на далоні... На чыёй далоні? Любы закон фізікі, любы стан матэрыі выключаў падобную магчымасць бачання, і нават у думках дапусціць, што гэта не сон... Сон! Ён проста заснуў у капе сена — у сне азірае прастору пагразлай у галечы і няшчасцях краіны, думаючы пра неабходнасць рашучых — рэвалюцыйных! — змен... Як, куды ўсё павернецца пасля выбуху народнага гневу — не важна: беспрасветная цем жыцця павінна быць узарвана, уздыблена да самых каранёў, каб пайшло-пацякло жыццё потым па-іншаму, па-новаму. Перш — у Расіі, потым — праз сусветную рэвалюцыю — ва ўсім свеце. Рух, рух, рух патрэбен!

— Вось яно! Вось як будзе! — выгукнуў Л. так гучна, што рэха воклічу спалохана кінулася ад яго ва ўсе чатыры бакі, абуджаючы нямую дагэтуль прастрань.

Усё завіравала, загуло, затрашчала ад стрэлаў і разрываў снарадаў — то тут, то там сыходзіліся ў смяротнай бойцы людзі ў шынялях і без шынялёў, гарэлі хаты, вёскі, масты, дыміліся варонкі і разбураныя станцыі, стагналі параненыя, умярзалі ў стынь і гэтыя стогны мерцвякі. Вайна? Вайна па ўсіх заходніх граніцах імперыі? Так, так! Вайна з германцам, якую здолее патушыць толькі рэвалюцыя. Агонь — на агонь! Сіла — на сілу! У такой сітуацыі нельга марудзіць. Прамаруджванне смерці падобна...

Л. па-ранейшаму з ускінутаю ўперад рукою стаяў на камені п'едэстала нерухома — здавалася, акамянеў ад напружання, ад напружанага чакання працягу, новага зруху людскіх мас. Зрух ужо наспяваў, агонь дзесьці ў самай гушчы падзей ужо ўзгараўся. Адзін штуршок, адзін палымяны заклік — і натоўпы кінуцца ламаць, крышыць усё на сваім шляху, адваёўваючы права на іншае жыццё! І ніхто — ні Бог, ні цар і ні герой! — не ўказ ім, нават калі ўсе яны — толькі ахвяры і іх касцьмі будзе засеяна руская зямелька.

— Ахвяры?! Не, не! Усе мы — героі ў гэтай бітве! — усклікнуў узрушаны паўсталай перад вачамі карцінай Л., не хаваючы ні якогась гарачкавага захаплення, ні невытлумачальнай у падобнай сітуацыі радасці, быццам менавіта тысячы, сотні тысяч смярцей у яго на вачах, якія ён, прагна-

зуючы, справакаваў, былі ў радасць, быццам тое, што вайна з германцам пасля рэвалюцыйнага перавароту перарасла ў вайну грамадзянскую, так і задумвалася...

## V

Пакуль добра не звечарэла, Л. не запальваў лямпу: па даўняй звычцы крыху нахіліўшы галаву ў бок правага пляча і то жмурачыся, то ўскідваючы позірк і міг-другі няўцямна ўзіраючыся ў суцемкі за акном, працягваў працаваць над артыкулам. Абдумваў кожны тэзіс, кожную фразу нядоўга — часам рука апярэджвала думку, занатоўваючы яе свабодны палёт на паперы, і тады Л. ледзь заўважна, аднымі вачамі ўсміхаўся.

— Якая гэта ўсё-ткі чароўная ўлада — улада над думкай! — урэшце адкінуўся ён на спінку крэсла, пацягваючыся, і тут жа ашчаперыў тулава скрыжаванымі рукамі, пачаў задаволена пахітвацца ў крэсле.

— Ты штосьці прасіў? Запаліць святло?

— Не, не, галубчык, — саскочыў з крэсла і, сунуўшы адну руку ў кішэню штаніны, а другую — за лацкан жылеткі, падышоў Л. да пацямнелага акна. — Звечарэла!

— Хутка пачнуць збірацца камітэтчыкі, — азвалася Н. — Я пашукаю што-небудзь да гарбаты...

— Да-да-да, — выслухаўшы ў адно вуха, рассеяна адгукнуўся той. — Камітэты павінны працаваць па ўсёй краіне. Паўсюдна.

Апошняе сказаў ці то самому сабе, ці то вулічным агням, блікі ад якіх танцавалі ў яго на твары. І тут жа прыкрыў вочы, задумаўся. Чамусьці зусім не пра тое, што сказаў і крыху раней пісаў, фармулюючы канцэпцыю стварэння новай партыі, а пра яе, Н., даўнюю паплечніцу і неабходную пры яго бясконцых пераездах і патрэбе ў пастаяннай канспірацыі няньку, з якой ажаніўся і якую не кахаў. Яна знала, што не кахаў, і пагадзілася на адведзеную ёй ролю... Чаму? Не па рэвалюцыйным жа абавязку на самай справе! Дамоўленасць дамоўленасцю — не сэрца яе падпісвае! — а жыццё штодня свае задачкі падкідвае. І, улічваючы, што пачуцці хірургічным умяшаннем не выдаляюцца і старэнню не паддаюцца, недзе неяк абавязкова праявяцца. Вернасць нярэдка абарочваецца гнуснай здрадаю, любоў нярэдка перараджаецца ў бязмежную нянавісць, і калі няма абарончай заслоны...

Нягучны стук у дзверы тут жа змёў усе думкі ўбок, звыкла змусіўшы насцярожыцца і адысці ад акна: за дзвярмі мог стаяць хто чужы, і лепш быць гатовым да чаго заўгодна. Але Н. ужо вяла ў пакой першага госця, і ён, жмурачыся ад святла ўнесенай лямпы, завесіў акно і зрабіў крок насустрач.

— Рад. Рад. Спадзяюся, нікога на хвасце...

— Дабрыдзень! Стол завалены спісанымі аркушамі, значыцца, нумар можна вярстаць, — усміхаўся М. — І ў мяне сёе-тое знойдзецца.

— Прашу! — шырокім жэстам запрасіў яго да стала Л. — Пакуль астатнія падыдуць, ёсць колькі хвілін для азнаямлення з падрыхтаванымі матэрыяламі. І я зірну...

Ён ужо ўчытваўся ў допіс М., часам з цяжкасцю разбіраючы почырк і таму ўсё ніжэй схіляючыся да лямпы, і па выразу твару цяжка было вызначыць, ухваліць ён артыкул ці проста пагодзіцца з выказанымі ў ім думкамі. Дачытаўшы, вярнуўся да першай старонкі і па тым, як лёгенька це-

рабіў пальцамі падбародак, было відаць, што згодны не з усім, што ў думках ужо вёў спрэчку. Вось жа і з месца сарваўся, кіруючыся ў процілеглы ад стала кут. Расія... Яе гісторыя... Чарговая спроба звязаць канцы з канцамі... Не, каб зірнуць далей! Далей і ў прасторы, і ў часе! Не замыкаючыся ў межах адной краіны, аднаго дзесяцігоддзя ці нават стагоддзя! Касмічнае дзейства — вось да чаго трэба рыхтавацца, вось што праводзіць у жыццё! І не кошт рэвалюцыі, не колькасць ахвяр, прынесеных на яе алтар, павінна хваляваць...

— Не, не, не, баценька! Не вецер — бура! — толькі бура ўзвіхрыць пыл стагоддзяў, змятаючы разам з ім старызну спаконвечных жыццёвых догмаў.

Ён прамовіў гэта ўголас і, павярнуўшыся, злавіў хуткі насцярожаны позірк Н.

— Бачу, усе сабраліся і чакаюць толькі мяне, — не выказаў ён здзіўлення, быццам не адсутнічаў, заглыбіўшыся ў свае думкі, апошнюю чвэрць гадзіны. — Я, з вашага дазволу, прадоўжу.

— Канечне, канечне, — падсаджваліся ўсе бліжэй да стала: хто бліжэй да лямпы і стоса папер побач, хто бліжэй да разлітага па шклянках гарачага чаю.

— Зноў і зноў скажу: зерне буры пасеяна. Пасеяна не намі. І ўсё, што патрабуецца ад нас, — не прапусціць дзён выспявання рэвалюцыі. Пільнасць, пільнасць і пільнасць! Яна падкажа, дзе вады плеснуць, дзе іскру паднесці, дзе слова, як сцяг, развінуць. Ад рэвалюцыі дэмакратычнай мы зараз жа пачнём пераходзіць да сацыялістычнай рэвалюцыі. Мы стаім за бесперапынную рэвалюцыю. Мы не спынімся на паўдарозе. І ў сацыялістычнай будучыні месца гістарычнай Расіі няма. Няма, колькі б хто ні рваў на грудзях рубаху, даводзячы іншае. Што аджыло сваё — на сметнік гісторыі! Што не адпавядае нашым мэтам — следам за ім! Не перабудоўваць — разбураць і ўзводзіць наноў! Не ачышчаць — кідаць у агонь! Не лячыць — знішчаць!

— Але ж да чаго вядзе анархія... — кашлянуў М.

— Анархія?! Не, баценька, рэвалюцыйная неабходнасць, — быццам чакаў пярэчання Л., бо, тут жа ажывіўшыся, зажэстыкуляваў. — На тое мы і пагуканы рэвалюцыяй, каб як бура пранесціся над зямлёю, зносячы, разбураючы асновы старога свету. Не сцены — самі асновы, каб і ў галаву потым нікому не прыйшло збіраць рэшткі і ляпіць з іх што якое з цёмнай мінуўшчыны.

— Сяляне не пойдуць за намі, — задумліва адгукнуўся А., пакручваючы сваю шклянку гарбаты.

— А нашто паўтараць чужыя памылкі, баценька? — матлянуўся да яго Л., схіляючыся і зазіраючы таму ў твар. — Не пра сялян гаворка, не пра народ, а пра армію рэвалюцыянераў, якую мы, не шкадуючы ні сілы, ні часу, павінны сфарміраваць, стварыць з тых, каму няма чаго губляць. І гэта мы — партыя, якая з'яднае рэвалюцыянераў! — павядзём армію на штурм старога свету.

— Вы забываеце, што Расія — сялянская краіна...

— Сёння! На дадзеным этапе, баценька! — перапыніў яго Л. перш жэстам, потым словамі. — А заўтра? Пасля звяржэння царызму? Пасля перамогі сусветнай рэвалюцыі? Калі Расія і варта будучыні, то адно таму, што гатова ахвяраваць сабой дзеля будучыні свету. Так, так, так, гатова! І з радасцю пойдзе на закланне — у агонь, які мы распальваем. І не трэба

азірацца назад, зазіраць у мінулае. Рэвалюцыянеры — новае племя Зямлі, і ўзначаліць іх бітву...

— Бітву?! — вырвалася ў А., які ці то з захапленнем, ці то з жахам пазіраў на Л., узрушанага ўласнай палкай прамоваю.

— Бітву! Крывавую бязлітасную бітву за новы свет, у якім не будзе месца прыгнёту, несправядлівасці і анархіі, — на міг перастаў жэстыкуляваць Л., азірнуўшыся на спалоханага, як яму здалося, паплечніка, прадоўжыў: — Нават наш партыйны рух расколаты! Нават сярод праверанных таварышаў трапляюцца нерашучыя! Нават у структуру Камінтэрна пралазяць здрадцы марксісцкай справе! Так што цешыць сябе думкамі пра паступовасць і няспешнае развіццё рэвалюцыі не выпадае, таварышы. Гэта было б не толькі не абачліва, а і злачынна. Гісторыя дае нам шанец, і не скарыстаць яго, а тым больш — аддаць праціўніку, злачынна. Больш энергічна трэба працаваць, больш апантана, не спыняючыся ні перад чым, ні перад кім. І слова ў гэтай працы — у гэтай бітве за розумы людзей, за свядомасць народаў нездарма прыраўняна да штыка: у ім, у слове, звернутым да натоўпаў, палымнее — павінна палымнець! — вера ў правільнасць абранай мэты, у незваротнасць вызначанага шляху. Для таго, каб выспеліць, успаліць полымя рэвалюцыі, мы і яднаемся, мы і працуем сёння. І падстаў для спрэчкі ці, тым больш, канфрантацыі я не бачу. Усе матэрыялы для чарговага нумара на стале, з некаторымі вы знаёмы... Калі што і варта абмяркоўваць усебакова, то крытычныя нататкі па нацыянальным пытанні.

— Найбольш допісаў атрымліваем якраз па гэтай тэме, — адгукнулася Н., ледзь толькі Л. змоўк, падсеў да стала, адсунуўшы для большай зручнасці крэсла.

— Пераадолець, падпарадкаваць нацыянальнае агульнаму няпроста. Мо цяжэй за ўсё, — задумліва ці проста стомлена сказаў Л., азіраючы прысутных, і калі Н. падсунула бліжэй да яго шклянку, звыкла, не заўважаючы свайго руху, стаў памешваць гарбату лыжачкай.

— Не бачу вялікай небяспекі ў тым, каб скарыстаць нацыянальныя рухі ў нашых мэтах. Урэшце, сродкі не маюць вялікага значэння, калі вызначана мэта. Палівам для полымя, якое ўзгараецца, можа быць што заўгодна.

— Асцярожнасць і тут не зашкодзіць, — не пагадзілася З. — Пажар можа і ў адзін і ў другі бок пакаціцца, руйнуючы ўсё на сваім шляху.

— Усё! Менавіта ўсё! — ажывіўся Л. — Агонь павінен вынішчыць усё старое, састарэлае, ужо кранутае тленам, каб зерне новае ўпала ў чыстую глебу.

— Але ж гэта кроў... Вялікая кроў... — пастукваў кончыкамі пальцаў па стале М., гартаючы адзін з рукапісаў.

— А вы думаеце: крывёю каго аднаго абыдзецца? Не, бацэнька, не абыдзецца. Як і раней не абыходзілася. Нават калі гэты адзін — цар-крывапівец, яго смерць ніколі нічога не мяняла і не адмяняла. А сёння трэба мяняць усё як ёсць — саму эпоху! Гісторыя дае нам шанец. Менавіта цяпер, на зломе стагоддзяў. І ад нас залежыць, ці пройдзе гэты злом праз кожнага, мяняючы свядомасць, жыццё, будучыню. Бу-ду-чыню! Дык што шкадаваць? Каго шкадаваць?

Ад залішне рэзкага ўзмаху хлыпнула лямпа, і Л. усім раптоўна пацяжэлым целам ссунуў, адсунуў яшчэ далей ад стала сваё крэсла і падняўся.

— Усе матэрыялы — перад вамі. Рашэнне па складу нумара, як заўжды, калегіяльнае... — сказаў ці толькі падумаў, але ледзь адышоўся ад ас-

ветленага стала, пачуў, як зашархацелі паперы і рэдкія рэплікі каго з рэдактараў, як пачало загусаць, цяжэць вакол паветра, паглынаючы пакой са шчыльна завешаным фіранкамі акном, паглынаючы занавешаны бяззорным небам вечар.

## VI

Дзень? Вечар? Ноч? Якая розніца для таго, хто не ведае, не бачыць святла ні ў зямным, ні ў пазазямным свеце? Сляпому скрозь і паўсюль цёмна. А калі і дух сцёмнены? Калі дух трапіў у цянёты змроку і ўжо нават не працівіцца, апускаючыся ніжэй і ніжэй?

Сумнае відовішча! Аблытаны сваімі і чужымі сумненнямі, блукае такі нябога ў тумане няжжытай няўпэўненасці над самым крайком прадоння — і не, каб да Бога загукаць, літасці Яго, любові Яго ўсёдаравальнай даверыцца! Святло ж — не згасала, Неба — не апускалася. Трэба толькі ўзжадаць гэтага Святла! Трэба толькі памкнуцца душой да Неба!

— З кім гамоніш, сястра? Чый зямны шлях узгадваеш тут, у царстве Духа, з сумам і шкадаваннем?

— І зямны шлях — адно працяг шляху, не сёння і не ўчора абранага духам, а як часам паварочваецца! Ні запыніць, ні дагукацца...

— Усе мы — на выпрабаванні.

— Хто спрачаецца! Кожны вольны той ці іншы выбар зрабіць, ды не на кожнага т а к і я спадзяванні ўскладваюцца, як на брата Л.

— Зямное жыццё — цяжкая ноша.

— І яна даецца па сіле! Моцны духам — не зламаецца. Нават калі ўсе дэманы сыдуцца ў супрацьстаянні яму.

— Дэманы? На Зямлі?

— На Зямлі. У зямных абалонках тых, каго здолелі спакусіць і падпарадкаваць.

— І што — брат Л. таксама...

— За яго яшчэ ідзе барацьба.

— Ды паможа яму Гасподзь, сястра! Спатрэбіцца — і мяне гукай на дапамогу.

— І нас! І нас! І нас! — зашархацела з усіх бакоў...

Абмен думкамі ў ментальнай сферы нагадваў абмен светлавымі імпульсамі, нябачнымі і амаль не адчувальнымі, і ўсё ж прастрань быццам скалыхнулася. Зрух — чыста колеравы, і перадаць яго мовай зямнога ўяўлення нават спрабаваць няварта: як? Якімі фарбамі, калі на Зямлі такіх фарбаў, такіх адценняў святла не існуе? А калі і існуюць, то зрокава, зямным зрокам не ўспрымаюцца.

Дзень... вечар... ноч... Колькі доўжыцца падзел жыцця на часавыя прамежкі, чым вымяраюцца гэтыя прамежкі, калі часта цэлы век чалавечы не пакідае па сабе следу, ніхто не скажа. Ніхто, папраўдзе, і не задумваецца. Да таго часу, пакуль аднойчы не сустрэнецца з цудам — з пералівамі Паўночнага Ззяння, з акіянскімі хвалямі, уздыбленымі да нябёсаў, з сонечным ліўнем, у якім патоне раптам Зямля. Патоне, каб усплыць, ускрэснуць у новым імгненні абноўленай, хоць ненадоўга прасветленай і прасветлай... І не ведае чалавек, што толькі ў такія імгненні жыве ён напоўніцу, злітна не толькі са сваёй душою, а і з Душою Сусветнаю, зліцца з якой падсвядома імкнуў, імкне заўсёды. А вось жа і мкне, а ўсякі раз адступае, адступаецца, працягвае мітуслівы пошук немагчымага зямнога шчасця, не разумеючы, што не шчасця трэба шукаць, а прасвятлення ў любові.

— Табе пасвяціць, сястра?

— Не, не, дзякуй. Я задумалася і не заўважыла, што апусцілася занадта нізка.

— Людзі ўсё яшчэ не могуць узняцца ў нашы сферы.

— Я знаю.

— Ляці на святло... На ззянне!

Хваля змроку адхлынула, аддалілася — і відаць стала лепш. Закаваная ў граніт рака, быццам насаджаная на выяву спічастага шпіля, сутаргава білася ў ледзяных павевах ветру; раз-пораз сцінаўся, уздыхаў гранітны валун п'едэстала над ракою, ці то згадваючы здзьмутага, знесенага вятрамі вершніка — гаспадара стольнага горада, ці то сумуючы па новым гаспадары; белай заснежанай стужкай без канца і краю ляжалі па грэбню кантынентаў лагчыны, лясы, балоты, стэпы... Што для гэткіх прастораў людзі? Адкуль бярэцца іх пыха? Чым апраўдваецца іх прага першынства — прага ўлады?

— Як гэта — чым? Самой здабытаю ў барацьбе ўладаю! — зняважліва фыркнуў, з'явіўшыся на п'едэстале вершнік у скураных, аздобленых золатам латах, у шаломе, ад ззяння якога плавіўся, ускіпаў снег на каменным валуне. — Па волі Неба ўцягваецца яго пасланец у барацьбу, па волі Неба прызнаецца ён пераможцам — Цэзарам!

— Хай жыве Цэзар!

— Слава і ўхвала Вялікаму Цэзару!

— Ды пакланяцца яму валадары ўсіх земляў з захаду на ўсход! — загулі натоўпы латнікаў, сабраныя па першым жа яго знаку ўкруг п'едэстала.

— Загадвай!

— Мы гатовы выступіць, Цэзар!

— Гатовы прыняць смерць за цябе, за славу вялікага Рыма!

— Хай жыве Рым!

Гул галасоў то накочваўся на каменную глыбу п'едэстала, то адступаў — і раз за разам п'едэстал усё больш заўважна пахістваўся, быццам хтосьці над ім (ці пад ім) хацеў скінуць з узвышэння чарговага прэтэндэнта на вечную ўладу. І на кожны рух шырылася, мянялася перспектыва, і яшчэ нядаўна заснежаная прастрань у хуткім часе ўжо нагадвала выпаленую сонцам пустыню, па якой, уздымаючы воблакі пылу, рухаліся калоны знямоглых ад спёкі і смагі рымскіх легіёнаў. Звон мячоў, свіст стрэл і дзідаў, перадсмяротныя хрыпы параненых, бязладныя воклічы і гучныя каманды, што кідалі парадзелыя легіёны з адной бойкі ў другую, утваралі своеасаблівы шлейф наступальнага руху, бачнага праз люстэрка споміну. І не важна, каму належаў гэты спомін — валадару залатога шалома ці часу, што застаўся ў былым, і ўсё ж, як бы дзіўна гэта ні прагучала для непасвячонага, існаваў, хоць і ў іншай рэальнасці. Не важна, бо нічога не знікае бясследна, як нічога не ўзнікае з пустаты.

Пустата, пустка, пустыня... Гэта — не пра жыццё. Гэта — адна са старых адзнак духоўнае слепаты тых, хто не імкнецца спасцігнуць таямніцу, таямнічы, патаемны сэнс жыцця Зямлі і Неба, задавольваючыся знешнім, вонкавым, спакуслівым у сваёй яркай відовішчнасці. Няхай нават за крок ад гібелі...

Усё — па волі Неба... Пэўна ж! А і воля духа, чарговы раз увасобленага на Зямлі, воля чалавека, калі ўсведамляе ён сябе чалавекам, нямала значыць. Нараджэнне і смерць прадвызначаны, так, але прастрань між імі не адно гадамі вымяраецца. Нездарма ж, зазіраючы ў люстэрка споміну, у

бездань зазіраеш — ні дна ў той бездані, ні краёў: дзень мінуў, ці год, ці мільёны гадоў — усё, чаго кранаешся свядомасцю, узнаўляецца, усё перажываецца наноў. І перамога. І паражэнне. І перадсмяротны ўздых або воклiч.

— І ты, Брут!!!

— І ты, Брут?!

— І ты, Брут... — паўтарае рэха стагоддзяў, не разбураючы матэрыю гісторыі, хоць і падточваючы камяні п'едэстала, што, як заўсёды здаецца, узвышаецца над часам і прастораю.

Здаецца! Усяго толькі здаецца! Бо вось жа сфакусіраваўся пагляд — і бачна, як тоўпяцца, праціскваючыся бліжэй да ўзвышэння прыбліжаныя да Цэзара военачальнікі і сенатары, а ён хмурыцца, узіраючыся ў павернутыя да яго твары і час ад часу насцярожана ловячы зніякавелыя, а то і адкрыта спалоханыя позіркі. Штосьці — штосьці непапраўнае! — вось-вось адбудзецца, і што б ні адбылося, яму, Цэзару, трэба заставацца спакойным. Каб і жылка на руцэ, што сціскае жэзл, не ўздрыгнула, і хмурынка падазрэння лёгкай, крыху пагардлівай усмешкі не зацяніла.

Змоваю пахне. Здрадаю... Воклічы ўхвалы і падтрымкі пад ногі сыплюць, а ў вачах насцярога... Ці то сілы ў ім больш не чуюць, ці то апошніх спадзвіжнікаў перакупілі...

Усміхаецца Цэзар насустрач клічам і позіркам, раз-пораз ускідвае руку, адказваючы на вітанні, жэстам і словам запрашае самых верных наблізіцца: ці ж першая перамога сабрала іх у гэтай зале? ці ж упершыню вочы ў вочы адзін аднаму з даверам пазіраюць, хай сабе часам розныя меркаванні выказваючы? Не толькі яны — увесь Рым у яго каля ног сёння, і так будзе скрозь, да веку, праз вякі.

— Не хочаш прыслухацца да сваёй трывогі?

— Не хачу!

Чый голас прагучаў у душы, каму ён, і на міг не задумаўшыся, адказаў, нават думка не акрэсліла, але Цэзар у гэты міг адчуў: ён — адзін. Адзін перад натоўпам забойцаў. Яго забойцаў!

Пагляд слізгануў вышэй, зачапіўся за халодны бліск, ярка — не спалохана, а радасна! — успыхнуў. Выбліснуў у гэтым святле адбітак выхапленага і ўсаджанага яму ў спіну кінжала — і радасць афарбавалася яркай, ярка-чырвонай крывёю...

— І ты, Брут!!!

— І ты, Брут?!

— І ты, Брут...

## VII

Кроў, як бачылася Л. пры святле каганца, кропля за кропляю сцякала па камянях, і хоць ён разумеў, што гэта ўяўленне зноў малюе на сцяне адну са сваіх надакучлівых карцінак, ці то палохаючы, ці то папярэджваючы аб чымсьці, не-не і пацепваў плячамі. Пагляду ж у цеснай камеры не было куды прыляпіцца, і Л. зноў і зноў міжволі зіркаў на шэрыя камяні насупраць, за два крокі ад турэмнага ложка, узгадваючы то адну, то другую крывавую старонку гісторыі. Вавілон, Егіпет, Іудзея, імперыя Аляксандра Македонскага, Рым... Якое, здавалася, дачыненне мелі яны да яго, новага пасланца Сіл Розуму, як на двары дваццатае стагоддзе новае эры — яго эры? А вось і не мелі, а ўзгадваліся. Блыталі думкі. Змушалі пацепваць плячамі. Перашкаджалі рабоце...

Час, прабуксоўваючы, спатыкаючыся ў паўзмроку яго думак, быццам спыняўся момантамі — і тады Л. зрываўся з месца, таптаўся (хадзіць не было як), дробнымі крокамі мераючы адведзены яму камерай прамежак. І хоць хутка стамляўся ад ціску сцен (крок, другі — і сцяна, яшчэ крок — і другая сцяна!), але станавілася крыху лягчэй. Там, за сценамі турмы, ішла вайна, уцягваючы ў свой смяротны калаўрот усё новыя дзяржавы, і нельга бальшавікам не выкарыстаць на карысць сваёй справы жах і разбурэнні, якія яна несла народам: чым больш разбурэнняў, тым лепш, чым больш смярцей, тым больш нянавісці. А на дражджах нянавісці што заўгодна забродзіць!

— Бродзіць... бродзіць кроўка людская... — мармытаў Л., не заўважаючы гэтага. — Вайна — змова дужых, плаціць — слабыя... Заўсёды... Яны — пойдуць за мной...

Позірк зноў зачапіўся за цёмны след на сцяне насупраць, і тады Л. рашуча наблізіўся, накрыў яго даланёю, пагладжваючы, і тут жа адчуў неглыбокі на дотык след утворанай за гады шчылінкі, які і выглядаў у паўзмроку няроўным струменьчыкам крыві. Расчаравана (хоць адкуль узнікла ў душы расчараванне, не сказаў бы) адышоў, няўцямна тручы далонь у тым месцы, дзе яна судакраналася з каменнай сцяной, пакуль жар, які пачаў ад яе сыходзіць, не прывабіў ягонае ўвагі. Крыху нават пагардлівым рухам атрос рукі і таропка сунуў іх падпахі, сцінаючы ва ўласным абдымку і сілячыся ўспомніць, пра што разважаў колькі хвілін таму. Намаганне ні да чаго не прывяло. Больш таго: азваўся галаўны боль, і Л. зможана апусціўся на ложак, абапіраючыся на падпоркі растапыраных, наколькі дазваляў рух, рук, прыхінуўся спінай да халоднай сцяны.

Хвіліна, другая... Ён адчуваў, як марудна расцякаўся боль па ўсёй галаве, як паступова нямела спіна, і не мог (ці не адважваўся) памяняць позу, парушыць дзіўную насцярогу цела, што, здавалася, услухоўвалася само ў сябе. Калі ж урэшце намерыўся, левая рука, на якую перанёс цяжар цела, быццам надламалася — і апошняе, што мільганула ў думках: няма апоры... ні ў чым няма апоры...

Плоскасць загуслага, зацвярдзелага раптам змроку разламалася, стала крышыцца і, выцягваючыся ў няроўную лінію, застываць пад нагамі няроўнымі вострымі камянюкамі. Стары брукаваны шлях? Даўно абмялелае, высахлае рэчышча горнай ракі? Ні такой бясконцай стужкі дарогі, ні такога бясконцага спуску ракі невядома адкуль і невядома куды не існуе. Ні ў адным са светаў не існуе. Бо вось жа ўжо выгінаецца камяністая стужка, утвараючы аграмадную, ва ўсю шыр далягляду пятлю, і ў цэнтры пачынае ўздымацца якаясь пачварная (калі ўзгадаць памер) спаруда: крэпасць не крэпасць, храм не храм...

— Няма такой крэпасці, якой не ўзялі б бальшавікі. Няма такога храма, у якім льга асвяціць усе ахвяры.

— Хто гэта? Хто гэта сказаў? — страпянулася думка, і Л. тут жа ўбачыў сябе на скрыжаванні двух канцоў дарогі ў самым цэнтры каменнага вузла: босы, са збітымі акрываўленымі ступнямі, стаяў за некалькі сот метраў ад спаруды, якая ўсё расла ўшыркі і ўгору, засланяючы не толькі далягляд, але і высь.

Так, так, неба не было — ён не бачыў! — з самага пачатку. Нават высь пазначаў толькі накірунак росту каменнага гмаха, бо кругам, ва ўсе бакі, у любым накірунку пагляда трымцела аднолькава бляклае, адно крышачку святлейшае за гэты гмах мроіва, і нельга было нават уявіць, што яго асвятліць, высвеціць.

Л. не ведаў, як ён тут апынуўся, не думаў, што рабіць далей. Ісці куды ішоў? А куды ён ішоў? Павярнуць назад? А прыйшоў ён адкуль? З якога боку?

«Гучаў жа нечы голас...» — вярнулася думка, вяртаючы не сказаныя словы, а толькі факт іх гучання, і гэтага зруху аказалася дастаткова, каб пагляд ачысціўся яшчэ ад адной заслоны. Гмах невядомае спаруды быццам аддаліўся — контуры яго набылі большую акрэсленасць, а яшчэ праз міг сталі нават пазнавацца. Па крайняй меры, свядомасцю...

— Вавілон? Вавілонская вежа? — перапытаў невядома ў каго, з-за мяжы тысячагоддзяў узіраючыся ў абрыс знакамітага збудавання мінуўшчыны і не знаходзячы ў душы ні захаплення, ні страху.

— Не збаішся наблізіцца і ўвайсці? Насмелішся падняцца на самы верх? — прагучала не за ім ці над ім, а ў ім, хоць Л. ужо рушыў у бок вежы, зноў, як і раней, ранячы ногі аб вострыя, нічым не згладжаныя зломы камянёў. Ішоў напрасткі, чамусьці ўпэўнены, што хадзіў гэтым шляхам не аднойчы, і калі што дзівіла, то толькі гэта.

— Па ўсім відаць, насмелішся? — нязлосна пакпіў голас, і Л. зноў не адказаў: вакол — ні душы, не з самім жа сабою гуляць у хованкі!

Ён, праўда, усё ж азірнуўся для большае пэўнасці. Нікога. Нічога. Нават яго ўласных слядоў. Ногі крываточылі — крывавага следу на камянях не заставалася, і вытлумачыць, калі б прыйшло яму ў галаву зараз што-небудзь вытлумачваць, падобнае было немагчыма. Па крайняй меры, у той рэальнасці, якую ён ведаў.

— Бродзіць, забрадзіла кроўка людская... — мармытаў сабе пад нос, а прастрань нечакана ўзмацніла гучанне слоў, гулкім рэхам перакочваючы іх па ўсёй акрузе: — Бродзіць... бродзіць... забрадзіла кроўка... кроўка людская...

Хвалі рэха раз-пораз уздыблівалі прастору перад ім — здавалася, проста ў яго пад нагамі, але Л. упарта працягваў ісці, нейкім неверагодным чынам ведаючы, што яго яны не закрануць, не спыняць, што б за рухамі светлавых масаў між ім і знакам Вавілона часам ні выяўлялася. Выяўлялася ж — старонка за старонкаю! — крывавая гісторыя барацьбы за верхавенства ў зямных справах, за ўладу над людзьмі і вынікамі іх працы ў той ці іншай частцы зямлі, у тым ці іншым стагоддзі. Калі Л. паспрабаваў засяродзіць на чым-небудзь увагу, то штосьці з вядомага па падручніках і кнігах пазнаваў, тут жа забываючы ўбачанае, калі чарговы раз утыркаўся паглядам у сцяну вежы, забываў наогул пра ўсё на свеце, не атаясамліваючы свае перажыванні ні з сабой, ні з кім іншым.

— Бродзіць кроўка... забрадзіла... — усё яшчэ качала рэха моўленыя словы па ўздыбленай каменнайградзе і імгненні ніяк не маглі ўвайсці ў пэўныя, пэўна акрэсленыя берагі: шлях доўжыўся — мэта не станавілася больш дасягальнай. Мо штосьці — што?! — залежала ў гэту хвіліну ад яго, ад яго рэакцыі?

«Навошта мне Вавілон? Чаму я мкну патрапіць на вежу? — мільганула ў думках, і Л. нават спыніўся ад нечаканасці. — На самай справе, чаму?»

— У кожнага, хто мкне да ўлады, свой Вавілон, — прагучала папярэдзе ў раптоўна ўсталяванай цішыні.

— Свой! І я — пра тое: свой! — адгукнуўся Л., узрадаваўшыся і цішыні, і голасу, і змененаму краявіду, бо хоць і высілася ўсё яшчэ далекавата Вавілонская вежа, яна ўжо не гняла ні памерам, ні змрочнасцю каменных сцен і лесвіц, а ўрачыста ўзносілася над пясчанай градою і аднекуль

знутры свяцілася, асвятляючы ўсё наўкруг. — Усё, колісь узведзенае, ужо зруйнавана, ажывае толькі ў памяці...

— І тым не менш не знікае. Пакуль не зжыта да канца.

— Што значыць: да канца? — міжволі ўступіў Л. у гаворку, калі падобны абмен думкамі можна назваць гаворкай, з нейкай іншай сваёй (ці не сваёй?) сутнасцю.

— Да выкаранення інстынкту.

— А канкрэтней?

— Калі ні на боль, ні на страх ці абурэнне не абзыўнуцца пачуцці і дух зможа прыняць любую абалонку.

— Ф'ю-ю! — прысвіснуў Л. — Патлумачыў, называецца! Мы ж пра жыццё гаворым, а не пра царства мёртвых.

— А ты зараз дзе? Як думаеш?

У пытаннях чулася непрыхаваная насмешка, і Л. зноў міжволі азірнуўся, акідваючы паглядам пустынную пространь, каменную граду, па якой прайшоў ужо даволі далёка, цяжкі рухомы цень вежы... Цень выразна бачыўся: ён павольна рухаўся па крузе — так рухаецца ўслед за сонцам цень — стрэлка сонечнага гадзінніка! — а самой вежы не было.

— Чорт ведае што! — мармытнуў Л., не так занепакоены, як агаломшаны нязвыкласцю ўспрымання: куды дзелася каменная спаруда? Адкуль, як няма яе анідзе, падае цень? Хто вызначыў круг, па якім ён рухаўся? — Чорт ведае...

Цішыня падалася насамрэч мёртвай. Ні згуку не ўлоўліваў больш слых ні звонку, ні знутры, і ўпершыню Л. занепакоіўся, засумняваўся ў тым, што разумее, дзе ён знаходзіўся на самай справе. Вось жа ўжо не толькі вежы, а і сябе самога не бачыў ні на каменнай градзе, ні воддаль — нідзе! Мо і сапраўды ён у царстве мёртвых... Але ж тады...

Думка, нават не акрэсленая да канца, нечакана абурыла, і абурэнне было такім моцным, што быццам набыло на міг плоцевасць: неверагоднай сілы і напружанасці бліск раскалоў пространь папалам, плавячы, аплаўляючы яе па краях. Гэта адбылося так вокамгненна, што ён і адрэагаваць не паспеў. А ў расколіну ўжо хлынула святло, размываючы, раствараючы ў чыстых хвалях адну частку краявіду і адцясняючы, ператвараючы ў цёмную хмарную сцяну другую. І што самае дзіўнае: Л. адчуваў не толькі стрэчны рух святла, але і свой рух, які нагадваў хутчэй імклівы палёт, бо зрушылася, плыло, штоміг мяняючыся, усё вакол. Паспрабаваў «тармазнуць», прыпыніцца і агледзецца — нічога не атрымалася, хоць палёт крыху запаволіўся і з усіх пачуццяў паступова стала ўсведамляцца толькі пачуццё незнаёмага глыбокага спакою. Душа адпачывала ці ён страціў над ёй кантроль, Л. не ведаў, ды ў гэтую хвіліну і не хацеў ведаць: так ці інакш, а шлях прывядзе да наканаванае яму мэты, якую ён, і не ўзгадваючы, помніў, чаго ж яшчэ? Адзін правал, другі, адна турма, другая... Хіба ёсць на зямлі сцены, што ўтрымалі б мары, асляпілі памкненні?

— Ніхто не дасць нам выбаўлення: ні Бог, ні цар і ні герой... — уварваліся ў свядомасць словы рэвалюцыйнага гімна, і Л., страпянуўшыся (як яму здалося ў яго бязважкасці), стаў узірацца ў адкрытую пагляду пространь больш пільна: спявалі ж дзесьці недалёка, спрэс мужчынскія галасы...

Калі ўгледзеў калоны рабочых, салдат і матросаў, калі прасачыў, як яны з розных вуліц і завулкаў сцякаліся да плошчы, на плошчу, сэрца яго ўзрадавалася: вось ён, рэвалюцыйны марш? Вось яна, рэвалюцыя! Па волі бальшавікоў — па я г о н а й волі! — ускрэсла спадзяванне на будучыню,

і свет — новы свет! — яго не забудзе. Услаўляць будзе, склінаць, катам называць будзе, а — не забудзе!

Хваляванне, хоць і радаснае, перашкаджала назіраць, і Л. азірнуўся на сябе: адкуль ён назірае? зверху? Пагляд слізгануў па падсвечанай золатам нябеснай сіні і, калі апусціўся, Л. пазнаў сябе там, на плошчы, на чале першай калоны. Пазнаў — і апынуўся ў сваім целе, у сваім горадзе, сярод сваіх паплечнікаў. І вось падхапіла ўжо яго мноства дужых рук, вось ужо ўзнялі яго на бранявік, як на п'едэстал, вось ужо грымела плошча ад воплескаў і воклічаў.

— Няхай жыве саюз рабочых і салдат!

— Даеш сусветную рэвалюцыю!

— Зламаем хрыбет старому свету!

— Слава правадыру! Слава!

Л. жмурыўся, узіраючыся ва ўзрушаныя твары, камячыў у руцэ знятую кепку і чакаў таго моманту, калі ўскіне руку над натоўпам і ад гэтага ўзмаху раптоўна аціхне гул і словы ўзляцяць над плошчаю, будзячы прасторы Еўропы.

— Мір народам! Хлеб — рабочым! Зямля — сялянам!

— Ура-а-а-а... А-а-а-а! — пакацілася па плошчы, над плошчай, над горадам, над зямлёю — і гук, не перарастаючы ў гул, шырыўся, рос, грамчэў, пакуль не захісталіся зямля і неба, пакуль не пасыпаліся круга камяні, узнятыя выбухамі камякі глебы, збітыя кулямі ці выбухамі бомбаў і снарадаў галіны, абгарэлае лісце і рэчы хатняга ўжытку, акрываўленыя сцягі, скарожаныя ружжы і трупы, трупы, трупы...

Л., спрабуючы ахапіць падзеі некалькіх гадоў адным паглядам, ускінуў руку з заціснутай у ёй кепкаю над усім убачаным у гэты міг і нават не здзівіўся, калі ўскалыхнулася ў адказ прастора: узляцела, закружыла спрэс груганнё, бясконцыя зграі варання.

## VIII

Ці утрымаюць бальшавікі дзяржаўную ўладу? Пытанне, якім бы трывожным ні ўяўлялася, асаблівае трывогі не выклікала: дзеля ўвацарэння шчаслівае жыткі неаднойчы тысячы жыццяў у распыл пускаліся, і Расіі крывапусканне не зашкодзіць, калі што якое... Нацкаваць адных на другіх — справа няхітрая. Пакуль разумнікі разбяруцца, што дзеля чаго, іх ужо і на развод не застанецца: мэта апраўдвае сродкі, не ім сказана... Так, так, так! Сёння мэта вымагае жорсткага падыходу падчас вырашэння надзённых задач, і трэба прызнаць, што жорсткасці, бязлітаснасці створаным караючым органам не пазычаць: і без падказак абыходзяцца, а спатрэбіцца — і ў яго рука не ўздрыгне, падпісваючы суровы вердыкт. Не той час, каб падоўгу разбірацца, хто свой, хто чужы...

Машына, не аб'язджаючы выбоін і абзываючыся сваім металічным нутром на кожны штуршок, натужна гула і час ад часу фыркала. Чырвонаармейцы з суправаджэння, якія звыкла не зважалі на няроўнасці брукаванкі і старэчае пакашліванне матора, зрэдку зіркалі на глыбока засяроджанага на сваіх думках Л., які, абхапіўшы сябе рукамі і час ад часу прыкрываючы вочы, быццам не адчуваў, не чуў бразгату і шуму, не бачыў ні сваіх праважатых, ні тлумных гарадскіх вуліц. Чаго было ў тых асцярожных позірках больш — павагі ці простай цікаўнасці! — не вызначылі б, пэўна, і яны самі, Л. жа, чыйму загаду, чыйму слову падпарадкоўваліся

мнагатысячныя натоўпы, і ўвогуле на іх не зважаў. Перад ім, перад яго ўнутраным паглядам прасціраўся цэлы свет, ён мог распараджацца жыццямі мільёнаў людзей, якія нават не падазравалі аб гэтым, ён узначаліў партыю рэвалюцыянераў і мог ставіць перад ёю любую мэту. Мэта на сёння — утрымаць уладу, дамагчыся безагаворачнага падпарадкавання ўся і ўсіх волі партыі — волі яго камісараў. Паўсюдна. Штодня! Ва ўсім! І не мёртвых яны будуць лічыць, а пакорных гэтай волі.

— І табе ж не гарантавана вечнасць, — перапыніў думкі знаёмы голас, і Л. толькі звыкла прыкрыў вочы.

«Гэта мы яшчэ паглядзім», — падумаў, пагаджаючыся з працягам бясконцага ўнутранага дыялога.

— Паглядзі! — прапанаваў нябачны суразмоўнік, прыўздымаючы запону сіне-ліловага мроіва, якое ціха пагойдвалася дагэтуль за апушчанымі вейкамі, і ўзніклая перад паглядам карціна змусіла Л. сабрацца, сабраць усю сваю ўвагу. Мора людскіх галоў калыхалася ўнізе (так, бы ён пазіраў аднекуль з узвышэння), і параўнанне, па ўсім відаць, выплыла ў думках невыпадкова: рух паходзіў на рух бурлівых хваль, калі дзесяткі, сотні галоў (бачыліся ж толькі галовы!) раптам быццам правальваліся некуды, знікалі, а прагал тут жа займаўся іншымі, каб узнікнуць у другім месцы, далей ці бліжэй. І так — па ўсёй бачнай ад краю да краю прасторы, што стварала жудаснае, хоць і прыцягальнае ў сваім жаху, відовішча. Нейкі час нават Л. не мог належным чынам адрэагаваць: відовішча прыцягвала і зацягвала...

— Што? Падабаецца?

— Не бачу сэнсу...

— А які сэнс у той ці большай колькасці ахвяр?

— Значыцца, гэта ахвяры? — пытаннем на пытанне адказаў Л., яшчэ больш пільна ўзіраючыся ў адкрытае пагляду. — Я, пэўна, маю да гэтага нейкае дачыненне...

— Ты за гэта адкажаш.

— Новае папярэджанне? Ці мо пагроза? — пасміхнуўся Л., чамусьці насцярожыўшыся, і калі голас не адгукнуўся, адчуў, што вось-вось штосьці здарыцца. Што?

Перш, імклівым маланкавым бліскам, узляцеў і апусціўся над галовамі меч, адсякаючы іх ад тулава шматтысячнага натоўпу, — раз, другі, трэці раз! — і пакаціліся галовы, як скрываўленыя шары, ва ўсе бакі. Потым (не паспеў Л. усвядоміць убачанае, бо ўсё адбывалася амаль аднамомантна) з'явіўся, засланіўшы сабой неба, той, хто крышыў галовы, і Л. нечакана пазнаў у ім самага амбіцыйнага прэтэндэнта на сваё месца Т. Яшчэ праз міг (ці ў той жа міг?) за цэлай серыяй дакладных бязлітасных узмахаў мяча, аграмадная постаць ката быццам пачала «здувацца», сцінацца, набываючы звыклыя памеры і «знаёмы» выгляд, — Л. не паспеў задумацца, добра гэта ці кепска і, увогуле, што гэта азначала. Мора галоў адхлынула, адступілася на нейкую адлегласць, і на няроўнай каменнай пляцоўцы засталіся яны двое — твар у твар, вочы ў вочы...

— Новае папярэджанне? Ці мо пагроза? — няўцямна паўтарыў Л. толькі што прагучалыя пытанні.

— Ты ўвесь час забываеш, што пасланы на справу не адзін, — агладжваў фрэнч Т., не зводзячы з яго пагляду.

— Мо скажаш, к і м пасланы? — сунуўшы рукі ў кішэні пінжака, пагойдваўся з наска на пятку Л., дэманструючы лёгкае недаўменне.

— Кланам ісцінных гаспадароў свету.

— Габрэйскім кланам, я правільна разумею? — жмурыўся Л.

— Гэта табе ў навіну? — усміхаўся Т. — Забыў, што нашым золатам аплачана тваё камісарства?

— Ва-шым?!

— Не германскім жа! — свідраваў той яго калючым паглядам. — І ў Германіі, як у Расіі — як паўсюдна! — усімі працэсамі мы кіруем.

— Вы?! — няўцямна перапытаў чарговы раз Л., цярэбячы падбародак і спрабуючы разгадаць наступны ход праціўніка.

— Мы! — пасур'ёзнеў Т. — І ты адзін з нас! І дарэмна імкнешся ўзвысіцца над самім сабой, бачачы ва мне толькі праціўніка — прэтэндэнта на ўладу ў Расіі. Ды калі б з'явілася ў гаспадароў — так, так, і тваіх гаспадароў! — такое жаданне, калі б задача сённяшняга дня вымагала такой мэты, ты і дня не ўтрымаўся б у кіраўніцтве партыі.

— О-о, як ты загаварыў! — атрос унутранае здранцвенне Л., раптам зазлаваўшы. — Кім я пасланы, тое я ведаю. Што ж да цябе — да в а с, як ты меў нахабства сцвярджаць! — то ўзжадаць узвысіцца над усімі яшчэ не азначае дамагчыся жаданага. Ідэя, якая авалодвае масамі, становіцца матэрыяльнай сілаю! І гэта — м а я ідэя...

— Т в а я? — зарагатаў Т. — Ды яна кіруе эвалюцыяй, колькі гэты свет стаіць, а ты... Ты — проста марыянетка ў руках аднаго з нашых майстроў: за адну вяровачку тузане — ты адно гаворыш, за другую — другое...

— Шт-то? Шт...то? — заікаўся Л., ледзьве адолеўшы раптоўнае зняменне. — Як-які майстар? Як-кая вяровачка? Ды калі зірнуць...

— Зірні! — працягваў смяяцца той.

Тое, што Л. убачыў у наступнае імгненне, агаломшыла: Т., які, акружаны групаю суродзічаў, працягваў смяяцца, стаяў ужо не побач, а за краем пляцоўкі, а ён сам, аблытаны living рознымі вяроўкамі і вяровачкамі, тузаўся на невялічкім узвышэнні, стараючыся ўтрымацца хоць на крайку і, што ні рабіў, ні вызваліцца, ні зрабіць хоць адзін самастойны рух не мог. Выгляд у яго быў калі і не камічны, то яўна не камандзірскі... «Мы так не дамаўляліся... — мільганула думка. — Я ж стаў правадыром працоўных...», але ні стан яго, ні крыўднае пачуццё падману, падманутасці не змяніліся.

— Ты — проста марыянетка. Запомні! Цяпер ты — на п'едэстале, а праз міг... — данеслася праз раскаты смеху, і Л. не паспеў нават адрэагаваць. Калі ж раптоўна, быццам яго знянацку разбудзілі, апрытомнеў, убачыў, што стаіць на дашчанай, скалочанай з неаструганых дошак трыбуне ў аграмадным завадскім цэху, запоўненым рабочым людам. Стаіць, уціраючы спатнелы лоб заціснутай у руцэ кепкаю, — і шквал апладысментаў адно што не аглушае...

Калі шквал гэты стаў крыху аціхаць, ён, абапіраючыся адной рукой на край самаробнай трыбуны, падаўся крыху наперад і рука з кепкай ускінулася над натоўпам, хтосьці выстраліў. Стрэл амаль зліўся з жаночым спалоханым крыкам — і яму здалося, што не стрэл, а гэты крык штурхануў яго ў плячо, змусіўшы пахіснуцца. Ужо завальваючыся набок, пачуў, як над ім гучнеў, рос, запаўняючы ўсю прастору, лямант:

— Жыдоўка! Жыдоўка страляла!

— Трымайце яе! Біце гадаўку!

— Праклятае адроддзе! На правадыра руку паднялі...

Цямнела ўваччу. Здавалася, крыкамі, праклёнамі асыпаўся на яго пра-

жыты дзень. Апошняе, што, губляючы прытомнасць, усвядоміў: над ім узвышалася аграмадная постаць Т., чый твар не пакідала крывая пагардлівая ўхмылка, апошняе, што расчуў:

— Адлік пайшоў...

## IX

Восень не лічыла апалага лісця, з дня ў дзень выглядаючы ўсё менш зухавата: яркая барва шэрхла, цямнела, золата бярозавых шатаў драбілася і сыпалася доле ўсё шчадрэй, і ўздоўж паркавых алей у хуткім часе ляжалі ўжо груды залатой мішуры. Да першых дажджоў...

Дажджы ні з поўначы, ні з захаду не спяшаліся, і Л., падоўгу прагульваючыся па парку, цікаваў за падсвечаным сонечнымі промнямі лістападам, за самімі гэтымі промнямі, то зыркімі і лёткімі, то злёгку «размытымі» рухам вецця і ветрам. Калі пачынала смылець прастрэленае плячо, папраўляў шалік, на якім ляжала сагнутая ў локці рука, і хмурнеў: дактары настойвалі на аблегчаным рэжыме працы, а спраў і папер не менела. І кожная — вымагала абдумвання, рашэння, дзеяння... Дзеяння — насуперак усяму, а калі нікалі — і насуперак усім. Не дзеля таго, каб, нягледзячы ні на што, утрымаць уладу, як сёй-той з яго акружэння цішком пагаворвае, а дзеля справы, дзеля перамогі рэвалюцыі ў поўным маштабе — ва ўсіх краінах, ва ўсіх слаях грамадства, ва ўсіх галінах гаспадаркі і сацыяльнага жыцця. І на гэтым этапе замены яму няма, усё яшчэ няма...

Восень уцягвала Л. у свае алеі, стараючыся супакоіць, суцішыць і глухі боль, які лена, павольна расцякаўся па ўсім целе, і глухія, балючыя думкі, якія ніяк не ўдавалася сканцэнтраваць на найбольш важным і неадкладным. Краіна ўцягвалася ў грамадзянскую вайну, а ён змушаны блукаць па сцяжынах восені ці пад наглядам Н. драмаць у крэсле толькі таму, што нейкай вар'ятцы прыйшло ў галаву перапыніць яго прамову перад рабочымі стрэлам. І добра б — вар'ятцы... Сітуацыя, хутчэй за ўсё, была спланавана. Кім? Хто стаіць у яго за спіной, адсочваючы кожны рух? Каму няймецца ў жаданні спіхнуць, адпіхнуць яго ў цень менавіта цяпер, калі краіна ў кальцы варожых сіл? Чыя атрутная куля пакінула незагойны след?

Думка зачапілася за адно з падсвядома ўлоўленых слоў, і Л. доўга не мог вызначыць, за якое. Спіхнуць... няймецца... варожы... Не, не! Гэта — штосьці, звязанае з болем... Куля! Атрутная куля! Адкуль ён узяў, што куля была атручанай? Доктар нічога падобнага ніколі не казаў...

Невядома чаму ўстрывожаны, Л. спыніўся, хвіліну-другую нерухома стаяў, услухоўваючыся ў сябе, потым зрабіў некалькі крокаў, якія аддалялі яго ад лаўкі, і сеў. Паправіў навяз, зручней уладкаваўшы руку, адкінуўся на спінку. Крыху паёрзаў, выбіраючы зручнейшую позу, і знерухомеў. Адкуль ён узяў... Сумненне вярнулася, а, хутчэй, і не пакідала яго, чакаючы свайго моманту, і Л. не стаў бараніцца, думкамі аб рабоце абараняцца ад выплыўшай з памяці згадкі. Разбірацца ўсё роўна давядзецца — цяпер ці пазней...

Яго рашучасць дала нечаканы плён: спакой, спакойнае пакалыхванне лісця ў залітым сонцам паветры быццам перадаліся і яму: боль у плячы не абзываўся, дыхалася значна лягчэй, думкі, падобна лісцю, ціха закружыліся вакол. Рэдка выпадалі Л. такія светлыя хвіліны задуменнасці, і гэта была адна з іх. Не хацелася азірацца на пражытае, думаць пра набалелае і трывожнае... Л. разумеў, што падобны настрой доўга не ўтрымаецца, што і боль і трывога вернуцца, ледзь толькі ён адвядзе пагляд ад лёгкіх за-

лацінак лісця ў паветры, ад чыстых бліскаў неба за імі, і не варушыўся. Пазіраў і пазіраў, узіраючыся ў прасветлены твар асенняга дня, і душа ўсміхалася. Мо ўпершыню за апошнія месяцы...

— Я прынесла плед, — гукнула, наблізіўшыся, Н., і Л. незадаволена сцепануў плячамі: штораз адно і тое ж! — Не лета на вуліцы, і калі закарцела пасядзець...

— Ты ідзі, ідзі, галубчык. Я з паўгадзіны пабуду тут. Падумаю.

— Спадзяюся, няма патрэбы нагадваць пра рэкамендацыі доктара?

— Канечне, канечне. Ты ідзі!

Тая гэтак жа нячутна, як наблізілася, стала, азіраючыся, аддаляцца, і Л., хоць і ўздыхнуў з палёгкаю, ведаў, што той настрой, тая лёгкасць дыхання і ўспрымання, з якімі дзівіўся ён на хараство першага сапраўднага лістападу, не вернуцца. Шкадаваць не выпадала: выдалася шчаслівая хвіліна — і адышла. Ні следу, ні споміну... Калі і абзываўся які спомін, то той, жніверьскі, падчас яго сустрэчы з рабочымі, — ён зноў нагадаў пра сябе, пра сваю загадку, і Л., ціха пагладжваючы хворую руку, прыкрыў вочы. Тут жа, быццам спалохаўшыся чаго, расплюшчыўся — лісце па-ранейшаму марудна кружылася ў сонечным святле, і ён яшчэ раз уздыхнуў.

Куля, пасланая эсэркай, зачапіла хоць і сур'ёзна, але рана яўна не смяротная і асаблівай занепакоенасці дактароў не павінна выклікаць. А выклікала... Ды і ён сам — нейкім дзесятым пачуццём — адчуваў, што так проста з узніклае сітуацыі не выйдзе і прычына кепскага самаадчування і часовых правалаў у памяці недзе глыбока ў былым. Пэўна, знала пра тое падсвядомасць, а калі капнуць глыбей...

З кім ён гаварыў у той дзень? З кім са сваіх паплечнікаў да паездкі на завод страчаўся? І гаворак, і стрэч было некалькі — і тыя, хутчэй, мімаходзь, на бягу: незадаволенасць салдат на германскім фронце... загад па ЧК... пагроза галоднага бунта... замена тэлефоннага апарата ў кабінеце Смольнага... Т. дакладваў пра становішча на чыгунцы... Думка вярнула апошнюю фразу — раз, і другі раз, і Л. не адразу зразумеў, на чым яна забуксавала: на меўшай месца гаворцы ці на прозвішчы таварыша... Папулярным стаў. Залішне папулярным! — асабліва апошнім часам, але горш за тое: ад яго сыходзіла няўцямная пагроза ўсяму, чым ён, Л., даражыў, для чаго не шкадаваў ні сябе, ні іншых.

— Пагроза! пагроза! пагроза! — адстукваў кончыкамі пальцаў па рабрыне лаўкі, аднаўляючы ў памяці заўсёды гладка паголены твар, які асвятлялі рыжаватыя з хітрынкаю вочы, часта схаваныя ў цень брыля яго ваеннай фуражкі, спартыўнага складу, заўсёды падцягнутую постаць, крыху франтаваты цёмны фрэнч, мяккія (заўсёды здавалася, што потныя) рукі.

Суперніцтва між імі адчувалася даволі востра і раней, і ўсё ж ніколі Л. не ўспрымаў магчымасць страты ўлады ці перадачы яе Т. усур'ёз: і вопыту ў яго болей, і веры. Так, так, так, веры! І найперш — веры ў сябе, у сваю сілу. У сваю абранасць, урэшце! Нават Т. з гэтым не спрачаўся. Па крайняй меры, ён падобнай спрэчкі не памятаў. А што ў рэвалюцыйным фанатызме Т. яму не саступаў, дык тлумачэння доўга шукаць не трэба: кроў — кроў склятага некалі рода ў ім брадзіла, падштурхваючы дамагацца першынства ва ўсім. Мо і ў масонскую ложу ўваходзіў...

Думка, якую ўжо неаднойчы адганяў ён у страху пагразнуць у містыцы былых і цяперашніх часоў, балюча ўкалола — Л. нават уздрыгнуў ад нечаканасці: прасцей за ўсё вытлумачыць узніклую трывогу, зыходзячы менавіта з падобнай магчымасці, але што гэта мяняла?

— Што? Што? Што? — зноў пастукваў Л. па рабрыне лаўкі, і так і гэтак пакручваючы ў думках узніклую гіпотэзу. Масонскія ложы, безумоўна, той сілы, што яшчэ два-тры стагоддзі назад, ужо не мелі, і ўсё ж не лічыцца з іх пасланцамі на любым этапе развіцця падзей нельга. Што б гэта ні мяняла, проста так ад пытання не адмахнуцца: справу давядзецца мець не адно з выяўленым праціўнікам, а з усёй назапашанай гэтымі кланамі сілай. Сілай ведаў. Сілай задзейнічанай энергіі. Сілай жорсткага псіхалагічнага падпарадкавання. Ён і сам...

Незадаволены паваротам думкі, Л. заёрзаў на лаўцы і, хоць і заўважыў, што плед ссунуўся, папраўляць не стаў. Зноў і зноў таптаўся на думцы, што штосьці моцна звязвала яго з Т., з усімі, хто за ім стаяў, і вузел, па ўсім відаць, завязаўся не сённяшнім днём: вось жа не выклікаў Т. у яго непрыняцця ці нават непрыязнасці, як сёй-той з паплечнікаў. Хутчэй, наадварот: Н. яго не любіла, па магчымасці не пускаючы ў дом, а ў Л., які ўважліва адсочваў кожны сур'ёзны рух, кожны публічны ўчынак Т., многае выклікала нават захапленне. Прыхаванае, не агучанае нават для самога сябе, але захапленне. Калі б не ягоны клан... не адкрыта габрэйскі тып... калі б не кроўная повязь...

Думка зноў пачала спатыкацца, закружыла на месцы, і Л. стомлена прыкрыў вочы. Тут жа, спалохаўшыся цемры, што, здавалася, хлынула на яго адусюль, расплюшчыўся, часта заміргаў, быццам ад гэтага залежала, ці ачысціцца пагляд ад аскепкаў чарнаты, і пачаў падымацца. Спроба аказалася няўдалай: раптам закружылася галава, і ён змушаны быў зноў апусціцца на лаўку. Мінуту-другую сядзеў, перабіраючы паглядам залацінкі лістоты, што ўсё кружыліся ў паветры. Кружылася галава, і чым была выклікана гэта раптоўная слабасць, вытлумачыць ён не мог. Не думкамі ж, на самай справе! Думкі, няхай і нялёгкія, асаблівай напружанасці ў душы не выклікалі.

— Табе нядобра?

Ад нечаканасці пытання, Л., забыўшыся на непераадоленую слабасць, ускочыў з лаўкі занадта рэзка і пахіснуўся. Мякка падхоплены дужымі рукамі Н., тузануўся — быццам пратэставаў і супраць дапамогі, і супраць вечнага жаночага выследжвання, з якім не мог звыкнуцца, — і, адчуўшы боль у плячы, абмяк, скарыўся, даў сябе ўсадзіць і акрыць цёплым пледам.

— Вазьмі пад язык і спакойна пасмакчы, — узіралася ў ягоны твар Н. — Ты зусім бледны і ў вачах...

— Што — у вачах? Вечна табе прымройваецца... — вяла перапыніў яе Л., прыняўшы і таблетку, і клопат і палічыўшы гэта дастатковым, каб нічога не тлумачыць. — Мне ўжо лепш. Яшчэ некалькі хвілін — і пойдзем у дом. Трэба пазваніць.

— Доктар... — пачала яна і раптам змоўкла, устрывожаная ці то абыякавасцю ў голасе Л., ці то дзіўным, незнаёмым выразам твару.

— Цябе штосьці насцярожыла? — заўважыў той яе спалох.

— Ты занадта рана вырашыў, што можна самастойна выходзіць на шпацыр па парку. Стан можа пагоршыцца, і вінаваціць не будзе каго.

— Ты чула які-небудзь намёк на тое, што куля несла атруту? — стараўся ён дыхаць на поўныя грудзі.

— Не! Не! Не! — замахала рукамі Н., не на жарт перапалоханая. — З чаго ты ўзяў? Хто мог табе такое сказаць?

— Т. і сказаў, — сам не ведаў чаму, адказаў Л., не кантралюючы, як яму здалося, свядомасць, хоць і брыво не ссунулася, і голас не ўздрыгнуў.

— Лё-ва?! — ахнуўшы, усплёснула рукамі і нават крыху адсунулася яна. — Самазадаволены прышч! Ды хто ён такі, гэты вечны жыд, каб выступаць у якасці лекара ці ўсюдыіснага прадказальніка? І каркае, і каркае з любой нагоды!

Абурэнне яе было такім непасрэдным і палкім, што Л. зірнуў на Н. з цікаўнасцю: ужо не памятаў, калі пачуцці, вырваўшыся так раптоўна, захліствалі б і звычайную мяккасць, і асцярожнасць дараванай яму лёсам (ці партыяй?) спадарожніцы жыцця. Шчокі гарацъ, вочы выпраменьваюць маланкі...

— Мяркуеш, яму для нечага можа прыдацца падобная чутка?

— Ды ён спіць і бачыць сябе на тваім месцы! — спрабавала супакоіцца Н., да болю сціскаючы рукі, і гэта ёй яўна ўдавалася, бо вочы, хоць і заставаліся злоснымі, пацiху гаслі, колер твару святлеў.

— Што — забіць здолеў бы дзеля гэтага? — спакойна, амаль абыякава ўдакладніў ён.

— А то! Дарма яму безагаворачна давяраеш.

— Ну, так ужо і безагаворачна... — буркнуў, адводзячы пагляд і выпростваючыся. — Апошнім часам, здаецца, ад яго пачала сыходзіць нейкая пагроза, і ад гэтай нябачнай, няўлоўнай пагрозы папахвае містыкай.

— Міс-ты-кай?! — ціха, амаль нячутна здзівілася Н., і твар яе, цяпер збялелы на палатно, на вачах камянеў: калі б Л. пазіраў на яе ў гэту хвіліну, то падумаў бы, што яна самлела, ці вось-вось самлее, але ён узіраўся ў мільгаценне лёгкіх залацістых ліісткоў і ніяк не зрэагаваў. — Ад яго за вярсту бязбожжам патыхае.

— Містычнае далёка не азначае боскае...

— З чаго ты ўзяў... з чаго ты ўзяў, што ў ім ёсць яшчэ якаясь патаемная сіла? — насмелілася яна спытаць.

— Я не гаварыў пра сілу, — павярнуў Л. галаву. — Хаця... Мо справа якраз у сіле, пра якую мы мала што ведаем. Калі ўвогуле што-небудзь ведаем.

— Ты ўпэўнены, што мы можам гэта абмяркоўваць? — не хаваючы больш занепакоенасці, спытала Н. — Гэтыя думкі не звязаны са станам твайго здароўя?

— Не, не, галубчык. Пэўныя праявы невядомай сілы я неаднойчы заўважаў і ў сабе. Праўда, раней, у мінулыя гады.

— І якім чынам яна выяўлялася?

— Праз энергію. Праз выплескі энергіі, якая, як паказаў апошні год, і ёсць самае каштоўнае з дароў прыроды, — адвёў яе руку Л., падымаючыся. — Пройдземся, галубчык. Мне ўжо значна лепш. Ды і тэму мы закранулі цікавую. Хоць, мажліва, і не адпавядае яна палітычнаму моманту.

Апошняе сказаў ледзь чутна. Як сам сабе. А Н., склаўшы плед і перакінуўшы яго цераз руку, другую прапанавала спадарожніку і як ні ў чым не бывала паспрабавала перавесці гаворку на яго бальнічны рэжым — стала ўзгадваць тэрміны прыёму лекаў і правядзення неабходных працэдур. Л. ішоў моўчкі і не толькі не ўслухваўся ў ракатанне нізкага жаночага голасу, а і не чуў яго. Як не чуў шолаху лісця і ценькання сініц проста над галавой.

— Мяруеш, Т. можа стаць лідэрам партыі? — спытаў яўна неўпапад з яе словамі.

— Пар-тыі? — перапытала Л. — Не партыя яму патрэбна — мо хіба як сродак, як інструмент? — а краіна. Уся ўлада ў краіне.

— Чысты габрэй не можа быць лідэрам у Расіі!

— А нячысты?

Л. спатыкнуўся і міжволі абапёрся на яе руку.

— Ты ўсур'ёз думаеш, што ўсё ідзе да змены ўлады? Што рыхтуецца захоп улады яшчэ пры маім жыцці?

— Не ўлада, а жыццё — найкаштоўны дар, і страшна, калі пасягаюць на жыццё, — падумала ўголас Н. і тут жа спахапілася, зразумела, што гаворыць не тое, не да моманту, памкнулася змякчыць сказанае. — Вось чаму я настойваю на больш ашчадным рэжыме працы, вось чаму прашу прыслухоўвацца да парад і рэкамендацый урачоў.

— Та-а-а-к... Так, так, так! Пра тое, што існуе змова, што пачынае падымаць галаву контррэвалюцыя, я дазнаюся апошнім, — абурыўся, але неяк вяла, Л. і, толькі пачуўшы палахлівы зрух рукі, на якую абапіраўся, заславаў па-сапраўднаму. — І ты, і ты, галубчык, толькі квохчаш ці ўздыхаеш, стараючыся выбавіць мяне ад трывог, захінаючы ад павеваў свежага ветру, а таго не разумееш, што пазбегнуць небяспекі льга, толькі ведаючы пра яе, чакаючы яе. Так, так, так! Чакаючы, а не заклінаючы. Памкненні ворага трэба прадчуваць, дзеянні — апярэджваць. Толькі так, дапяўшы да ўлады, заняўшы ці зваяваўшы амыты крывёю папярэднікаў п'едэстал, можна застацца жывым. Жывым і дзейсным.

Н. не абзывалася. Ведаючы мужа не адзін год і таму дазваляючы выгаварыцца, спакойна крочыла па алеі, моцна, учэпіста падтрымлівала яго пад руку і маўчала. Нават надта і не ўслухоўвалася ў яго гарачкавую прамову: стома хутка возьме сваё, і тады яна павядзе яго ў дом, да ўтульнага крэсла, да століка, на якім ужо ціха пачмыхвае пастаўлены самавар, і прыгатуе гарбату. Не ўспрымаць жа ўсур'ёз яго закіды пра палітычную ненажэрнасць Лёвы! — пробны закід, не болей... Ды калі б не яна, не яе пільнасць, той даўно б ужо аб'ехаў Л. па крузе, і не адзін раз. Як жа! — любімчык партыі, мужаў любімчык, што б ён цяпер ні казаў... Хоць не ад яго сыходзіць найбольшая небяспека, зусім не ад яго!

— Хіба не таму ў мяне страляла пасланая імі эсэрка, што і гэткага простага рашэння дастаткова, каб адхіліць, няхай часова, мяне ад партыйных спраў, паслабіць уплыў рэвалюцыі на ход сусветных падзей? — прыпыніўся і, павярнуўшыся да яе, пытаўся Л., і хоць вялікага імпэту ў голасе не чулася, у паглядзе па-ранейшаму чыталася рашучасць. — А калі куля і ўзапраўду несла атруту...

— Ты дарэмна каторы ўжо раз агучваеш падкінутую думку, — як мага мякчэй перапыніла яго Н. — Быццам заганяеш яе ў сябе глыбей і глыбей, і наступствы могуць аказацца якімі заўгодна. Мы ж ужо неяк абмяркоўвалі гэта.

— Так, абмяркоўвалі. Але безадносна майго канкрэтнага выпадку, калі адносна лёгкае раненне ўплывае не толькі на фізічны, але і на псіхічны стан.

— Ты заўважыў незнаёмыя сур'ёзныя сімптомы? — старалася яна не паказаць, што ўстрывожана. — Хочаш, каб сабраўся кансіліум урачоў?

— Так, так, так, кансіліум! Трэба ж некаму паставіць узніклыя пытанні. Хоць бы дзеля таго, каб яны не ўсталі перад намі потым. Заўтра, ці праз два-тры гады. Мне т р э б а жыць. Трэба самому давесці да канца ўсё, што планавалася. Са-мо-му! Так, так, так, галубчык. Пэўна, знойдзецца пераемнік — тут жа знойдзецца! — ды загубіць жа справу, зганіць ідэю. Вось што непакоіць. Мо варта, апераджаючы наступствы, прыбраць самых зацятых з дарогі загадзя? Ужо цяпер? Мо не ўсе ахвяры прынесены?

Вочы ў яго пацямнелі, ад пагляда павеяла холадам, і Н. міжволі апусціла павекі, сцінаючыся ад нейкага няўцямнага страху перад немінучай трагедыяй, быццам штосьці раптам прыадкрылася патаемным жахлівым бокам. Прыадкрылася і знікла — раней чым пакінула выразны след у свядомасці, а чорны трывожны цень застаўся.

— Я баюся, што ахвяраю хочуць зрабіць цябе... — прашаптала, потым, ужо амаль нячутна, дадала: — Цябе і Расію...

## X

— Р-ра-сія-а... Ру-у-скі ду-ух... Брр! Абрушцеся, сілы цямрэчы, збярыцеся, сцюжы лютыя! Заносьце, засыпайце шляхі і сцяжыны! Выстуджвайце дамы і хаціны! Глуміцеся над усё яшчэ жывымі! Няхай застогнуць, заенчаць... Няхай ад холаду і голаду канаюць, каб не было ў чым душам трымацца! Хто — каго, а? Хто... хто... хто...

Чорныя хмары акрылі ўсю зямлю. Ламаліся, крышыліся, заносячы чорным снегам лясы і лугі, пагоркі і лагчыны, шляхі і паселішчы. І — трупы, трупы, трупы... Братазабойная вайна — вайна страшная, а цёмным сілам чым страшней, тым лепш: і ганяюць чорныя хмары з месца на месца, і сутыкаюць адны эскадроны з другімі, і мецяць заразаю нянавісці адных і другіх.

— Хто — каго? Хто... хто... хто...

І ў чырвоных, і ў белых — кроў чырвоная. І ў чырвоных, і ў белых — думкі ад чорнай нянавісці ўскіпаюць. І чырвоным, і белым — у сумётах-магілах ляжаць. Каго сцюжы аплакваюць? Каго абсвістваюць? Чые цені ў мінулым ці ў будучым ажывіць спрабуюць?

І адна зіма мінула, і другая, і трэцяя ў сілу ўбіралася, а страляніна ні ў адным канцы разбуранай краіны не аціхала і смерць была самай частай госцяй у кожным доме, у кожным двары. Жанчыны вочы выплакалі, згаладалыя дзеці на старых паходзілі, у стэпах на крыжы і пірамідкі з фанернымі зоркамі лесу не ставала. А вайна ўсё ішла, то пад адным, то пад другім сцягам калоны байцоў за пургою водзячы. Па крузе... Па адным і тым жа крузе... Ад заходніх граніц да ўсходніх. Ад Белага мора да Чорнага. Ад заходніх граніц... Мо хіба праз стагоддзе ўстане пытанне: д з е л я ч а г о?! Ды гэта яшчэ калі!

— Р-ра-сі-ія-а... Ру-у-ускі ду-ух... Ау! — галёкалі сцюдзёныя вятры, стагналі чорныя коміны спаленых хат, плакалі ўдовы і сіроты. І калі б звесці ўсе стогны і енкі ў адзін гук, здрыгануліся б Зямля і Неба ад жаху, ад жахлівага ўсведамлення той бездані, якая абрушвалася, глыбела, уцягваючы, разбураючы ўжо не тысячы, мільёны жыццяў.

Кроў змывалася новай крывёю, смерць цягнула за сабой новыя незлічоныя смерці — і, здавалася, не будзе гэтаму канца, ніколі, ні ў адзін з часоў не будзе апраўдання.

## XI

— Чаму я павінен апраўдвацца? І перад кім? — неяк па-дзіцячы бесклапотна жаліўся Л. жанчыне, адзіна якую любіў (няхай па-свойму, з тысячамі агаворак), і на міг не ўсумніўшыся ў гэтым сваім праве, хоць І. узіралася ў суразмоўніка, холадна, цвяроза ацэньваючы яго душэўны і фізічны стан. — У муках, у крыві і страшэнных муках нараджаецца новы

свет! А як яшчэ ён мог нарадзіцца і перамагчы? Не паверыш, але нават сёй-той з паплечнікаў гатовы адвярнуцца, ускладваючы віну за архіскладанае становішча ў краіне на мяне. На мяне аднаго! Кругом сабатаж... Падняла галаву контррэвалюцыя — і адсячы яе няма каму... Зноў няма каму!

— Ты дарэмна так хвалюешся. У партыі ёсць верныя пастаўленай мэце людзі, і ў іх асяроддзі няма месца хістанням і сумненням.

— Так, так, так! Нельга дапусціць хістання! Тым, хто сумняваецца, няма, не будзе месца ў жыцці камуны... На некаторых этапах гістарычнага развіцця жорсткасць апраўдана.

— Пры наяўнасці канкрэтнай, выверанай мэты жорсткасць заўжды апраўданая, — падтрымлівала ці суцяшала яго І.

— Адна ты мяне разумееш, — ажыў Л. і ад пачутых слоў, і ад лёгкага дотыку яе рукі. — Адной табе магу я прызнацца ў тым, што часам лаўлю сябе на думцы: мне страшна... я баюся... Баюся самога сябе. Ці таго, што ўва мне. Разумееш?

— Праўду сказаць, не вельмі, — пагладжвала яна прыціхлую яго руку, хоць гэта было ёй чамусьці непрыемна. — Ты прымаеш зашмат лекаў. Не ведаю ўжо, па чыёй рэкамендацыі... Але слабасць цела — яшчэ не слабасць духу. Таму — ніякіх страхаў! За табою ўсе ідуць, тваёй волі падпарадкуюцца!

Яна ўсміхалася, і Л. пазіраў на яе, пазнаючы і не пазнаючы. Свядомасць раздвойвалася, патрабавала засяродзіцца, сканцэнтравацца на нечым адным: на ўсмешцы яшчэ нядаўна жаданай жанчыны ці на тым, што ціснула на душу, вымагаючы страшных прызнанняў.

— Рэальнасць значна страшнейшая, чым ты можаш уявіць, — нарэшце прадоўжыў ён свядома пачатую гаворку. — Нават мне апошнім часам толькі падчас глыбокага роздуму ўдаецца сцягваць канцы з канцамі і, перш чым яны зноў абрываюцца, аддаць некалькі неабходных распараджэнняў. Рашучых, жорсткіх распараджэнняў. Калі б усе яны выконваліся...

— Калі б?! — усклікнула І. — Дайшло да таго, што яны не выконваюцца?!

— Я не магу загадаць расстраляць усіх, — церабіў ён бародку, яўна не гатовы да падобнай рэакцыі.

— Ты не можаш дазволіць каму б там ні было губіць справу свайго жыцця!

У голасе яе чуліся металічныя ноткі, хоць рука па-ранейшаму пяшчотна пагладжвала яго руку (дакладней, рукаў), і Л. адчуў, як словы прапякалі яго наскрозь, ужо нават адгучаўшы. Не можа... каму б там ні было... справа яго жыцця... Усё правільна. Ён паддаўся хваробе. Ён аслаб ад пастаяннай увагі ўрачоў і хатняга рэжыму. Ён перастаў узгадваць, што за ім — менавіта за ім! — рушыў народ да сваёй будучыні. Ён, напалоханы сваімі снамі, стаў баяцца самога сябе... Усё так. Усё безвыходна.

— Усё безвыходна? — перапытаў, відаць, не першы раз, бо, павярнуўшы галаву, злавіў здзіўлены позірк І., у якім трывога змешвалася з пагардаю, і балюча перасмыкнуў плячамі. — Лічыш, варта змяніць сваё акружэнне — замяніць партыйцаў адданымі справе рэвалюцыі рабочымі? Але многія з іх не ўмеюць чытаць, а распрацаваная мной тэорыя сацыялістычнай рэвалюцыі...

— Твая сіла, — павольна, ледзь не па складах, пачала яна даводзіць сваё, — не ў тым, што пішаш, а ў тым, што з трыбуны — з любой трыбу-

ны! — можаш давесці тысячам, дзесяткам тысяч людзей, агучваючы, уцямяшваючы ў галовы неабходнае, скараючы, падпарадкоўваючы іх волю сваёй волі. Нашай волі!

— І ты кажаш: нашай...

— Для таго, каб звяршылася, перамагла сусветная рэвалюцыя, патрэбна сусветная воля. Ты — яе выказнік. Яе праваднік.

— Я думаў: правадыр...

— Правадыр! — пакуль застаешся праваднікам ідэі сусветнай рэвалюцыі і здольны павярнуць падзеі ў канкрэтнае рэчышча. Пакуль не саступіў месца таму, хто сілаю ці падманам уздымецца вышэй.

— Лезуць, ужо лезуць, — падумаў ён уголас, стараючыся засяродзіць увагу на постаці, якую раптам заўважыў за спінаю І.: вельмі ж нагадвала яна амбітнага сябра-ворага, — страляць не перастраляць усіх.

— Усіх і не трэба, — падыгрывала яна яму. — А вось тых, хто залішнім патрыятызмам вызначаецца, шкадаваць нявартa. Задача ж — не Расію пераўтварыць, а ўсё як ёсць на Зямлі. Паўсюль на зямлі. Супрацьстаяць, а то і перашкодзіць сур'ёзна нам могуць толькі патрыёты. Народныя абраннікі і абаронцы, як часцей за ўсё самі сябе называюць, і ў думках не трымаючы, што народы, народныя масы — толькі паліва для кастра. Касцёр успыхнуў — і яго ніхто ўжо не патушыць: крыві не хопіць! Нічыёй крыві не хопіць.

— Але...— запнуўся Л., не ведаючы, хто з ім гаварыў — некалі жаданая жанчына або той, хто стаяў цяпер у яе за спінай, адкрыта пасміхаючыся. — Але ты паўтараеш неаднойчы ўжо сказанае. Мною сказанае.

— Праўда? — засмяялася І. і, заўважыўшы, што знаёмы смех крыху супакоіў таго, прадоўжыла яшчэ больш жорстка: — Не са сваіх слоў ты гаварыў — і забыў пра гэта. Забыў — і не чуеш больш загадаў.

— Чыіх загадаў?

— Пра гэта не пытаюць. Загадвае той, каму падпарадкуюцца безагаворачна. У іншым выпадку...

— У іншым выпадку яго забіваюць, — задумліва прадоўжыў Л. незавершаную фразу. — Людзі, ці абставіны... Хоць, як усякі раз высвятляецца, людзі.

— Выканаўцы, — паследавала ўдакладненне, і цяпер ён дакладна ведаў, што гаварыла не яна. — І ты, як і мы ўсе, дарэчы, з іх племені.

— Фігушкі! Волі супрацьстаіць воля, а мне яе, як вядома, не пазычаць, — зазлаваў Л. — Усё яшчэ можна выправіць, змяніць — і я паспрабую, чуеш? Чуеце, вы?!

Ён ужо не гаварыў, а крычаў у цем, якая зноў накрывала яго, засланяючы ўбачанае, бачнае яшчэ хвіліну назад, і рэха вяртала не водгулле крыку, а водгулле смеху. Крыўднага, пагардлівага смеху цемрадзі.

## XII

Цем, цемрадзь, цямрэча — паняцці адносныя і ўспрымаюцца ў адпаведнасці з накірункам і глыбінёю позірку. Адны ўспрымаюць толькі чарнату, беспрасветнасць і той жах, якія яны міжволі выклікаюць у душы, другія — свае ўласныя хібы і страхі, матэрыялізаваныя ў душы ўзрушаным уяўленнем, трэція — калі здольныя пранізаць, прабіць узніклую перашкоду з дапамогаю духу, духоўнае сілы, — усю глыбіню яе, за якой, з-за якой выблісквае святло. Чыстае горнае святло. Вось толькі моцных ду-

хам зазвычай мала, яны пад прыцэлам і далёка не ўсе здагадваюцца пра сапраўдную прычыну, церпячы паражэнне.

Падумаеш, зазлаваў на недарэку, высмяяў дурня, з большай, чым патрабавалася, сілай адпіхнуў саперніка! А тое, што калі гнеў засляпіў вочы, пушчаная з цемры страла можа дасягнуць мэты і прабіць тваё сэрца, што пагардлівы смех абернецца крыўдаю і, сабраўшы сілу ўсіх калі-небудзь пакрыўджаных, абрынецца на тваю галаву, што кепска разлічаны ўдар саб'е з ног не толькі саперніка, а і цябе самога, так-такі нічога не значыць? Значыць, і яшчэ як! Закон захавання і пераўтварэння энергіі пануе не адно над фізічнымі з'явамі — гэта адзін з Законаў Прыроды, якім падуладна ўсё. Усё і ўсе.

Час ніколі не мае значэння там, дзе жыве дух. Чым ён жыве, што яго сілкуе — іншая справа, і пагляд міжволі апускаецца на зямлю. Не ў пошуку прычыны, а ў пошуку вытлумачэнняў: прычына заўсёды адна — недасканаласць чалавечых істот, вытлумачэнняў шмат — столькі, колькі розных абставінаў і перашкод выпадае на нязжытым прамежку шляху. І не мае асаблівага значэння, што лічыць справядлівым ці несправядлівым сам чалавек.

Думаць жа... Думаць можна што заўгодна, у якім заўгодна кірунку — пакуль думку не ўзброіць воля, справу з месца не зрушыць. Ні яму, ні каму іншаму. І гэта і ёсць ключ да пераўтварэнняў, а ўрэшце — і да будучыні.

— Воля! воля! — які ўжо раз паўтараў Л., ці то пераконваючы сябе самога, ці то некага там, за дзвярамі, у калідорах Смольнага, і не заўважаючы гэтага, а позірк зноў цягнуўся да стоса папер, перабраных, перачытаных з раніцы. Даклады, допісы, скаргі... Шмат незадаволеных бальшавіцкай настойлівасцю новых гаспадароў, шмат не згодных з палітыкай партыі... Гарачым жалезам трэба б выпальваць любую нязгоду, любы сабатаж!

Варухнулася ў душы збуджаная злосць, і Л., помнячы, да чаго гэта звычайна прыводзіць, паспрабаваў суцішыць яе, загнаць куды глыбей, каб не абзывалася, не вярэдзіла хворую душу. Але спроба аказалася такой кволай, што і следу па сабе не пакінула, а злосць, падчапіўшы нечаканую ўзгадку пра хваробу, пачала згушчацца і цямнець. Нават у вачах на міг пацямнела. Ён яшчэ адпіхнуўся ад стала рукамі, выпростваючыся, быццам хацеў адштурхнуць нябачную хвалю цямрэчы, што насоўвалася на стол, на стос папер, на яго, ды ўжо ў наступны міг пакорна прываліўся да спінкі крэсла і знерухомеў.

Сабатаж! Кругом сабатаж! Выправіць сітуацыю не дапамагаюць ні высылкі нязгодных, ні арышты, ні расстрэлы. Волю, жорсткую волю трэба прымяніць, каб пад корань вынішчыць заразу, нікога і нічога не шкадуючы! Мала турмаў? Будаваць новыя! Не ратуюць становішча турмы? Канцэнтрацыйныя лагеры ствараць у самых дзікіх, недаступных мясцінах... Няхай лес валяць, разумнікі! Няхай уласнай крывёю плацяць даніну новаму часу!

Злосць, няўцямная, не падуладная яму злосць сляпіла, і калі Л. чарговы раз памкнуўся напружыць зрок, сабраць увагу і зірнуць углыб ліпкай цемрадзі, што падступіла ўжо ўшчытную, рэзкі боль у патыліцы змусіў забыць пра свой намер. «Яны ўсё-ткі забілі мяне!» — мільганула думка, і боль узмацніўся, стаў амаль невыносным. Яшчэ адзін кволы зрух — яшчэ адна ўспышка болю...

Успышка? Гэта была яркая ўспышка?

Мажліва, ад болю Л. страціў прытомнасць, мажліва, боль абвастрыў

унутранае ўспрыманне — без яго ўдзелу, без якога б там ні было ўнутранага адчування яго прысутнасці ў пэўным месцы ці часе, паўставаў, выяўляўся, ачышчаўся ад ашмоцця змроку незнаёмы краявід. Перш — краявід мора, халоднага паўночнага мора, раскалыханага вятрамі. Потым — краявід заблукалых у бязмежжы мора астравоў, што то аддаляліся, то зноў набліжаліся, чапляючыся за сляпучае ад бляску неба купаламі шматлікіх храмаў, крыжамі, якія вянчалі купалы.

Жаданне зразумець, што гэта за астравы пасярод бязмежнага мора, што за храмы і манастырскія сцены на самым большым з іх, ці злоснае непрыняцце ўбачанага ў адну з чорных хвілін душы падштурхнула думку, і падказка не прамарудзіла: салавецкі манастыр... Салавецкія астравы...

Л. нейкі час (калі можна гаварыць пра час у межах аднаго кароткага імгнення) узіраўся ў светлыя сцены храмаў, у постаці манахаў, занятых living рознымі справамі пры храмах ці вакол іх, у дагледжаныя гароды і сады, перавітыя каналамі, у камяністыя дарогі і сцяжыны ўздоўж узбярэжжа і па схілах пагоркаў, шукаючы хоць бы якую цёмную пляміну ці зазубрыну. Але неба, хоць і незнаёма блізкае, ззяла спакойна і радасна — ніводнай хмурынкі нідзе! — і гэта (што ж яшчэ?) раздражняла.

Раздражненне нібыта і не абзыўнулася ні разу, а расло, і Л. нават не шукаў тлумачэння. Грамадзянская вайна, кроў, разруха, сабатаж паўсюль, а тут... Тут — храмы некранутыя... Тут — сонейка... Цішыня... Узарваць гэту цішыню! Пахаваць пад яе абломкамі ўсіх іншадумцаў, усіх чысценькіх перад сваім сумленнем, каб і памяць пра іх не ўскрэсла! Пахаваць і — раз і назаўжды — увінціць у неба чырвоную пяціпромневую зорку!

— Так, так, так! Раз — і назаўжды... Не служкі Богавы, а слугі пралетарыяту... — мармытаў Л., не ўсведамляючы гэтага, і калі б хто зазірнуў у гэту хвіліну ў кабінет, то пэўна спалохаўся б і яго выгляду, і яго гучнага мармытання: скамянелы твар з выпучанымі сляпымі вачамі мяняўся, мяняў афарбоўку і з амярцвела белага станавіўся хваравіта, ненатуральна чырвоным, мармытанне раз-пораз перарывалася хрыпам ці ўскрыкам. — Узарваць... Хай валяць лес...

Неба па-ранейшаму ззяла нізка над зямлёй, над камяністым, зрэзаным вятрамі і сцюдзёнымі хвалямі берагам вострава, але ззяла холадна, усё халадней і непадступней, каб гэтак жа нечакана згаснуць, схавацца за густой завесай змроку. Змроку цьмяна-чырвонага, які нагадваў густы крывавы туман.

Нават калі Л. пасля ўколу, зробленага выкліканым кімсьці са служачых доктарам, апрытомнеў, пагляд доўга заставаўся нерухомым, быццам нежывым, і, здавалася, ніводная жывая іскарка не загарыцца ў ім ужо ніколі. Але лек рабіў сваё, здранцвенне паціху адпускала — змрок і слых вярталіся. Перш — зрок, таму што ў нейкі момант Л. выразна ўбачыў стол, стос папер на ім, апошняе распараджэнне, якое збіраўся падпісаць. Потым — слых, і хоць, пачуўшы ціхую гаворку тых, хто знаходзіўся ў кабінеце, асобных слоў не разбіраў, хутка зразумеў, што гутараць доктар і Н., што, хутчэй за ўсё, меў месца новы ўдар і новы правал у свядомасці...

— Усё добра, галубчык, — гучна, як яму здалося, гукнуў ён Н., паспрабаваўшы прыўзняцца і тут жа адчуўшы падтрымку, дапамогу дужых рук: Н. не расчула яго шэпту, але заўважыла рух. — Усё добра...

— Пасядзі спакойна, — як малога пагладжвала яна яго па галаве. — Яшчэ паўгадзінкі — і паедзем. Машына прыйшла, доктар з намі.

— Хто быў нічым, той стане ўсім... — сіліўся ён агучыць узніклую думку, яшчэ даволі цьмяную і невыразную.

Н. мякка прыкрыла яму рот насоўкаю.

— Маўчы, маўчы... Пасядзі спакойна! — мовіла ледзь чутна, і Л. раптоўна выразна ўбачыў не толькі жончын стомлены, руды ад стомы і трывогі твар, а і свой (незнаёмы і чужы), што люстраваўся ў шкельцы яе акуляраў. Ціха застагнаў і прыкрыў вочы, дазваляючы нізкаму жаночаму голасу закалыхваць гэты адбітак, дазваляючы цемрадзі прыкрыць, ахутаць балючыя думкі.

Расплюшчыўшыся, зразумеў, што заснуў, што даволі шмат часу праспаў у крэсле, абкладзены падушкамі, бо за акном было цёмна, у кутку кабінета, прываліўшыся да сцяны, драмаў доктар, а побач, літаральна побач з ім, уткнуўшыся тварам у стос папер на стале, спала Н. Азіраючы ўсё, што мог ахапіць паглядам, Л. нейкі час не варушыўся, не проста не хацеў — баяўся іх разбудзіць раней часу. Штосьці ён не зрабіў... Штосьці неадкладна павінен зрабіць...

Пагляд слізгануў па стале, уткнуўся ў аркуш, які ляжаў справа ад яго, быццам прыцягнуты ім, раптоўна падаўся ўсім тулавам бліжэй. Гэта было распараджэнне аб стварэнні спецыяльных лагерных пасяленняў для зняволеных, каму ставіліся ў віну іншадумства, сабатаж, здрада справе пралетарскай рэвалюцыі.

«Так, так, спецыяльныя лагерныя пасяленні!» — рашуча падтрымаў ён у думках рашэнне і, лёгкім нячутным рухам падсунуўшы бліжэй распараджэнне і ручку, спакойна абмакнуў пяро ў чарнільніцу і цвёрда, размашыста напісаў: «На Салавецкіх астравах». І паставіў подпіс.

## XIII

Нішто не знікае, усё пераўтвараецца, прымаючы ўдзел у вечным кругазвароце Прыроды. Пралітая кроў ажыве некалі ў крыві нашчадкаў, блізкіх ці далёкіх, афарбоўваючы іх жыццё даўно пражытым і ўсё ж не зжытым. Чым гэта абернецца для іх, увогуле для будучыні, не знае ніводзін з людзей, а і знаў бы... Людзі — толькі людзі. Жывуць, не шукаючы смерці, паміраюць, так і не ўразумеўшы, для чаго жылі.

Ён быў упэўнены, што знаў сваё прадвызначэнне з самага пачатку. Змалку. Знаў — і зрабіў не ўсё. Мог зрабіць — і не зрабіў. І калі што і мучыла Л., прыкаванага да ложка, то балючае адчуванне незавершанасці, страчанай магчымасці завяршыць распачатае, убачыць вынікі тытанічнай працы думкі...

— Вынікі? Ты і ўзапраўду хочаш сказаць, што не быў папярэджаны пра вынікі твайго жыцця? — глумліва мовіў хтосьці ў самае вуха, і Л., нават не напружваючы думку, ведаў, які з нябачных гаспадароў яго лёсу з'явіўся па справаздачу. — Узжадаў палітычнае ўлады — і атрымаў яе. Узжадаў заняць трон вярхоўнага правіцеля Расіі — і пасля расстрэлу царскай сям'і заняў яго. Узжадаў разбурыць стары свет — і вакол, на ўсіх прасцягах Расіі — руіны і разруха.

— Пераўтварэнні толькі распачаты... — з цяжкасцю выціснуў з сябе, марна спрабуючы адагнаць, адсунуць позіркам цем, што чорна-чырвоным мроівам калыхалася над ім. — Вы не далі...

— Усё, што даецца, даводзіцца аплачваць, — не хаваў усё яшчэ нябачны суразмоўнік пагарды. — Ад цябе ніхто нічога звыш меры не патрабаваў. Трэба было ва ўсім следаваць загадам. Ва ўсім, а не выбарачна!

— Ды хто ты такі, каб аддаваць загады і патрабаваць паслушэн-

ства? — сабраў усе свае сілы для абурэння Л., не хочучы пагаджацца, што спрэчка загадзя прайграна.

— Мы ўжо страчаліся, — засмяяўся той.

— Страчаліся? — не паверыў Л., і тут жа ўзгадаў дзіўную, ні на што не падобную навальніцу ў гарах, дзіўную гаворку з бясцелым магутам ростам да нябёсаў, а, узгадаўшы, убачыў таго, хто загаварыў з ім цяпер.

— Бачу, успомніў! — ледзь заўважна пахітваўся той над ім, не спяшаючыся падчас наладжанай ім стрэчы з Л. прыняць больш прыдатнае аблічча. — Значыцца, помніш і словы папярэджання: трэба ісці да канца ва ўсім — у празе ўлады, у веры ў сваю непераможнасць, у бязлітаснасці ганенняў на іншадумцаў, у нянавісці да ворагаў, у любві да насілля, у пакоры дужэйшаму...

— А як жа памянутая вера ў сваю непераможнасць? — пакпіў, збіраючыся з думкамі, Л.

— Гэта тычыцца Зямлі, зямнога...

— Мы на Зямлі! — няведама чаму ўсё яшчэ працівіўся ён.

— Ты вось-вось пакінеш гэту грэшную зямлю, — быццам зазлаваў раптам той, на вачах мяняючыся (дакладней, змяншаючыся), наблізіўся амаль ушчытную — твар у твар. — І вечнасці, як ужо сёння бачна, не заслужыў. Ні ў нас не заслужыў, ні ў...

— Што ж недагаворваеш? — спрабаваў адкаснуцца, адхіліцца ад нячысціка як мага далей Л., хоць ні свайго намеру, ні свайго руху не ўспрымаў — не заўважаў. — Заслужыў, не заслужыў... Ды каб не ваша іудава племя, паўсюль на зямлі ўсталяваліся б камуны і вольная праца ўсім прыносіла радасць!

— Цю-ю! З чыйго гэта раптам голасу ты загаварыў? — узняўшы руку з растапыранымі пальцамі, пачаў той пакручваць яе ў Л. перад носам. — Думаеш, лепшую славу па смерці выпрасіш, адрокшыся ад усяго ўчыненага з нашай дапамогаю? Дудкі! Хто быў нічым, той стане ўсім! А ты, каму дазвалялася ўзняцца над усім і ўсімі, не будзеш належаць ні Зямлі, ні Небу! Запомні: ні Зямлі, ні Небу...

— Не ведаю, як Зямлі і Небу, а вам, іудаваму племені, дакладна не буду! — злосна агрызнуўся Л., рэзка падаўшыся наперад, прама на руку з растапыранымі пальцамі, што засціла святло, і нават вачам сваім не паверыў адразу, убачыўшы, як знікае, растае ў паветры гэта цяжкая, бугрыстая рука, а потым і гаспадар яе. — Якая ні малая слава, а не ваша! Якая ні вялікая віна мая, а не перад вамі, а перад пралетарыятам!

— І ўсё ж, не тваё, а маё прароцтва збудзецца, — цвёрда, хоць і без ранейшай пагарды, адгукнуўся ўжо нябачны наведвальнік. — Чорная піраміда... Між зямлёй і небам...

Голас адлятаў, чэзнуў дзесьці за сцяною цьмянага святла, якое не знікала, як ён міжволі чакаў, а паціху, ледзь заўважна ярчэла, усё выразней выяўляла незнаёмую бязмежную прастрань. Л. напружана сачыў за ім, адчуваючы, як няўхільна пакідае яго сіла, як пакідае яго жыццё. Ён не чапляўся за жыццё, чамусьці нават не жалкаваў аб ім, спакойна страчаючы наступную хвіліну. Апошнюю хвіліну. Так, быццам зрабіў усё, што мог. Так, быццам ведаў, што збуджаная, уздыбленая на дыбу пакуты за ўвесь свет Расія пойдзе далей, пойдзе прадвызначаным шляхам.

Далягляд, што адкрываўся пагляду душы, усё святлеў, і калі Л. раптам выразна ўбачыў заснежаныя прастрані без канца і без краю пад залатым сонечным ліўнем, то зразумеў, што яму наканавана яшчэ адна сустрэча,

што яна ўжо адцясняе, засланяе ўсё ім перажытае, і глыбока, на поўныя грудзі, уздыхнуў.

— Ты ведаў свой шлях — і не саступіў з яго, не адступіў.

— Хіба я мог? — адказаў-падумаў Л., нават не спрабуючы ўгледзець яшчэ што якое ў сонечным ліўні вакол.

— Цябе акружылі адступнікі, цябе ўпарта схілялі да іншага выбару, спакушаючы тым, што мае вагу адно на Зямлі.

— Я зрабіў шмат памылак, хоць рабіў што мог.

— Ты не адступіў.

Голас мякка ахутваў яго і, супакойваючы, быццам ачышчаў ад трывожных думак пра тое, што пакідаў Л. на Зямлі, што пацягнецца за ім, за яго імем і па смерці, яшчэ доўга пасля смерці... Ён не праціўіўся. Не прасіў аб нечым большым. Ні аб чым больш не пытаў. Сонечны лівень (мо ім, гэтым залатым ліўнем, ліўся на яго аднекуль голас?) пакалыхваўся, ярчэючы, — і ціхая радасць напаўняла Л., упершыню за той час, як ён сябе помніў.

— Зямны шлях мог быць завершаны ўжо цяпер, але не завершаны... Ты не павінен шкадаваць аб гэтым.

— Я не шкадую. На Зямлі яшчэ шмат чаго трэба будзе зрабіць. І заўтра, і праз стагоддзі... Зямля — прыгожая! Як гэты сонечны дождж. А чорнае прароцтва...

— Яно, на жаль, збудзецца. І ты гэта ведаеш. Ведаў з самага пачатку. Можаш зірнуць, калі хочаш.

Л. не хацеў. Але думка, нават не да канца акрэсленая, ужо зачапіла імгненне, агучанае мяккім пранікліўым голасам, і перад паглядам — хутчэй за ўсё, перад паглядам душы! — паплылі карціны з яшчэ не пражытага нікім. Доўгія, здаецца, бясконцыя калоны людзей, што па снежным цаліку сыходзяцца адусюль да труны... Абезгалоўленыя, са збітымі купаламі, цэрквы на пагорках... Тысячы, сотні тысяч зняволеных пад дуламі канваіраў у катлаванах пад новабудоўлі... Сцёмненыя гарады пад аховаю чорных варанкоў... Шматтысячныя дэманстрацыі працоўных... Самалёты з чорнымі крыжамі на крылах... Смертаноснае распаўзанне спляпучых грыбоў, ядзерных выбухаў... Ваенны парад на Краснай плошчы... Чорная ўсечаная піраміда з прыступкамі, па якіх падымаюцца ўсё новыя прэтэндэнты на ўладу...

Апошняя карціна паўтаралася зноў і зноў, і ў нейкі момант Л. адчуў, што душа знемагае пад цяжарам таго, што тармазіла яе рух, яе адлёт.

— Гэта і ёсць таямніца прароцтва? — спытаў-падумаў, не чакаючы адказу, хоць адказ прагучаў. Праўда, не адразу, а ў самы апошні міг паміж жыццём і смерцю, калі чорная ўсечаная піраміда, раптам апусцелая, быццам асвяцілася знутры, а там, усярэдзіне, ціха загайдалася на нябачных падвесках бачаная ўжо ім труна.

— Ніхто ніколі не займаў п'едэстал падоўгу. Бачыш: ён — пусты...

Яркая ўспышка святла патушыла ўсё бачнае, святло памкнула ўгору, убіраючы ў сябе былое, цяперашняе і будучае, і след гэтай успышкі доўга рассейваўся — перш зіхотка-белымі аскепкамі прасторы, потым снежнымі пырскамі зімовай сцюжы, што завывала ўжо над усёй Зямлёю:

— Пу-усты-ы-ы п'едэста-ал... Заў-сё-о-ды пус-ты-ы...



**ТАЦЦЯНА МУШЫНСКАЯ**

# ТАНЕЦ ДАЖДЖУ

* * *

Заўсёды немагчымага хачу.
Бягу, імчу я ўслед за немагчымым.
Хоць ведаю, той прывід сыдзе дымам, —
Ягонай траекторыяй лячу.

У промнях сонца знікнуць міражы,
Як мроі растрывожанай душы.
Сабе на радасць, можа, на бяду
У руху тым таемны сэнс знайду.

* * *

Ажывуць старыя надзеі,
І затрымціць сэрца ад прадчування
Неспадзеўнай радасці,
Калі на змену самотнай і лаканічнай
Чорна-белай графіцы зімы
Прыйдзе маляўнічы і сакавіты
Жывапіс лета.

* * *

Які дзіўны і смешны стан...
Бо душа — асобна ад цела.
Паляцела душа да цябе,
Быць бліжэй да цябе захацела.

Да мяне ты вярніся, душа!
Мне з табою ніяк не расстацца.
Ды не хоча вяртацца душа,
Ўсё не хоча чамусьці вяртацца...

* * *

Душа твая — ціхая музыка,
Што песціць, хвалюе, мілуе.
Душа твая — чулая музыка,
Што лашчыць, гайдае, цалуе.

Душа твая — светлая музыка,
Ратуе і лечыць, і гоіць...
Міжволі цябе і мяне
Мелодыяй шчасця напоіць.

## ЛЕТНЯЯ НОЧ

Заблукаў рагаты месяц
У галінах дрэў.
Чуцен, чуцен між лістоты
Птушак звонкі спеў.

Час ад часу пралятаюць
Садам светлякі.
Вее, вее прахалодай
З блізкае ракі.

Лісце чорным намалюе
Між сінечы ноч.
Крочыш сцежкаю садовай,
Проста ў травы збоч.

Ззяе ў промні месяцовым
Кропелька расы.
Не, ніколі днём не ўбачыш
Гэтакай красы!

Дотык тайны, шолах траваў,
Песня салаўя...
Разам з ёй ля зор лунае
І душа мая.

## ТАНЕЦ ДАЖДЖУ

Дождж танцуе зграбна, лёгка —
То зямлю ледзь-ледзь кранае,
А то хвалямі прыпусціць,
А то раптам адпускае.

Дождж танцуе танец лета
Разам з ветрам, разам з сонцам.
Танчыць весела і шчодра,
Танчыць летні дождж бясконца.

Не злічыць малюнкаў танца,
Не злічыць яго узораў.
А на сумных, а на хмурых
Пазірае ён з дакорам.

Дождж вясёлы, дождж гарэзны
Абдымае сад і поле,
Вішні, яблыні, чарэшні...
Дождж, суцішся ўжо... Даволі!

Шпарка, жвава дождж імчыцца
У віхурным карагодзе.
Ажывае, весялее
На душы, як і ў прыродзе.

І смяецца гучна сонца —
Кожнай кропляй, кожнай кропляй.
І з дажджом танцуе разам —
Кожным промнем, кожным промнем.

* * *

Прастора душы падобная
На акустычную прастору.
І нечыя словы жывуць у ёй
Бясконцым рэхам.
Злыя — джаляць, як восы.
Пагардлівыя —
Сыкаюць па-змяінаму.
А добрыя і шчырыя
Ахінаюць ад нягод і сіверу
Белым крылом анёла.

* * *

Расхінулася неба
Блакітам бязгрэшным.
І жыцця далячынь
Мне здаецца бязмежнай.

Кранаюцца воблакаў
Соснаў кроны.
Дзень нарадзіўся
Вясёлы й зялёны.

Празрыстае мроіва
Над лугам дрыжыць.
Несціханая радасць
У сэрцы звініць.

Вясёлкавай радасцю
Свет азораны —
І пад сонцам сляпучым,
І пад зыркімі зорамі.

* * *

Жанчыны і кветкі
Таемная сувязь.
Цвіценне і росквіт —
Агульная сутнасць.

Бутон і пялёсткі —
Пяшчоты трымценне.
А потым... галінак
Сухіх шамаценне.

* * *

Мерны пошум ляснога дажджу
Будзе гукам майго вызвалення.
Стаўся ён прадчуваннем
малення,
Урачыстую ладзіць імшу.

Мудры гук вызвалення лясоў
Ад смяротнае летняе спёкі...

Даўганогі, срабрысты, высокі,
Смагу ты наталі каласоў!

Ратавальны мой дождж, ты шумі,
Ад начы не сціхай і да рання.
А празрыстым, пяшчотным
світаннем
Мне бясконцасць нябёс расхіні.

* * *

Мы з табой нічога не сказалі.
Сумятня вакол, як на вакзале.
Мітусня... А позірк твой пытальны —
Ці то суцяшальны,
Ці то развітальны...

* * *

Чым больш зіхатлівая мая мара,
Тым з большаю асалодаю
Руйнуе яе рэальнасць.
Часам — з халодным раўнадушшам,
Часам — з саркастычнай усмешкай.

* * *

Калі ўважліва паслухаць
Самога сябе,
Дык шмат чаго можна пачуць:
І какафонію, якую часам
Нельга стрываць,
І ўзнёслую, боскую музыку.

### ЗАВІРУХА

Скавыча вецер за акном,
Нічога ў полі не відно.
А вецер жаліцца, ірвецца,
Завея ўслед яму смяецца.

Галосіць ён у чыстым полі —
Ад снегу, роспачы, нядолі
У хвалях белай завірухі
Ад адзіноты і ад скрухі.

* * *

Толькі адно нахабнае слова
Спужае знянацку цэлую чараду
Ненароджаных вершаў.
Яны — пырх! — і ўзляцяць.
Нібыта на гэтай галінцы
Іх ніколі і не было.

* * *

Лепш, як з табой,
Мне не будзе ні з кім —
У хвіліну узлёту,
У хвіліну кахання.

Лепш, як з сабой,
Мне не будзе ні з кім.
У хвіліну натхнення,
У хвіліну лунання.

У хвіліну трывогі,
У хвіліну расстання
Горш, як з табой,
Мне не будзе ні з кім.

У хвіліну падзення,
У хвіліну трывання
Горш, як з сабой,
Мне не будзе ні з кім.

* * *

Цішыню дзе знайсці,
Цішыню,
Цішыню, што мяне уратуе?

Чысціню дзе знайсці,
Чысціню,
Неруш той, што душу мне абновіць?

Дзе спагаду знайсці
І любоў,
Што з сабою былою знітуе?

Дабрыню дзе знайсці,
Дабрыню,
Што трывогу маю супакоіць?

ВІКТАР АЛЬШЭЎСКІ

# ПАЧУЦЦЁ РАЎНАВАГІ, АЛЬБО ЧАС УЗЫХОДЗЯЧАГА СОНЦА*

*Дыярыуш мастака*

## Анталія, бераг Турэцкі...

*7.06.2001*

На радзіме сёлетняе лета выдалася надзіва спякотнае і парнае. У горадзе — задуха, слупок тэрмометра не апускаецца ніжэй трыццаці градусаў. Зараз бы да крынічнай прахалоды, пад цяністыя шаты бярозавага ці дубовага гаю! Але мы сям'ёй ляцім на адпачынак у яшчэ большую гарачыню, на чарнаморскае ўзбярэжжа Турцыі. У гэтай краіне я ні разу не быў, таму чакаю ад падарожжа галоўнага — новых уражанняў.

А дзесятай раніцы цягнік з Мінска спыніўся ў Маскве на Беларускім вакзале. Задоўга да паездкі пазваніў Ігару Чорнаму ў Маскву з просьбай адвезці з вакзала ў аэрапорт «Шарамецьева-2». Сустрэў нас вадзіцель Аляксей, белабрысы, невысокага росту, як і апісаў яго Ігар. Да аэрапорта даехалі даволі хутка. Усе залы запоўнены пасажырамі, мы гадзіну прасталі, пакуль знайшлі паверхам ніжэй тры вольныя месцы.

Ад Масквы да Турцыі (адлегласць 2300 км) наш самалёт ляціць з хуткасцю 9600 км у гадзіну, і таго — тры гадзіны лёту. Але рэйс затрымліваецца ўжо на паўтары гадзіны: яшчэ не запоўнены месцы ў самалёце, яго салон змяшчае амаль паўтысячы чалавек. У час маёй паездкі ў Індыю, памятаю, пераляталі да Шры-Ланкі аэробусам, у якім было 12 радоў. З часам чалавек навучыцца падымаць у паветра магутныя платформы з насельніцтвам мільённага горада, калі Бог дасць.

Нарэшце ў 15.25 скрануліся з месца. Відаць, аэрапорт летам ужо не можа рытмічна і своечасова адпраўляць самалёты. Неабходна сур'ёзная сучасная рэканструкцыя або будаўніцтва новага, высокакамфартабельнага аэрапорта: «Шарамецьева» — учарашні дзень. Я нямала павандраваў па свеце за апошнія 10 гадоў, таму ведаю, наколькі высокая тэхнічная

* Працяг. Пачатак у № 9, 10, 2003 г.

цывілізацыя ў сучасных развітых краінах, а аэрапорт — ці не люстэрка стану краіны, эканамічнага і палітычнага. Прыемна, калі ўваходзіш праз светлыя, шыкоўныя, камфартабельныя «нябесныя вароты». І зусім па-іншаму адчуваеш сябе, калі з завоблачных вышынь трапляеш у шэрыя бетонныя скляпенні, дзе цябе сустракаюць аўтаматчыкі з застылымі, падобнымі на маскі тварамі, і дзе не гарантавана, што мытнікі могуць распрануць дагала, калі моцна «спадабаешся». Незабыўныя ўражанні!

Наш аэробус ажывіўся і з падскокам на мяккіх рысорах пабег па ўзлётнай паласе наперад. Асалоды ад пачатку падарожжа я не атрымаў, пачынаецца яно з накладкамі. Узгадаў, што перад дарогай, як патрабуе звычай, дома не прыселі, вось і маем праблемы. На вакзал у Мінску прыехалі за дзесяць хвілін да адпраўлення цягніка, аказалася, у спешцы пакінулі білеты дома. Вяртацца па іх было позна, але ж паразумеліся з чыгуначнікамі — нас пасадзілі ў вагон. Усё гэта можна разглядаць як папярэджанне, але ж будзем спадзявацца на лепшае. У сваіх дзеяннях чалавек павінен быць сабраны і арганізаваны. Усе нашы пралікі — ад унутранай недысцыплінаванасці.

16.00, разбег, узлёт. Дзякуй Богу, самалёт пайшоў угору. Гойдаецца і трасецца. Вышыню набірае рыўкамі, з лёгкімі праваламі. Унізе і зверху воблачна. Праз колькі хвілін нібы патрапілі ў іншы свет: блакітнае неба, асляпляльна белыя воблакі сярод размытай акварэльнай прасторы залітыя сонцам.

Я заўсёды ўдзячны Богу, які надаў майму жыццю пэўную паслядоўнасць, напоўніў яго падзеямі і прагай пастаяннага творчага пошуку, абнаўлення, а таксама за добрыя знакі на маім шляху. Усведамленне гэтага дае магчымасць ачышчаць душу, удасканальвацца і ісці наперад, на Ягоны Голас.

Чысціня творчай прасторы і думка роднасныя па сваёй ідэальнай субстанцыі. Мая духоўная ідэя ў мастацтве — імпульс пастаяннага пошуку. Не спыняцца на пэўных дасягненнях, абуджаць мысленне шляхам стварэння новых вобразаў: творчы працэс павінен быць такім жа няспынным, як і плынь часу. Час — таксама духоўная субстанцыя. Яго бясконцасць, рух, напластаванні не паддаюцца ўсведамленню чалавекам, які толькі слізгае па грабеньчыках хваляў часу, але не мае сілы прабіцца ў ягоныя тоўшчы — у вечнасць. Час народжаны разам з Сусветам, і толькі праз мастацтва дазволена наблізіцца да гэтай вялікай таямніцы — тварэння. Мастацтва мае сваё вымярэнне: гэта камбінаваная фіксацыя ў матэрыяле найменшых адзінак часу — імгненняў, пераўтварэнне ідэальнай субстанцыі ў матэрыяльную. Каб здолець зрабіць падобнае, патрабуецца вялікая духоўная сіла. І яна падорана Богам чалавеку. І яшчэ нам дадзена Вялікім Тварцом права выбару — як карыстацца духоўнай творчай сілай і ці карыстацца ўвогуле? Жыццё даецца і забіраецца. Чым павінен займацца чалавек на зямлі? Прыйсці, каб пакінуць яе? Так, пакінуць, але не зямлю — а след на ёй пасля сябе. Мастак жа абавязаны пераплавіць на ўласным творчым агні субстанцыю матэрыяльную ў знак, сімвал Духу.

Душа кожнага дзіцяці ў рознай меры насычана інфармацыяй, неабходнай для закладвання здаровай асновы яго будучыні. У дзяцінстве можна моцна ўплываць на фарміраванне «маральнага закона ўнутры чалавека», разуменне каштоўнасці зямнога існавання, праграму, якая вызначыць яго ўчынкі і паводзіны ў дарослым жыцці. На жаль, мала хто разумее ўсю важнасць перыяду дзяцінства ў далейшым лёсе асобы.

Я не скажу, што ў дзяцінстве маім хтосьці мэтанакіравана займаўся фарміраваннем маёй свядомасці, праграмна навучаў жыццю, развіваў схільнасці. Я інтуітыўна караскаўся, як тая чарапашка з гарачага пяску ў воды акіяна. З дзяцінства бацькі лічаць сваім абавязкам закласці ў дзіцяці аснову для выжывання, перадаюць яму свае практычныя веды. Мае першыя малюнкі і патрэба маляваць былі падтрыманы, больш таго — бацькі ўхвальвалі маё захапленне, спрыялі гэтаму занятку. Па лініі бацькі карані вядуць у глыбокую гісторыю прозвішча Olshewskich. Дзед Іван расказваў, што пісалі «Ольшевский» у царкоўнай кнізе. Утвораныя сельскія саветы, дзе ў асноўным былі малаграматныя пісарчукі, не прытрымліваліся дакладнага правапісу, некаторыя прозвішчы здзекліва перайначваліся. Выдумляліся новыя імёны — Сеялка, Веялка, Канстытуцыя... Адзін Трактар Іванавіч, да прыкладу, пісаў у газету, прасіў парады, як пазбавіцца яму імя, якое па сутнасці з'яўляецца савецкай мянушкай. Неахайна да запісаў дат, прозвішчаў ставіліся яшчэ ў зусім нядаўні час. Так, маё нараджэнне 21 верасня было заменена датай 28 верасня. Былі недакладнасці ў запісах прозвішчаў, дат нараджэння і маіх братоў, сясцёр.

У дзеда Івана Альшэўскага было трое сыноў: старэйшы — Уладзімір, мой бацька, пасля Міхаіл і Мікалай. Мікалай Альшэўскі ад прыроды быў вельмі адораны, але не змог знайсці шлях да мастацтва. Ён з'яўляўся практычна першым маім настаўнікам у дзяцінстве. Для мяне ён быў першай пуцяводнай зоркай на шляху разумення мастацтва. Дзякуючы малодшаму бацькаваму брату, майму дзядзьку, я зведаў шмат радасці дзіцячых адкрыццяў. Мікалай быў познім сынам, і ўзроставая розніца паміж намі аказалася нязначнай, гады тры — чатыры.

18.50, ідзём на зніжэнне, лёгкая гайданка. Самалёт выкінуў шасі. Мае месца справа якраз пасярэдзіне самалёта, на крыле. Святлана — у цэнтральным радзе, Вікторыя — у левым. Нас рассадзілі па дыяганалі. Асляпляльнае сонца з правага борту, з-пад крыла праглядваецца гарыстая мясцовасць. Лёгкая дымка, як туман, аддзяляе горы ад зямлі. Здаецца, іх вяршыні, нібыта птушкі, ляцяць у паветры. Супраць святла абрысы гор нагадваюць малюнкі графічных аркушаў японскіх майстроў. Аблічча зямлі з вышыні зусім іншае, чым пры набліжэнні да яе, патрэсканай, спаленай сонцам. Добры дзень, Анталія! Рэзкае тармажэнне. Дзякуй Богу, мяккая пасадка. Апладысменты.

***13 —14.08, Анталія — Кемер***

Пасяліліся ў трохзоркавым гатэлі «Белант». Гарачыня для беларуса — невыносная, тэмпература ўдзень падымаецца да 42 градусаў, ратуе толькі асабісты кандыцыянер у пакоі, на вуліцу не хочацца выходзіць. З вокнаў нашага пакоя відаць горы, даволі высокія, парослыя эўкаліптавай сасной, паветра напоўнена яе водарам. Гатэль стаіць на ўзбярэжжы.

Марскі пляж камяністы, і да вады трэба ісці спачатку па трапе, а пасля спусціцца па лесвіцы. Вада надзвычай салёная і празрыстая. З 13 да 16 гадзін — самая спякота, гарачыня пякельная, і мы ў гэты час адпачываем у нумары. У нас забяспечаны снеданне, абед, 17.00 — кава з мясцовым печывам, вячэра. Сталы расстаўляюць на адкрытай пляцоўцы, прыгожа сервіруюць і пад вечаровым зорным небам усё выглядае святочна.

На другі-трэці дзень па прыездзе я прыхварэў, узнялася тэмпература. Але праз суткі хвароба прайшла. Пасля Света пачала змагацца з рознымі недамаганнямі, сёння з раніцы Вікторыя паскардзілася, што дрэнна сябе

адчувае. Будзем спадзявацца, гэта часовыя праблемы са здароўем. Цяжкавата прывыкаем да новых кліматычных умоў, вельмі вільготна, і адаптацыйны перыяд выявіў некаторыя парушэнні ў арганізме, але імунная сістэма змагаецца паспяхова. Сонца, марская вада і чыстае паветра даюць свае вынікі.

Рабіў накіды, замалёўкі. У мясцовай прыроды асаблівы каларыт. Горы магутна навісаюць над узбярэжжам, у кожны час сутак яны па рознаму прыгожыя. Кантрастныя альбо акварэльныя, ружовыя або блакітныя, пакрытыя лёгкай смугой або цяжкімі вячэрнімі хмарамі — яны ствараюць дадатковае харастово і тыповую адметнасць мясцовасці. Сонца спальвае ўсё наўкол, ратуе і ажыўляе прыроду толькі штучны паліў. Кароткае знаходжанне ў гэтай краіне дае фрагментарнае ўяўленне аб цудоўным і прыгожым краі.

Некалькі дзён таму пазнаёміўся з адным маладым чалавекам па імені Цімур, яму 22 гады, сімпатычны хлопец. Разам з бацькамі эмігрыраваў з былога Саюза. Антаганізм адносін у грамадстве таго часу пакалечыў лёсы многіх сем'яў. Я зрабіў для яго невялікі малюнак на памяць, а ён у знак удзячнасці надвячоркам, гадзіне а пятай, на сваім аўто вывез нас у горы. Ехалі па досыць вузкай дарозе, якая да таго ж яшчэ болей звужалася ў гарах. Пасля спыніліся і рушылі пешшу па горнай сцяжыне, яна серпанцінам уздымалася да вяршыняў нагрувашчаных вулканам гор — магутных, шэрых, парэпаных, вертыкальных, парослых хмызняком і сасной. Сонца кацілася на захад і прыгожа асвятляла іх. Унізе — бездань, кінуты камень доўга ляціць, каб прызямліцца.

Я здзіўляўся дрэвам, якія раслі на вулканічнай пародзе, апаленай спякотным сонцам. Якія ж яны жывучыя! На абрывістых схілах бачны зрэз пароды, парэпанай унутры і пранізанай сеткай каранёў, якія з незвычайнай прагай да жыцця праціскаюцца ў самыя неверагодна вузенькія трэшчынкі, рассоўваюць горы ў пошуку вільгаці. Вільгаць пранікае ў гэтыя расколіны, поіць раслінны свет гор і, не выпітая дрэвамі і травою, не высушаная сонцам, сплывае ў зямныя глыбіні.

Неўзабаве мы дайшлі да горнай ракі з халоднай, чыстай, як промень сонца, вадой. Спусціліся ў каньён. Знізу здавалася, магутныя горы заціснулі сабою прастору неба.

Вялізны адшліфаваны камень, як шар, завіс на схіле гары, па-над ракою, на вышыні 4—5 метраў. Стагоддзямі, калі ішлі вясновыя ліўні альбо пачыналі таяць снежныя вяршыні, вада запаўняла горныя расколіны, і яе плынь у сваім нястрымным бегу шліфавала гіганцкія глыбы камення. Паступова яны набывалі прыгожы колер і форму. Цімур нам паказаў невялікія вадаспады, я паспытаў ваду: яна салодкая, жывая і халодная.

*14 жніўня, Анталія, 18.25 па мясцовым часе*

Час адпачынку праляцеў імгненна. Жнівень — досыць гарачая пара ў Турцыі, вільготнасць 100%. Зараз у Маскве — плюс 18 градусаў, а ў Анталіі — да 40. Клімат для нас, людзей паўночных, цяжкі.

Адкінулі трап, самалёт пайшоў на пад'ём, зрабіў лёгкі разварот улева — курс на радзіму. Іншы раз, лежачы на ўзмор'і, узіраўся ў неба: самалёты адзін за другім падымаліся над зямлёй, высока праляталі — кропкі, асветленыя сонцам. Турцыя падарыла свае ўражанні, досыць звычайныя. Выезд да салёнага мора і пад промні спякотнага сонца, пэўна, можна назваць адпачынкам, але 14 дзён аднастайнасці — для мяне цяжкавата. Усё

больш схіляюся да адпачынку пазнавальнага і разнастайнага. Была забава: я алоўкам маляваў партрэты адміністратараў, паvароў, усіх жадаючых.

У Анталіі мы наведалі водны парк — спраўдзілі мару Вікторыі. Дачка хацела паспрабаваць усё, што прапаноўваў кожны атракцыён, лётала на ўсе горкі. Гарачыня, людзей — не ўбіцца. Пакуль Вікторыя са Святланай плёскаліся ў адным з чарговых басейнаў, я, стоячы ў чарзе да наступнага атракцыёна — горкі-серпанціну, з якой ляціш у плыні вады па трубе і крычыш, — таксама атрымаў асалоду. З трубы даносіліся лямант і гвалт, а потым моцны струмень вады выкінуў у басейн першыя і другія інтымнасці жаночага адзення, пасля — пустое сядло-пухір, у якім звычайна спускаюцца па трубе, а следам за ім, пад апладысменты і улюлюканне прысутных, з крыкам вылецела досыць ладная цётка, у чым мама нарадзіла, з разгону плюхнулася ў басейн, паўнюткі празрыстай прахалоднай вады. Высокі фантан рассыпаўся на пырскі, абдаў усю чаргу.

...Сонца зайшло. Зямля шчыльна зацягнута шэрай коўдрай змроку. Колер неба з мяккага ружова-залацістага пераходзіць у шчыльны кобальт-ультрамарын. Самалёт злёгку гойдае. Падняліся на 11 тысяч метраў, за бортам мінус пяцьдзесят, унізе шчыльная заслона хмар. На такой вышыні камандзір паведаміў, што ўзмацніўся вецер, але неўзабаве палёт выраўняецца. Праз некалькі хвілін увайшлі ў прастору, дзе праз шчыліны хмар замільгала барва неба. Зверху шырокую растрапаную нябесную плоскасць укрывае слой дымкі, яшчэ вышэй — блакіт і сінява.

Я перапоўнены жаданнем працаваць, з заўтрашняга дня мяне ніякая сіла не выштурхне з майстэрні. Я ўсведамляю, наколькі важны для мастака пошук — пастаянны, а не час ад часу. Засяродзіцца на дасягнутым — значыць, спыніцца. Пошук і зноў творчы пошук — перадумова развіцця, руху. Я ў кожным творы імкнуся да навізны. Нават у тым, што ў абжытую мастацкую прастору карціны ўводжу элементы, знакі, якія раней ніколі не выкарыстоўваў. Пошук можа весціся на мяжы абсурднага, галоўнае ў ім — разняволенасць, творчая свабода і незалежнасць і ад уласных напрацаваных шаблонаў, і ад уплыву каго б там ні было. Абсурднае ж само па сабе падказвае мастаку, што яго пошук або завершыцца стварэннем новай гарманічнай рэальнасці, або гэта памылка, утопія, напрамак — у творчы тупік. Вынік пошуку — навізна думкі, а не тыраж аднойчы створанага. Афорт адной дошкі — гэта тыраж. Калі наступныя дошкі значна не адрозніваюцца, адбываецца тыраж творчасці.

Для мяне непрымальнае — кідацца ў крайнасці на шляху творчага пошуку, бо гэта непазбежна кардынальна мяняе выяўленчую форму і аўтарскую індывідуальнасць. Пошук павінен быць арганічным, а не штучным. Паўтор формы існуе нават пры крутых зменах фармаўтварэння. Інача можна згубіць сябе. Неабходна, каб пошук быў асэнсаваным і дакладным, наватарскім, але не разбуральным, і падпадаў пад у меру крытычную самаацэнку мастака...

Папрасілі падрыхтавацца да зніжэння. У гэтым палёце нашы месцы па правым борце ў першым салоне. Злёгку гойдаецца платформа. Левы крэн, і ілюмінатар павярнуўся ў бок зямлі. У салоне заплакала дзіця. За намі — ноч, наперадзе — светлае неба, але вячаровае. Правы разварот, добра бачна зямля ў агеньчыках. Справа навісае ультрамарын начнога неба. Наш лётны карабель мякка праплывае ў паветранай прасторы, пасля робіць рэзкі крэн улева. Зноў выраўняўся. Лёгкі левы крэн. Дзіця не перастае крычаць, ажно заходзіцца. Роўна і паволі зніжаемся. Вікторыі залажыла

вушкі, грызе цукерку. Я для сябе адзначаю майстэрства пілотаў, мяне захапляе сам працэс палёту. Вось хвост самалёта прысеў, дзюба паднялася ўгору. Ідзе павольнае тармажэнне. Самалёт крыляе, лёгкая вібрацыя. Беднае дзіця плача па-ранейшаму. З ілюмінатара відаць да гарызонту раскіданыя каляровыя дарожкі, лініі, светлавыя кропкі. Выкінуты шасі, загрымеў ніз карабля. Дзюба пайшла рэзка ўніз, крэн управа, дзюба ўверх. Тэхналогія пасадкі — досыць складаны працэс. Чалавек навучыўся лётаць, прывык да палётаў, але гэта заўсёды рызыка. Рэзкае тармажэнне — і лёгкая пасадка. Дзякуй Богу, мы на зямлі!

***12.09.2001, Мінск, Дом Дружбы, 17.00***

Нечакана для сябе, але, напэўна, паводле закону ўнутранай логікі развіцця падзей, я запрошаны на ўстаноўчы сход па ўтварэнню таварыства «Беларусь — Турцыя». У маім першым знаёмстве з Турцыяй з'явіўся працяг. Пасол Турцыі ў Беларусі Шуле Сойсал, цікавая і разумная жанчына, абвясціла задачы таварыства: развіваць культурныя, дзелавыя і сяброўскія адносіны паміж нашымі народамі. Найбольш магчымы яны, на маю думку, у галіне мастацтва і літаратуры, адукацыі і бізнесу. Што ж, я з прыемнасцю ўвайду ў актыў таварыства, спадзяюся, у яго межах удасца здзейсніць добрыя справы.

## У Рыме перад Калядамі

***26.11. 2001, Мінск — Рым***

Па запрашэнні італьянца Джавані Галасі і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Беларусь у Італіі Наталлі Іванаўны Дрозд я зноў у дарозе. Праўда, я не надта быў упэўнены ў неабходнасці гэтай паездкі, але ж магчымасць пабыць у Рыме ў перадкалядны час, незадоўга да Нараджэння Хрыстовага, здалася мне сімвалічнай. Магутная Боская сіла падштурхоўвае ў пэўным напрамку, і вось цяпер, у салоне самалёта, за некалькі мінут да ўзлёту, адчуваю: я на правільным шляху. Самалёт гудзе, падскоквае на паласе, бо маленькі. Ранак сонечны, але неўзабаве з-за высокай вільготнасці апусціўся густы туман. На зямлі ляжыць снег. Нізка сцелюцца хмары, пад крылом самалёта адкрылася зямля. Відаць, як аэрапорт зацягнулі лёгкія аблокі. Самалёт павольна, як птушка, плыве ў прасторы.

Час перад паездкай быў шчыльна запоўнены справамі. Апошні тыдзень займаўся падрыхтоўкай да выставы, якая павінна адкрыцца ў аўторак, 4 снежня, у галерэі «Мастацтва» (пр. Ф.Скарыны, 12). Учора ездзіў у друкарню, атрымаў першыя паштоўкі з маёй карцінай «Калядная карусель». Карціна складаецца з трох частак фарматам 50 х 150, на мой погляд, канверт з паштоўкай атрымаўся святочным і прыгожым.

З 20 верасня тры тыдні доўжылася мая невялікая персанальная выстава ў мастацкай галерэі Жыльцовых. Было заяўлена 33 палотны. Арганізацыя выставы была на вышэйшым узроўні. Своечасова зроблены і разасланы запрашэнні, надрукаваны невялікі, але змястоўны каталог. Адкрыццё самой выставы падарыла мне свята. Прыемна было бачыць сяброў, пачуць добрыя словы ў свой адрас. Што ж, часам хочацца, каб цябе і пагладзілі, а не толькі разумна павучалі. Жыльцовы — Людміла і Валерый — умеюць стварыць свята, я заўсёды ўдзячны такім людзям. За 10 гадоў яны правялі вялікую колькасць выстаў, стварылі выдатную прыватную калекцыю. Мой

твор «Канверт з Егіпта», напісаны пасля наведвання пірамід, пакінулі ў сваім зборы, і мне прыемна было перадаць ім карціну.

...Зямля зацягнута белай коўдрай аблокаў. Сонца, блакітнае неба. Роўны гул рухавікоў. Самалёт злёгку трасе, гойдаюцца крылы. Ляцім на вышыні 9600 м, хуткасць 850 км у гадзіну, за бортам мінус 40°С. Наш паветраны шлях пралягае па-над Украінай, Венгрыяй, Харватыяй, а потым нас прыме ў абдымкі італьянскае неба.

Ад краю да краю бялюткі снег аблокаў. Кантрастныя цені ад яркага сонца прабягаюць па крылах самалёта. Ён зрабіў крэн управа, крыху хвалюецца віно ў шклянцы. Выраўняўся. Нясуць абед, трасе зверху ўніз.

***29.11.2001, Рым***

Палову дня гасцявалі, а надвячоркам я адправіўся ў вандроўку на Капіталійскі пагорак. Даволі прахалодна, вуліцы напаўпустыя. Бамжы ўладкоўваюцца нанач, хто багацейшы — укрыўся тоўстай коўдрай, бяднейшыя скурчыліся на кардоне. Гэта вам, спадары бамжы, не Каір, а халодны перадзімовы Рым. У Мінску ў гэты час на вуліцы не паляжыш, затое там пад’езды дамоў насцеж расчынены. Тут жа капіталістычная дэмакратыя: хочаш — ляжы на вуліцы, яна для ўсіх адкрытая; а вось дзверы дамоў, і нават двароў — зачынены.

Шырокія плоскія прыступкі Капітолія вядуць на ўзгорак, слабавата асветлены. Група адзінокіх японскіх турыстаў перацякае з аднаго на другое месца. Панарама развалін, месцамі падсвечаная, сумна напамінае пра мінулае. Уначы Капітолій мацней уражвае, ён больш вобразны. Круглая поўня — сведка змены эпох, надае начной капіталійскай маркоце загадкавасць і таямнічасць. Нібыта магніт, прыцягвае гэтая мясціна вандроўнікаў і турыстаў: тут спіць мінулае. Руіны вялізных палацаў, аскепкі храмаў, гістарычная памяць... Перастук колаў па плоскіх камянях, цокат падкоў, дзіцячы смех, разнагалоссе, фанфары — што толькі не пачуецца, калі ты сам-насам з пустыннай прасторай і несмяротным часам?! Па гэтых камянях прайшлі стагоддзі — і пасівелі, прайшлі чароды пакаленняў — і зніклі. Мне ж сёння патрапіўся толькі адзін сустрэчны: чалавек, які ляжаў на прыступках храма, падлічваў сабраныя за дзень манеты і думаў аб сваім, а можа — аб вечнасці.

Я ішоў разгублены і адчуваў, як мяне апаноўвае роспач. У такім настроі лепей не спрабаваць зразумець сэнс свайго жыцця і не азірацца на пройдзены шлях. Як нябачныя выратавальныя ніці, я перакінуў думкі да радзімы. Ноч пачыналася пад рытмы *Krosaire Kay VcCantry Oriant Corient.*

## Купал — зямны і нябесны

***30.11.2001***

Егіпет — Піраміда: ідэальная мадэль Сусвету. Рым — Купал: знак неба, светабудовы.

Паездка ў Рым падарыла мне новы імпульс: тэма «купал» запатрабавала свайго канцэптуальнага вырашэння ў творы. Я вырашыў засяродзіцца на ёй і як мага глыбей усвядоміць самую з’яву «купал», вечны горад схіляў да гэтага. Купал з’яўляецца шатром, вянцом свядомага. Купал сабора, купал небасхілу, трансфармацыя вобраза ў пластычную, выяўленчую сістэму... Я разумеў, каб увасобіць тэму купала на палатне, давядзецца

ўспомніць, пераплавіць у вобразы-сімвалы самыя значныя для нашай цывілізацыі падзеі — некаторыя з іх забытыя з цягам часу, узвесці свой купал па-над храмам Духу. Для свядомасці кожная новая падзея — факт, падзеі даўняга часу — напаўлегенда. А купал неба ўмяшчае ўсё, што было, ёсць і што мае быць. Пад купалам часу праходзіць вечнасць, рассыпаная на стагоддзі — як на дробныя гарчычныя зярняты. А можа, гэта сам час віхурыць пад купалам вечнасці? Загадкі, здагадкі, пытанні, пошук — і факталагічны, і асацыятыўны.

Купал неба стаў для чалавека знакам для распрацоўкі гэтай грандыёзнай формы на зямлі. Рым — Купал, пад якім фарміравалася сусветная культура. А для Рыма Купал стаў сімвалам Вечнасці і Веры, нездарма ён атрымаў яшчэ адну назву — «вечны горад». Пад яго ўплывам фарміраваліся культуры народаў, і найперш — еўрапейскіх. Рым — купал Еўропы?

Тэма купала для выяўленчай пластыкі вельмі ўдзячная, бо можа вырашацца багатымі вобразнымі сродкамі. Важна знайсці сваё, самае ёмкае і яшчэ нікім не спасцігнутае яе вырашэнне.

Купал — геаметрычная форма прасторы. Неба ў нашым уяўленні — купал бясконцасці. Чалавек не можа зразумець сябе, а імкнецца спасцігнуць прастору і час, якія напаўняюць нябесны купал па-над ім.

У саборы San Petro званілі званы, і я рушыў пешшу да ягонага купала. Дайшоў за 6 хвілін. З вышыні ўсё здаецца іншым — і горад, і сабор, і купал па-над ім. Якая магутная сіла штурхала чалавека на ўзвядзенне храма! Увайшоў на барабан пад купал. Мазаічныя сцены, галава кружыцца ад вышыні. Уражанне — фантастычнае!

Наступны паверх закружыўся вузкай вінтавой лесвіцай. Амаль прыліпаючы спіною да ўнутранага боку купала, сагнуты ў тры пагібелі, прыступка за прыступкай я падымаўся ўгору. Такім чынам была адолена прастора паміж унураным купалам і знешнім. Вышэй — толькі металічныя пруткі, што звязваюць два купалы. Пасля зусім вузенькая вінтавая лесвічка — і... перада мною адкрыўся Рым.

Бяскрайнасць прасторы абмяжоўваюць горы. Лёгкая дымка. Боскі імпульс вёў чалавека па дарозе да ўзвышэння. Зверху яскрава відаць, што архітэктура вечнага горада геаметрычная і прамалінейная. Рым з-пад купала сабора — зусім іншы, чым уяўляецца, калі блукаеш па яго вуліцах і плошчах. Горад, які раскінуўся ад краю да краю. Значную тэрыторыю займаюць сады Ватыкана.

Пад'ём на купал я пачаў у 11 гадзін, ішоў 40 хвілін. Зараз прабіла 12 гадзін, зеніт дня — поўдзень. Час вяртацца ўніз, туды, дзе чалавеку адведзена зямная, а не паветраная, плоскасць жыцця. Зямля прыцягвае. Тут неяк патанаеш у думках, раствараешся ў прасторы, зліваешся з ёй. А гэта небяспечна, калі не завершаны твой шлях зямны.

Вярнуўся на зямлю, у сабор — прыгожы, велічны і цудоўны. Дакрануўся да стапы Святога Пятра. Пайшоў далей з думай аб радзіме.

## У ваколіцах Рыма

***1.12.2001***

Тусканія — стары горад этрускаў. Гарыць камін, прыемны пах дыму, мы сядзім у невялікім утульным рэстаране: Джавані, Раберто, Эліо, Алена, Адрыяна і двое мясцовых прадстаўнікоў улады. Мала часу прайшло з

першага знаёмства ў Мінску, дзе Раберто і Эліо былі па справах. Уладзімір Далідовіч завёз іх да мяне ў майстэрню. А сёння я, па іх запрашэнні, у Тусканії.

***2.12.2001, Pitro della Francesca***

Раніцу сустрэў у гатэлі на гары, якая ўзвышаецца пасярод вялікай чашы-даліны, залітай сонечным святлом. Прыгожая восень, залатыя дрэвы разнастайных парод пераліваюцца колерамі вясёлкі. Сённяшні дзень будзе прысвечаны наведванню помнікаў архітэктуры і мастацтва.

*Monterchi, Madonna del Parto*

Невялікі музей аднаго твора, у яго залах выстаўлены толькі арыгіналы, якія ўратаваны дзякуючы рэстаўрацыі. У зале з мяккім святлом пад тоўстым шклом твор вялікага майстра — *Madonna del Parto.* Сумнае ўражанне ад разбуральнага ўздзеяння часу.

Па дарозе на Рым спыняемся ў *Basilica di San. Francesco,* што знаходзіцца ў старажытным італьянскім гарадку Арэца. Алтарная частка фрэсак П'ера Франчэска амаль цалкам захавалася. Разбураныя часам фрагменты зацёрты тынкоўкай. Сцены царквы зрэдку ўсеяны фрагментамі ацалелых фрэсак 1459—1466 гадоў. Неверагодная прыгажосць! Дзіўная столь, вітражы, крыж у алтары. Скульптура Святой Дзевы Марыі ў абрамленні архітэктурнага шатра.

Гадзіне а 9-й завіталі ў *S. Maria della Pieve.* Тут дыямент — алтар *Pietro Lorenzetti.* Можна быць удзячным лёсу, калі пабачыў такі цуд.

Дарога вядзе ў Рым. Сонца залівае ад краю да краю восеньскія пейзажы. Джавані Галасі імчыць на сваім аўтамабілі з хуткасцю 150 км/г.

Сустрэча з творамі П'ера дэла Франчэска акунула ў глыбокі свет перажыванняў. Фрагменты фрэсак напоўнены жыццёвай моцай генія. Разбуральная сіла часу падкрадвалася і сцірала дзіўныя сюжэты, поўныя падзей і страсцей чалавечых. Мяккія пастэльныя таны дораць душы спакой і святочнасць. Я зноў і зноў вяртаюся ў думках да царквы, складзенай з грубых камянёў. Уваходжу ў дзверы... Безумоўна, памяць не ўтрымае ўсё, што ўбачыў.

*Я заблудзіўся ў Рыме...*
*Прыйшоў сюды, каб ісціну знайсці!*
*У дзверы стукаю,*
*А мне ў адказ — маўчанне.*
*Куды далей ісці*
*У змроку... надвячорка ці світання?*
*Пра нешта гутарылі*
*Двое тут глухіх —*
*Дарогу запытаюся я ў іх!*
*А мне ў адказ — маўчанне.*
*Сляпых я патрывожыў:*
*Згледзелі і каменем шпурнулі*
*Замест адказу.*
*Божа,*
*У вечным горадзе*
*Павадыры паснулі!*
*Мне адгукнуўся толькі Твой жабрак:*
*Ён на прыступках храма клаўся спаць,*
*Перабіраў за медзяком мядзяк —*
*Лічыў,*

*Што здолеў, вольны, назбіраць.*
*Я адшукаў дарогу!*
*А калі дайшоў,*
*То знікла ісціна — яе я не знайшоў.*
*З сямі пагоркаў ззяюць медзякі...*
*Я заблудзіўся ў Рыме на вякі!*

***3.12.2001, дзень ад'езду***

Купал *San Petro* асветлены ранішнім сонцам. Ружовая дымка паўтарае контуры архітэктуры. Горад прачнуўся. Машыны, людзі запоўнілі лабірынты вуліц. Месячык, ужо не поўны, ледзь прыкметна бялее на чыстым небе. Сёння вяртаюся ў Мінск. Да адлёту яшчэ даволі часу, іду развітацца з горадам.

Завітаў у царкву *S. Maria del Popolo*. Храм — прытулак душы. Я адзінока праходжу пад яго купалам, узіраюся ў тварэнні рук чалавечых. Карціны Караваджа. Сцёртая падлога. Алтар у мяккім ранішнім святле.

Вяртаюся да Джавані, у гатэль. Спыніўся на плошчы львоў, крыху затрымаўся. Дарогай сонца ярка свяціла ў вочы. Я са светлым сумам буду ўспамінаць гэтыя мясціны. Чаму з сумам? Такія ўжо мы, людзі, сум асвятляе нашы душы...

***13.30, салон самалёта «ТУ-154»***

Сёння забастоўка. Аэрапорт пусты. Але, дзякуй Богу, рэйс не адмяняецца і не адкладваецца. Самалёт вырульвае на ўзлётную паласу. Прыгожы дзень, наш адлёт — сонечны, 12—13 градусаў цяпла.

Узлятаем, на зямлі застаецца маленькі цень. Над вадой робім разварот управа, уздоўж берага. Прыгожы ланшафт зверху, акуратныя забудовы, да кожнай падведзена дарога. Возера цёмна-сіняе сярод восеньскага чырванаватага долу. Горы з белымі заснежанымі вяршынямі святочна ўзвышаюцца над цёмнай прасторай зямлі. Туман мякка атуляе нізіны. Далёка на гарызонце чыстае неба, бялеюць воблакі. Неба мяжуе са светлым поясам, які пераходзіць у воблакі. Пад імі — блакіт, зямля і заснежаныя вяршыні, залітыя яркім сонечным святлом. Фантастычная каляровая гама!

## **Бензін**

У суботу ездзілі ў Арэзо, а калі вярталіся, прама на аўтастрадзе закончыўся бензін. Машына затрэслася і спынілася, і толькі цяпер Джавані заўважыў, што бак — пусты. Злёгку раззлаваўся, абедзвюма рукамі ляснуў аб руль, вылаяўся па-італьянску. Абышоў вакол машыны, спыніўся на ўзбочыне, задумаўся.

Аўтамабілі шалёна праносіліся па аўстастрадзе, напаўнялі яе гулам. Я сядзеў, пазіраючы наўкол і аналізуючы наша становішча. Адрыяна і Алена, перакладчыца, сцішыліся. Нечакана Джавані пералез цераз металічны бардзюр, выцягнуў з канавы пластыкавую каністру літраў на трыццаць, зазірнуў у сярэдзіну, выліў яе змесціва. Размахваючы пустой пасудзінай, абураны пайшоў уздоўж металічнай сеткі. Я памкнуўся за ім. Метраў праз сто Джавані намацаў лаз у агароджы аўтастрады. Паднялі калючы дрот, пералезлі. Па свежым пяску спусціліся ўніз, да дарогі, уздоўж якой грувасцілася звалка аўтамабіляў. Залівіста забрахаў на няпрошаных гасцей сабака. Праз падземны пераход выбраліся на крывую вузкую дарогу, па

якой туды-сюды шалёна лёталі аўтамабільчыкі. Мы сарамліва ціснуліся да вузкай узбочыны.

Каністра ў руцэ Джавані загароджвала праезжую частку, таму ён яе нёс перад сабою. Я папрасіў даць мне пранесці каністру, але Джавані не даверыў. Дарогай запыталіся ў праезджых мясцовых жыхароў, як далёка да аўтазапраўкі. Нас супакоілі: кіламетры праз два маеце шанс купіць бензін.

Джавані ішоў паперадзе. Полы яго доўгага паліто надзімаліся ад ветру. Сіньёр Джавані адной рукой прыціскаў элегантнае, персікавага колеру паліто, другой, выцягнутай наперад, нёс каністру і насвістваў балеро.

За паваротам нечакана з'явілася кавярня. За намі рэзка затармазіў дзяцюк на матароле. Выгляд у яго быў досыць экзатычны: мурзаты твар, на вушы нацягнута шапка-вугланка, калматая, як авечка. Бадзёра прапанаваў свае паслугі. Джавані не стаў чакаць, каб яго ўпрошвалі, рэзка закінуў нагу, асядлаў жалезнага каня. Каністра перашкаджала, і ён падняў яе ў левай руцэ, як сцяг, угару. Матарола моцна затрашчала, выкінула ў паветра клубы дыму і сарвалася з месца, і праз хвіліну-другую яны зніклі за паваротам. Ад нечаканасці я рот не паспеў раскрыць.

Праз хвілін дваццаць сіньёр Джавані, шчаслівы, цягнуў каністру, на дне якой весела плёскаў напой для аўтамабіля. Ад нечаканага поспеху Джавані праставіў «Капучына». Пад ягоным позіркам дзяўчына з прыдарожнай кавярні ўсхвалявалася, і малако пырскамі разляцелася ва ўсе бакі. Сіньёр Джавані ўсміхаўся, падбадзёрваючы хударлявую, з наіўнымі дзіцячымі вачыма, дзяўчыну.

Я ўхапіў каністру, і ўжо зусім весела, паварот за паваротам, мы дайшлі да нашага аўтамабіля. Па дарозе сіньёр Джавані прыхапіў доўгі металічны прут, які пасля ўшчаміў у горла бензабака, а я з пласцікавай бутэлькі зрабіў лейку. Заправіліся! Дзяўчаты ад радасці пляскалі ў далоні ў гонар «герояў».

...Апошнія промні сонца ледзьве дакранаюцца да горных вяршынь пад крыламі самалёта, вечарэе. Ужо гадзіна і сорак хвілін у дарозе. Фіялетавыя воблакі аддзяляюцца ад блакіту нябеснага купала ружова-бэзавым поясам. Сонца паступова закрываецца шарам Зямлі.

У дзень ад'езду разам з сіньёрам Галасі быў запрошаны ў рэзідэнцыю беларускага пасла ў Італіі, да Наталлі Дрозд. Я меў магчымасць выказаць Наталлі Іванаўне, абаяльнай, разумнай ледзі, вялікую ўдзячнасць за сем сонечных дзён у Рыме. Яны напоўнілі маю свядомасць змястоўнай інфармацыяй, ракурсамі новых вобразаў, задумамі.

Апошняя ноч была неспакойнай. Бачыліся ў сне выразныя вобразы Вікторыі, Святланы. Снілася ўрыўкамі радзіма, дом у вёсцы, шмат розных людзей. Растопленая печка дыхала цяплом, а Святлана пякла ў ёй бліны. Дзякую Госпаду Богу і спадзяюся на ўсё добрае.

16.40 мясцовага часу. Ляцім на поўнач.

Паступова пайшлі на зніжэнне. Праз дваццаць хвілін адчуем дзесяць градусаў марозу. Злёгку кідае самалёт. Сцямнела. У дарозе адчуваецца шчыльнасць сціснутага часу. Дарога дае прастору разважанням і аналізу, узважваеш мінулае, спрабуеш акрэсліць, няхай сабе і ў агульных рысах, будучыню. Я выпраўляюся ў дарогу заўсёды з жаданнем новых адкрыццяў. Час, праведзены непасрэдна ў дарозе, як ні дзіўна камусьці здасца, для мяне надзвычай плённы. Я люблю дарогу! Яна дае мне магчымасць па за-

латых крупіцах, здалёку і зблізку, збіраць у свой творчы храм уражанні, веды, адкрыцці.

Пілот выкінуў шасі, 17.00. Адчуваецца ціск пры зніжэнні, цяжэюць карабель і цела. Апладысменты, рэзкае тармажэнне. Дзякуй Богу!

## Мінск — Масква — Мінск

***12.12.2001, 9.45, цягнік***

Раніцай учора нават думкі не было аб паездцы. Нічога падобнага не прадказваў і тэлефонны званок Ігара Чорнага, пасля якога мы сустрэліся з ім у італьянскім пасольстве. І вось тады, у размове, Ігар нечакана прапанаваў зрабіць выезд у Маскву. Дзесяць гадоў Масква не запрашала да ўдзелу ў мастацкіх праектах. Бурлівае дзесяцігоддзе 80-х змянілася зацішшам 90-х. Ігар падахвоціў мяне да гэтай паездкі і абудзіў даўняе жаданне правесці ў Маскве выставу. На заўтра запланаваны запіс на дзвюх праграмах радыё ў Мінску, я вечарам нават не паспеў папярэдзіць аб тэрміновым ад'ездзе, але папрасіў Святлану перазваніць на радыё і перанесці запіс на пятніцу.

У снежні ў Мінску ў мяне дзве выставы: да 18 снежня будзе доўжыцца мая невялікая персанальная, а з 18-га пачнецца калядная, у якой прымаюць удзел шэсць мастакоў. Да яе адкрыцця засталіся лічаныя дні. Адначасова ідзе зборка перакідных календароў шасці аўтараў: «Керамін» і ў гэтым годзе размясціў заказ на друк. На жаль, некаторыя месяцы паліграфісты завалілі па колеры. Макетам таксама незадаволены. Мастак-дызайнер, які перагружаны працай над этыкеткамі і рознай драбязою, не можа адпрацаваць кожны элемент, пры такіх умовах у ягонай рабоце непазбежна дамінуе экспромт. Падказкі, якія прыходзілася рабіць ужо на хаду, ляглі ў аснову дызайнерскай канцэпцыі календара. Новага, нечага незвычайнага ў календары няма, але кожны раз яго выданне даецца з боем. Дзякаваць Богу, вынік усё-такі ёсць, і не самы горшы.

Учора тэлефанавалі з Барысава, прапанавалі правесці выставу — з 4 студзеня, трохтыднёвую. Папрасіў даць два дні абдумаць прапанову. Арганізацыя кожнай выставы патрабуе часу, сіл, але не выстаўляць працы — значыць абмежаваць сваё развіццё. Таму, відаць, мэтазгодна прыняць прапанову барысаўчан з удзячнасцю. На красавік прызначана выстава ў Магілёўскім мастацкім музеі. На май — у двух гарадах Італіі.

За вокнамі цягніка — заснежаныя начныя прасторы. Лес засыпаны снегам. Чым бліжэй да Масквы, тым выразней зіма. Досыць рана цягнік набліжаецца да Масквы.

***13.30 па маскоўскім часе, усходні рэстаран «Шэш-Беш»***

Раніцай, па прыездзе, наведаў Цэнтральны дом мастакоў. Для правядзення выставы патрабуюцца вялікія грошы. Мала таго, а які сэнс яе праводзіць? Выкліча вялікую зацікаўленасць? Даволі спрэчна. Зрабіць выставу і цешыцца гэтым — неразумна. У выніку гэтай акцыі застаюся на 90% у мінусе. Транспарціроўка твораў, інфармацыйнае забяспячэнне; арэнда на тры тыдні залы для экспазіцыі — 2000$, залы на другім паверсе — 3500$; развеска аднаго твора — 30 руб.; мастацтвазнаўца — 500 руб. у дзень, прэс-сакратар — 500 руб. у дзень; рэкламная прадукцыя, каталог, запрашэнне, афіша, газеты, тэлебачанне, плюс яшчэ розныя непрадбачаныя

дробязі. Патрабуецца ўкласці вялікія грошы, але прадаць творы на выставе не рэальна. Купляюць запрошаныя: банкі, фірмы, прыватныя асобы. З імі патрэбна працаваць: па-першае, знайсці, падрыхтаваць, пазнаёміць з творамі, пераканаць і г.д. Усё гэта вельмі складана.

***13.12.2001, Масква***

Правесці сёння выставу ў Маскве немагчыма. Гэта пад сілу толькі зацікаўленай галерэі, якая мае адладжаны механізм арганізацыі выстаў.

У нашай рэспубліцы сёння няма дасканалай структуры, якая арганічна і паслядоўна працуе з пакупніком твораў мастацтва, калекцыянерам. Зразумела, што ў прамысловасці без рэкламы, службы маркетынгу прадукцыя не будзе рэалізаванай. Кола людзей, устаноў, якое можа быць уцягнута ў бізнес у мастацтве, вельмі вузкае. Наша прадукцыя — для пэўнай псіхалагічна падрыхтаванай катэгорыі. Мысленне, асабістыя мастацкія густы людзей, якія фінансава здольныя купіць твор, мода на мастацтва — усё гэта моцна звужае катэгорыю пакупніка. Калекцыянера трэба грунтоўна рыхтаваць, выхоўваць, працаваць з ім асцярожна і цягам доўгіх гадоў, і найперш фарміраваць яго псіхалогію.

Наладзіць кантакты, разбураныя дзесяць гадоў таму, *немагчыма*. Новыя рытмы жыцця дыктуюць іншыя ўмовы супрацоўніцтва.

У старым будынку, дзе размясцілася будаўнічая кампанія «Ізабуд» Ігара Чорнага, я ўбачыў некалькі сваіх твораў: «Паляванне на мудрасць», партрэт Алены Чорнай, «Сюжэт для Сусаны». Карціны па-іншаму ўспрымаюцца з цягам часу, нават самім аўтарам.

У 17.00 адбылася сустрэча са старшынёй Расійскага банка на Новым Арбаце. Відавочна галоўнае: за перыяд адсутнасці творчых кантактаў мы Маскве невядомыя. Пачынаць наладжваць дзелавыя і творчыя адносіны трэба з пачатку, і пачынаць прыйдзецца з нуля.

***14.12. 2001, Мінск***

У сем гадзін раніцы быў ужо ў майстэрні, упакоўваў карціны да выставы. З дзевяці гадзін зрабіў запланаваныя шматлікія тэлефонныя званкі, некаторыя запрашэнні. У 11.00 творы былі расстаўлены ў галерэі і аформлена экспазіцыя. Наведаў друкарню, падпісаў лісты ў друк. 14.00 — сустрэча з журналістамі. А 18-й гадзіне адкрыццё. Сярод запрошаных прыемна было бачыць спадарыню Шуле Сойсал, турэцкага пасла. Сёння можна з упэўненасцю сказаць: выставы сталі выключна культурнай акцыяй. Продаж карцін знізіўся да нуля.

Мінулыя трыццаць гадоў для нашага мастацтва былі залатым часам. Творчы парыў, імкненне да дасканаласці, абуджэнне гістарычнай памяці натхнялі на новыя пошукі, надавалі жадання рабіць адкрыцці. Садзейнічалі такой агульнай творчай атмасферы і паездкі ў розныя краіны свету. Сёння іншы час, як у гэтых умовах выжыць маладому мастаку? Новы час — новыя выпрабаванні.

# КНІГА ЧАЦВЁРТАЯ

## Стварацъ рух свядомасці

Чатыры гадзіны раніцы. Зварыў чорную каву і пачаў свае тэарэтычныя даследаванні.

Канцэпцыя — вось што дапамагае ў выяўленчым мастацтве абагульняць рэчаіснасць творчай прасторы. Яна патрабуе паглыблення задумы, удасканальвання канструкцыі карціны, адпаведнасці формаў вобразаў мысленню мастака, пастаяннага аналізу. Атрыманы творчы імпульс павінен развіцца, увасобіцца ў вобразах і сюжэце, каб стаць як вынік працы мастака — творам.

Як імгненні пралятае жыццёвы час. Ягоны след, напэўна, застаецца ў неабдымным інфармацыйным полі Сусвету, але ўбачыць яго чалавек пакуль не можа. Для нас у іншых формах захоўваюцца праявы жыццёвага часу: уматэрыяленыя дойлідствам, мастацтвам, навукай, літаратурай... Праз іх мы атрымліваем веды пакаленняў, якія жылі на зямлі да нас, праз іх мы перададзім свае веды нашчадкам. Нам не хапае аднаго жыцця, каб дакрануцца да набыткаў зямных цывілізацый. Тое, што кожны з нас здолее за свой жыццёвы час уведаць, пераўтварыць у новую рэальнасць, пераплавіць на ўласным творчым агні ў духоўную або матэрыяльную каштоўнасць — ляжа цаглінкай у муры «вавілонскія».

Я азіраюся на пройдзены ўласны творчы шлях. Ён як бы праразае шматлікія інфармацыйныя пласты гісторыі чалавецтва, заселены знакамі і сімваламі розных эпох і народаў. Я дзякую Госпаду Богу за дараваную мне магчымасць пракласці гэты шлях, за тое, што ўсведамляю сэнс і мэту сваіх намаганняў.

Светапогляд чалавека фарміруецца на працягу ўсяго жыцця, праз бясконцыя спакусы стварэння і разбурэння. Светапогляд дапамагае знайсці чалавеку ягоны шлях. Але не кожны імкнецца скласці правільную карту свайго падарожжа ў гэтым свеце. Лёгкія шляхі не патрабуюць ад чалавека намаганняў, высілкаў, канцэнтрацыі ягоных фізічных і духоўных сіл. А гэта шкодзіць набыццю глыбокіх ведаў, прафесійнага майстэрства, фарміраванню характару, развіццю асобы ў цэлым.

Чалавецтвам пракладзены, даследаваны і нанесены на карту жыцця зямнога разнастайныя шляхі. Геній — каму дадзена адкрыць новы, раней невядомы шлях. Мы, па сваім разуменні, можам выбіраць, па якім шляху рушыць. Мяне вяло неўтаймоўнае жаданне пазнання, нястомны пошук імгненняў прыгажосці. Здаралася — блукаў. Шлях адкрыццяў, безумоўна, гэта і шлях сумненняў. Тады спыняўся і карпатліва аналізаваў, хто я ў гэтым свеце, што шукаю, якая мэта майго існавання і шляху. Працаваў да сёмага поту, каб здабыць па крупіцы веды — інфармацыю з тоўшчаў духоўнага пласту чалавечай цывілізацыі, удасканаліць сваё прафесійнае майстэрства. Нарэшце наступаў момант, калі я мог упэўнена ісці далей.

Мастацтва, па маім разуменні, гэта высокаарганізаваная форма мыслення. У маіх творах можна ўбачыць канструкцыю думкі і колер эмоцый. Вобразная знакавая сістэма дае адмычкі да раскрыцця твора. Праз карціну імкнуся стварыць ураджанне шматпластавага разумення ідэі, правакую рух свядомасці. Фармальная пластыка выяўленчага мастацтва дазваляе засяродзіць увагу чалавецтва на важных момантах быцця.

Пазнавальнасць аб'екта адбываецца праз форму, колер, паводзіны, гук,

шчыльнасць, сілу энергетычнага імпульсу, цеплавую абалонку цела. У кожнага мастацкага твора індывідуальная шчыльнасць насычэння інфармацыяй, ён пазнавальны і дзякуючы прафесійным магчымасцям мастака, яго тэхнічнасці. Для мяне важна дасканала ўсведамляць: што я хачу сказаць у гэтым або іншым творы. Перш чым быць упэўненым, што твор завершаны, я падвяргаю яго сумненням, скрупулёзнаму аналізу. Пераправяраю дакладнасць і гарманічную ўзаемасувязь ліній, колеравых плям, ценяў і блікаў, сінхроннасць рухаў пэндзля. Усё гэта працуе на энергетыку твора і напаўняе моцнаю або слабою сілаю імпульс эмацыянальнага ўздзеяння.

Акрамя таго, чалавеку патрэбна, каб твор задавальняў яго лагічнае мысленне. Утрымліваў новую для гледача інфармацыю, у тым ліку нават у вядомых гістарычных ці звычайных жыццёвых рэаліях.

Калі, да прыкладу, я кручу руль аўтамабіля, то дакладна ведаю, дзеля чаго я гэта раблю. Мастак, калі пачынае маляваць карціну, таксама павінен ведаць, што ён зробіць і дзеля чаго. Ствараць рух свядомасці! Ці не ў гэтым галоўнае прызначэнне творцы?..

## Белая мая лілея

Вельмі часта мне пачалі задаваць пытанні: што азначае той ці іншы прадмет на карціне — шар, куб, трохкутнік, кола, металічныя даспехі, кветкі, птушкі, шматлікія знакі і сімвалы. Іншы раз палотны перагружаны рознымі акцэнтамі, то і я пытаюся ў сябе: а ці патрэбна так скрупулёзна, з навуковай дакладнасцю насычаць твор знакамі і сімваламі? Здараецца, выкарыстоўваю іх чыста інтуітыўна ў неадольным імкненні як мага выразней данесці асаблівасці мастацкай ідэі твора. У апошні час стаў уводзіць у сваю знакава-сімвалічную сістэму разнастайныя кветкі, узнікла патрэба паглыбіцца ў гісторыю, у тым ліку біблейскіх часоў, каб каштоўнасць, значнасць кожнай дэталі-кветкі ў распрацаваным сюжэце была дакладнейшай.

*Лілея.* Белая кветка — чыстая, пяшчотная, выпраменьвае прыгажосць і святло Боскай чысціні. У многіх народаў, асабліва ў італьянцаў, іспанцаў, атаясамліваецца з вобразам Найсвяцейшай Дзевы, прысутнічае сярод атачэння Маці Божай. У краінах каталіцкага веравызнання лілею ўплятаюць у вянок дзяўчынкам, якія ўпершыню ідуць да святога прычасця.

У французаў гэта кветка лічыцца знакам адметнасці, павагі і вышэйшай ласкі да чалавека. У арыстакратаў была традыцыя: жаніх кожную раніцу пасылаў нявесце букет белых лілей.

Італьянскае слова florino разумелася як кветка лілея.

Лілея ўпрыгожвала герб Фларэнцыі. Яе выявы адбіваліся на адваротным баку манет, якія чаканіліся ў часы Людовіка IX, караля Францыі. Цяжка знайсці больш чыстую і непаўторную кветку. Яна ўпрыгожвала не толькі каралеўскія сады, ордэнскія знакі, сцягі, скіпетры, але і ў імёнах каралёў прысутнічала яе назва: Луі — «леі».

Паводле старажытнагрэчаскай міфалогіі, паходжанне лілеі мае агульную прыроду са з'яўленнем Млечнага Шляху. Царыца Фіў, прыгажуня — маці Геракла, народжанага ад бога Зеўса, каб абараніць дзіця ад кары раўнівай Геры — маці багоў і жонкі Зеўса, схавала немаўлятка ў кустоўі. Але Гера, апякунка нованароджаных, заўважыла яго і, згаладалага, прыклала да сваіх грудзей, каб напаіць малаком. Маленькі Геракл інстынктыўна

ўкусіў багіню. Малако пырснула — і з яго ў небе ўтварыўся Млечны Шлях, а з кропляў, якія ўпалі на зямлю, выраслі прыгожыя белыя лілеі.

У старажытных рымлян лілея лічылася знакам вытанчанага густу, далікатнасці, раскошы, сімвалізавала некаторыя падзеі. Гэтай кветкай упрыгожвала сябе багіня вясны Флора.

Лілея сустракаецца ў розных знакавых вобразах старажытных персаў, іудзеяў, германскіх народаў, у казачным эпасе.

Так, у позні вечаровы час, калі казачны сад патанае ў мяккім змроку і ўсё сціхае, маленькі эльф падбягае да пругкай сцяблінкі лілеі і разгойдвае яе. Кветка пачынае гучаць срэбным звонам і будзіць эльфаў, якія соладка спяць у сваіх пасцельках. У кожнай лілеі жыве свой эльф. Малюткі прачынаюцца ў мяккіх люльках, падымаюцца да венчыкаў лілей, становяцца наўколенцы і, малітоўна склаўшы ручкі, дзякуюць Творцу за дараваныя ім даброты і шчасце.

Існуе легенда, што ў дзень святога Дабравешчання архангел Гаўрыіл з'явіўся да Найсвяцейшай Дзевы Марыі з лілеяй у руцэ.

У розны гістарычны час мастакі ўслаўлялі чысціню лілеі ў самых неверагодных выявах і сюжэтах.

Такім чынам, лілея — сімвал чысціні і цнатлівасці, беззаганнай прыгажосці, любові і славы, магутнасці і каралеўскай улады, надзеі і свабоды. Белая лілея сімвалізуе вытанчаны густ, далікатнасць, раскошу, чыстае і поўнае багацця жыццё. Гэта знак павагі і высокай прыхільнасці, вернасці і рыцарства. Белая лілея — кветка Найсвяцейшай Дзевы Марыі.

## Котбус-2002

*22.10.2002*

Новая старонка часу — у дзённіку лісты маіх уражанняў на шляху да Котбуса. А склалася ўсё даволі проста. На пачатку года ў тэлефоннай размове Ю. А. Пуплікаў паведаміў аб прыездзе ў Мінск невялікай групы яго сяброў з Германіі і выказаў жаданне наведацца да мяне ў майстэрню. Гэта было год таму. Знаёмства стала пачаткам добрых сяброўскіх адносін і новых творчых праектаў. Далейшае развіццё падзей вызначыла сустрэча ў Мінску з Райнхардам Шульцам.

І вось цяпер у Котбусе мы сядзім у рэстаране «Радос», гучыць грэчаская музыка, я разглядваю прыгожы інтэр'ер. У цэнтры нашага століка шар мяккага і ўтульнага святла — гарыць свечка. За акном дождж. Райнхард замовіў піва. З размовы з афіцыянткай, якая нас абслугоўвае, даведаўся, што дзяўчына прыехала з Урала, з Пярмі. «Зем-ля-кі», — як сказаў бы герой класічнай айчыннай камедыі «Вяселле ў Малінаўцы»...

Вярнуліся ў аўтахауз. Шкляны павільён досыць прасторны, па перыметры — выставачныя стэнды. Развесілі 17 невялікіх твораў. Безумоўна, мастацтва, і выяўленчае таксама, мае сваю вымяральную прастору, але склалася экспазіцыя з новай фармальнай канцэпцыяй.

*24.10.2002*

Сяджу пад маладым пажаўцелым клёнам. Двор нашага гатэля засыпаны рознакаляровым лісцем. Праз шкляныя сцены кафэ відаць прыстаўленыя да століказ крэслы. Сёння дзень выдаўся на славу, у чысцюткім блакіце неба праплываюць вясёлыя хмаркі, цёпла без паліто.

Пражытая частка гэтага падарожжа ўжо ў маёй памяці. Урачыстае віншаванне Райнхарда з ягоным 50-годдзем і адкрыццё выставы прайшлі ў надзвычай святочнай атмасферы. А палове адзінаццатай, з павязанымі на белыя сарочкі гальштукамі, мы былі ўжо на пляцы. Партрэт Райнхарда, завешаны белым покрывам, знаходзіўся ў вялікай, урачыста прыбранай зале. Тут жа стаяла апошняя мадэль «Аудзі», серабрыстага колеру, з адкінутым верхам. Сваёй дасканалай, нібы скульптурнай, формай яна дапаўняла выставу.

У адзінаццаць гадзін святочна апранутыя, з вялікімі букетамі экзатычных кветак, падарункамі і віншаваннямі пачалі ісці доўгай чаргой людзі. На ўрачыстасць прыехаў з Берліна першы сакратар Пасольства Рэспублікі Беларусь Андрэй Шуплак, малады, падцягнуты чалавек. Цырымонію адкрыў уступным словам гаспадар. Пад апладысменты паўнюткай залы людзей прадставіў мастака, канцэпцыю творчасці і біяграфію, даў слова. Упершыню ў Котбусе так цёпла і святочна адкрылася мая невялікая выстава. Я сказаў, што выстава наладжана ў гонар юбіляра. Юрый Аляксандравіч Пуплікаў дапоўніў маё выступленне святочным віншаваннем, і мы разам з ім пад апладысменты залы знялі з партрэта покрыва...

А 19-й гадзіне зноў сабраліся разам, хаця і ў іншым складзе. Гадзіне а першай ночы разышліся адпачываць.

* * *

Дні напоўненыя сустрэчамі. Вечар наступнага пасля адкрыцця выставы дня правялі ў гасцях. Наведаліся да Франка Косіка, дом якога знаходзіўся пад Котбусам. Першы раз з гэтым цікавым і разумным чалавекам мы пабачыліся ў маёй майстэрні, 21 кастрычніка 2000 года. Тады ў складзе дэлегацыі быў і Дзітмар Шульц. На выставу ў Котбусе ён прывёз свой партрэт, малюнак алоўкам, зроблены падчас той сустрэчы. Франк быў перакладчыкам. Неўпрыкмет мінула два гады нашага знаёмства...

Дні майго знаходжання ў Котбусе былі сонечнымі. Яркія восеньскія фарбы разнастайных парод дрэў. Глыбокая сінеча, кобальт неба. Шчаслівае імгненне ў прыродзе і маім настроі.

## Котбус-2003

***12.01.2003, Франкфурт (Oder), цягнік, 11.50***

Нечакана мне выпала паездка ў Котбус, усе дакументы былі афармлены за тыдзень. І вось я ў дарозе, едзем па Германіі. Нешта сапсавалася ў нашым вагоне, і нас папрасілі перайсці ў іншы. Снежная зіма ляжыць і ў Германіі, але тут не так марозна — у Мінску слупок тэрмометра доўгі час не ўздымаецца вышэй мінус 20.

...У Берлін цягнік спазніўся болей чым на гадзіну. Сустракаць мяне прыехаў Франк, і, як ён прызнаўся пасля, спазненне цягніка скарыстаў, каб падрамаць, бо амаль не спаў сёння. Па дарозе ў Котбус спыніліся, выпілі кавы. Я патэлефанаваў у Мінск з Франкавага мабільніка, па сваім не змог звязацца. Толькі калі Святлана пазваніла з Мінска сама, ён запрацаваў.

У Котбусе таксама ляжыць снег, але надвор'е даволі мяккае. Мяне пасялілі ў гатэлі, у якім я жыў і ў мінулы прыезд. Маленькі ўтульны пакойчык, камфортная абстаноўка. Прыняў з дарогі душ і адчуў, што значна па-

лягчэла. Ноч у цягніку была неспакойная. Турбавалі памежнікі, мытнікі. Суседзі па купэ, моцныя хлопцы, ехалі ў Германію па аўтамабілі. Гэта для іх не ўпершыню, людзі вопытныя і пры грашах. Паказалі, як трэба ўмацоўваць на ноч дзверы купэ, каб не стаць ахвярамі бандытаў. На польскай тэрыторыі рабаўніцтва цягнікоў, бандытызм на дарогах — справа звычная, нічога не змянілася і ў новым тысячагоддзі. Ручку дзвярэй замацавалі металічнай падковай з моцнымі шурупамі, да дзвярэй прывязалі лесвіцу, пасля зрабілі пры дапамозе шнура расцяжку, зачапілі за сядзенне. Вентыляцыйную рашотку заклалі падушкамі — каб рабаўнікі не напусцілі газу ў купэ. Вось так, дажыліся, у Еўропе гаспадарацъ бандыты. Польскія ўлады не спяшаюцца наводзіць парадак, «беспредел» на дарогах камусьці выгадны, тым болей што рабаўніцтва — сродак заробку для пэўных колаў.

...17.00 па мясцовым часе, цёмна. Змрок спусціўся нечакана. У мяне склалася ўражанне, што заўтра будзе сонечны дзень — 13 студзеня, стары новы год На 17.30 я запрошаны ў рэстаран, у якім яшчэ не быў ні разу, на святкаванне дня нараджэння Дзітмара, сярэдняга брата Райнхарда.

Сёння ў нас дома шчодрая куцця. Але і ў Германіі гэты вечар быў для мяне святочны, я правёў яго цудоўна. У кампаніі братоў Шульцаў і іхніх сваякоў, сяброў цёпла адзначылі 49-годдзе Дзітмара. Раз’ехаліся позна. Мяне падвезлі да гатэля Маціяс, малодшы брат Райнхарда і іх мама.

## Канверт

Канверт з майго дзяцінства! Нават без ліста і надпісанага адраса «каму і ад каго» ўсхваляваў, растрывожыў душу. Нібыта не ён прыйшоў да мяне з таго далёкага і светлага часу, а я адасланы ім у сваё дзяцінства. Наплываюць успаміны. І вобраз мамы паўстае перад вачыма, знаёмы да кожнай драбнічкі, дарагі да апошняй рысачкі твару. Цяпер ён захоўваецца ў маім сэрцы, ды яшчэ на старых фатаграфіях.

Дзяцінства... Свет непаўторны і не падобны ні на што ў тваім далейшым жыцці. Гэта планета, населеная незлічонай колькасцю рэчаў, для якіх катэгорыя «нежывы» адсутнічае. Чыстае і непасрэднае першае знаёмства з кожным прадметам, з’явай, травінкай, жучком, чарвячком... Дакрануцца! Страшна, але жаданне даведацца, што гэта, перамагае. Напачатку вачыма, пасля паўзком падарожнічаеш па гэтай планеце, набліжаешся да рэчаў, якія так вабяць і прыцягваюць тваю ўвагу. Дабрацца, дакрануцца, учапіцца — і адчуць, а пасля вярнуцца да маці. Радасна, часам балюча, але заўсёды надзейна і спакойна, бо ты з мамай.

Дзіцячая душа поўніцца непаўторнымі пачуццямі, як чыстая крыніца крыштальнай вадою. Дзіця расце, і ў яго крынічку жыццё струменіць новыя перажыванні. Урэшце крыніца мацнее і дае выток рачулцы, якая памкне да сабе падобных. Так нарадзіўся салёны, вірлівы акіян пачуццяў.

Дзіця нараджаецца з чыстым экранам памяці, адкрытым для ўспыняцця інфармацыі і пазнання. Гістарычная памяць чалавецтва захоўваецца ў падсвядомасці новага жыхара зямлі, праяўляецца ў ягоным фізіялагічным развіцці. Закладзеная ў маленькую істоту кодавая праграма працуе ад самага зачацця да апошняга ўздыху чалавека. Але, акрамя яе, чалавека па жыцці вядзе і яшчэ адна магутная сіла — жаданні. Праз іх кожны атрымлівае вопыт, які дазваляе зразумець пэўную ісціну.

Дзіця захапляецца навакольным светам, яркімі колерамі, шматгалос-

сем прыроды. Каб іх адчуць, успрыняць, патрэбна, каб запрацавала праграма, дзякуючы якой мы з'яўляемся людзьмі. Ад яе дасканалай працы і яе патэнцыялу залежаць магчымасці кожнага чалавека. Адзін становіцца музыкантам, другі — матэматыкам, іншы — паэтам, мастаком, архітэктарам і г.д. Здольнасці чалавека можна развіць, пашырыць шляхам вялікіх намаганняў, мэтанакіраванай і карпатлівай працы. Калі дзіцяці ад нараджэння дадзена развітая аснова здольнасцей, напрыклад, да матэматыкі, то развіццё ягоных матэматычных магчымасцей дазволіць гэтаму чалавеку засвоіць значна болей ведаў, чым некаму іншаму, зрабіць адкрыцці, якія пашыраць гарызонты спасцігнутага чалавецтвам. Наступнікам, народжаным пазней, давядзецца гэтыя адкрыцці засвоіць ужо як прыступку ў сваім развіцці, каб зрабіць новае адкрыццё. Вось так, крок за крокам, доўжыцца шлях чалавецтва. Шлях, або ўзыходжанне па лесвіцы пазнання свету.

Музычны слых ці яго адсутнасць, чуйнае ўспрыняцце колеравай гамы ці дальтанізм з'яўляюцца прадумовай развіцця асобы. Іншымі словамі, у кожнага індывіда сваё праграмнае забеспячэнне. Няма добрай або дрэннай праграмы магчымасцей чалавека. Кожнаму дадзена ад прыроды тое, што ён павінен развіць у жыцці, што робіць яго індывідуальнасцю і дазволіць унесці свой уласны ўклад у развіццё (запраграмаванае?!) чалавечай цывілізацыі.

Раскрыць праграму чалавека магчыма праз працу: вучобу, атрыманне навыкаў і іх пастаяннае ўдасканальванне, творчасць. Калі навязваюць, патрабуюць ад дзіцяці таго, што яму даецца з вялікімі цяжкасцямі, узнікае натуральны пратэст. Каб пайсці сваім шляхам, трэба найперш зрабіць крок. І жаданне яго зрабіць: ці пойдзеш ты, калі жадаеш толькі поўзаць? Цікаўнасць падштурхоўвае на першы крок, інтарэс да прадмета, з'явы — на наступны. Захапленне, прага пазнання, заахвочванне спадарожнічаюць далейшаму руху чалавека па шляху, які пасільны яму дзякуючы магчымасцям уласнай, індывідуальнай праграмы развіцця.

...Дзень завяршыўся паходам у рэстаран. За куфлем чырвонага віна і каля патэльні, у якой сквірчэла сур'ёзная закусь, мы з Дзітмарам, Франкам і Мацiясам праседзелі вечар.

## Ізноў дарогі вядуць у Рым

***26.08.2002, аэрапорт «Мінск-2», 10.03***

Сонечная раніца. Прайшлі кантроль. Паездка арганізацыйна падрыхтавана, я спакойны за ход падзей. Уладзімір Панцялееў з жонкай, якія разам са мною ляцяць у Рым, заначавалі ў маёй майстэрні, а сёння ў 7.40 мы разам выехалі і шчасліва дабраліся да аэрапорта. Застаецца адолець адлегласць у пару тысяч кіламетраў — і мы ў Італіі. Што ж, ізноў мае дарогі вядуць у Рым.

10.45. Самалёт выруліў на ўзлётную паласу, спыніўся, загулі рухавікі, разганяемся — адрыў ад зямлі, набіраем вышыню. Пералёт — гэта спецыфічная форма руху ў прасторы, заўсёды выклікае эмацыянальнае ўзрушэнне. А ў мяне стала традыцыяй: як толькі аказваюся ў дарозе — пачынаю запісваць, у звычайнай жыццёвай мітусні не хапае часу на гэта. Пакуль ляцім, мой дыярыуш папоўніцца некалькімі старонкамі роздуму. Будзем у Рыме ў 12.10 па мясцовым часе.

...Праз 20 хвілін прызямлімся ў Рыме. Уладзімір і Валянціна Панцялеевы хвалююцца — гэта іх першая паездка ў Італію. Я на гэтай зямлі бываў ужо неаднойчы, але ж кожны раз таксама з хваляваннем чакаю новых адкрыццяў і ўражанняў, на іх у мяне заўсёды голад. Самалёт рэзка загайдала, бо ідзём на пасадку. Ад моцнага ціску заплакала немаўлятка. Лёгкая дымка, чародкі хмарак лагодна праплываюць над зямлёй, якая імкліва набліжаецца. Рухавікі сцішыліся, наша жалезная птушка з эмблемай «БелАВІЯ» злёгку пагойдваецца. Мне даводзілася лятаць на самалётах розных авіякампаній, і скажу шчыра: «БелАВІЯ» падабаецца, яна на ўзроўні добрых сусветных кампаній. Можна выказаць толькі ўдзячнасць пілотам і астатнім яе супрацоўнікам, і дзякуй Богу, што гэта так. Самалёт выпусціў шасі, хвост прысеў, пасля нос пайшоў уніз. Дакрананне да зямлі, коцімся ўсё павольней і павольней. Досыць мяккая пасадка. Апладысменты. Мы ў аэрапорце Рыма, 26°C цяпла, 12.05 па мясцовым часе.

Гадзіне а восьмай вечара прыехалі ў Фівіцыяна, невялікі і пацёрты часам гарадок сярод парослых лесам гор. Усю дарогу ліў дождж, але па нашым прыездзе скончыўся. Ад Рыма да Фівіцыяна — 450 кіламетраў.

***27.08.2002, Fivizzano***

А шостай раніцы я ўжо прачнуўся. Начная дрымота была напоўнена абрывістымі дзіўнымі снамі. Сонечныя промні паступова ахопліваюць краявід, асвятляюць на фоне далёкіх гор старажытны гарадок. Ён зіхаціць цёплым святлом, далей відаць, як сцелецца туман, сціраючы грані гор, з-за чаго складваецца ўражанне — вяршыні плывуць у прасторы. Вялізная чаша даліны таксама запоўнена мяккім туманам, толькі гарадок на ўзвышшы ззяе ў сонечных промнях, як залаты астравок пасярод вялікага тумановага возера.

Снеданне ў кафэ *ELUETICO*, на плошчы Fivizzano. Раніцай плошча застаўлена парасонамі, гандлёвымі прылаўкамі з рознымі рэчамі, прадуктамі, садавінай. Адразу пасля сняданку сустрэча ў мэрыі, падчас якой удакладнілі ўсе пытанні па арганізацыі выставы.

...Гатэль, у якім мы жывём, мае прасторную тэрасу на ўзроўні трэцяга, нашага паверха. Тут расстаўлены раскладныя ложкі і крэслы белага колеру. Магутныя разлапістыя кроны старых італьянскіх елак з дзіўнымі шышкамі рассейваюць гарачае сонечнае святло, ствараюць прахалоду. Чырвоныя стрэхі будынкаў па перыметры гарадка заліты сонцам і нібы судакранаюцца з гарамі, парослымі цёмна-зялёнымі дрэвамі. Блакіт неба панад вяршынямі гор засеяны белымі аблокамі. Цішыня. Калі глядзець налева, у бок сонца, удалечыні зрэдку прабягаюць аўтамабілі. Усё гэта патанае ў прасторы, напоўненай гарачым сонцам і водарам цяністай прахалоды.

***28.08.2002***

Сёння а 18-й гадзіне адкрылася наша выстава. Учарашні дзень і першая палова сённяшняга былі заняты падрыхтоўкай экспазіцыі, удакладненнем інфармацыі пра выставу. Экспазіцыя атрымалася досыць цікавая; на радасць, жывапіс, графіка, скульптура арганічна ўспрымаюцца ў анфіладзе старога, XIII стагоддзя, будынка. Калекцыя маіх твораў насычана колерам і досыць загружанымі сюжэтнымі распрацоўкамі.

Адкрыццё мела свой асаблівы характар, я такое бачыў упершыню. Народ ўваходзіў, вітаўся і праходзіў па галерэі; за трэцім паваротам, у канцы залы, стаяў стол, рух і гул вакол якога былі больш актыўнымі. Туды і сцякаліся наведвальнікі.

*30.08.2002*

Звычайны дзень, без асаблівых падзей. Зрабіў замалёўкі двух партрэтаў, дамовіўся са спадаром прафесарам Банолі аб паездцы ў Карару, а таксама ў Пізу, паразмаўлялі па тэлефоне з Наталляй Іванаўнай Дрозд аб далейшых планах. Надвор'е ўсталявалася сонечнае, досыць горача.

Увечары патрапіў на святочнае адкрыццё фестывалю. Народ, урачыста апрануты, сабраўся ў вялізнай палатачнай зале. Сцэна абцягнута чорнай драпіроўкай з бліскучымі арнаментальнымі ўстаўкамі. Усе чакалі пачатку конкурснай праграмы, гулі, як вулей.

Начую на тэрасе гатэля. Падрыхтаваў ложак, вынес з нумара пасцель, ноч патыхала прахалодай, таму ўкрыўся цёплай коўдрай. Неба засыпана зоркамі, зрэдку пралятаюць спаленыя знічкі. Вечнасць і спакой — на першы погляд: бяскрайняя прастора, вір галактык, рух свядомасці. Сон паступова бярэ нада мною ўладу, і я, сумны і адзінокі, патанаю ў абдымках Марфея.

## Дзень у правінцыйным гарадку

*1.09.2002*

Фівіцыяна, як і многія італьянскія гарадкі, вядзе сваю гісторыю з сівых стагоддзяў даўніны. Аб гэтым сведчаць складзеныя з камянёў дамы, сцёрты ад часу брук на дарогах, пояс гор, які акружае горад, нібы абарончая сцяна. Іншы раз дамкі грувасцяцца на стромкіх скалах, як ластаўчыныя гнёзды. Сярод зяляніны і каменю асветленыя сонцам россыпы невялікіх астраўкоў цывілізацыі, створаных намаганнямі многіх пакаленняў, звязаныя паміж сабою серпанцінам пракладзеных між скал дарог.

Сёння з раніцы лёгкае, акварэльнае марыва атуляе гарадок, горы з парослымі на іх да нябёс зялёнымі кустоўямі арнікі, выразна акаймляе абрысы краявідаў. Ранішнюю цішыню парушаюць сабачы брэх удалечыні і шум ракі глыбока ўнізе. Учора мы спускаліся па вельмі крутой, стромкай сцяжыне да самай вады. Камяністая, звілістая рэчка шумна мкне шляхам, прабітым яе плынню ў гарах з незапамятнага часу. Утравелыя камяністыя сцежкі, што бягуць да яе берагоў, сведчаць аб пасяленнях чалавека.

Жыццё маленькіх гарадкоў абмежавана пэўнаю прасторай, падпарадкавана размеранаму ходу часу, звыкламу быту. Ніхто нікуды не спяшаецца. Калі-нікалі забрэша сабака, ды і то ляніва. Тут, пасля вялікіх гарадоў, знікае напруга, настроенасць на інтэнсіўны рытм змяняецца запаволеным рухам думкі. І натуральна, само па сабе, узнікае адчуванне бессэнсоўнасці надрывістага, закручанага, як спружына, твайго ўласнага жыцця. Увесь час некуды ляцець, спяшацца, дабівацца — а навошта? Дзякуй Богу, што Ён прыводзіць часам у такія вось цудоўныя мясціны, дзе можна спыніцца, далучыцца да рытмаў прыроды, удыхнуць гаючага спакою.

Сэнс гэтай паездкі, напэўна, не толькі ў самой выставе. Каб яна адбылася, мастаку мала намаляваць творы, ён павінен яшчэ і паклапаціцца, каб іх убачылі людзі. Часам невядома, што для мастака цяжэй — напісаць карціну ці арганізаваць выставу. Так гістарычна склалася, і гэтыя акалічнасці моцна ўплываюць на лёс нашага мастацтва. Я думаю, і не толькі нашага: беспрасветная перспектыва ў плане прафесійнай арганізацыі выстаў — паўсюдна. Мастак і яго мастацтва — гэта яго асабістыя праблемы. Прынцыпова тое ж самае адбываецца ў адносінах да кожнага

чалавека, які жадае як мага паўней выказаць сябе ў жыцці. Калі падобнае не ўдалося змяніць цягам доўгіх стагоддзяў, то з гэтым давядзецца змірыцца і нам. Місіянеры ва ўсе часы ішлі са сваёй высокай ідэяй праз пакуты і ахвяраванні. У пустыні бездухоўнасці будавалі храм і давалі надзею нямоглым. У кожнага чалавека ёсць права выбару, але не кожны мае ідэю, дзеля якой патрэбна рабіць гэты выбар. Мы часта паддаёмся спакуслівай думцы: мой лёс няшчасны, бо мяне незаслужана крыўдзяць. Урэшцеператвараемся ў нявольнікаў гэтай думкі, сядзім нерухома на месцы і праліваем слёзы крыўды ўжо і на Бога, які нас пакінуў і да людзей няўважлівы.

Мае развагі перапыніў моцны і прыгожы жаночы голас, я пайшоў у напрамку, адкуль ён чуўся, і апынуўся перад невялікай царквой. Увайшоў. Спявала жанчына пад акампанемент піяніна. Голас прабіваўся праз тоўстыя сцены храма і разліваўся ў прасторы. Я застаўся ў царкве паслухаць спеў і фартэпіянную музыку.

Нечакана для мяне высветлілася: у гэтай царкве сёння будзе праходзіць фестываль вакальнага майстэрства.

Царква належала і, відаць, належыць ордэну езуітаў, на сценах — адпаведныя знакі і атрыбуты: малаток, абцугі, кап'ё, лесвіца, чорны балдахін з прарэзанымі для вачэй дзіркамі. Сцяг чорны, у цэнтры вялікі крыж, па баках пераплеценыя косткі, зверху чэрап. Вітражы з постацямі чорных манахаў і Апякункай нябеснай у вопратцы з блакітнай драпіроўкай. У алтарнай частцы, але алтара ў ягоным класічным выглядзе няма, тры акны, адно з вітражнай выявай названага вобраза. Правы і левы куток заняты пазалочанай разьбой з дрэва. Правая скульптура — Хрыстос, па-над ім вялікая карона; левая — сімвалічнае фартэпіяна на фоне карціны.

Зала невялікая, прыкладна 6 х 25 метраў. Столь на ўзроўні сямі метраў. Жадаючыя паслухаць канкурсантаў ідуць патокам, шчыльна ўсаджваюцца, нехта выбірае сабе месца на падлозе, але, напэўна, зала не зможа змясціць усіх аматараў спеваў. Для фестывалю такая зала не зусім прыгодная, аднак абставіны дыктуюць свае ўмовы.

Свята пачалося ў 16 гадзін, адкрыла яго маладая ўкраінская спявачка творам Шуберта «Авэ Марыя». Ёй акампаніруе італьянка. Пранізлівы голас гучыць чыста і звонка. Другая песня — украінская. У гэтай спявачкі ёсць будучыня. Наступная канкурсантка таксама з Украіны. Галасістыя дзяўчаты, магутныя галасы. На маю радасць, у гэтай «праблемнай» зале даволі добрая і чыстая акустыка. Публіка вітае ўкраінскую спявачку моцнымі воплескамі.

Італьянская выканаўца заспявала седзячы. Голас густога тэмбру, добра пастаўлены, адпрацаваны па шкале. Але не хапае агню, каб глыбока закрануць душу, — класічны шлях у мастацтве гукаў. Я, на жаль, не звярнуў увагу — спявачка была на мыліцах. Чарговая артыстка — таксама італьянка. Голас маладой дзяўчыны ўпэўнены і шчыры, можа ўсхваляваць, але ягоная глыбіня не напоўнена разуменнем, лёсавым спасціжэннем таго, пра што спявае. Усё-такі яна мяне ўразіла духоўнай моцай свайго голасу і неўтаймаванай гульнёй вібрацый у ім.

Голас — сродак выказаць пачуцці, спяваюць душою, а не проста дзякуючы галасавым звязкам. Пад купалам царквы гучалі смутак, радасць, упэўненасць, надрыў, надзея... Усё, што дадзена чалавеку зведаць на зямлі.

Нарэшце я пачуў той голас, які прывёў мяне сюды раніцай. Спявала польская выканаўца, і я зноў адчуваў, як яе спеў праходзіць сквозь муры,

разбурае перагародкі — такі голас і з таго свету верне. Добра пастаўлены і ўпэўнены, насычаны эмацыянальна, густы і глыбокі, спелы, як ураджайная залатая ніва. Калі нехта кажа, што голас спевака прыгажэй гучыць, калі ён спявае на той ці іншай мове, — я не згодны. Гэта ўсё роўна, што параўнаць, на якой мове прыгажэй гучыць душа чалавека. Голас — яе інструмент, дакладны і тонкі. Мы ўспрымаем не проста спеў, а голас пачуццяў. Аднак жа, калі б зараз заспявалі па-беларуску, маё ўзрушэнне было б бязмежным! Не аказалася тут маіх цудоўных зямлячак! І прастору царквы запоўніў сваім голасам заслужаны ўкраінскі спявак, яму дапамагалі саксафон і фартэпіяна.

Дзве з паловай гадзіны сцены старажытнай царквы ўбіралі цудоўныя спевы, скаланаліся магутнымі жаночымі і мужчынскімі галасамі, якія вырываліся на прастору і раставалі пад сінім нябесным купалам. Упершыню ў жыцці мне давялося пачуць і пабачыць адначасова столькі галасістых спевакоў. Гэты дзень у правінцыйным італьянскім гарадку застанецца для мяне адным з самых незабыўных. Калі ж на зямлю апусцілася ноч і загарэліся зоркі ў вышыні, я стаяў на тэрасе гатэля, і было імгненне — у празрыстай цішыні паднябесся выразна і чыста гучала водгулле нядаўніх спеваў.

***9.09.2002, Рым, аэрапорт, 13.30***

Выстава закрылася 6 верасня. Два дні мы атрымалі на зборы ў дарогу, адпраўку карцін дамоў і вандроўкі па Італіі — Фларэнцыя, Піза, Рым...

З раніцы, калі была запланавана паездка ў Пізу, нахмарыла. Мы праехалі ўжо ладны шлях, як дарогу пачало заліваць моцным ліўнем. Здавалася, наша вандроўка да славутай Пізанскай вежы закончыцца на гэтым кіламетры. Але не сталі паварочваць назад, вырашылі лёс выпрабаваць да канца. Папрасілі Бога, каб хоць на паўтары гадзіны рассунуў даждлівыя хмары. І дзіва! Пад'язджаем да Пізанскай вежы — раскрылася неба, спыніўся дождж. Крэпасная сцяна затуляе ад выпадковага вока дыямент дойлідства чалавека. Гэты архітэктурны ансамбль хвалюе сваім непаўторным харастром, зачароўвае, назаўсёды застаецца ў памяці. Паўтары гадзіны правялі мы ў Пізе, і роўна праз гэты прамежак часу зноў пайшоў дождж, ліў да позняга вечара. Я ўражаны нават зараз: Бог пачуў нашу просьбу і дапамог — што прасілі, тое і даў. Як тут не паверыць у цуд?!

У Фівіцыяна на працягу нашай выставы штодня праходзілі фестывальныя канцэрты. А пасля, у 21.00, пад вялікім полагам збіраліся ўсе канкурсанты, і адбываўся агульны канцэрт. Гэта мерапрыемства я таксама наведваў. Нечакана сустрэў Паола з Фабрыяна, Джавані Галасі і Адрыяну. Паола вёў канцэрт, і ў час антракту мы сустрэліся, што было поўнай нечаканасцю для майго сябра.

Апошні дзень гэтай паездкі быў аддадзены Фларэнцыі і Рыму. У гэтых мясцінах я не ўпершыню праходжу ў мільённым людскім натоўпе. Сляды сціраюць сляды, урэшце яны сціраюць і камень. Я ўдзячны Богу, што даў магчымасць яшчэ раз дакрануцца да камянёў святых мясцін. Час праляцеў у бясконцым шляху праз Рым, а палове 16-й падняліся па прыступках у святыню — сабор Святога Пятра. Кожны раз я перажываю тут непаўторныя ўражанні. Пабывалі на плошчы « Народнай». Зайшлі ў царкву, у якой знаходзяцца два творы Караваджо, я шчаслівы зноў іх бачыць. Падарожжа нагадала наш папярэдні прыезд, з выставай. Прайшоў на развітанне па плошчы кветак, пастаяў каля фантана Трэві, падняўся на Капіталійскі пагорак, далей — шлях да Калізея. Вось ізноў дарогі правялі мяне праз Рым, спадзяюся, не апошні раз.

## Здымаем фільм

*18.XI.2002*

Раніцай, а 9-й гадзіне, здымачная група з шасці чалавек выехала з Мінска ў Магілёў і далей, у Вялікія Бялевічы, на натурныя здымкі да фільма «Ілюзія рэальнасці. Уражанне раўнавагі». Рэжысёр Сяргей Агеенка, гукааператар Аляксандр Цяцюха, аператар, памочнік, вадзіцель і я.

Здымаць фільм пачалі ў 2000-ым годзе, першыя запісы былі зроблены ў майстэрні. На працягу ўсяго астатняга часу набіралі пакрыху матэрыял. Паводле сцэнарыя планаваліся здымкі ў Егіпце, Італіі, іншых краінах. Але задумы і магчымасці не супалі. Час ляцеў. Цяпер стаіць задача завяршыць фільм да канца гэтага года, а на дварэ ўжо сярэдзіна лістапада...

Дзень пахмурны, халаднаваты і ветраны. А 12-й гадзіне падышлі да Нікольскай царквы. У 1636 годзе кароль Уладзіслаў IV даў Магілёву прывілей на будаўніцтва царквы св. Мікалая. Напачатку гэта быў драўляны храм, у 1669-72 гадах была ўзведзена мураваная трохапсідная, крыжовакупальная базіліка. У XVII—XVIII стагоддзях царкву абнеслі агароджай з брамай. Царкву і краявід, які прылягае да яе, вырашана зазняць для фільма. Чаму? Па-першае, гэта часцінка маёй радзімы. Далей, фільм называецца «Ілюзія рэальнасці. Уражанне раўнавагі» — гэта назвы маіх карцін. Наша жыццё і ёсць ілюзія рэальнасці. Уражанні ад рэальных аб'ектаў напаўняюць нашу свядомасць і падсвядомасць інфармацыяй, якая застаецца ў памяці таксама як ілюзія. З разрозненых уражанняў — адбіткаў кавалачкаў рэчаіснасці, фрагментаў жыцця складваецца, як мазаіка, цэласнае ўражанне, і мы ўсведамляем: рэальны свет існуе, і да яго можна дакрануцца.

Радасна, што на маёй роднай зямлі ўзвышаецца прыгожы храм, збудаваны чалавекам для размовы з Богам. Прысутнасць у гэтым месцы напаўняе духоўным святлом, выклікае душэўную шчырасць. Чалавек імкнуўся зразумець сваю існасць. Два тысячагоддзі ён ідзе па зямлі з ідэяю хрысціянства. Чалавек — храм, напоўнены думкамі, разуменнем і сумненнем, пытаннямі, пачуццямі. Каб выказаць усё, што месціцца ў ягонай душы, чалавек падчас свайго зямнога падарожжа прыпыняецца ў благаславенных кропках зямлі і будуе храм — тут Бог яго пачуе.

Далей шлях вядзе ў Вялікія Бялевічы. Неяк надзвычай ціха і шэра на радзіме. Нават сабака не забрахаў. Зрэдку з'яўляюцца людзі, выходзяць з двара, пераходзяць вуліцу і знікаюць, як здані. Стаіць дзень, а дарога нібы ў прыцемку. Мы праехалі вёску наскрозь, выехалі за ваколіцу, да Друці. Шлях і сцяжынкі майго дзяцінства!

Бачны пагоркі і старыя клады з купкаю высокіх сосен. Да вайны там была вёска Друцк, даволі вялікая і моцная. Перад намі высокі бераг і прастора заліўных лугоў, якія цягнуцца ў бок Вугальшчыны. Да яе рукой падаць. Прайсці кіламетры тры — і апынешся ў вёсцы, дзе я з'явіўся на свет, пражыў першыя свае два гады. Пазней, падлеткам, не раз з Вялікіх Бялевіч наведваліся з бацькамі ў гэтую маляўнічую вёсачку.

Пакуль светлавы дзень, хлопцы спяшаюцца зрабіць здымкі. Праз дым пакацілася кола, я іду ўслед за ім з пагорка, і хачу таго ці не — а душа ў роздуме. Стан у прыродзе адпавядае майму настрою, і ўсё, што зараз адбываецца, — нібы не на яве і не са мною. Ствараецца ўражанне ілюзіі рэальнасці. Мінорны каларыт позняй восені, цішыня наваколля. Прырода, здаецца, заснула. Толькі вецер лётае, шукаючы нешта ў прасторы.

З Мінска мы прывезлі кола і вялікі стары гадзіннік. Некалі ён быў у

нас у Вугольшчыне, потым забралі разам з рэчамі ў Вялікія Бялевічы, дзе гадзіннік доўгі час проста ляжаў, бо не працаваў ягоны механізм. Гадоў 45 таму маміна сястра, цётка Надзя, добрая і чулая жанчына, забрала яго ў Магілёў — і гадзіннік там пайшоў. За паўгода да таго, як цётка Надзя пакінула гэты свет, гадзіннік спыніўся. З цягам часу ён апынуўся ў мяне, у Мінску.

Скрозь цыферблат і кола камера раскрыла прастору з самай высокай кропкі ў Друцку — прастору маіх успамінаў. Некалькі гадоў таму была жывая мама, і на гэтым месцы мы ладзілі пляцоўку для фільма. З вёскі на трактары прывезлі бацькаву канапу, на якой пасля ўселася сямейства Альшэўскіх — старэйшы брат Анатоль, яго малодшы сын, мама, мой сын Янка і я, а таксама Лёнік, Кераў сын, які прывёз на трактары нашу канапу. Стаяла таксама позняя восень, але дзень быў сонечны, цёплы...

Кола з разгону сарвалася пад абрыў. З гулам яно пакацілася, падскокваючы, у Друць. Слуп вады, пырскі, пайшлі кругі — і плынь ракі павольна растварыла, увабрала ў сябе рух кола. Вечарэла.

Шэрыя прыцемкі захапілі нас, калі вярталіся з Друцка. Аператар Георгій паставіў камеру ў канцы вёскі і здымаў мой сум і ўспаміны.

Паклаў кветкі на магілах бацькоў, запаліў чатыры свечкі, у прыцемку, сярод магутных сасонак. Пад імі мы ўсёю сям'ёю збіраліся на Радаўніцу, аддавалі даніну памяці сваякам, якія перадалі нам эстафету жыцця. Ілюзія рэальнасці. Як ніколі, адчуваеш сум ад таго, што смерць паступова забірае ад нас самае дарагое, і толькі ўспамін будзіць праўду жыцця.

Зайшоў на бацькоўскі падворак. Ціха ў двары, змрок навіс над зямлёю, але ў ім можна разгледзець абрысы знаёмых, не забытых, звыклых з часу сялянскага жыцця рэчаў. Пастукаўся ў дзверы, цішыня, ніхто не выйшаў мяне сустракаць, не азваўся. У горле сціснула, перахапіла дыханне. Дзверы злёгку паддаліся, увайшоў праз сенцы ў хату. Пастаяў у прыцемках. Узгадаў радасць жыцця і боль страт. Пакінуў родны дом, дзе так светла і ўтульна было маім надзеям і мроям.

Чалавек ідзе па жыцці, як тое кола з гары, — коціцца ягоны шлях. Кола забрала ў сябе плынь ракі, чалавека прыме плынь вечнасці.

У доме бабулі гарэла святло. Я ціха зайшоў у хату. Маё з'яўленне для ўсіх было вялікай нечаканасцю. Цётка Паша, жонка дзядзькі Мішы, бацькавага брата, нешта шыла. Убачыла мяне — застыла, слова не магла сказаць. Бабуля Настасся, якой споўнілася 94 гады, толькі і прамовіла: «Здань з таго свету...» Пасля смерці мамы я сюды не вяртаўся, прайшоў ужо не адзін год. Гэтая сустрэча была кароткая. Нас чакала дарога.

У Мінск вярталіся праз Магілёў. Прыехалі позна.

***18.XI.2002***

На наступны дзень з раніцы выехалі за горад на здымкі новых замалёвак ілюзіі рэальнасці. Свяціла сонца. Пажухлая трава позняй восені слалася пад мае босыя ногі. Зямля досыць халодная, былі ўжо і дажджы, і снег, і замаразкі. Падэшвы пякло холадам. Некалькі разоў здымалі кола, ужо іншае — тое мы ўтапілі ў Друці. Між іншым, калі пракручвалі стужку назад, убачылі, наколькі сімвалічны і цікавы нам нечакана ўдалося зняць сюжэт. Ціхая плынь Друці, раптам на ёй з'яўляюцца кругі, слуп з вады, кола выскоквае з рэчкі, коціцца на гару. Рух, народжаны плынню ракі, пераходзіць у рух зямны — ён не знікае, не перапыняецца, ён вечны.

Гадзіны дзве насіў кола па полі. Здымалі ў розных ракурсах. Постаць

чалавека, які ідзе ўгару. З кожныя ягоным крокам гледачу адкрываецца новы гарызонт ранішняга горада. Вандроўнік жыцця ідзе па шляху пражытага і пражытага. Кран са здымачнай камерай то апускаўся, то падымаўся, зразаючы новыя ракурсы. Непадалёку пасвіліся конь і карова. Калі я ў доўгім белым адзенні і з колам на спіне з'явіўся на пагорку, жывёла аслупянела. І ўвесь час, пакуль я хадзіў з колам па пагорках, нерухома назірала. На кальцавой віравалі машыны — нашы здымкі адбываліся ў полі, адразу за Мінскам, паблізу паста міліцыі, што на Ракаўскай дарозе. Некаторыя аўтамабілі нават спыняліся, вадзіцелі дзівіліся гэтаму відовішчу: чалавек у белым адзенні па пяты нясе вялізнае кола.

Ногі ў мяне гарэлі яшчэ не адны суткі.

*20.XI.2002*

А 16-й гадзіне пачалі здымаць фільм, працавалі да позняй ночы. Ізноў насіў кола на спіне. А яно даволі цяжкое, мае каваны металічны абадок. Але асноўнае, што было задумана, адзнята, — сюжэт з лесвіцай, метафара маёй творчасці «лесвіца ўгару».

Усе рэчы з майстэрні вынеслі на лесвічныя пралёты. На прыступках размясцілі дзесяткі два свечак рознага памеру і формы, запалілі іх. У цемры атрымалася ўражлівае відовішча. Зрабілі шмат дубляў.

Майстэрня ператварылася ў здымачную пляцоўку. У дадатак суседзірэстаўратары ў сваёй майстэрні наладзілі канцэрт. На нашай пляцоўцы, як ніколі, шматлюдна. Прапанову прадоўжыць здымкі фільма ў майстэрні ў чацвер і пятніцу я адхіліў, бо не гатовы да гэтага.

Я распачаў працу над малюнкамі і матэрыяламі да карціны «Механізм прасторы». Гадоў сем гэта тэма не дае мне спакою. Даўно склалася канструкцыя кампазіцыі. Падрамнік і палатно для карціны былі падрыхтаваны два гады таму. Не выпадковасць, што яна, яшчэ і ненапісаная, лягла ў аснову здымаемага фільма.

Сёння трэба было падрыхтаваць пісьмо ў літоўскае пасольства, каб атрымаць візы. Заезд у Літву запланаваны на 28 лістапада, на мне вялікая частка арганізацыйных клопатаў. Здымаць будзем два дні ў Вільнюсе і столькі ж у Нідзе. Прадумваю, уяўляю агавораныя сцэны. Агульны план, плошча. Мастак робіць накіды карціны. Перад ім захінутая ў цэлафанавую накідку мадэль (Святлана, жонка). Праз плошчу праходзіць Вікторыя з кветкай у руках. Буйным планам ліст з малюнкам мастака цалкам запаўняе кадр. Змяняецца зноў агульным планам. Мастак стаіць адзін, малюе. І так па некалькі разоў у розных месцах горада. Абавязкова будзе зазняты сабор св. Ганны. Я іду з колам угару, на вежу.

Рознапланавыя сюжэты здымем у пясках Ніды. Так, каньён, дзе мастак з колам на спіне ўзбіраецца па стромкім пясчаным схіле. Спачатку ў кадры з'яўляюцца рукі, потым кола, постаць мастака, ён праходзіць як праз кадр, і камера здымае толькі яго ногі. Дастаткова яму спыніцца на імгненне — і зыбучы пясок засмоктвае іх. Агульны план. Чалавек караскаецца на гару. Спыняецца, каб адпачыць там. Раскрывае кніжку для запісаў, яна ляжыць на пяску. Да яго падыходзіць Вікторыя з кветкай у руках. Буйным планам малюнак царквы на лісце. Сапраўдны вобраз царквы, якая была толькі што на малюнку, з'яўляецца на пясках, як мроя. Можна зняць дадатковыя кадры з пірамідай: расступаецца пясок, а пад ім карціна з выявай Егіпта. Выява піраміды з егіпецкіх пяскоў праступае ў балтыйскіх, паўночных. Піраміда — сімвал следу чалавека на зямлі, нават зыбучыя пяскі забыцця няўладныя над ім.

***28.XI.2002, Вільнюс***

Вечарэла, калі мы выйшлі на плошчу да царквы св. Ганны, аднаго з найпрыгажэйшых помнікаў гатычнай архітэктуры. Разнастайнае перапляценне формаў аздаблення стварае карункавыя ўзоры ў цэгле. Падсвечаныя знізу штучным святлом, яны зачароўваюць незямной прыгажосцю, абуджаюць казачныя ўяўленні. Позняя восень, і змрок апускаецца вельмі хутка. Паветра халоднае, з марозікам, зямля досыць сухая. Заканчваецца другі дзень нашага знаходжання ў Вільні.

З Мінска нас прыехала 8 чалавек, я з жонкай і дачкой — на сваім аўтамабілі, здымачная група «Белвідэацэнтра» — на мікрааўтобусе. Загрузілі рэквізіт: кола ад старога воза — цяжкое, з жалезныя вобадам, стары гадзіннік, маю карціну з выявай піраміды. Выехалі з Мінска пазней, чым планавалі: у вадзіцеля не аказалася страхоўкі, і быў незапраўлены бак. Мяжу пераехалі даволі хутка, без праблем і лішніх затрымак. Лёгка, без кружляння па горадзе, знайшлі гатэль, дзе нам былі замоўлены месцы. Размясціліся і пайшлі ў горад, каб выбраць мясціны, дзе заўтра будзем здымаць фільм.

Цэнтральная вуліца цалкам рэканструіруецца. Летам, калі ехалі ў Ніду, мы спыняліся ў Вільнюсе і гулялі па яго вуліцах і плошчах. Шмат дзе яны былі перакапаны глыбокімі катлаванамі, вяліся земляныя работы. Зараз ужо бачна, як абнаўляецца Вільнюс, будуецца падземны горад з магазінамі, кавярнямі і г.д.

Першы раз я прыехаў у Вільню, калі мне было 13 гадоў і я ўжо вучыўся ў Рэспубліканскай мастацкай школе-інтэрнаце. Пасля першага года навучання і практыкі ў Прылуках за добрую вучобу пяцёх вучняў, у тым ліку і мяне, прэміравалі паездкай у Рыгу, вядома, праз Вільню. Запомніўся круты з'езд з гары, кафедральная плошча, крэпасныя сцены Гедыміна, адкуль мы спускаліся па крутым, стромкім схіле вала, чапляючыся за дрэвы. З таго часу горад вабіў мяне заўсёды. У студэнцтве і пазней мы з сябрамі прыязджалі сюды часта. Пісалі эцюды, наведвалі музеі. Гэты горад быў для нас родным сваім духам, культурай, утульна і прывольна было тут душы. Нас, маладых мастакоў, Вільня, як чыстая і жыватворная крыніца, сілкавала творчай энергіяй, абуджала гістарычную памяць, натхняла на новыя карціны, спрыяла нашым памкненням да прыгажосці. Вось чаму мы прыехалі здымаць фільм менавіта сюды. У гэты горад было закахана маё юнацтва, тут пражыты вельмі важныя для фарміравання асобы і нацыянальнага самаўсведамлення адкрыцці, гэты горад — частка нашай гісторыі, культуры, духоўнага свету. Мне думаецца, што зямная цывілізацыя трымаецца на пераемнасці культур. Народы дзеляцца духоўнымі набыткамі, скарбамі. Гэтыя сувязі мы атрымліваем ад нараджэння, на генетычным узроўні. Нас хвалююць, здаюцца такімі блізкімі і роднымі чужыя краявіды, песні, танцы, творы мастацтва, архітэктурныя помнікі. Пэўна, абуджаецца глыбокая духоўная памяць, авалодаць якою мэтанакіравана чалавеку пакуль не дазволена. Не дарос?..

І так, сёння з раніцы мы пачалі здымкі. Першая мясціна — пляцоўка супраць фасаднага партала сабора. Пранізлівы холад, але стан прыроды неверагодна прыгожы. Адзнялі кадры ў двары сабора. Замкнёная прастора дворыка, брама. На фоне старажытных муроў сабора старая яблыня, без лісця, усыпаная дробнымі жоўтымі яблыкамі, якія на чорных галінках, здаецца, набываюць залаты колер. Выставілі кадр. Замацавалі рознакаляровыя драпіроўкі. Вікторыя з белай архідэяй увайшла праз браму, прай-

шлася па дварэ, спынілася пад яблыняй, прысела на лавачку. Спалучэнне гістарычных пластоў з сучаснай умоўнай эклектыкай вобраза стварае ўражанне, ілюзію ўзаемапранікнення розных часоў, аддаленых на стагоддзі ці тысячагоддзі, нараджае імпульс цэласнага ўспрыняцця свету, надае мастацкаму вобразу арганічную пластычнасць.

Наступны кадр выстаўлены з дворыка сабора на вуліцу сучаснага горада, з ягоным жыццём і рытмам руху. Вікторыя, у тым жа адзенні і з архідэяй, павінна прайсціся і па гэтай вуліцы. Камера ўключана, і раптам непрадбачанае: з дворыка праз браму вылятае голуб і садзіцца перад намі. Аператар здымае на стужку палёт птушкі, а мы ўспрымаем гэта як добры знак, як падораны для фільма сімвал.

Кожны кадр стараемся выбудаваць так, каб быў відаць працэс фарміравання мастацкай ідэі, нараджэння вобраза, стварэння самой карціны. Безумоўна, у гэтых нашых стараннях прысутнічае надуманасць, але ж яна таксама служыць асновай для творчага імпульсу. Мастацкі вобраз — гэта не дакладная перадача рэальных падзей у свеце. Характар ствараемых для здымак сюжэтаў у вялікай ступені ўмоўны. Так, постаці Святланы і Вікторыі захінуты фантастычным убраннем, іх адзенне нерэальнае ў паўсядзённым нашым жыцці. Але якраз яно дапамагае засяродзіць увагу на ўмоўнасці падзей, сілаю творчай ініцыятывы з глыбіні сістэмы знакаў і сімвалаў выклікаць імпульс. Задача Святланы і Вікторыі ў фільме стварыць пластычны вобраз, які будзе ініцыіраваць, правакаваць свядомасць на ўспрыняцце ўмоўнага, але як бы насамрэч сапраўднага, рэальнага, жыццёвага; духоўнага — увасобленым у матэрыяльным.

Як часта нам якраз і не хапае такой «правакацыі», каб ажыццявіць свае творчыя задумы! Мастак мае задуму, падрыхтаваны да працы матэрыял, майстэрства, але яму ніяк не ўдаецца стварыць карціну. Чаго не хапае? Моцнага імпульсу, які б рассунуў у свядомасці мастака грані рэальнага і нерэальнага, з'яднаў у ягоным уяўленні ў гарманічна цэласнае, непадзельнае з'яву сапраўднюю і фантазію. Не хапае імпульсу, сіла якога абудзіла б у мастаку ягоную творчую энергію, прывяла ў дзеянне набытае ім шляхам вучобы і працы майстэрства і пералілася ў твор — новую рукатворную рэальнасць. Такі імпульс, напэўна, і ёсць іскра Божая.

***29.XI.2002***

Выехалі на Клайпеду а сёмай раніцы. Ідэя зняць сюжэт для фільма ў пясчаных дзюнах нарадзілася, калі ўлетку мы са Святланай і Вікторыяй адпачывалі на Балтыцы. Да Егіпта далёка, балтыйскі пясок — таксама пясок. Падсвядомасць хавае ад нас шмат таямніц, якія тычацца непасрэдна саміх нас. З бязмежна вялікім светам нас нітуюць асацыяцыі, інтуіцыя. Яны своеасаблівыя праваднікі нашы тут, на зямлі. Здараецца, што гэтыя нітачкі-сувязі ператвараюцца ў нябачныя сасуды-жылкі — і па іх ідзе энергія памяці. Яна нараджае ў нашай свядомасці дзіўныя вобразы, выклікае невытлумачальныя сімпатыі да незнаёмых мясцін, людзей, пасяляе ў душы сум па невядомым. Вось і гэтыя пяскі: чаму яны так вабяць, зачароўваюць мяне, выклікаюць радасць і з ёю — трывогу? Мая зорка загарэлася над Друццю, і колькі я не іду, каб наблізіцца да яе, яна адступае з такой жа хуткасцю, як у маёй хады, за небакрай. Услед за ёю я прыйшоў і ў егіпецкія пяскі, з іхняга імпульсу нарадзіліся карціны. Адну з іх зараз вязу ў пясчаныя дзюны Балтыкі.

За Каўнасам пачалася сапраўдная зіма. Снег укрыў зямлю, паветра дыхае марозам. Паром перавёз нас на паўвостраў, і мы неўзабаве будзем у Нідзе. Нізкае зімовае сонца слепіць вочы. Ад сонечных промняў на дарозе там-сям праталінкі, а паабапал яе ляжыць снег. Дрэвы таксама прысыпаны снегам, у іхніх вершалінах гудзе вецер. Казачны дзень!

*8.XII.2002*

На аўторак і сераду, 10 і 11 снежня, запланаваны апошнія здымкі. Зараз апрацоўваюцца на камп'ютэры відэарад, музычная кампазіцыя, паўстала пытанне аб пазакадравым тэксце. Я прапаную наступны варыянт.

«Перад кожным чалавекам рана ці позна паўстае пытанне: што з'яўляецца першапрычынай той або іншай з'явы? Людзі жывуць у асацыятыўнай прасторы бытавых праблем. Наша ўспрыняцце свету прадуцыруецца канкрэтнымі аб'ектамі зрокавага ўспрымання. Калі на карцінах, фатаграфіях, у фільмах пазнаём свет сваіх уражанняў, бачаныя раней прадметы, з'явы, гэта выклікае ў нас непадробны інтарэс.

Мастацкія вобразы ў выяўленчым мастацтве фарміруюцца з розных крыніц успрымання, урыўкаў падзей. Свядомасць — гэта складаны камп'ютэр, загружаны шматвекавою інфармацыяй, атрыманай не толькі праз асабістае ўспрыняцце, але і захаванай дзякуючы гістарычнай памяці. Здольнасць карыстацца набытай інфармацыяй дае магчымасць мадэліраваць канкрэтныя знакавыя вобразы, увасабляць іх у канкрэтных выявах на плоскасці.

Душа чалавека мае магчымасць судакранацца з вышэйшай духоўнай матэрыяй Сусвету. Чалавек, ягонае цела з'яўляюцца абалонкай, якая ўмяшчае тое, што называецца душой. Паводле прынцыпу ўласнай будовы, чалавек стварыў храм і звярнуўся да Госпада.

Чалавек ідзе па зямлі, нясе ідэю духоўнай самасвядомасці. Пераадольвае на сваім шляху розныя цяжкасці, караскаецца ўгару. Шлях яго ляжыць праз пяскі пустыні. Ён спыняецца, будуе згодна са сваім уяўленнем храм, падымаецца і зноў ідзе.

Чалавек, які нясе сваю ідэю, стаў у маім творчым пошуку вобразам чалавека, які ідзе скрозь час і прастору. Часта да згорбленых спін сваіх герояў вяроўкамі прывязваю розныя прадметы, якія асацыіруюцца з умоўнай ідэяй духоўных якасцей, асаблівасцей. Храм на спіне, кола, камень, агонь, птушка, жывёліна, ракавіна — пералік разнастайных сімвалаў, зразумелых нам. Наша свядомасць напрацавала столькі знакаў і сімвалаў, што літара асацыіруецца з цэлым светам. Вобразы ў карцінах падчас раскрываюць бясконцасць роздумаў. Мастаку дастаткова імпульсу для нараджэння вялікай карціны, насычанай гістарычнымі і рэальнымі падзеямі. Вобразы са знакавай сімволікай раскрываюць свет нашых роздумаў і спадзяванняў. Выгляд кола ва ўсе стагоддзі і ва ўсіх народаў прымаў вобраз сонца, поўні. Гэта сімвал агню, руху. Калясніца сонца — магічны знак для ўсіх цывілізацый планеты.

Знакі, сімвалы ствараюць ілюзію рэальнасці падзей. Свет насычаны прадметамі рэальнымі і ірэальнымі. Рух чалавека ў прасторы бясконцы, яго свядомасць складаецца з асобных фрагментаў успрыняцця — яны ствараюць ілюзію рэальных вобразаў. Намаляваныя на карцінах вобразы — гэта ілюзія магчымых, дапушчальных падзей. Падзея адбываецца імгненна — застаецца ўяўленне падзеі, гэта значыць, ілюзія таго, што адбылося. Наша ўспрыняцце складаецца з уражанняў, яны бясконцыя і супя-

рэчлівыя. З гэтых уражанняў мы фарміруем раўнавагу нашага быцця. Вобразы ў карцінах кантрастныя, як холад і цяпло, святло і цемра, салодкае і горкае. Для сябе мы выбіраем штосьці сярэдняе.

Вобразы, сімвалы, знакі ў маіх карцінах — ключ да прачытання твора.

У літаратуры існуе свая сістэма знакаў, ад спалучэння якіх нараджаецца ілюзія вобразаў, падзей.

Колер у карціне — гэта таксама імпульс. Імпульс эмацыянальнага зместу. Колер сам па сабе знак, сімвал эмацыянальных перажыванняў, стан свята, захаплення, яркасці, трагізму, прыкмета дэпрэсіі, актыўнага ўзбуджэння — неабдымнага букета стрэсавых перажыванняў. Набор сімвалаў у нараджаемай карціне дазваляе нам даведацца, як у егіпецкім мастацтве можна прачытаць бясконцую вечнасць.

Вобразы ў свядомасці мастака з'яўляюцца і знікаюць. Спыніць, улавіць значную падзею падчас немагчыма. Спыніць і перавесці ў рэальны вобраз карціны, паказаць плынь часу на палатне? Механізм часта асацыіруе гэтую катэгорыю: птушка — палёт, думка, бясконцасць, рух...»

Мой тэкст да фільма ўхвалены. Чытаць яго будзе акцёр. Мне застаецца пасіўная роля — чакаць прэм'еры.

*Працяг будзе.*



## НАТАЛЛЯ БУРДЗЕЙКА

***Наталля Бурдзейка нарадзілася ў 1975 годзе ў вёсцы Аношкі Клецкага раёна. Скончыла Мінскі дзяржаўны лінгвістычны універсітэт. Выкладае англійскую мову ў сярэдняй школе № 2 горада Фаніпаля. Друкавалася ў часопісах «Маладосць», «Крыніца», «Беларусь», «Першацвет», у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва».***

# «ЖНІВЕНЬ — ЯШЧЭ НЕ ВОСЕНЬ»

* * *

Цяжкія гронкі рабіны.
Цяжкія алычыны.
Спелыя кроплі згінаюць
Долу галіны.
Але гэта не цяжар.

Жнівень — яшчэ не восень.
Жнівеньскі вецер халодны —
Прычына птушынай
трывогі.
Болей мне не трывожна.

Радасна травам і дрэвам:
Плод даспявае іх.
Лёгка
Плывуць аблокі.

* * *

Асенні золак
Яшчэ не трывожыць птушак.
Цень вераснёвы ці быў,
Ці то проста здалося.
Золата лісця
З золатам сонца злілося.
Золак асенні
Яшчэ не трывожыць птушак.

* * *

Паўзабытыя вуліцы.
Няўжо тут мы хадзілі
І ляцела лістота
Далонь у далонь?..
Мы хадзілі
Па іншых сцежках.

* * *

Як непрыкметна вечар
Сумнай мацыёлай
Цвіце ў адзіноце.

* * *

А былі вечары —
Сагравалі нияркім святлом.
А былі вечары —
Плыў у летняе неба наш дом.
А былі вечары —
У прысадах чаромха цвіла.
А былі вечары...
Адцвіла яна ўжо, адцвіла.

* * *

Птушыныя крыкі.
Глядзець у неба і слухаць.
Ці толькі птушыныя крыкі
Слухаеш ты?

* * *

Але чаму нам было так радасна
З падваконня глядзець на зоры,
Верыць: наперадзе —
Некранутыя дарогі?
Далей наперад, наперад:
Не кінуць крыж!
Але чаму так бывае радасна
Глядзець у зорнае неба?
Успамінам там
Даўняе прадчуванне.

* * *

Слухайце, бязгучныя кроны дрэў,
Неба, што святлее за акном, —
Маю калыханку.
Не ведаю, аб чым яна,
Толькі хочацца спяваць зноў і зноў.
Услухвацца
У пераліва мелодыі...
Так яблыня калыша
Сваіх немаўлят.

## ШЛЯХ ДА ВЯСНЫ

Размокнуць засохлыя фарбы,
Затрымціць у чаканні папера,
Хлынуць колеры,
І бязлікі аркуш успомніць,
Што калісьці быў дрэвам —
Выпусціць парасткі.
Спужаная птушка
Прарве малюнак.

* * *

Полымя?
Не. Гэта свеціцца
Абраная промнем
Галіна.

* * *

У траве з лёгкім шоргатам
Сняжынкі губляюцца.
Звон птушыны над полем
Адзінока ляціць.

* * *

Між шчылінаў плоту
Акно нешалёванай хаты
Раскажа пра стоены боль
І глыбокую радасць.

* * *

Ты з'ехаў.
Сумуюць дрэвы.
І спрачаюцца з імі
Сляды на снезе.

* * *

Басанож па раллі...
Дух вясны і зямлі
Адагрэў наваколле.
Бачыш, — кветкі ўзышлі
І шляхі праляглі
Праз былое вуголле.

* * *

Званы звінелі. Плакалі. Вяшчалі.
Пра святасць. І Святога. Прама ў неба,
Раскрытае сырым туманным ранкам.
І ўпершыню параненае цела
Хацела жыць нясцерпна, узахлёб —
Служыць. Таму Адзінаму Святому,
Якога сведчылі званы наўзрыд,
Куды ірвалася душа з туману
Халоднага, абуджанага ранку.

* * *

Прыйсці да Госпада
І скінуць
Дарожны пыл і бруд
З замлелых плеч.
Прыйсці да Госпада
І ўкленчыць,
Дзе ззянне свечак,
Адзінокі кут.
І словы ціхія,
І словы,
Зацёртыя да сонечнага бляску,
Адкрыюць шлях.



*СПАДЧЫНА*

ВЯЧАСЛАЎ РАГОЙША

# СЯБАР ЯГО ШАСЦІДЗЕСЯЦІГАДОВАЙ МАЛАДОСЦІ

## *Святлана СОМАВА ў жыцці і творчасці Якуба Коласа*

На адной з ціхіх, зялёных вуліц Масквы, якіх не так і шмат засталося ў сённяшняй сталіцы Расіі, да 17 верасня 1990 года, да апошніх сваіх дзён, жыў чалавек, светлая старасць якога была авеяна цёплымі ўспамінамі пра шчырую, хоць часамі няпростую, дружбу з народным паэтам Беларусі Якубам Коласам. Гэта — руская паэтэса Святлана Аляксандраўна Сомава. На жаль, нават коласазнаўцы да крыўднага мала ведаюць і пра Сомаву, і пра высакароднае сяброўства Канстанціна Міхайлавіча і Святланы Аляксандраўны, якое доўжылася без малога паўтара дзесятка гадоў — пачынаючы з канца 1941 года і ажно да самай смерці беларускага песняра.

Мне пашчасціла ў самым канцы 80-х гг. ужо мінулага стагоддзя адшукаць маскоўскі адрас Святланы Аляксандраўны, не раз, бываючы ў Маскве па розных справах, сустракацца з ёю, слухаць яе цікавыя ўспаміны пра жыццё ў Ташкенце ў час Вялікай Айчыннай вайны, пра сустрэчы з вядомымі пісьменнікамі (у прыватнасці, з Аннай Ахматавай), гутарыць пра яе дружбу з Якубам Коласам. На той час выйшаў самы поўны — у 14 тамах — Збор твораў Якуба Коласа. Я разгарнуў перад Святланай Аляксандраўнай том, дзе былі апублікаваны дзённікі песняра. Не раз у іх — у «Кнізе Ташкенцкага быцця» (1943), «Гаворыць Клязьма» (1944), «На схіле дзён» (1945—1951) — пад крыптанімам «С.» упомнена і яна. Святлана Аляксандраўна прасіла зачытаць літаральна ўсё, што было звязана з ёй, перакласці асобныя беларускія словы. Я зачытваў і перакладаў. А, трэба сказаць, у «Кнізе Ташкенцкага быцця» Сомава ўпамінаецца ажно 15 разоў, у «Гаворыць Клязьма» — 10, «На схіле дзён» — 6. Вось некаторыя запісы народнага паэта, якія выклікалі асаблівую цікавасць Святланы Аляксандраўны, а затым — і поўныя каментарыі, успаміны:

«Заходзіў у Дом пісьменніка. Здаў тры тысячы на танкавую калону. Бачыўся з сваёй перакладчыцай. Была рада сустрэцца. Збіраецца ехаць у Маскву на дэкаду ўзбекскай паэзіі» (23.3.1943); «Быў у Саюзе пісьменнікаў. Напісаны 20.4. С. верш аказаўся надзвычай трапным. Я хваліў яго. Нават некаторыя строфы запомніў і чытаў на памяць» (22. 4. 1943); «Апусцеў, асірацеў Дом пісьменніка — няма С. Няма ад яе і пісем» (22.6.1943); «Быў у Саюзе пісьменнікаў... Алімжан

паведаміў, што С. сядзіць на тых мясцінах, дзе адбываліся нядаўна баі, што раней верасня яна не прыедзе» (18.8.1943); «Атрымаў пісьмо з Ташкента ад С. Трэба адказаць...» (26.2.1944); «Думаю пра паездку ў Маскву. Як сустрэне С.? Штосьць маўчыць, злуецца» (10.11.1945); «Была ў «Метраполі» некалькі разоў С. Дарогі нашы пачалі разыходзіцца. Цяжка было...» (13.6.1946); «Учора вярнуўся з Масквы... Усяго было: былі сустрэчы з С., — перапакутавана, пережыта, асела на дно душы. А ўсё ж...» (2.7.1951).

У 13-м томе 14-томніка знайшлося месца і для семнаццаці лістоў Якуба Коласа да Святланы Сомавай. Святлана Аляксандраўна пагартала том, і на яе твары адбілася незадаволенасць. «Цікава, хто ўзяў на сябе смеласць выступіць у якасці цэнзара? Я ж дазволіла друкаваць усе лісты Коласа да мяне. А тут яны змешчаны выбарачна, а ў апублікаваных — маса не пазначаных пропускаў. Нават усе звароты да адрасата зняты...» Незадаволенасць перайшла ў раздражненне...

Аднак хто ж такая Святлана Сомава?

Нарадзілася Святлана Аляксандраўна 30 красавіка 1911 года ў Пецярбургу. Яшчэ дзяўчынкаю разам з бацькамі пераехала ў «горад хлебны» Ташкент, дзе пражыла большую частку свайго свядомага жыцця. Менавіта тут, працуючы літкансультантам у Саюзе пісьменнікаў Узбекістана, яна ўпершыню сустрэлася, пазнаёмілася і ўрэшце пасябравала з Якубам Коласам, якога бежанскі ваенны лёс, як і некаторых іншых беларускіх пісьменнікаў (Эдзі Агняцвет, Міхась Модэль, Уры Фінкель і інш.), закінуў ажно ў Сярэднюю Азію. У Ташкенце выйшла першая кніга яе вершаў, якая так і называлася — «Ташкент» (1943). Затым былі іншыя, выдадзеныя і ў сталіцы Узбекістана, і ў Маскве: «Вершы і пераклады» (1947), «На палях Мірзачуля» (1950), «Агні Сталінграда» (1953), «Чырвоныя гваздзікі» (1961), «Агонь у вакне» (1966), «Чырвоны явар» (1974), «На ўзыходзе месяца» (1984) і інш. Дарэчы, апошнюю з пералічаных кніг Святлана Аляксандраўна падарыла мне з надпісам: "Вячаславу Пятровічу — за яго любоў да Якуба Коласа. Святлана Сомава. 3 лютага 1988 г. Масква»...

Можна сабе ўявіць настрой народнага песняра, які ваеннай віхурай быў адарваны ад роднага краю і закінуты за тысячы кіламетраў ад акрываўленай Бацькаўшчыны. Смутак, туга, жаль, горыч, боль, нават роспач — усе гэтыя пачуцці перапаўнялі сэрца паэта-патрыёта, у якога да агульнанароднага гора далучалася і сваё асабістае. Прыгадаем толькі перажыванні Канстанціна Міхайлавіча як бацькі — за лёс сярэдняга сына Юрыя, які быў мабілізаваны на фронт і ад якога не было ніякіх звестак (пазней стала вядома, што ён загінуў у адным з першых цяжкіх баёў з фашыстамі). А тут звычайныя бежанскія праблемы з жыллём, харчаваннем, здароўем — сваім і жончыным (Марыя Дзмітрыеўна апошнія гады часта і цяжка хварэла, што і звяло яе ў 1945 годзе заўчасна ў магілу). І вось у гэты час у Ташкенце знайшоўся дагэтуль зусім незнаёмы чалавек, які паспрабаваў хоць крыху суцішыць боль, развеяць сумны настрой, дапамагчы прыжыцца ў чужым горадзе, набыць новых знаёмых і сяброў. Такім чалавекам стала Святлана Аляксандраўна, і не столькі па абавязку службы ў апараце Саюза пісьменнікаў, колькі па закліку сэрца. І за гэта Якуб Колас застаўся ёй пажыццёва ўдзячны.

Святлана Аляксандраўна прыгадала некалькі эпізодаў з жыцця Якуба Коласа ў Ташкенце. Паэт неяк сустрэў на вуліцы заплаканага хлапчука. Спыніў, распытаў яго. Той аказаўся беларусам, расказаў, як немцы забілі ягоную маму, як яго эвакуіравалі сюды, а цяпер ён застаўся адзін, без прытулку. У паэта па твары пацяклі слёзы. Потым ён накарміў хлопчыка, адвёў у дзіцячы спецпрыёмнік, дапамог уладкаваць у дзіцячы дом. Цікавая дэталь: расказваў паэт пра гэта ў сябе дома ў прысутнасці сына Данілы, яго сябра Фелікса, Эдзі Агняцвет. Але пра гэта неяк стала вядома НКВД. Выклікалі туды Сомаву: «Так про какого мальчугана рассказывал Колас?» «Я ничего не слышала... А вообще о своих друзьях я не считаю нужным говорить», — заявіла яна, і больш пра Якуба Коласа ў яе ніколі не распытвалі. Яшчэ адзін эпізод. У Ташкент была эвакуіравана Анна Ахматава.

Жыла яна, як і многія эвакуіраваныя пісьменнікі, у тым ліку напачатку і Якуб Колас, вельмі бедна, часам не было чаго з'есці, не было ў што больш-менш прыстойна апрануцца. У Якуба Коласа ў вогненным Мінску засталіся ўсе зберажэнні, спачатку ён не меў ніадкуль ніякай дапамогі. Але паступова матэрыяльнае становішча пачало наладжвацца — дзякуючы дэпутацкім выплатам, ганарарам. Аднойчы ён прапанаваў Святлане Аляксандраўне: «Я дам грошы, Вы аднясіце Ахматавай, скажыце, што нехта іх ёй прыслаў, але не кажыце хто. Яна вельмі гордая, калі даведаецца, што гэта я, які жыве не нашмат багацей, то не прыме гэты падарунак». Так і зрабілі. Гэта на нейкі час падтрымала Ахматаву, яна купіла нешта з адзення.

Паказвала мне Святлана Аляксандраўна розныя здымкі. Адзін з іх падрабязна пракаментавала. Вось гэты каментарый:

«На здымку — тры паэтэсы, «тры грацыі розных нацый», як пажартаваў Якуб Колас, прымаючы ў падарунак наш калектыўны здымак: Эдзі Агняцвет, Святланы Сомавай і Зульфіі [пазней — народная паэтэса Узбекістана. — **В. Р.**]. Яны схілілі галоўкі адна да адной і пасябравалі навек сваімі вершамі. А здымаліся мы ў Саюзе пісьменнікаў Узбекістана, на вуліцы Першамайскай, 20, 8 сакавіка 1943 года, у пакоі, дзе я правяла 12 год за пісьмовым сталом, заваленым рукапісамі, і дзе па сутнасці быў клуб для пісьменнікаў, эвакуіраваных у час вайны ў Ташкент і куды прыносіў часта Якуб Колас свае толькі што напісаныя вершы. Картачку гэту я падаравала Якубу Коласу ў тым жа 1943 годзе, ён яе захаваў, як захавала і Эдзі Агняцвет… Хораша глядзець у ясныя вочы, поўныя ласкавасці і паэтычнага роздуму, тугі і даверлівасці. Тады мы толькі пачыналі свой паэтычны шлях, верылі людзям і ў светлую будучыню. А была ж вайна з яе трывогамі і бедамі. Мы пісалі вершы, жылі паэзіяй, рыхтавалі свае першыя кніжкі. Зульфія працавала над кнігай «Вернасць», Эдзі — над вершамі і над лібрэта оперы-казкі «Джанат» — пра дружбу узбекскіх і беларускіх дзяцей (опера, на музыку Льва Шварца, у 1944 г. была пастаўлена сіламі ташкенцкага Палаца піянераў), я — над перакладамі і сваёй першай кнігай «Ташкент». Помніцца, я тады напісала верш «Развітанне» — перад ад'ездам на фронт, на Курскую Дугу. Гэты верш быў надрукаваны ў сярэднеазіяцкай газеце «Фрунзевец» пасля майго ад'езду. Якуб Колас выразаў яго з газеты і падарыў мне пасля майго вяртання з фронту. Вось і картачка Якуба Коласа, маладога, з добрымі, светлымі вачыма. Тады ён прынёс у Саюз пісьменнікаў свой верш «Узбекістану». Аўтограф гэтага верша на беларускай мове, напісаны ўзорным коласаўскім почыркам і падараваны мне ў 1943 годзе, захаваўся ў мяне да гэтага часу. Я тады пераклала гэты верш і ён увайшоў ў шматлікія выданні вершаў Коласа на рускай мове. Даруючы адно з выданняў, ён надпісаў: «Очаровательной Светлане, дорогому другу моего Ташкентского шестидесятилетнего юношества. 28. 09. 1951 г.»».

Я спытаўся ў Святланы Аляксандраўны, ці пісала яна калі-небудзь — прозаю ці вершам — пра свае ўзаемадачыненні з Якубам Коласам. Яна, грузная ў свае амаль восемдзесят, але па-ахматаўску «царственная», павярнулася ў крэсле, уважліва паглядзела на мяне і пачала сваім грудным пявучым голасам чытаць верш, спачатку папрасіўшы прабачэння, што гэты ніколі не друкаваны верш напісала вельмі даўно, 30 красавіка 1943 года, у Ташкенце, у свой дзень нараджэння, і 45 гадоў не чытала, таму можа падвесці памяць. Прыводжу верш цалкам так, як запісаў яго са слоў Святланы Сомавай:

А завтра снова день,
И встречу я его
На том тридцатилетнем перевале
Дней человеческих.
Неужто это все?
Как мало прожито, как много пережито!
Ведь сердце еще совсем не начинало жить,

Ведь все оно готовилось к полету,
К расцвету.
А расцвет не наступил…
Любовь я отдаю бегущим буквам,
И верю словам несказанным.
И дальше снова так —
Еще не раз, не уставая за ночь,
Сварю я в поэтическом мартене
Сталь скоростную звонкого стиха.
Еще с ночными звездами поспорит
Якубом Коласом подаренная лампа
На книгами заваленном столе.

«На той дзень нараджэння Якуб Колас падарыў мне настольную лямпу з зялёным абажурам», — пракаментавала апошнія радкі верша Святлана Аляксандраўна…

Як вызначыць узаемаадносіны Якуба Коласа і Святланы Сомавай, што пачаліся ў жніўні 1941 года (у Ташкент Якуб Колас з сям'ёй пераехаў з падмаскоўнай Клязьмы 14. 8. 1941 г.) і закончыліся толькі са смерцю песняра? Якім словам іх назваць? Несумненна, былі ў гэтых узаемаадносінах чыста творчыя інтарэсы. Сомава, працуючы ў Саюзе пісьменнікаў, дапамагала многім пісьменнікам-бежанцам, у тым ліку і Якубу Коласу, вырашыць бытавыя праблемы (пасяленне, харчаванне, працаўладкаванне). Але ж яна была і арыгінальнай паэтэсай, актыўна друкавалася, выступала на розных літаратурных вечарах. Скажам, на першым жа літаратурным вечары ў Ташкенце, у якім прыняў удзел Якуб Колас (2 снежня 1941 г.), выступіла — разам з А. Ахматавай, У. Лугаўскім, Г. Гулямам, Х. Алімжанам — і Святлана Сомава. Апрача гэтага, яна выявіла сябе і як таленавітая перакладчыца, найперш — узбекскай паэзіі на рускую мову. Адзін толькі факт у доказ гэтаму: калі ў 1945 г. узнікла патрэба выдаць у Маскве анталогію ўзбекскай паэзіі, то менавіта ёй даручылі і перакласці многіх узбекскіх паэтаў, і адрэдагаваць іншыя пераклады. Якубу Коласу, адарванаму ад беларускамоўнага асяроддзя, таксама быў патрэбны паэт-перакладчык, які б наладзіў сувязь з чытачамі, тагачасныя ягоныя думкі і пачуцці данёс да насельнікаў і Узбекістана, і ўсяго Савецкага Саюза. Публіцыстычныя творы народны паэт мог адразу пісаць (і часта пісаў) на рускай мове, паэзія ж — рэч іншая: найбольш арганічна яна выяўляецца толькі ў родным слове. І Святлана Сомава (канешне, не толькі яна) на нейкі час стала для беларускага паэта сувязной паміж ім і чытачамі — пераклала шэраг вершаў на рускую мову. Аднак ці толькі арганізацыйныя і творчыя моманты вызначылі характар узаемаадносін прадстаўнікоў двух нацый, двух моў, двух культур? Думаецца, не толькі.

Несумненна, Якубу Коласу падабалася Сомава і як жанчына. Маладая кабета (маладзейшая за паэта ажно на 30 гадоў), маці двух хлопчыкаў-янтарыкаў (так называў Якуб Колас яе загарэлых на паўднёвым сонцы дзетак), сярэдняга росту шатэнка з нейкімі незвычайнымі васільковамі вачыма (Эдзі Агняцвет запомніла яе такой), яна была надзвычай вабная той красой жанчыны-маці, якую ў сваіх вершах услаўляў яшчэ Максім Багдановіч. Пачуццё, якое ўзнікла ў нашага паэта, відаць, найдакладней можна акрэсліць словам «захапленне» (па-руску — увлечение) або словам «любоў» у яго беларускім значэнні (у адрозненне ад «кахання»). Менавіта ў такім — беларускім — значэнні гэтае слова, толькі ў рускім напісанні і вымаўленні, і выкарыстоўваў Якуб Колас у сваіх вусных і пісьмовых, вершаваных і празаічных зваротах да Святланы Сомавай. Менавіта гэтае пачуццё выклікала цэлы шэраг цёплых, прачулых лірычных вершаў паэта ваеннага і пасляваеннага часу, што ў *тых* умовах без *гэтага* пачуцця было б немагчымым. І Святлане Сомавай у значнай ступені мы павінны быць абавязаны пашырэнню жанравага дыяпазону паэтычнай творчасці Якуба Коласа, які да гэтага часу быў вядомы ледзь не выключна як майстар грамадзянскай ды пейзажнай лірыкі. У

асабістым архіве рускай паэтэсы захаваліся тры дзесяткі арыгіналаў коласаўскіх лірычных вершаў, якія беларускі паэт пісаў — побач з творамі антываеннага, антыфашысцкага характару, — але якія ва ўмовах ваеннага часу, дый напружанага пасляваеннага аднаўлення народнай гаспадаркі не маглі быць надрукаваныя, пісаліся «ў стол». Зразумела, без пэўнага пачуцця, адпаведнага настрою яны і не маглі быць напісаныя. А гэтыя пачуцці, гэты настрой (і далёка не заўсёды вясёлыя і радасныя) выклікалі ўзаемаадносіны з Святланай Сомавай...

Многія вершы, адрасаваныя Сомавай, утрымліваюць у загалоўках яе імя. Першы з такіх вершаў — жартоўная караценька «Святлане», напісаная 27. XII. 1942 г. на невялікім лістку паперы як самаэпіграма Якуба Коласа на яго няўдалы малюнак чорта (паэт маляваў чорта па просьбе Святланіных дзяцей):

*Відаць, твой лёс ужо такі —*
*Як ні стараюся, дарма:*
*Няважны чорт, няма рукі*
*І выгляду чартоўскага няма.*

Прозвішча, імя Сомавай (або іх крыптанімы) упамінаюцца ў загалоўках і іншых вершаў беларускага паэта (падаю творы ў іх храналагічнай паслядоўнасці): «Святлана» («...Ці то вечар, ці то рана»), «С. С-й» («...Адступілася радасць мая ад мяне»), «Святланін кут», «Святлане» («...Усё, што поўніла мне сэрца»), «З Святланы Сомавай» («...Празрыстае неба, зялёны грудок»), «Яшчэ раз Святлане». Рукапісы многіх іншых вершаў сведчаць, што яны былі першапачаткова прысвечаны, а магчыма, і прызначаліся Святлане Сомавай: «Чымган. С.С-й», «У Чымгане. С. С.», «Мая просьба. Светлане (Последней весне)», «На восеньскі лад. С-не С-вой», «Крынічка (С. С.)», «Чую голас. С. С.)», «Хваля. С.С.», «Салар (Светлане С.)», «Зорка» (Святлане Сомавай), «На апошняе развітанне. Святлане Сомавай». Ды і тыя творы, у назвах і прысвячэннях якіх не ўпамінаецца Сомава, але рукапісы якіх народны паэт падараваў сваёй сяброўцы, несумненна, у значнай, калі не ў выключнай ступені ўзніклі ў выніку кантактаў з ёй: «На развітанне», «Песня ў бяссонне самому сабе», «Узбекістану. На развітанне», «Слова (Акраверш)», «...І неба хмурна пазірае», «Арол», «Маёй Вясне», «...Бывае музыка і ў стуку», «На развітанне», «...У хвалях няспыннага руху», «...Бліснýць у бяздонні вячэрнія зоры», «Мой дом».

Дарэчы, гэтыя вершы не толькі значна паглыбляюць жанравы струмень лірыкі Якуба Коласа, але і пашыраюць яе відавы дыяпазон. Так, верш «...Бліснýць у бяздонні вячэрнія зоры» напісаны секстынай — арыгінальнай шасцірадковай страфой з рыфмоўкай АББАБА. Дагэтуль такой страфой у спалучэнні з чатырохстопным амфібрахіем Якуб Колас не карыстаўся. Кантакты з Сомавай прывялі і да ўзнікнення ў творчасці паэта акраверша. Вось яго акраверш «Слова», у якім па вертыкалі прачытваецца імя «Светлана»:

**С**лова — радасць, слова — чары,
**В**образ вечна юных вёсен!
**Е**сць ты ўсюды: ў сонцы, ў хмары,
**Т**ы глядзіш праз неба просінь.
**Л**ашчыш слух мой, слова-ззянне,
**А**туляеш сэрца ласкай.
**Н**оч і вечар, дзень, світанне
**А**бняло ты, слова-краска.

Калі акраверш — не навіна ў беларускай паэзіі, то ўжо прысвечаны Святлане Сомавай акраверш-санет «Зорка» з'явіўся першай такой формай верша за ўсю больш чым паўтысячагадовую гісторыю існавання беларускай пісьмовай вершатворчасці:

**С**веціць мне зорка з бяздонных глыбінь.
**В**ечнае неба таемна-прыгожа.
**Е**сць нейкая сувязь, няспынная плынь,
**Т**олькі ім назвы, імя не знаходжу.

**Л**аскава кажа мне зорка: спачынь!
**А**х, мой вандроўнік, суцішся, нябожа!
**Н**осіш ты ў сэрцы жальбу далячынь,
**А**там журботны ў святым падарожжы.

**С**ветлая зорка, ты ярка гарыш,
**О**дум мой горкі ўзнясі ты на крыж,
**М**не ж падары ты радасць спакою!

**О**, не, ты далёка, халодны твой жар.
**В**ечар мой нікне пад полагам хмар.
**А**рфа разбіта — чыею рукою?

Тут, у адрозненне ад папярэдняга акраверша, прачытваецца ўжо і прозвішча адрасата твора: **Светлана Сомова**.

Можа ўзнікнуць пытанне: ці ведала пра кантакты з Сомавай жонка Якуба Коласа Марыя Дзмітрыеўна, як да іх адносілася? Ведала. Гэтаму знаходзім пацвярджэнне, у прыватнасці, у дзённіках паэта: «Беглі з Марусяй наперагонкі к тэлефону: званіла С.» (1. IV. 1943); «Маруся купіла на рынку тытуню. Яна спаткалася з С.» (24. IV. 1943); «Дрыгву» і «Палескую глуш» у маю адсутнасць прыносіла С. Потым яна заходзіла развітацца. Сабралася на провады шмат народу [Якуб Колас ад'язджаў у Маскву. — **В.Р**.]... Машыну далі з ЦК... Да Першамайскай падвезлі С.» (18. V. 1943). Часамі (і гэта можна зразумець) мужава захапленне выклікала ў жонкі і пэўную рэўнасць, пра што сведчыць тая ж «Кніга Ташкенцкага быцця»: «Маруся захварэла. Ніколі такой цяжкай хваробы ў яе не было. Прычына... ну што казаць? Можа, нават і я прычына» (запіс ад 10. VI. 1943). Але тут жа Канстанцін Міхайлавіч адкрыта і шчыра (бо запіс не для іншых) прызнаецца: «Мая бедная Маруся! Як блізка да сэрца яна ўсё прымае. Не ведае, што **больш дарагога чалавека за яе ў мяне нікога на свеце няма**» [падкрэслена мною. — **В. Р**.]. І гэта былі не проста словы. Так, у адным з лістоў да той жа Святланы Сомавай, калі ўжо не стала Марыі Дзмітрыеўны (памерла яна 21 мая 1945 года), паэт пісаў: «Час ідзе, а мой востры боль цяжкай страты спальвае мяне, і калі я гавару пра свайго страчанага сябра, мне трудна стрымаць слёзы. Маё жыццё неяк зблякла і згубіла для мяне ўсялякую цікавасць. Хаджу і езджу па вуліцах спаленага і разбуранага Мінска, а вакол поўная адзінота». У іншых лістах Якуб Колас называе сваю жонку «найшчырэйшым сябрам», «самым вялікім у жыцці сябрам» і г.д. Такім чынам, ён выразна ў сваіх інтымных пачуццях аддаваў перавагу сваёй першай і адзінай жонцы. Са свайго боку, Марыя Дзмітрыеўна ўвогуле спакойна, з разуменнем паставілася да мужавага захаплення (ён жа — натура паэтычная, а хто з паэтаў не падаў на калені перад жаночаю красой!). Святлана Аляксандраўна мне расказвала, што адносіны паміж імі, двумя жанчынамі, былі ўвогуле ветлівыя, прыязныя. Калі Марыя Дзмітрыеўна захварэла, яны з Якубам Коласам хадзілі ў шпіталь праведваць яе. А калі яе самую на некалькі месяцаў паслалі на фронт выступаць перад байцамі, то, з другога боку, Марыя Дзмітрыеўна нават узяла своеасаблівае шэфства над яе дзеткамі: сушыла сухары і прыносіла ім. «Ды і якія іншыя адносіны маглі быць, калі мы з Якубам Коласам былі адно сябрамі, заўсёды захоўвалі пэўную дыстанцыю, звярталіся адзін да аднаго на «Вы». І не толькі пры жыцці Марыі Дзмітрыеўны, але і пасля яе смерці». Цікавыя такія факты ўзаемаадносін беларускага песняра і рускай паэтэсы (з успамінаў Сомавай). У пачатку 50-х гг., пасля разводу з мужам, Святлана Сомава з дзецьмі пераехала ў Маскву. У час прыезду Якуба Коласа ў сталіцу краіны (на сесіі Вярхоўнага Савета, пасяджэнні камітэта па Сталінскіх

прэміях, пленумы Саюза пісьменнікаў СССР і інш.) яны часам сустракаліся. Вось два факты, якія гавораць пра многае, у прыватнасці, пра своеасаблівую дыстанцыю паміж імі, наладжаную не столькі *ім*, колькі *ёй*. Аднойчы ў час іхняй сустрэчы паэт прапанаваў разам сфатаграфавацца. Ішлі яны якраз міма фатаграфіі. Сомава адмовілася. Іншым разам, у той жа гасцініцы «Москва» ў кіёску ляжала вельмі прыгожая брошка: чорны агат з нейкім беленькім каменьчыкам. Якуб Колас хацеў купіць яе і падараваць. Сомава адмовілася. «І не шкадуеце цяпер?» — помню, запытаўся я. — «Шкадую да гэтага часу. Дурная была, маладая, залішне гордая, баялася быць залежнаю... Хоць бы нейкая матэрыяльная памятка засталася пра Якуба Коласа». І сказанаму Святланай Аляксандраўнай я веру...

Хаця, трэба сказаць, чамусьці хочацца верыць і Фрыдрыху Ніцшэ, які ў сваёй славутай кнізе «Так гаварыў Заратустра» выказаўся пра жанчыну так: «Занадта працяглы час у жанчыне пакутаваў раб і тыран. Таму яна не здольная да сяброўства: яна ведае толькі каханне. У каханні яе заўсёды ёсць несправядлівасць і слепата да ўсяго таго, што не патрабуецца ёй. Але і ў свядомым каханні жанчыны ёсць і раптоўнасць, і маланка, і цемра побач са святлом. Пакуль яшчэ не здольныя жанчыны да сяброўства: але адкажыце вы мне, хто з вас здольны да яго?». Менавіта гэтыя якасці жанчыны нярэдка выклікалі даволі цяжкія душэўныя перажыванні Якуба Коласа, асабліва ў апошняе дзесяцігоддзе ягонага жыцця, і былі звязаны найперш (хаця, як мы цяпер ведаем, не толькі) з Святланай Сомавай. «Пазнаў я мукі, боль і сум Бясплоднага спаткання», — у гэтых радках з верша «На апошняе развітанне. Святлане Сомавай», напісаных паэтам за год да яго смерці, цудоўна выяўлена сутнасць тых душэўных рухаў і зрухаў, якія ён спазнаў у перыяд сваёй «трэцяй маладосці» (М. Рыльскі). Але ж сапраўдная паэзія (як і літаратура ўвогуле) і вырастае якраз з мукаў, болю і суму! З радасці таксама, але не часта і не з суцэльнай радасці. Пра што сведчыць і творчая спадчына самога Якуба Коласа.

Ніжэй публікуюцца лісты народнага паэта Беларусі да Святланы Сомавай, а таксама асобныя, раней не друкаваныя вершы, адрасаваныя ёй. Заўважу, што недзе ў самым канцы 50-х або ў пачатку 60-х гг. Сомаву расшукаў у Маскве сын Якуба Коласа, тагачасны дырэктар Дзяржаўнага музея Якуба Коласа Даніла Канстанцінавіч Міцкевіч. Святлана Аляксандраўна (па яе словах) дазволіла яму перафатаграфаваць коласаўскую рукапісную спадчыну (невядома толькі, ці ўсю). Пасля гэтага асобныя вершы з гэтай спадчыны з'явіліся, у прыватнасці, у «ЛіМе» (1962, 9 кастр.), «Полымі» (1960, № 5; 1962, № 6), пазней — у 2-м томе Збору твораў Якуба Коласа ў 14-ці тамах, асобныя лісты — у 13-м томе гэтага ж Збору твораў. На жаль, падрыхтоўка да друку вершаў і — асабліва — лістоў ажыццёўлена не па правілах тэксталагічнай навукі. З вершаў зняты прысвячэнні, часам зменены іх назвы, зафіксаваныя ў коласаўскіх рукапісах. З усіх вядомых лістоў паэта да Сомавай (на жаль, не ўсе з іх выяўлены) надрукавана крыху больш як палова, ды і ў іх зроблены тыя ці іншыя купюры, прычым без пазначэння месца гэтых купюр прынятым у тэксталогіі знакам [...]. Што датычыць дадзенай публікацыі, то ў ёй узноўлены пропускі ў коласаўскіх лістах. Гэтыя пропускі, а таксама тэксты з невядомай дагэтуль эпісталярнай і вершаванай спадчыны песняра (якія не ўвайшлі ў 14-томнік паэта), набраны курсівам. Застаецца дадаць, што копіі Коласавых твораў я зрабіў на кватэры Святланы Сомавай 12 сакавіка 1988 года.

## ЛІСТЫ ЯКУБА КОЛАСА ДА СВЯТЛАНЫ СОМАВАЙ

Клязьма, 29.XI 1944 г.

*Милая, дорогая Светланочка, мой далекий прекрасный друг!*

*Все же я больше пишу Вам, мой хороший друг, чем Вы мне.* 24/XI из Москвы я отправил Вам письмо заказным. Письмо писал еще в Узком. 23 ноября я выехал из Узкого. Несколько дней провели в Москве и только вчера, 28 ноября, приехали в Клязьму. Я даже думал вовсе не возвращаться в Клязьму, а устроиться где-нибудь в Москве, в гостинице. Но сейчас это чрезвычайно трудно. В Клязьме я почувствовал свою оседлость и почву под ногами, и мне стало веселее, так как в Москве приходилось быть все время на ногах и почти весь день ходить одетым. Я же вовсе не городской человек. Городской шум, движение меня очень утомляют. Все время приходится быть в каком-то напряженном состоянии. Даже некогда подумать, помечтать. Московские концы длинные, а дни сейчас короткие, темные. И весь мир в такие дни представляется темным, утопающим во мраке. Погода отвратительная, гнилая. Проходит снежок, потом надвигается туман.

30/XI. Так и не докончил вчера начатое письмо. *Просмотрел сегодня — хочется все написанное перечеркнуть и написать только одно или два, самое большее — три или четыре слова: «Как Вы дороги мне!». «Как я люблю Вас!». Ведь этим я живу, а если не говорю об этом, то только из скромности. Хотел бы, чтобы Вы всегда помнили об этом и не говорили о сухости моих писем. Такой упрек мне очень горек. Поэтому разрешите мне писать обо всем, сумбурно и бестолково, вот так, что приходит в данный момент в голову.* По приезде в Клязьму я получил письмо от Ташкентского радиокомитета. Просят откликнуться на 20-летие Узбекской республики. Постараюсь сегодня же, завтра написать хоть небольшое приветствие, но горячее, идущее от сердца. Ведь Узбекистан я вспоминаю часто и с удовольствием, *потому что в Узбекистане я обрел моего лучшего, прекрасного друга, пленившего все мои мысли и лучшие чувства, и он всегда неразлучно со мной.* Сегодня погода улучшилась — немножко подморозило, посветлело. Туман, угнетающе действующий на сердце, на настроение, исчез. Но небо остается однообразно серым, хмурым. Мне сейчас представляется Пушкинская улица в Ташкенте. Я иду по ней в сторону Асакинской площади. Передо мной высятся горы, покрытые ранней весной и осенью кристально чистым снежным покровом. Небо бесконечно глубокое, голубое, ясное. *Я иду и думаю: а не повернуть ли вправо? не пройти ли по Ульяновской улице? И часто, подчиняясь своему сердцу, сворачиваю с прямой дороги...* Узбекистан вспоминается особенно ярко теперь, когда впереди вся зима, четвертая военная зима. Забывается узбекское знойное лето. Остаются только ясность, солнышко, цветы, пряный запах неведомых мною южных растений. *И все это — только декорация, а самое основное, главное и дорогое это — Вы, мой милый друг. Я, уезжая из Клязьмы в санаторий, просил девушек на почте оставлять письма до моего приезда. Но они, очевидно, забыли об этом и выдавали письма обычным чередом. У меня была надежда, что на почте как-нибудь останется письмо от Вас. Но его не было. За время пребывания в Узком я получил два письма от Вас, милые, хорошие, сердечные, да две телеграммы. Но я очень жадный, и мне немножко грустно, что нет еще от Вас письма.* Я знаю, Вы очень заняты в связи с предстоящим праздником, *но, Светланочка, удосужьтесь написать хоть краткое письмо. Напишите, как с И. А.*[1] *Были ли какие-нибудь разговоры и т. п.* Как здоровье Ваших сыночков? *Целуйте их.* Привет им.

Я собираюсь в Минск в конце декабря. Послал туда запрос. Переезд хоть не далек, но довольно труден.

*23*[2] ноября умер наш белорусский писатель Кузьма Чорный. Это — лучший наш прозаик. Прекрасный человек. Белорусские писатели понесли за войну тяжелые утраты.

*Пишите, моя милая Светланочка, мой далекий, бесконечно дорогой друг.*

*Поделитесь Вашей поэзией: я очень люблю ее и высоко расцениваю.* Перебирая бумаги, нашел Ваши переводы узбекских поэтов, Зульфии, Алимджана. Нашел Ваше стихотворение о войне. Напишите, приедете ли в Москву и когда.

*Много напишите о себе, моя радость.*

*Всего наилучшего. Крепко-крепко жму Вашу руку, целую Вас.*

Пишите.

Якуб Колас

Минск, 6.XII. 1944 г.

*Милая, славная, хорошая, дорогая Светланочка!*

Еще на семьсот пятьдесят километров отодвинулся я на запад от Ташкента. *Но в моих мыслях Вы еще ближе мне.* Случилось так, что первого декабря ко мне прибыл посланный человек и сообщил — собираться в Минск, чтоб в пять часов вечера 2 декабря быть в вагоне. В значительной мере ломались мои планы, т. к. я предполагал ехать в Белоруссию в конце декабря. Задерживали издательские дела. На 3-*е* декабря я уговорился с одним московским поэтом встретиться в Клязьме для работы. Пришлось спешно укладываться, чтоб подготовить вещи для отправки в Москву грузовой машиной. Уехал я из Москвы 3 декабря. Сегодня, 6-*го*, я сижу в своем новом пристанище. Дом в темноте. Горят две плошки, так называемые «свечи Гинденбурга», будь они прокляты. Писать при них человеку с притупленным зрением невозможно.

8. XII. Мое письмо по форме напоминает дневник. В тот вечер продолжать писать письмо было невозможно из-за отсутствия света. А в следующий день вообще не мог взяться за перо. Если бы Вы посмотрели на ту обстановку, которая меня окружает, на те мелкие дела, которые надо как-то устроить, то Вы, *мой дорогой друг, оправдали бы меня и* не судили бы строго за пестроту моего письма. Минск представляет страшную картину разрушения. Но ведь уже много сделано для того, чтобы расчистить город от гнетущих руин. Одно только радостно — люди горят желанием скорее восстановить свою столицу. Подготовительные работы для этого на полном ходу. Я также хлопочу, устраиваю свое новое жилище. Его надо утеплить, обставить необходимыми вещами, осветить. А дни сейчас самые короткие и самые темные в году. Встретили меня здесь очень радушно и помогают мне, как только могут в этих трудных условиях жизни всей нашей республики. Уже три ночи ночевал здесь. Мой домик небольшой: четыре маленькие комнатки и миниатюрная кухня. Тепло быстро уходит в потолок. Но каждый день я кое-что успеваю сделать для того, чтоб в домике можно было жить удобно. Сегодня я получил легковую машину, малолитражку. Шофер — тот же, что был до войны. Парень он очень хороший и машину приведет в образцовый вид. Мне же машина необходима, так как до центра города надо пройти километров пять. Живу я на окраине. Моя хата стоит в маленьком леску, в окружении сосен. Со мной приехал Даник[3]. М. Д.[4] пока осталась в Москве. Ей надо побывать у врачей. М[ожет] б[ыть], ей даже придется лечь в больницу. Все это очень сильно отражается на моем настроении. Лягу спать, и сон долго не смыкает мне глаз. Я гляжу в темное окно. По небу проплывают далекие отблески проходящих автомашин. Их гудки еле-еле долетают до моего слуха. Изредка долетают гудки паровозов. Где-то жизнь идет своей дорогой и нарушает безмолвие этого тонущего в зимней мгле моего уголка. И куда только не заносят меня мои мысли! Я думаю о дорогих мне людях, о их тревогах и радостях. И я думаю, как бы я высоко поднял бы их, как щедро одарил бы их радостями, если бы все это я мог сделать... Дни уходят, успеваешь сделать немного. Ночи долгие. Остаются с тобой одни только твои собственные думы. И я благодарен им за то, что они уносят меня за многие тысячи километров — и туда, где я жил впервые под новым ясным и жарким не-

свой твор сферу аб'ектыўную, матыў трагічнасці свету наогул. Згодна Камю, чалавек павінен бунтаваць, чалавек бунтуе заўсёды, бо ў гэтым сэнс яго існавання. Бунт двух быкаўскіх герояў супраць грамадства, супраць абставін, у якіх яны апынуліся, у пэўным сэнсе сцвярджае чалавечую салідарнасць у барацьбе супраць зла. Чалавек, на думку Камю, рэалізоўваючы свае задумы, звяртаецца перш за ўсё да акружаючага свету, але раўнадушша і варожасць яго не даюць асобе магчымасці зразумець наўкольныя падзеі ў поўным аб'ёме. В. Быкаў «бунтуе» супраць сацыяльнай несправядлівасці, дзе «моцныя свету гэтага», вобразна кажучы, зневажаюць чалавечую годнасць, варожа ставяцца да людзей увогуле. Абсурд, закладзены ў аснову творчых намераў беларускага пісьменніка, мае сацыяльна глыбокія карані. Раней героі Быкава абсурд не прымалі ніколі, нават тады, калі разумелі сваё паражэнне, бо, прайграючы сёння, у «цяперашняй» сітуацыі, спадзяваліся на будучае. «Пісьменнік пакідаў за імі такое права — спадзявацца і верыць», — падкрэслівае ў гэтай сувязі літаратуразнаўца В. Локун. Ні ў салдата, ні ў бамжа з «Ваўчынай ямы» гэтай надзеі няма. Героі імкнуцца зразумець прыроду абсурду, яго ўздзеянне на людзей. «Было крыўдна на сваю няўдалую долю — і чаму гэткая дасталася яму? Чаму ён трапіў да гэтага гада Дробышава?.. Мала было бяды ў палку, дык яшчэ ўлез у гэтую страшную зону». Абсурд у тым, што малады «нармальны» хлопец павінен стаць ахвярай радыяцыі, зрабіўшыся ахвярай Чарнобыля з-за жорсткасці і абыякавасці іншых. Але ж больш нідзе не было магчымасці схавацца салдату, які апынуўся без грошай, без падтрымкі, без заступніцтва. Свет, па сутнасці, «шпурлянуў» яго ў зону, з якой выйсця да жыцця ўжо не было. Іншы герой Быкава, бомж, служыў сабе ў войску, выконваў усё, што патрабавалі, быў неблагім «тэхнаром», але ўсё таксама парушылася. Зараз ён вымушаны цяжка паміраць у ваўчынай яме, шчодра аздобленай радыенуклідамі, таму што не знайшоў сабе месца ў тым, «нармальным», жыцці. Герой В. Быкава не стаў шчаслівым, як Сізіф А. Камю. Ён ізаляваны і ў грамадскім, і ў духоўным планах. Аднак чалавек урэшце хоча зразумець, навошта ж ён жыў, дзеля чаго працаваў, пакутаваў, з-за чаго ўрэшце так цяжка і бясслаўна памірае?

Пытанні памнажаюцца, але адказу на іх няма. Калі Сізіф лічыць сябе пераможцам над сабой, над багамі, над абставінамі, то героі Быкава нічым гэтым пахваліцца не могуць, таму што свет адштурхнуў іх назаўсёды. І бунт гэтых адрынутых людзей супраць грамадства гэта зусім не тое, што бунт Сізіфа супраць багоў. Апошні, не просячы літасці, нават сам выбірае сабе пакаранне: ягоны ўзыход на гару, а затым вяртанне да сваіх пакут сталіся ўрэшце перамогай. Іншае ў «Ваўчынай яме» беларускага пісьменніка.

Сваёй аповесцю аўтар патрабуе ад людзей, ад грамадства, ад усяго свету адказу за трагедыю сваіх суайчыннікаў, патрабуе адказу ад тых, па чыёй віне салдат, бомж і тая ж наркаманка апынуліся ў зоне, ад тых, па чыёй віне «зона», дзе раней была і прырода «чыстая», і людзі не гінулі, сталася сімвалам трагедыі. Абсурд яшчэ і ў тым, што быкаўскія героі не адны ў сваёй бядзе. Навакольны жывёльны свет таксама пакутуе ад радыяцыі, і чалавек, які пэўны час жыў у згодзе з прыродай, разумее жудасны канец наваколля. Сам свет прыроды, вядома, не абсурдны. Але ж такім яго зрабілі людзі. Тыя, хто вінаваты ў чарнобыльскай катастрофе. І калі для герояў экзістэнцыяльнай літаратуры, для герояў ранейшага Быкава сувязі з навакольным светам не вызначаліся драматызмам, то зараз пісьменнік малюе трагічную карціну занямоглай абсурднай прыроды, якая стала небяспечнай для ўсяго жывога. Гаспадар лесу воўк сёння не тое што наганяе страх на кагосьці, але найперш і сам, адчуваючы слабасць, бянтэжыцца ад нечаканай сустрэчы з чалавекам. Гэта ўжо воўк, у якім не прыкмячалася ніводнай «прыкметы драпежнасці». Замест яе — толькі «адчай і бяссілле». І салдату падумалася, трывожна і балюча: «Нават воўк! Хіба такі павінны быць нармальны воўк у летнім нармальным лесе?» Так, прырода мутуе, побач з чалавекам толькі анамаліі жывёльнага свету ў выглядзе вужакі-мутанта ці пакалечаных жаб; і герой Быкава ўжо прадчувае, што недзе блізка — канец. Салдату наканавана згінуць, таму што абсурд захапіў душы людзей, знявечыў іх мараль, спараджаючы намаганні рабіць ізгояў з сябе падобных. І салдату, і бамжу не хочацца пайсці з жыцця, але ж і жыць немагчыма: выбрацца з зоны азначае апынуцца за калючым дротам.

В. Быкаў адмаўляецца ад аптымізму. Нават аптымізму трагічнага. Надзея на

жыццё, па словах аднаго з быкаўскіх герояў апошняга часу, «увачавідкі змарнела і раптам сканала». Пры асэнсаванні твора бачыцца песімістычная бесперспектыўнасць будучыні. Героі «Ваўчынай ямы» зглумлены сацыяльнымі катаклізмамі. Непазбежнасць блізкай смерці зрабіла сувязь бамжа, салдата, селяніна са светам трагічнай. Успрыманне свету пісьменнікам акрэсліваецца ў песімістычныя тоны. Пануе паглыбленае адчуванне той адзіноты, што набывае формы трагічнай раз'яднанасці чалавека са светам. Чалавек аказваецца ў ізаляцыі ад грамадства, для яго існуе толькі ўласнае «я»; ён замкнёны ў сабе: выйсця няма, няма надзеі. «...Палёгкі ён сабе не прыдбаў, а становішча пагоршыў. Як і ў жыцці, думаеш нешта зрабіць, каб лепш, а робіцца наадварот — яшчэ горш... Ён пляваў на ўсё і на ўсіх на свеце, ён стаў жыць толькі ўласным клопатам і ні на каго не зважаў...» Такія сумныя думкі вярэдзяць душу бамжа перад смерцю. Як у Сартра, чалавек у адзіноце наканаваны несці на сваіх плячах увесь цяжар свету. Героі Быкава, па меркаванні І. Запрудскага, «...загнаныя ў амаль безальтэрнатыўны тунель, з усіх бакоў акружаны сцяной безнадзейнасці пры адсутнасці спадзявання на святло ў яго канцы... Усе яны ўцекачы ад невядома кім збудаванага і варожага ім нялюдскага свету, дзе не толькі слабым і кволым, але і сумленным няма месца» (Роднае слова. 1999, № 1). Аўтар аповесці пазбаўляе герояў надзей на жыццё. І хоць ніхто не жадаў смерці, жыць у жорсткім свеце немагчыма. Людзі аказаліся ў пастцы, у сапраўднай ваўчынай яме, і нікому іх адтуль ужо не выззваліць. І бомж, і салдат становяцца ахвярамі жыцця і ахвярамі Чарнобыля. Герой быкаўскай аповесці з сумам канстатуе: «Жыццё нядаўна яшчэ здавалася такое нясцерпна доўгае, а аказалася кароценькім, як заечы хвосцік... А гэтага няўдакухлопца таксама скруціць тая ж самая радыяцыя, што даканала яго. На самым пачатку ягонага маладога жыцця». І далей бамжу думаецца аб тым, што жыццё, якое б яно ні было, усё ж «самае каштоўнае ў свеце перад чорным правалам канца».

У апошніх сваіх думках другі герой аповесці, малады салдат, разважае таксама даволі няўцешна, да таго ж невыразныя праблескі шкадавання ўжо марныя: «Можа, не трэба было б хавацца, уцякаць, можа, лепш, каб яго знайшлі. Вядома, і пакаралі...» Так, і адзін, і другі нарадзіліся, каб жыць прыгожа і змястоўна. Адзін бачыў сябе героем войска, абаронцам Айчыны, прафесійным ваенным. Ды і другі паспеў зрабіць у жыцці шмат карыснага. Але вось ужо гасне святло. Падыходзіць смерць. Фініш жыцця. Дык, можа, абвострана ўспрымаючы апошнія хвіліны яго, героі шкадуюць аб зробленым? Можа, і праўда, лепш было б жыць, хай сабе і з сорамам, і з абразай, змірыўшыся з чалавечай абыякавасцю, раўнадушшам да чужога гора?

Пытанні, на якія можна адказваць па-рознаму. Але ў быкаўскіх герояў пераважае амаль ці не паталагічная прага ўласнай свабоды. Сартр даказваў, што супраціўленне чалавека знешнім перашкодам мае значэнне толькі ў свабодным выбары і праз свабодны выбар. Чалавек выбірае сам, прымаючы на сябе ўсе магчымыя вынікі свайго дзеяння. Герой В. Быкава таксама зрабіў свой выбар: «Ён не хацеў жыць брыдка, прагнуў сумлення і чысціні». Паміж героямі «Ваўчынай ямы» і грамадствам — быкаўская «сцяна», якая закрыла ад бамжа, ад салдата, ад селяніна жыццёвае святло. Гэта трагедыя не толькі канкрэтна азначаных аўтарскіх герояў, якія гінуць ад радыяцыі. Гэта трагедыя народа, нацыі, усёй краіны. Куды падзецца нармальнаму чалавеку? Дзе хавацца ад людской сквапнасці, несправядлівасці, чэрствасці, ад грамадства, дзе людзі пазбаўлены права заставацца людзьмі і дзе ўладараць прагматыкі, рабаўнікі, гвалтаўнікі, лгуны, падхалімы? У — зоне. Тут, да прыкладу, нарэшце «нацешыўся» сваёй звыклай справай нават селянін, які «...нажыўся на восьмым дзесятку... хоць позна, але дачакаўся сваёй пары... Займеў гаспадарку... Рабіў... Дзень і ноч... Затое і меў. Што зрабіў — тваё». Але ж Чарнобыль... Малако, зерне, трава — усё тут забруджана радыяцыяй.

Усе быкаўскія героі, і селянін, і бомж, і салдат, праклінаючы Чарнобыль і добра ведаючы, што жыццё ў зоне пагражае толькі смерцю, усё роўна натуральна імкнуцца нават у сваёй зоне адгарадзіцца ад людкога пачварства. У іх нават не заўважаецца імкнення стаць такімі, як усе. Сартр адзначаў, што свабода ёсць праклядце, але ж яна і адзіны выток чалавечай велічнасці. Паводле Сартра, быць свабодным значна цяжэй, чым адмовіцца ад свабоды, таму што чалавек павінен ісці супраць цячэння, каб не быць падобным на іншых. Сапраўдная свабода нараджаецца ў свеце духоўнага жыцця асобы. Героі «Ваўчынай ямы» жывуць сярод прыроды, у небяспечных умовах. Але яны не пустыя духоўна, што сцверджана многімі старонкамі аповесці.

УЛАДЗІМІР КАЗБЯРУК

# ЗОФ'Я ТШАШЧКОЎСКАЯ (АДАМ М-скі)

У гісторыі беларускай літаратуры XIX стагоддзя 70—80-я гады ўяўляюць сабою як быццам белую пляму. Пасля прыкметнага ажыўлення і ўздыму напярэдадні паўстання 1863 г., пасля з'яўлення значнай колькасці вершаў, паэм, паэтычных аповесцей (быліц) і п'ес па сутнасці наступіў перыяд літаратурнага застою ці нават заняпаду. Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, буйнейшы пісьменнік той эпохі, вымушаны быў хаваць ад чужога вока свае творы, некаторыя з якіх да нас так і не дайшлі. Францішак Багушэвіч яшчэ не падаў голасу, і толькі ў 1891 годзе адбылася яго першая сустрэча з чытачамі, якім ён ахвяраваў такі незвычайны зборнік, прасякнуты грамадзянскім клопатам і трывогай за лёс свайго народа і яго мовы. Аднак і ў той час з'яўляліся публіцыстычныя больш ці менш значныя творы, пашырaліся ананімныя гутаркі, вялося вывучэнне народнай творчасці, этнаграфіі, мовы, гісторыі народа. Адбываліся тыя працэсы, якія не маглі не аказваць свой уплыў на развіццё беларускай літаратуры. Яна адраджалася насуперак палітыцы царскага самадзяржаўя, нягледзячы на ўсе перашкоды, на небывала складаную палітычную сітуацыю ў Паўночна-Заходнім краі таму, што захавалася жывая мова народа — аснова асноў для развіцця мастацкай творчасці. Ні паланізацыя ў мінулыя стагоддзі, ні русіфікацыя пасля падзелаў Польшчы не здолелі выкараніць жывую беларускую мову ў асяроддзі шырокіх народных мас.

Бясспрэчна, сёння ў нас збедненае ўяўленне аб літаратурным жыцці той пары, таму што паасобныя мастацкія творы — арыгінальныя і перакладныя — згубіліся бясследна, хоць пра іх і захаваліся звесткі ці ў тагачаснай карэспандэнцыі ці нават у публікацыях той або некалькі больш позняй пары. Можна з дастатковай упэўненасцю сцвярджаць, што літаратурнае жыццё не замірала, не заглухла зусім і, нягледзячы на небывала складаныя ўмовы, працягвалася — у асноўным у асяроддзі польскамоўнай інтэлігенцыі мясцовага паходжання. Істотным фактарам літаратурнага жыцця становіцца двухмоўнасць мастацкай творчасці — пераважна польска-беларуская. Пачынальнікамі гэтага працэсу з'яўляліся ў свой час Ян Чачот, Ян Баршчэўскі, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Аляксандр Рыпінскі, іх справу працягвалі Адам Плуг, Уладзіслаў Сыракомля, Вінцэсь Каратынскі, а пад канец стагоддзя — Францішак Багушэвіч, Аляксандр Ельскі, Альгерд Абуховіч, Янка Лучына, Адам Гурыновіч. Побач з імі свае сілы ў літаратуры спрабавалі і менш вядомыя аўтары. Сярод іх асаблівае месца займае Зоф'я Тшашчкоўская, якая публікавала свае польскія творы пад мужчынскім псеўданімам Адам М-скі. Нараджаліся ў яе таксама беларускія песні і пераклады, якіх, аднак, сама яна так і не пабачыла ніколі ў друку.

Адкрыў яе як беларускую паэтэсу польскі паэт і перакладчык Багдан Жыранік, які ў 1921 г. апублікаваў у часопісе «Przymierze» («Пагадненне») цікавы «Нарыс беларускай літаратуры». Ён коратка расказаў польскаму чытачу пра літаратурны працэс у Беларусі на працягу стагоддзяў, ахарактарызаваў творчасць паасобных пісьменнікаў,

прывёў некаторыя беларускія вершы ў выдатным уласным перакладзе на польскую мову. I там ён паведаміў: «...З надзвычайнай лёгкасцю адчувае беларускую душу наш паэт Адам М-скі (Зоф'я Тшашчкоўская). Яго беларускія песні поўныя свежасці і сапраўднай жаночай (у найбольш узвышаным сэнсе гэтага слова) любові да ўсіх, хто пакутуе, каго прыгнятаюць і крыўдзяць. Нягледзячы на бясспрэчную арыгінальнасць твораў М-скага, мы знойдзем у іх водгукі паэзіі ўсіх тагачасных паэтаў Белай Русі. (На жаль, беларускія творы М-скага дагэтуль нідзе не друкаваліся)».

Гэтая інфармацыя праз паўстагоддзе паслужыла імпульсам для мэтанакіраваных архіўных пошукаў, якія далі адпаведны плён. Карэспандэнцыя Зоф'і Тшашчкоўскай, яе пісьмы да Фелікса Зянковіча, Мір'яма (Зянона Пшэсмыцкага) і іншых адкрылі даследчыкам многія цікавыя старонкі культурнага і літаратурнага жыцця якраз у тым асяроддзі, дзе беларускае мастацкае слова, надзейна абапіраючыся на жывыя здабыткі фальклору і спадчыну папярэдніх перыядаў, адраджалася ў творчасці паасобных пісьменнікаў. Гэта датычыць у найбольшай ступені самой Зоф'і Тшашчкоўскай. Яе жыццёвы лёс і творчасць з'яўляюцца паказальнымі для гісторыі беларускай літаратуры таго перыяду, а таксама беларуска-польскіх культурных і літаратурных узаемаадносін. Яны даюць нагляднае ўяўленне аб некаторых надзвычай істотных асаблівасцях небывала пакутлівага адраджэння беларускай мастацкай творчасці пасля гістарычнага катаклізму, які аказаў трагічны ўплыў на развіццё беларускай літаратуры.

У гісторыі польскай літаратуры Зоф'я Тшашчкоўская ўжо даўно заняла заслужанае ёю месца. Яе творы друкуюцца ў адпаведных калектыўных выданнях, падаюцца асноўныя вехі яе біяграфіі. Аднак аўтары гэтых публікацый дапускаюць неаднаразова памылкі, якіх можна было б пазбегнуць, пазнаёміўшыся з карэспандэнцыяй паэтэсы.

Для беларускіх чытачоў знаёмства з творчасцю Зоф'і Тшашчкоўскай і яе жыццёвым лёсам пачалося не так даўно. Між тым спадчына яе і роля ў беларуска-польскім літаратурным асяроддзі заслугоўваюць пільнай увагі нашых даследчыкаў. Пісала яна на польскай і беларускай мовах, у 80-я гады XIX ст. рабіла актыўныя спробы для актывізацыі літаратурнага жыцця, падтрымліваючы адпаведныя кантакты з пісьменнікамі-аднадумцамі і прадпрымаючы намаганні для арганізацыі выдавецкай дзейнасці.

Зоф'я Тшашчкоўская (яе дзявочае прозвішча Манькоўская) нарадзілася ў 1847 г. у невялікім маёнтку Дарагавіца колішняга Слуцкага павета (цяпер Капыльскі раён Мінскай вобласці). З беларускай мовай, якую сама яна назвала пазней «нянькай дзіцячых гадоў», прыйшлі да яе песні і паданні нашага народа.

Паэтычны талент прабудзіўся ў яе рана. I спачатку лёс як быццам пачаў ёй усміхацца. Расла яна ў асяроддзі, у якім мастацкае слова цанілася вельмі высока. Яна была сваячкай Уладзіслава Сыракомлі. У лістападзе 1871 г. яна паведамляла Вінцэсю Каратынскаму: «Родная сястра Людвіка Кандратовіча Альжбета выйшла замуж за Антона Раецкага, майго дзядзьку (брата маці. —**У. К.**). Адсюль паміж нашымі сем'ямі ўстанавіліся цесныя ўзаемаадносіны, і мая маці, Манькоўская, бывала частым госцем і ў Тулёнцы, і ў Залуччы» (мясцовасці, дзе жыў У. Сыракомля). (Цыт. паводле: Тадэвуш Коньчыц. «Сыракомля і маладая паэтка». «Bluszcz», 1917, № 5). I калі ў лютым 1861 г. трынаццацігадовую Зосю прывезлі ў Вільню для вучобы ў прыватнай школе Клячкоўскай, то спыніліся тут у свайго сваяка У.Сыракомлі. У біяграфічнай даведцы пра Зоф'ю Тшашчкоўскую, змешчанай у трэцім томе кнігі «Ksikga wierszy polskich XIX wieku», складзенай Ю. Тувімам і падрыхтаванай да друку Ю. Гамуліцкім, памылкова сцвярджаецца, быццам вучылася яна ў Варшаве. Тая ж самая памылка трапіла і ў трэці том кнігі «Zbiór poetyw polskich XIX w.» Ułoïyi i opracowai Pawei Hertz (Варшава, 1962).

Уладзіслаў Сыракомля неўзабаве даведаўся пра паэтычную творчасць юнай сваячкі. «I неяк дзіцячая песенька,— сведчыць Зоф'я Тшашчкоўская ў тым самым пісьме да Вінцэся Каратынскага,— закранула яго душу. З гэтага часу ён любіў часта бачыць мяне пры сабе, распытваў мяне, жартаваў...

Любіў ён і хваліў мае песенькі, заахвочваў, распальваў сэрца...

Асабліва ўрэзаўся мне ў памяць адзін дзень Вялікадня... Ён мне сказаў, што

сваю чыстую лютню перадасць у мае рукі і што мне суджана спяваць пасля яго ў сіратлівай Літве.

Надышоў дзень маіх імянін, і дарагі мой пясняр перадаў мне напалавіну жартаўлівую, напалавіну чуллівую песеньку». Адбылося гэта 15 мая (н. ст.) 1862 года. Там У. Сыракомля пажадаў, каб дар божы, яе літаратурны талент пераплаўляўся ў песню. А роўна праз чатыры месяцы пасля гэтага «лірніка вясковага» не стала.

Мы яшчэ сёння недастаткова ўсвядомілі сабе тую ролю, якую ў другой палавіне XIX ст. адыграў Уладзіслаў Сыракомля і яго спадчына ў зберажэнні і памнажэнні традыцый беларуска-польскага літаратурнага ўзаемадзеяння. Пад яго непасрэдным і неаспрэчным уплывам фарміраваўся літаратурны талент і Вінцэся Каратынскага, і Зоф'і Тшашчкоўскай, і Янкі Лучыны. Некаторыя моманты гэтага дабратворнага ўздзеяння выразна засведчаны колішнімі даследчыкамі. Тут можна спаслацца на той самы артыкул Тадэвуша Коньчыца «Сыракомля і маладая паэтка», апублікаваны ў часопісе «Bluszcz», 1917, № 5: «У 1851 годзе Сыракомля даведаўся, што ў невялікай адлегласці ў Навагрудскім павеце, у вёсцы Сенна, ёсць настаўнік, які піша вершы і прыгожа іграе на скрыпцы. Гэта быў Вінцэсь Каратынскі, які нарадзіўся ў 1831 г. у Селішчы і памёр у 1891 г. у Варшаве.

Сыракомля запрасіў яго да сябе ў госці і, пазнаёміўшыся бліжэй, угаварыў яго пакінуць настаўніцкую работу і стаць яго сакратаром.

У 1853 г. Кандратовічы вымушаны былі пакінуць Тулёнку і Залучча... яны перабраліся ў арандаваную Барэйкаўшчыну пад Вільняй. З імі перасяліўся і Вінцэсь Каратынскі, які працягваў выконваць абавязкі сакратара Сыракомлі да 1857 года, потым ён пераехаў у Вільню на пастаянны побыт.

Пад светлым і сардэчным кіраўніцтвам Сыракомлі Каратынскі аказаўся адукаваным літаратарам, моваведам і гісторыкам і пазней стаў адным з рэдактараў «Кур'ера Віленскага», «Газеты Варшаўскай» і «Тыднёвіка Ілюстраванага».

Каб аддзякаваць Сыракомлю, Каратынскі ў 1872 г. падрыхтаваў у Варшаве дзесяцітомнае выданне «Паэтычных твораў Людвіка Кандратовіча», прыбытак з якога забяспечыў побыт удаве і сіротам паэта. Рыхтуючы гэтае выданне, Каратынскі апублікаваў зварот з просьбай прысылаць неапублікаваныя творы Сыракомлі... У адказ на гэты зварот ён атрымаў між іншымі ліст з Зарайска ў губ. Разанскай ад п(ані) Зоф'і з Манькоўскіх Тшашчкоўскай...»

Вось фрагменты тэксту гэтага ліста:

*«Зарайск, дня 5(18) лістапада 1871 г.*
*Спявай, малады пясняр, ляці, маладая пташка!*

Такімі словамі, здаецца мне, вітаў Вас, Пане, у колішнія гады наш пясняр сардэчны. У імя гэтых слоў працягваю да Вас здалёк братнюю далонь, бо я лічу сябе Вашай сястрою з яго сардэчнымі адносінамі і благаслаўленнем. І мне ён прадказваў вялікую будучыню, яго словы пранікі мне ў сэрца... Але не аднолькавы наш лёс. Вы мужчынскай сілай і загартоўкай шляхетнага сэрца дасягнулі таго, чаго ён Вам жадаў, і трымаецеся спакойна, упэўненыя ў сабе, карысныя людзям, і падаеце руку дапамогі асірацелай сям'і, а я, як тое кураня, што выгадавалася пад яго крылом, можа, апошнія свае думкі сную...

...Адна рука благаславіла нашаму досвітку. Сёння мы ўшаноўваем памяць любімага песняра, кожны па-свойму. Вы шляхетнай працай па падрыхтоўцы яго твораў для сям'і, а я — усяго толькі сардэчнай слязою».

Колькі часу Зоф'я вучылася ў Вільні — невядома. А неўзабаве яна выйшла замуж за Вацлава Тшашчкоўскага, афіцэра-артылерыста рускай арміі. Яна развіталася з родным асяроддзем і паехала з мужам у Расію. Прыстанішчам іх аказаўся горад Зарайск у Разанскай губерні. Адсюль у 1877 годзе Вацлава Тшашчкоўскага пасылаюць на фронт на Балканы, дзе пачалася руска-турэцкая вайна. Разам з ім паехала ў салдацкім адзенні і яго жонка.

Пра далейшы лёс Зоф'і Тшашчкоўскай польскія крыніцы або маўчаць, або падаюць памылковыя звесткі. У фундаментальным акадэмічным выданні «Obraz literatury polskiej XIX i XX wieku. Literatura okresu Miodej Polski», tom I (Warszawa, 1968) паведамляецца, быццам яна пасля вайны адразу вярнулася ў

родную Дарагавіцу, дзе жыла да канца сваіх дзён. Аўтары і рэдактары выдання не знаёміліся з яе пісьмамі да Фелікса Зянковіча, дзе прыводзіцца шмат асабліва важных і істотных звестак пра яе жыццё і літаратурную творчасць.

Пасля руска-турэцкай вайны на некалькі гадоў яе лёс звязваецца з Ноўгарадам, куды накіравалі Вацлава Тшашчкоўскага, камандзіра 4-й батарэі 22-й артылерыйскай брыгады. І вось тут, у Ноўгарадзе, адбылося, калі можна так сказаць, другое і на гэты раз сапраўднае паэтычнае нараджэнне Зоф'і Тшашчкоўскай пасля тых першых спроб шматгадовай даўнасці.

У час пражывання і вандровак за межамі роднага краю на працягу ўсяго часу не выветрываўся з памяці запавет У.Сыракомлі. Яна пакутавала ад таго, што ўсё ў жыцці складвалася не так, як магло б і павінна было б. І ўсё ж такі наступіў час, калі адбыўся ў яе творчым лёсе доўгачаканы і такі жаданы пералом. Ён наспяваў паступова, можа, нават і не зусім спадзявана, але быў непазбежны. У душы Зоф'і Тшашчкоўскай жыло, не патухала, не рассейвалася пачуццё жалю з прычыны таго, што яна так доўга не давала рады выйсці на дарогу, прызначаную ёй лёсам. Такі вывад можна зрабіць з яе пісьма да Мір'яма (Зянона Пшасмыцкага), датаванага 11/23 верасня 1889 г.: «Калі пішу Табе гэта, перад вачыма паўстае страшэнна змарнаваная ўласная маладосць. Пачаў я пісаць вельмі рана — гадоў можа ў 12, а можа і на пару гадоў раней: песні жаваранкаў і сямейныя беды падштурхоўвалі мяне. Я пакутаваў (і ў мастацкай творчасці і ў карэспандэнцыі з незнаёмымі асабіста пісьменнікамі Зоф'я Тшашчкоўская карысталася мужчынскім псеўданімам Адам М-скі. — **У. К.**) і намагаўся зразумець, што адбываецца ў душах людзей. Памятаю, што бацька і старэйшыя перапалохаліся, знайшоўшы запісаныя мною думкі самагубцы (нехта якраз тады ў блізкім лесе павесіўся). На няшчасце, не звярнулі ўвагі на такое ранняе развіццё думкі...» Сама паэтэса, характарызуючы ў тых успамінах першыя свае спробы пяра, робіць вельмі пакутлівы вывад: «... Была там здольнасць, якой падрэзалі крыллі. Мне не далі адукацыі, якая б адпавядала маім жаданням; пазней я сам усё здабываў, а гэта цвёрдая дарога; потым жыццё прыдавіла — і таму на 10 гадоў я адкінуў пяро зусім да той пары, пакуль неспакойная хваля Дунаю не разбудзіла буру ў галаве».

Спасылку на той балканскі паход можна знайсці і ў пісьме, датаваным 2/14 сакавіка 1889 г.: «Я вяртаўся з турэцкай вайны, замучаны дунайскай ліхаманкай і гарачкавымі галюцынацыямі, хацеў чым-небудзь асвяжыць думку ў знясільваючым дунайскім паходзе; у Кішынёве, у магазіне, на паліцы сярод бутэлек віна, свечак і мыла знайшоў 8 тамоў паэзіі, якія адразу ж у дарозе пачаў перакладаць».

Вось гэта і быў пачатак пералому, які неўзабаве наступіў у Ноўгарадзе. Магло б здарыцца і так, што пасля нейкага ўсплёску творчай актыўнасці паэтэса зноў апусціла б рукі, не знайшоўшы спрыяльнай атмасферы для выяўлення сваіх творчых сіл. Як-ніяк вакол яе было рускамоўнае асяроддзе, чужое ёй па духу, па ўсіх уяўленнях і звычаях. Крыніцай натхнення яно служыць не магло ніяк для паэтэсы, выхаванай у кардынальна адметных традыцыях. Але тут праз нейкі час яна сустрэла чалавека, які натхніў яе, памог стаць на ногі, паверыць ва ўласныя сілы, падтрымаў маральна. Гэта быў Фелікс Зянковіч, чалавек незвычайнага лёсу, колішні ўдзельнік паўстання 1863 г. і затым катаржнік.

Пра тое, як яны пазнаёміліся, Фелікс Зянковіч расказаў у сваёй карэспандэнцыі. Дык вось калі ён пасля ссылкі трапіў у Ноўгарад, то яго знаёмы Францішак Далеўскі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863 года ў Літве і Беларусі, палітычны ссыльны, паведаміў яму, што ў горадзе жыве значная колькасць палякаў на розных пасадах — прытым людзей вельмі паважаных і салідных. «Не жадаючы сабе,— піша Ф.Зянковіч,— многіх знаёмстваў, я прыняў прапанову пазнаёміць мяне з дзвюма сем'ямі. Адной з іх была сям'я Тшаычкоўскіх; ён палкоўнік артылерыі, камандзір 4-й батарэі (...), чалавек не першай маладосці, але якраз у сіле веку, родам з Каралеўства, добра гаварыў па-польску, хаця з дзяцінства выхоўваўся ў Корпусе — і яго жонка, значна маладзейшая, хаця таксама да трыццаці гадоў дажыла, родам з Літвы (...); людзі бяздзетныя, яны пазбягалі ўсякіх афіцыйных узаемаадносін (...), жывуць пераважна толькі самі з сабою, абклаўшыся мноствам выпісаных перыядычных выданняў і кніг (адных польскіх часопісаў ат-

рымліваюць адзінаццаць) і ў акружэнні сціплай групы блізкіх знаёмых, толькі палякаў; нечым яны выдзяляюцца, але абое вельмі сімпатычныя (...). Калі я іх наведаў упершыню — мяне тады парэкамендаваў ім Далеўскі — адразу разгарнулася такая ажыўленая гутарка, прыём быў такі цёплы і просты, што я, замест традыцыйнага максімальнага тэрміну мінут пятнаццаці, гутарыў амаль дзве гадзіны. На наступны дзень ён сам наведаў мяне, доўга сядзеў у маёй клетцы (...); мы высветлілі, што ён добра ведае і памятае Пружаншчыну, бо там служыў ён са сваёй батарэяй, будучы маладым афіцэрам, пад канец пятага дзесяцігоддзя (...), на развітанне моцна запрашалі мяне да сябе. Пазаўчора, карыстаючы з запрашэння, зайшоў да іх пад вечар, маючы намер затрымацца на гадзіну, але мяне не выпусцілі, сама пані арыштавала капялюш, а муж — кульбачку, і так мы гутарылі ўтраіх цэлы вечар да адзінаццаці гадзін, пры гэтым частавалі мяне рознымі прысмакамі, атрыманымі імі з Літвы (...), усюды на сталах ляжалі польскія часопісы, а на сценах віселі карціны польскіх жывапісцаў — так вось я вярнуўся ў свой пакойчык, сагрэты атмасферай роднага краю і бацькоўскай зямлі...» (Асалінэум, 13323 /ІІ, с. 425—427).

У Асалінэум у Вроцлаве пад шыфрам 13326/ІІ захоўваецца біяграфія Фелікса Зянковіча, датаваная 29 студзеня 1963 г. (аўтар — Генрыка Сулэцкая). Нарадзіўся ён 22 верасня 1842 г. (У Энцыклапедыі гісторыі Беларусі называецца дата 2 лістапада.) Бацьку яго, Паўла, адправілі ў рэкруты, але не за ўдзел у арганізацыі філаматаў. Ён нарадзіўся ў 1813 г. і ў 1817 — 1823 гадах не мог яшчэ з'яўляцца студэнтам Віленскага універсітэта. Яго пакаралі за ўдзел у польскім патрыятычным выступленні, калі з'яўляўся вучнем Свіслацкай гімназіі. У гадавіну канстытуцыі 3 мая 1791 года адзін з вучняў напісаў на дошцы: «Няхай жыве канстытуцыя!» Кіраўніцтва школы не магло знайсці вінаватага і збіралася выключыць увесь клас. Тады, ратуючы аднакласнікаў, чужую віну ўзяў на сябе Павел Зянковіч. Тут жа прызнаўся і сапраўдны віноўнік. Абодвух іх здалі ў салдаты.

Маці Фелікса памерла ў час родаў, і выхоўвала яго сястра бацькі. Вучыўся ён у Пружанах, потым у Беластоку, дзе ў 1858 г. закончыў гімназію, будучы ўжо круглым сіратою, бо яго бацька памёр, калі Фелікс меў 13 гадоў. У 1859 г. паступіў у Пецярбургскі універсітэт на прыродазнаўчы факультэт. У 1861 г. вярнуўся дадому, каб уладкоўваць маёмасныя справы пасля адмены прыгоннага права. А канчаткова развітаўся з Пецярбургскім універсітэтам пасля памятных студэнцкіх хваляванняў у 1861 годзе. Сваю вучобу Фелікс Зянковіч працягваў у Парыжы на медыцынскім факультэце. Там ён жыў разам і вучыўся са сваім сваяком Вітальдам Гажычам, будучым удзельнікам паўстання 1863 г.

Неардынарным чалавекам быў Фелікс Зянковіч. Аб гэтым, у прыватнасці, вельмі пераканаўча сведчыць яго роля ў падзеях паўстання. Багатую і цікавую інфармацыю пра яго дзейнасць у той перыяд прыводзіць Генадзь Кісялёў у кнізе «З думай пра Беларусь» (Мінск, 1966), у раздзеле «Па слядах аднаго пісьма М. П. Агарова і А. І. Герцэна» (с. 68—85). Розныя матэрыялы зберагліся і ў польскіх архівах. Вось толькі некаторыя звесткі, запазычаныя з гэтых крыніц.

У сакавіку 1863 г. дваццацігадовы Фелікс Зянковіч прымае дзейсны ўдзел у арганізацыі і ажыццяўленні марской экспедыцыі, якая павінна была даставіць з Англіі зброю і валанцёраў на тэрыторыю Літвы. Узначальваў яе палкоўнік Тэафіль Лапінскі, урадавым камісарам быў Юзэф Дэмантовіч, а яго сакратаром — Фелікс Зянковіч, які ўжо не ўпершыню выконваў адказныя даручэнні кіраўніцтва паўстання. Параход «Уорд Джэксан» («Ward Jackson») з некаторымі прыгодамі з Англіі прыбыў у Швецыю, дзе ўдзельнікаў экспедыцыі чакаў гарачы прыём, банкет і нават неафіцыйная сустрэча з каралём Карлам XV.

На прыёме ў шведскага караля прысутнічаў і А. І. Герцэн. Гаспадар пажадаў пачуць славянскія мовы. Фелікс Зянковіч прадэкламаваў верш Юльюша Славацкага «Гроб Агамемнона». Яго выступленне спадабалася каралю. Услед за ім устаў Герцэн, «чалавек магутнай фігуры і з адпаведным яго выгляду голасам». Ён прачытаў «поўны дынамікі» верш А. С. Пушкіна «Клеветникам России» і «перамог ушчэнт маладзенькага Фелікса Зянковіча» (Бібліятэка Польскай акадэміі навук Асалінэум у Вроцлаве, 13326/ІІ, с. 5). (Праўда, друкаваныя крыніцы гэтай інфармацыі, здаецца, не пацвярджаюць.)

А экспедыцыя на параходзе «Уорд Джэксан» мэты сваёй не дасягнула. На заключным этапе англійскі капітан-наёмнік, спалохаўшыся небяспекі, адмовіўся ад далейшага падарожжа. І з Капенгагена карабель накіраваўся не ў Палангу, а ў Швецыю. Фелікс Зянковіч з горада Мальмэ ў Швецыі падаўся ў Варшаву з інфармацыяй пра вынікі экспедыцыі, а адтуль — у Кракаў. Тут ён атрымаў розныя паперы і грошы для Дэмантовіча: па адных звестках — 2000 рублёў (гл. Г. Кісялёў. «З думай пра Беларусь», с. 77), па іншых — 3000 (Асалінэум, 13326/II, с. 3). Акрамя таго, ён прывёз інструкцыю для Дэмантовіча, дакумент аб прызначэнні яго камісарам Нацыянальнага Урада ў Швецыі, ды і сам атрымаў прызначэнне на пасаду сакратара камісарыята ў Швецыі. Феліксу Зянковічу даручылі яшчэ падаваць звесткі аб польскіх справах у мясцовы друк. У разгар паўстання ён становіцца сакратаром Выканаўчага аддзела Літвы, гэта значыць, памочнікам К.Каліноўскага. На гэтую пасаду ён прыбыў пад прозвішчам Фердынанда Эсэра. 7 жніўня 1863 года яго арыштавалі.

У рукапісным аддзеле архіва Польскай акадэміі навук у Кракаве захоўваюцца данясенні агентаў царскай ахранкі аб дзейнасці прадстаўнікоў польскага Цэнтральнага нацыянальнага камітэта на Захадзе. Там, у прыватнасці, захавалася і такая інфармацыя: «В Лондон Цверцякевичу[1] снова выслано 50000 fr. из Комитета Парижского — собранные по подписке между поляками — для особых сношений с Лондоном, Краковом и Брюсселем назначены курьеры: Андрушевич, Зенкович, Мрочковский, Савицкий и пр.». (Рукапісны аддзел Бібліятэкі Польскай акадэміі навук у Кракаве, 2327, т. 2).

За ўдзел у паўстанні Фелікса Зянковіча першапачаткова прысудзілі да пакарання смерцю. Потым аднак перагледзелі справу і засудзілі яго на 12 гадоў катаргі ў Нерчынскіх капальнях з канфіскацыяй маёмасці, пазбаўленнем правоў і затым пасяленнем у Сібіры. З Вільні яго вывезлі на Каляды 1863 г. З Ніжняга Ноўгарада да самай Цюмені ішоў у кайданах пехатою разам з партыяй такіх самых зняволеных. Адтуль даплыў да Табольска, дзе губернатар Дэспат-Зяновіч, паляк па нацыянальнасці, дазволіў яму затрымацца на пару месяцаў. Тут ён захварэў тыфам, але яму ўдалося выратавацца. А пра лёс катаржнікаў сведчыць паведамленне самога Фелікса Зянковіча ў адным з лістоў: «З сарака двух нашых, якія разам са мною выбраліся з Вільні, да Табольска дабралася восем чалавек». У сакавіку 1865 г. трапляе ён не ў Нерчынск, куды яго павінны былі накіроўваць у адпаведнасці з рашэннем суда, а ў Усоль, дзе ён пачаў займацца варкай солі. Тут ён жыў тры гады, знаходзячы магчымасць ва ўмовах катаргі займацца самаадукацыяй і нават навуковай працай, а таксама педагагічнай дзейнасцю ў сем'ях пасяленцаў. Разам з ім там адбывалі пакаранне такія ўдзельнікі паўстання, як Якуб Гейштар, Іосіф Каліноўскі (кананізаваны ў 1991 годзе каталіцкім касцёлам — перад сваёй смерцю ён быў ігуменам каталіцкага манастыра ў Вадовіцах).

У 1866 годзе тэрмін катаргі скарацілі яму з дванаццаці да шасці гадоў. Летам 1868 года яго вызвалілі ад катаржных работ і дазволілі стаць пасяленцам, пакуль што яшчэ пазбаўленым правоў. Пры падтрымцы сяброў ён неўзабаве перабіраецца у Іркуцк. Тут жыў да 1881 года, даючы прыватныя ўрокі маладым палякам і рускім. У 1880 годзе яму вярнулі палітычныя правы, і ў наступным, 1881 годзе, ён прыбыў у Ноўгарад, дзе чакаў дазволу на права вяртання на радзіму. Дзякуючы падтрымцы сяброў і сваякоў, яму гэта ўдалося ажыццявіць. У Ноўгарадзе ён пазнаёміўся і блізка пасябраваў з сям'ёй Тшашчкоўскіх. Адсюль неўзабаве перабраўся ў Беларусь, а ў 1899 годзе — у Варшаву. Памёр у 1910 годзе. Перад самым канцом біяграфічнага нарыса аўтарка падае яшчэ такую інфармацыю: «Фелікс Зянковіч у апошнія гады свайго жыцця пісаў успаміны, рукапіс якіх, па смерці ўжо Фелікса Зянковіча, па просьбе Шымона Аскеназы, які ў той час апрацоўваў гісторыю паўстання 63 г., мая маці аддала тады гісторыку Генрыку Масціцкаму.

---

[1] Цверцякевич — Цьверцякевіч (Цьверчакевіч) Юзэф, прадстаўнік партыі «чырвоных», у 1861—1863 гг. з'яўляўся палітычным агентам Цэнтральнага Нацыянальнага Камітэта ў Заходняй Прусіі, а потым у Лондане і Штакгольме. У 1863 г. у Парыжы арганізаваў камісію, якая здабывала зброю для паўстанцаў. Быў адным з арганізатараў марской экспедыцыі на параходзе «Уорд Джэксан». Пазней удзельнічаў у рабоце І Інтэрнацыянала.

Слядоў тых успамінаў не ўдалося мне аднак адшукаць». Генрык Масціцкі — брат колішняга, даваеннага прэзідэнта Рэчы Паспалітай.

У Ноўгарадзе Зоф'я Тшашчкоўская сур'ёзна занялася перакладамі паэтычных твораў на польскую мову. У карэспандэнцыі яна не ўдакладняе, калі, як і ў якой паслядоўнасці гэта рабіла. Але вядома, што з плёнам сваёй працы яна пазнаёміла Фелікса Зянковіча. Гэта адыграла выключна важную ролю ва ўсім яе лёсе і асабліва ў літаратурнай творчасці. Ф.Зянковіч ацаніў яе творчыя здзяйсненні належным чынам, заахвоціў да далейшай працы, якой паэтэса пазней ужо не спыняла. З цягам часу ў сваіх пісьмах да Фелікса Зянковіча Зоф'я Тшашчкоўская неаднаразова з найвялікшай удзячнасцю гаварыла пра яго дабратворны ўплыў на яе паэтычную творчасць. Цяжка сказаць, ці без яго такой добразычлівай падтрымкі дала б яна рады пераадолець усе тыя перашкоды, якія перагароджвалі ёй шлях да сапраўднай літаратурнай творчасці. Аб складанасці і супярэчлівасці яе творчых пошукаў дастаткова выразна сведчыць пісьмо да Фелікса Зянковіча, напісанае ў 1886 годзе: «...Прыблізна на працягу 20 гадоў я пазбаўлена таварыства людзей з літаратурнай адукацыяй, а раней я была такая маладая і так мала ў нас дзяўчаты вучацца, што я не мела магчымасці назбіраць сабе запас сякіх-такіх ведаў, і таму кожны хоць бы найменшы прамень іх з'яўляецца для мяне свайго роду адкрыццём».

Сваю самастойную творчасць пасля балканскай вайны Зоф'я Тшашчкоўская пачала з перакладаў. Вярнулася з паходу ў 1878 годзе. Але толькі ў сакавіку 1883 года яна ўжо магла паведаміць з Ноўгарада Феліксу Зянковічу аб тым, што неўзабаве з'явіцца ў друку яе першая паэтычная публікацыя: «Швагер мой угаварыў мяне выдаць у Вільні ў Завадзкага адзін з найдаўнейшых перакладаў маіх з Ламарціна. Гэта — амаль што першая мая работа (з перакладаў) і можа найменш дакладная, але Генрыку найбольш прыпала да густу... Калі нішто не перашкодзіць, то праз месяц выйдзе з друку, тады і Вам экземпляр прышлю, толькі Вы будзьце ласкавы захаваць мне тое прозвішча, якое на гэтай кніжцы будзе напісана, або, інакш кажучы, імя і прозвішча майго бацькі (яго звалі Адам Манькоўскі.—**У. К.**). Сабою сярод людзей быць не хачу не з-за капрызу, але з увагі на маё сучаснае прозвішча і на магчымую будучыню; не хачу нікога з сабою звязваць.» (Асалінэум, 13228/І, с. 58).

Галоўная прычына такіх паводзін заключалася ў тым, што муж яе быў афіцэрам рускай арміі і жыла яна з ім у Расіі. Сваёй творчасцю на польскай мове — прытым вершамі дэмакратычнага і патрыятычнага зместу — яна магла пашкодзіць яму, яго кар'еры. Гэта — з аднаго боку. А з другога — асяроддзе, духоўна блізкае ёй, магло б адносіцца да яе насцярожана, даведаўшыся пра яе сямейнае і сацыяльнае становішча. Усё гэта стварала для яе складаную і супярэчлівую сітуацыю. Звязаная па руках і па нагах такім становішчам, сваімі нестандартнымі ўзаемаадносінамі з тымі асяроддзямі, у якіх ёй даводзілася жыць, Зоф'я Тшашчкоўская ўяўляла сябе ізаляванай ад блізкіх ёй духоўна людзей і таму хавала сваё сапраўднае прозвішча і рэальнае становішча. Адчуваючы сябе ў нейкай ступені зняволенай у паўсядзённым жыцці, яна знаходзіла выхад у паэтычнай творчасці, шукала кантакты з аднадумцамі, перад якімі смела магла адкрыць сваю душу. Такім аказаўся Фелікс Зянковіч, які ў любым месцы і ў любых абставінах умеў з людзьмі ладзіць і адразу ж выклікаць у іх давер.

Польскія даследчыкі творчасці Зоф'і Тшашчкоўскай пакуль што не звярнулі ўвагі на адну акалічнасць, вельмі істотную для яе творчага лёсу. Без дзейснай ці хаця б проста маральнай падтрымкі мужа займацца літаратурнай творчасцю — з выяўленнем і ўвасабленнем дэмакратычных і польскіх патрыятычных пачуццяў — паэтэса не магла б. Дый так блізка пасябраваць з Феліксам Зянковічам, бескампрамісным змагаром за незалежнасць Польшчы, супраць рускага панавання.

Тут, мабыць, варта прыняць пад увагу яшчэ адну справу. Вацлаў Тшашчкоўскі быў афіцэрам-артылерыстам. У перыяд паўстання 1863 года — як гэта ні дзіўна — усе рускія афіцэры-артылерысты на тэрыторыі, ахопленай паўстаннем, прытрымліваючыся дэмакратычных поглядаў, або спачувалі, або нават дзейсна памагалі паўстанцам. Засведчыў гэта — праканаўча, абапіраючыся на канкрэтныя факты — не хто іншы, як Юзэф Пілсудскі, які сур'ёзна вывучаў гісторыю

паўстання. Ён прыводзіць цытату з успамінаў удзельніка паўстання палкоўніка войска польскага Юзэфа Аксінскага, накіраванага ў ваяводства Калішскае. Вось гэтая цытата: «Некалькі дзён перад выездам з Варшавы, гэта значыць каля сярэдзіны студзеня, будучы ў Патабні, тагачаснага кіраўніка рэвалюцыйнага маскоўскага саюза «Руская Зямля і Воля», я прасіў яго, каб падаў мне звесткі пра арганізацыю гэтага саюза ў асяроддзі ваенных на тэрыторыі Калішскага ваяводства. З той прычыны, што гэтай часткай краіны сам ён не кіраваў, а яго намеснік, адказны за дзейнасць на той тэрыторыі, часова адсутнічаў у Варшаве, таму з прычыны майго тэрміновага ад'езду сказаў мне: «Можаш смела разлічваць на афіцэраў артылерыі — многія з іх уваходзяць у саюз, а тыя, што не ўдзельнічаюць у ім, з'яўляюцца такімі прызваітымі і сумленнымі людзьмі, што ніхто з іх не будзе выконваць ролі паліцэйскага сышчыка.» (...) У сувязі з тым, што артылерыя была раскідана па ўсёй краіне, тых «сумленных і прызваітых людзей» было цэлае мноства.» (Jyzef Piisudski. Wpiyw Wschodu i Zachodu na Polskk w epoce 1863 r. Pisma zbiorowe. Tom VIII. Warszawa 1937, s. 76). І на самай справе Аксінскага ніхто не падвёў.

Можна меркаваць, што тыя дэмакратычныя погляды ў армейскім асяроддзі артылерыстаў не зніклі раптоўна і бясследна, а захаваліся і ў наступныя дзесяцігоддзі. І тым больш яны не маглі не аказацца блізкімі і сугучнымі Вацлаву Тшашчкоўскаму, паляку па паходжанні. Калі б тыя дэмакратычныя традыцыі не збераглíся ў сям'і Тшашчкоўскіх, то баявы афіцэр рускай арміі ў час сваёй службы ў Ноўгарадзе не палічыў бы не толькі жаданым, але і магчымым знаёміцца і тым больш так блізка пасябраваць з такім перакананым і непахісным барацьбітом за вызваленне Польшчы з-пад маскоўскага панавання, як Фелікс Зянковіч.

У пачатку 1883 года на суд чытачоў паэтэса аддала пераклад «Апошняй песні паломніцтва Чайльд Гарольда» французскага паэта Альфонса Ламарціна. З'яўленне ў друку той публікацыі неўзабаве, бо ўжо ў наступным, 1884 годзе, праклала дарогу для ўласных вершаў паэтэсы ў часопісе «Tygodnik Ilustrowany», рэдактарам якога быў Людвік Еніке. Пачынаючы з 1887 года, яе паэтычныя творы — арыгінальныя і перакладныя — з'яўляліся на старонках варшаўскага тыднёвіка «Їусіе». Тут у яе ўстанавіліся вельмі плённыя творчыя кантакты і ажыўленая перапіска з вядомым польскім паэтам, літаратурным крытыкам, перакладчыкам, рэдактарам Зянонам Пшасмыцкім (Мір'ямам). Затым творы Зоф'і Тшашчкоўскай пачалі з'яўляцца на старонках такіх выданняў, як «Ї усіе Ilustrowane» (гадавы дадатак да тыднёвіка «Їусіе»), «Przegl№d Literacki» (дадатак да «Kraju»), «Ateneum», «Niwa», «Prawda», «Gios», «Jednodniywka Monachijska», а таксама ў зборніках «Kalendarz Powszechny» 1889, «Album wspyiczesnych pisarzy polskich 1863—1898». Wydai Jan Kasprowicz. Tom II. Lwyw—Petersburg 1899, s. 889—909.

Апошнія гады Зоф'я Тшашчкоўская жыла ў Дарагавіцы. Роднай вёсцы яна прысвяціла так званыя Дарагавіцкія песні, якія дзеляцца на два цыклы: «Зямля» і «Людзі». Гэтыя творы залічваюцца сучаснымі польскімі даследчыкамі да найпрыгажэйшых і найбольш арыгінальных у яе паэтычнай спадчыне. Вось што, у прыватнасці, гаворыць пра іх польская даследчыца В.Хайніцка-Скавіньска: «...Арыгінальны затое ж характар маюць творы, у якіх выкарыстаны ўскраіннабеларускія фальклорныя матывы. Яны выяўляюцца не толькі ў галіне мовы (лексіка) і дэталяў, якія дарэчы неаднаразова суправаджаюцца аўтарам «этнаграфічнымі» тлумачэннямі, але таксама ў сферы спецыфічнага ідэйнага вопыту» (Wanda Chojnicka-Skawicska. Adam M-ski. У кн.: Obraz literatury polskiej XIX і XX wieku. Literatura okresu Miodej Polski. T. I. Warszawa, 1968, s. 365).

У абмалёўцы жыцця і лёсу беларускага селяніна вызначыліся гуманістычныя погляды паэтэсы, уменне бачыць у мужыку блізкага чалавека. У вершы «З нівы» яна называе яго сваім братам. У другім вершы — «На пажарышчы» — створаны малюнак працы беларускіх цесляроў, якія пасля пажару ўзводзяць новыя будынкі. Гэты малюнак аднаўлення жыцця на месцы, спустошаным агнём, дае паэтэсе падставу для роздуму над спрадвечнымі праблемамі жыцця, над яго непераможнасцю, над яго няспынным рухам наперад. Тут жа, з пачуццём жалю, яна піша, што тэхнічны прагрэс усё яшчэ абмінае вёску. Шматлікія творы Зоф'і Тша-

шчкоўскай на польскай мове, раскіданыя па розных часопісах і газетах, да сённяшняга дня не сабраны і не дачакаліся асобных выданняў.

Памерла Зоф'я Тшашчкоўская 7 кастрычніка 1911 года ў Дарагавіцы.

Вядомая беларуская спадчына паэтэсы небагатая. Паасобныя вершы і песні зберагліся ў яе карэспандэнцыі. У пісьмах Зоф'і Тшашчкоўскай да Фелікса Зянковіча змешчаны два вершы на беларускай мове: адзін з'яўляецца перакладам папулярнай польскай песні «Каліна» (аўтар тэксту Тэафіль Ленартовіч, мелодыю скампанаваў Ігнацы Камароўскі), а другі — «Стаіць явар на прыгорку» — перапрацоўкай вядомай песні Станіслава Манюшкі на словы Яна Чачота. Такім вось чынам тая песня, створаная на беларускай зямлі, загучала і на беларускай мове. Да песні «Каліна» дадаецца заўвага: «Прыназоўніка у найчасцей не лічу асобным гукам, таму што і ў народа гэты гук, хаця і выразны, часта зліваецца з наступным. Магчыма, хтосьці здолее пезбегнуць гэтага ў вершы — я не ўмею.» Паэтэса першая звярнула ў друку ўвагу на такую асаблівасць прыназоўніка «у» ў беларускай мове.

У тым самым пісьме Зоф'я Тшашчкоўская расказала і пра гісторыю перакладу песні: «Аднойчы, у мінулым годзе, я пачала спяваць «Каліну» амаль міжвольна на нашай сялянскай беларускай мове і паўтарыла дзяўчатам-служанкам — гэта выклікала захапленне, яны па начах вучыліся. На няшчасце я не маю голасу спяваць, ні вучыць іншых. Але магу перакладаць і маю некалькі гатовых песень. Я падумала, што нядрэнна было б пашырыць такі песеннік (вядома, толькі жывым голасам) замест агіднасцей, якія цяпер можна часта пачуць... Пасылаю Вам дзве песні — гэта толькі пачатак — я забыла беларускую мову, хаця вяртаюся да яе цудоўна як да нянькі дзіцячых гадоў — у вушах іграе мне ранейшая — без заганы.»

Тое пісьмо, у якім змешчаны абедзве песні, датуецца 16 мая 1886 г. Такім чынам, пераклады былі зроблены ў 1885 г. Гэта важная акалічнасць, таму што да нашых дзён захавалася мала беларускіх твораў, напісаных у 80-я гады мінулага стагоддзя. Яшчэ адзін беларускі твор паэтэсы — пераклад верша Марыі Канапніцкай «Як жа мне цябе, дзяўчына» — захоўваецца ў аддзеле рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве сярод вершаў, прысланых у рэдакцыю часопіса «Їусіе». Дата перакладу невядомая. Па мастацкай дасканаласці ён уступае песням «Каліна» і «Расце явар на прыгорку».

Адна беларуская песня Зоф'і Тшашчкоўскай была змешчана ў пісьме да Мір'яма ад 12 (24) ліпеня 1888 г. з прыпіскай: «А як Табе, браце, прыпадзе да густу беларуская малітва ў час гора (на мелодыю «Харала» Уейскага)?» Далей прыводзіцца і сам тэкст песні. У канцы пісьма, якое захоўваецца ў рукапісным аддзеле Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве, зроблена вельмі характэрная прыпіска: «Знаеш, Ш(аноўны) Пане, мае рэлігійныя перакананні, але ў народзе абысціся без іх немагчыма...» Паэтэса сама называе той твор, які паслужыў для яе імпульсам. «Харал» Карнэля Уейскага — адна з вядомых польскіх песень XIX стагоддзя.

Яшчэ адзін беларускі твор паэтэсы — пераклад верша Марыі Канапніцкай «Ля аконца» — быў укладзены ў пісьмо да Зянона Пшасмыцкага, датаванае 6-м лютага 1886 года. Абодва гэтыя творы — «Божа, наш бацька» і «Ля аконца» — блізкія паводле зместу і настрою. Яны ўяўляюць сабою скаргу на горкую долю селяніна. Рэлігійная вобразнасць і сімволіка — гэта толькі мастацкая форма выяўлення пачуццяў, непрымання самой рэчаіснасці. У такой форме аўтар выказвае патрабаванне новай долі і сваю аптымістычную веру ў лепшую будучыню. Гэта вера выяўляецца і ў карэспандэнцыі паэтэсы. Так, напрыклад, сваё пісьмо ад 25 жніўня 1887 года яна канчае словамі: «...Яшчэ пра беларускае пытанне хацела пагаварыць. Пакідаю гэта для будучага калісьці пісьма. Сумна, чорна — але будзем верыць у лепшае заўтра!» З неспакойнай думкай аб больш надзейным заўтрашнім дні беларускага мужыка і пісала свае песні Зоф'я Тшашчкоўская. Яны сведчаць аб вялікім паэтычным таленце аўтара, аб добрым адчуванні асаблівасцей мастацкага вобраза.

Нарадзіўшыся і правёўшы асноўную частку жыцця ў асяроддзі беларускага народа, Зоф'я Тшашчкоўская ніколі не заставалася абыякавай да яго лёсу. Глы-

бокім жалем прасякнуты яе выказванні пра цяжкую долю беларускага селяніна; яна рашуча палемізуе з тымі, хто так ці інакш спрабуе яго прынізіць: «Нядаўна пісалі ў «Тыгодніках», што калі б надрукавалі «Пана Тадэвуша» па-беларуску, то мужыкі яго не чыталі б. А ці карэнна польскія мужыкі чытаюць яго на польскай мове? Лічу, што ніхто так не будзе сцвярджаць, такія рэчы інтэлігенцыя павінна распаўсюджваць. А што беларуская песня мела б велізарны ўплыў, пра гэта ведаю з практыкі». З песнямі і апавяданнямі сваёй нянькі і іншых сялян Зоф'я Тшашчкоўская ўвабрала ў сябе павагу і любоў да народнай беларускай культуры і паэзіі. Сярод яе польскіх вершаў, прысланых у тыднёвік «Жыце», ёсць адзін пад назвай «Народныя галашэнні», які ўражвае асаблівай глыбінёй пачуцця. Гэта — плач над магілай вясковай дзяўчыны. Сама паэтэса ў пісьме да рэдактара паведамляла, што яна амаль літаральна пераліла ў паэтычныя радкі галашэнне, якое пачула на хаўтурах: «...Ніякае пахаванне не абыходзіцца без падобных імправізацый, прыстасаваных да ўмоў. Гэта быў лямант старой бабкі над целам чароўнай дзяўчынкі, якая памерла ў гэтым годзе... Пачынаўся:

Была яна маладзенька,
Была яна удаленька,
Пакінула нас.

Далей рыфма амаль знікае, аднак нейкі рытм у спяванні застаецца — страшныя тыя працяглыя клічнікі — «ой!» — енк, спеў і крык злучаюцца ў іх».

Надзейны шлях да ўзбагачэння літаратуры і народнай культуры Зоф'я Тшашчкоўская бачыла ў перакладах. Сама яна пісала, што кожная літаратура ў нейкім сэнсе з'яўляецца аднабаковай. «І толькі знаёмства з некалькімі, — сцвярджала паэтэса, — пашырае кругагляд нашага бачання». Адсюль зразумелым становіцца яе вывад: «Прысвойваць чужыя творы — гэта як быццам адчыняць акно ў нейкі іншы, невядомы свет». Такую думку паэтэса выказала ў пісьме да Зянона Пшасмыцкага ад 18 (30) снежня 1887 года.

У сваёй творчасці, у тым ліку і ў беларускіх перакладах, Зоф'я Тшашчкоўская выключную ўвагу ўдзяляла песням. І гэта яна сама лічыла неабходным падкрэсліць: «Можа камусьці здасца, што занадта моцны націск кладу на песні, калі ёсць справы больш важныя? Дык жа не! Верш у кнізе намнога менш значыць, але калі яго спяваюць гуртам у маладыя гады — ён становіцца сілай. Нездарма ўсе народы пад такт музыкі ідуць у бой...»

Зоф'я Тшашчкоўская па меры магчымасці прымала актыўны ўдзел у літаратурным руху на тэрыторыі Беларусі. Асабліва шмат намаганняў прыклала яна, каб ажыццявіць падрыхтоўку калектыўнага паэтычнага зборніка «Парнас», ініцыятарам якога з'яўляўся Янка Лучына. Першае ўпамінанне аб зборніку мы знаходзім у пісьме Зоф'і Тшашчкоўскай да Мір'яма (Зянона Пшасмыцкага) ад 1889 года (без канкрэтнай даты). У наступным пісьме ад 11(23) верасня 1889 года паэтэса паведамляла: «...Прыслала мне Альдона ліст Неслухоўскага; ён піша: «Чакаю з нецярпеннем кантактаў з Адамам М-скім, і праект, пра які Вам гаварыў, вельмі і вельмі свідруе мне мозг. Хаця б нават такім чынам уладкавацца: Вы, А. М-скі, Вяжбіцкі, мая асоба, Аксель, Аляксандр Валіцкі можам выдаць невялікі калектыўны томік вершаў з Літвы з уступным артыкулам Алякс. Валіцкага пра найнавейшую паэзію ў нас».

Сама Зоф'я Тшашчкоўская на працягу нейкага часу не магла прыняць ніякага рашэння і звярталася да Мір'яма з просьбаю даць параду, што рабіць далей. Не без яго ўплыву паэтэса стала актыўнай прапагандысткай ідэі выдання зборніка. Усяго толькі праз некалькі дзён пасля напісання папярэдняга ліста яна з усім перакананнем заяўляла: «Можна было б толькі радавацца, калі б наша калектыўнае выданне ўдалося. Незалежна ад уласнага я, якое кожны з нас жадаў бы прадставіць шырэйшаму колу братоў, будзе цікавым адлюстраванне духоўнага жыцця бягучага моманту. 14 або 15 працаўнікоў, сабраных з усіх канцоў краіны, з усіх правінцый, з якіх кожная мае свой адметны характар, гэта, бясспрэчна, мае пэўнае значэнне!»

Упэўненасць Зоф'і Тшашчкоўскай з кожным днём пачала ўзмацняцца, аб чым сведчаць яе наступныя лісты. Праз кароткі час, 26 верасня (8 кастрычніка) яна па-

ведамляла: «Я вырашыў прагледзець тыя пакінутыя шпаргалкі, атрымаўшы пісьмо Альдоны, якая паведамляе пра намеры Неслухоўскага выдання зборнічкаў паэзіі маладых пісьменнікаў. Кожны з іх парываецца да палёту, кожны мае ў партфелі зборы недарэчнасцей накшталт маіх, але ў многіх дрэмле дух сапраўднай паэзіі, трэба ім толькі здаровай, хаця і суровай, крытыкі, слова заахвочвання, братняй рукі…» Адсюль ужо заставаўся толькі крок да наступнай заявы: «Да „Парнаса" я падрыхтаваны, а што хачу змясціць — ведаеш даўно…»

Арганізатары выдання з запалам узяліся за працу. Кожны з удзельнікаў добра ўсведамляў вялікае грамадскае значэнне агульных намаганняў, разумеў неабходнасць згуртавання сіл для актыўнай дзейнасці на ніве роднай культуры. Такія погляды выяўляюцца і ў карэспандэнцыі Зоф'і Тшашчкоўскай: «Дык вось пажадана, — піша яна Мір'яму, — каб кожная правінцыя прыносіла свой водгук жыцця да агульнай песні, а гэта можа ўзнікнуць толькі такім чынам, калі з цёмных закуткаў выклікаць гурт працаўнікоў на поле. Хаця наша глеба страшэнна бясплодная і страшэнна здранцвелае грамадства, аднак сярод гэтых глухіх пушчаў людзі думаюць нейкую неакрэсленую ціхую думку або з дзіцячых гадоў, як я, прыпадаюць грудзьмі да старых курганаў і ўбіраюць іх паданні; людзі гібеюць сярод усеагульнага амярцвення, але калі падаць ім заклік, выцягнуць руку, то ўзнімуцца; спярша няўпэўненыя, хісткія, з цягам часу... прынясуць з сабою дыханне глыбокіх пушчаў...»

Зоф'я Тшашчкоўская заўсёды была шчырым прыхільнікам літаратуры, звязанай з жыццём, яго трывогамі і патрэбамі: «Цярпець не магу штучнай паэзіі, але веру, што сённяшняму паэту ніякая галіна ведаў не павінна быць чужою, толькі ахапіўшы ўсе патрэбы і імкненні чалавечага грамадства, ён можа ўзняцца над ім і заспяваць яму з вышыні пуцяводную песню». І да ўласнай паэтычнай творчасці ў яе самыя высокія і строгія патрабаванні, што з усёй пераканаўчасцю засведчыла яна ў маі 1888 года: «Прыватныя ўражанні, любоўныя песні — гэтага сёння мала; і хоць не прыдаю сваім творам вялікага значэння, лічу ўсё ж, што найлепшымі з маіх вершаў з'яўляюцца грамадзянскія песні, таму што любоў да краіны была заўсёды наймацнейшым пачуццём майго жыцця».

Паэтэсу ніколі не пакідае ўсведамленне дзейснай грамадскай ролі літаратуры, мастацкага слова. Сапраўдны мастак не можа, не мае права заставацца абыякавым да лёсу краіны, народа, звычайнага чалавека. З такімі поглядамі падыходзіла яна і да справы падрыхтоўкі зборніка «Парнас», да ўсёй сваёй дзейнасці: «Больш сардэчна затое ж гляджу сёння на зямлю і яе галечу, веру ў няўмольнасць прычын і вынікаў, у тое, што кожны нават невялічкі наш учынак адклікнецца ў будучым, так, як хваля, якую парушылі, прыводзіць у бясконцы рух іншыя…» Пісьмы Зоф'і Тшашчкоўскай прасякнуты патрыятычным клопатам аб долі простых людзей роднай краіны: «Мяне абурае, — піша яна, — у аднолькавай меры і марнаванне хлеба і здароўя, якое мы ж перадаем нашчадкам; на кожным хваравітым, марным дзіцяці чытаем грэх яго бацькоў і дзядоў; у кожнай выбітай з каляіны жанчыне бачу ўвесь працэс яе фальшывага выхавання; кожны злачынец кажа мне пра нейкі грамадскі хіб, ахвярай якога ён з'яўляецца; а больш за ўсё адчуваю велізарную прагу шчасця, і мне здаецца, што павярнуць да сонца кветку і выклікаць на твары чалавека ўсмешку радасці — гэта найвялікшая заслуга… Думаючы аб шчасці іншых, знойдзем хоць колькі ўласнага…» Споведзь паэтэсы — гэта споведзь таго пакалення пісьменнікаў нашай зямлі, якія імкнуліся да ведаў, да дзеяння, марылі аб шырокім размаху бескарыслівай грамадскай працы, аб палёце да нейкіх светлых даляў, але крылы якога былі звязаны няўмольнай рэчаіснасцю.

Зоф'я Тшашчкоўская жыла ў польскамоўным асяроддзі. Тое ж самае можна сказаць пра Францішка Багушэвіча, Янку Лучыну, Адама Гурыновіча, амаль пра ўсіх тых, хто ў канцы XIX стагоддзя пісаў на беларускай мове. З іх Францішак Багушэвіч і ў значнай ступені Аляксандр Ельскі ўсвядомлена дзейнічалі ў імя беларускага нацыянальнага адраджэння. Аднак як бы там ні было, усе тыя, што пісалі на беларускай мове, уносілі свой важкі ўклад у гэтую справу, падрыхтоўвалі глебу для тых працэсаў, якія набылі такі размах ужо ў пачатку XX стагоддзя.

## *ДЗЯДОЎНІК НА ПАРНАСЕ*

### ДАЛІКАТНЫ ХУЛІГАН

*Я зусім не хуліган.*
*Толькі так здаецца,*
*бо адзіны мой наган,*
*гэта — маё сэрца!*

Генадзь Пашкоў

Ну які я хуліган,
гэта вам здаецца.
Проста зрокавы падман.
Ён, дальбог, мінецца.

Хуліганам быў Сяргей —
той, што больш славуты...
Ну, і Сыс яшчэ зладзей:
можа ўнесці смуту.

Супраць іх, ні даць ні ўзяць,
я хіляк, аматар.
Вершы, сорамна сказаць,
не друкую з матам.

Праўда, ёсць-такі запас
зброі больш этычнай.
Не ўключу ў даведнік вас
энцыклапедычны.

Або ткну пяро пад бок —
і без той «макрухі»...
Ды на што наган, браток, —
толькі пэцкаць рукі!

*Павел САКОВІЧ*

### АБРАДАВАЎ...

**Калі б змог я да ног тваіх кінуць**
**Усю радасць зямлі — і тады**
**Я б ад жалю пакутнага гінуў.**
**Не таму, што другім не пакінуў,**
**А што большага вартая ты!**

Алесь Бадак

Што ж да ног тваіх гэткае кінуць?
Можа, з радасцю баксы аддаць?
Я ні цэнта другім не пакіну,
Бо «заначкі» ты ўмееш шукаць.

Ды пасля, як цвяроза прыкіну...
Што ж я, дурань, забыў пра сябе?
Калі ўсё аддамо, то загіну.
Ты ж сама мяне, любая, кінеш:
Без граша — ці патрэбен табе?

*Мікола ВЯРШЫНІН*

### ЭПІГРАМЫ

*Анатоль ЗЭКАЎ*

Рэдагаваў сталічных дзве газеты,
Адлюстраваў сучаснасці прыкметы.
«Лясной газетай» доўга кіраваў.
А зараз — «Вожык» для сябе абраў.
Што ж, вожык — ён жыве таксама ў лесе...
Застаўся Толя пры сваім жа інтарэсе.

*Леанід*
*ДРАНЬКО-МАЙСЮК*

Даволі кніжак выдаць змог,
Як быў у выдавецтве.
Па фестывалях збіўся з ног,
Бо выступаць імкнецца.
Пасля стагнаў, што не стрываць,
Калі стаў не ва ўладзе:
— Я кветкі буду вартаваць
У батанічным садзе.

***ДА ВЕДАМА ЧЫТАЧОЎ І ПАДПІСЧЫКАЎ:***

***на ІІ паўгоддзе 2003 года адкрыта льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.***

***Ведамасны льготны індэкс — 00727; падпісная цана на 6 месяцаў 2003 г. — 16 800 руб.***

*Аўтары нясуць адказнасць за факты, якія прыводзяцца ў публікацыях, у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь. Рукапісы не рэцэнзуюцца і аб'ёмам да двух аркушаў не вяртаюцца. У выпадках паліграфічнага браку ў часопісе звяртацца ў друкарню.*

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220005, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 284-80-12;
намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў літаратуры, грамадскага жыцця і культуры — 284-49-91.

Стыльрэдактар М. І. Гусева. Камп'ютэрная вёрстка С. І. Стараверава.

Падпісана ў друк з гатовых дыяпазітываў 30.09.2003 г. Фармат 70х108 1/16. Папера газетная.
Друк. арк. 19,60. Ул.-выд арк. 20,22. Тыраж 1736 экз. Зак. 2404.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.

